ISSN 0131 2308
№8 /2016




падпісныя індэксы
індывідуальны - 74957
ведамасны - 749572
льготны - 00731
льготны
для настаўнікаў - 00592

Маладосць 8/2016

Таму, хто думае

у нумары:

21

трымаў і здаў ментам. Выратаваў мяне мой пісьменніцкі
статус. Менты не сталі вошкацца з небяспечным хуліганам,
а перадалі справу ўчастковаму, каб ён разбярэцца. Вось і
разбіраўся. ~~Ён~~ Аказалася, завочна вучыцца на гістарычным факультэце
педуніверсітэта і чытаў кнігі Чаропкі, а таму, калі я
прыйшоў да яго ў 4-ы апорны пункт, не мог паверыць, што
вось гэты недарэчны мужчына ~~...~~ і ёсць беларускі
пісьменнік Вітаўт Чаропка, аўтар гістарычных кніг. Ён уяўляў
мяне магутным волатам, а тут звычайны непрык-
метны чалавек. У свой час і Уладзімір Арлоў быў расча-
раваны, калі ўпершыню ўбачыў мяне. Так сама ўяўляў
мяне нейкім асілкам. Але Грышка не расчараваўся, а быў
уражаны, што я зноў на яго ўчастку, а болей таго, што
я просты і даступны без фанабэрыі. Ён дапамог мне ўладзіць
праблему з «Салютам». Я аплаціў замену разбітага шкла ў ~~...~~
дзвярах, а за бутэльку каньяку і каробку цукерак дырэктар
кінатэатра — разумная і расфуфыраная дама з пафігістыч-
най скіраванасцю — забрала заяву з ментоўкі. Грышка пас-
тараўся, каб я не плаціў штрафу. Мяне адпраўлялі адшук-
ваць старшыню-касіра, калі я прыйшоў у РУУС аплаціць
штраф. На штрафныя грошы я набыў дзве пляшкі
гарэлкі, ~~...~~ і прынёс іх маладому следчаму, які не засадзіў
мяне за хуліганку адразу на 15 сутак. Ён для прыліку
нахмурыўся: «Лейтэнант, гэта хабар». «Які ж гэта хабар — гэта
удзячнасць за ~~...~~добрае стаўленне да мяне». Я паклаў
бутэлькі ў высунутую следчым шуфлядку яго стала. Ён
якраз падпісаў яму кніжку. Мне не сорамна, што вось
перад тым я ўладзіў сваю справу. Я не супраць, каб
іншыя гэтак рабілі. Павінен жа ўвесь закон быць бяссіль-
ным перад чалавекам, а то ён, як шорсткі молах, кары-
рае ўсіх, хто праходзіць перад ім, за ўсякую віну —
маленькую ці вялікую, не да кога не мае спагады і
не дае чалавеку выправіць сваю памылку.
Я пасябраваў з Грышкам. Ментам ён зрабіўся па абста-
вінах. Проста вясковы хлопец, які марыў стаць настаў-
нікам, вымушаны асесці ў Мінску, каб мець

У гэтым нумары ёсць колькі тэкстаў пра Вітаўта Чаропку і Анатоля Сыса. Так неспадзявана збегліся інтэрв'ю і артыкулы, што склаліся ў адзіную структуру. І вось у рубрыцы «Ад рукі» — рука першага, якая напісала пра другога. Зацікавіўшыся, можна працягваць чытанне ў блоку «Крытыка».




# 08

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(753) ЖНІВЕНЬ, 2016**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна
ДЗЯНІСАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая
ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск**




**Канстанцін Касяк**

# Купляйце беларускае!

У канцы чэрвеня ў Мінску прайшоў сёмы раз Фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі aDNak!, які сабраў пад адным дахам работы найбольш адметных рэкламістаў з усёй краіны. Але гэты тэкст не пра рэкламу і тым больш не пра рэкламу Фестываляў рэкламы, хоць у нашай краіне іх насамрэч не так і шмат.

Справа ў тым, што да арганізацыі сёлетняга Фестывалю aDNak! я меў пэўнае дачыненне і змог шчыльна пазнаёміцца з «кухняй» падобных мерапрыемстваў. І тое, што я ўбачыў, мяне ўзрадавала.

Мы часта бядуем пра тое, што беларускай мовы ўсе менш і менш ва ўжытку, на яе забываюцца, яе не разумеюць. У рэальнасці ж справы не настолькі фатальныя. Хутчэй наадварот — буйныя кампаніі ўсё часцей бяруць на ўзбраенне матчыну мову, робяць на ёй ролікі, тэксты, афішы, афармляюць сваю прадукцыю. І гэтая справа вартая павагі, паколькі тут уладальнікі бізнесу расплачваюцца ўласнымі грашыма. То бок выходзіць, што выкарыстанне мовы — гэта не толькі сацыяльна значны ўчынак, але і камерцыйна паспяховы крок. Бо ў бізнесменаў падыход крыху іншы, чым у звычайных неабыякавых — яны не стануць укладаць грошы ў тое, што патэнцыйна незапатрабаванае і непаспяховае. Ідзём далей.

Пагаворым пра дызайны. Цяпер у Беларусі з'явілася неверагодная колькасць самых розных брэндаў вопраткі, якія паспяхова прасоўваюць уласную прадукцыю, робячы акцэнт на яе «тутэйшасці» праз беларускую мову. Вышыванкі, вышымайкі, патрыятычныя прынты, вулічная вопратка для брутальных хлапцоў. Усё гэта стала настолькі папулярным, што мне ўжо здаецца, нібыта вакол усе толькі і займаюцца тым, што робяць вопратку «для сваіх». Разумею, творчае атачэнне і ўсё такое. Але тэндэнцыя прымушае задумацца: можа, насамрэч не ўсё так дрэнна?

За 29 гадоў я бачыў рознае. Памятаю свае школьныя гады, калі многія мае знаёмыя слухалі беларускую музыку і хадзілі па канцэртах. Тады без праблем можна было набыць любую атрыбутыку на любым кірмашы: Nirvana, Metallica, Prodigy, КИНО і гэтак далей. Пералік можна было весці да бясконцасці. Не было толькі аднаго — атрыбутыкі беларускіх гуртоў. А калі недзе зрэдку яна і з'яўлялася, то была далёкай ад прафесійных стандартаў. Аматарскі факультатыў сумнеўнай якасці. Набываліся тыя майкі, байкі і банданы толькі з-за беларускай мовы. Кшталту слухай сваё, любі сваё, набывай сваё.

Цяпер жа вочы разбягаюцца ад усіх гэтых брэндаў. Можна нават адчуць сябе самым сапраўдным снобам: гэта маё, а гэта не. Тое падабаецца, а гэтае не зусім. Прычым ніхто ўжо даўно не абмяжоўваецца толькі майкамі. Робяць і шорты, і паркі, і анаракі, і сукенкі, і спадніцы, і нават бялізну. Стыльна, модна, моладзева. Толькі набывай.

Перспектыва мне бачыцца вельмі аптымістычнай: праз пэўны час у нас будзе ўсё сваё: і вопратка, і гаджэты, і праграмы да іх. Спецыялісты для ўсяго гэтага, дзякуй богу, ёсць. Галоўнае не забывацца, што ўсе гэтыя высілкі трэба падтрымліваць матэрыяльна. Лепшая формула патрыятызму — падтрымаць сваіх рублём. Тут можна гаварыць у тым ліку і пра літаратуру. Галоўнае — каб прадукцыя айчыннай вытворчасці была запатрабаванай.

Купляйце беларускае, іншымі словамі!



**Яна Мусвідас**

## «І памерлі ў адзін дзень»

Амаль кожная дзяўчына чытала любоўныя лісты вялікіх людзей. Нас натхняюць гісторыі ўсіх часоў: ад Парыса і Алены — да Кэры і містара Біга. «Каханне, якое сустракаецца раз на тысячу гадоў», як у Купрына, — ідэал, які сядзіць у сэрцах. Хіба што галовы заўсёды патрабуюць узаемнасці. Менавіта другое прымушае адарвацца ад кніг і шукаць рамантыку ў рэальным свеце.

Так склалася, што гісторыі кахання ў маёй сям'і ніколі не культываваліся. Безумоўна, я ведаю, як пазнаёміліся бабуля і дзядуля, прабабуля і прадзядуля і нават мае прапра. Але ніхто і ніколі не абкладаў гэтыя апавяданні прыгожай, вытанчанай рамкай.

Думаю, што сціпласць у дачыненні да свайго жыцця звязана з родам дзейнасці, які абралі для сябе мае «продкі». Усе людзі сур'ёзныя: працавалі з дакладнымі навукамі, хіба што прадзед пісаў вершы, але і той увекавечыў вайну, а не справы сардэчныя. Я чалавек трохі іншага складу: эмацыянальная, сентыментальная і веру, што ў жыцці можа быць гэтак жа, як у раманах Джэйн Осцін. Таму, пасля таго як я прачытала ўспаміны прабабулі аб каханні з дзядулем, мне захацелася падзяліцца ўражаннямі.

Не, я зусім не планую пераказваць іх знаёмства і ход жыцця, я хачу падзяліцца высновай, якую я зрабіла. Дык вось, калі надыдзе мая чарга выходзіць замуж, я не буду выкарыстоўваць у шлюбнай клятве папулярную фразу-клішэ «пакуль смерць не разлучыць нас», таму што тое, што называецца «каханнем», не здольнае перапыніцца ні часам, ні абставінамі, — гэта катэгорыя вечная.

«Цяпер я жыву побач з ім у думках, успамінах. Днём мне здаецца, што ён вось-вось прыйдзе да мяне. Увечары мне здаецца, што ён дома. І так я жыву побач з ім... Можа, камусьці гэта падаецца нерэальным, але гэта ў мяне так. Я ў памяці працягваю жыць са сваім мужам, Аляксеем Фёдаравічам...» — піша мая прабабуля, і я ёй веру. Яна ніколі не будзе ў адзіноце (і гэта не таму, што ў яе ёсць мы: дзеці, унукі і праўнукі), таму, што яна знайшла каханне. Я не ўпэўнена, што ёй у пасляваенную маладосць трапляў у рукі томік «Любоўных лістоў вялікіх людзей», але, як паказвае практыка, для таго, каб сустрэць каханне, гэта зусім не абавязкова.

У дзяцінстве маім любімым мультфільмам быў «Труп нявесты». Тым, хто не глядзеў гэтую анімацыю, назва падасца нерамантычнай, але гэта стужка пра каханне. Праблематыка «Трупа нявесты» ў тым, што закаханыя не могуць узяць шлюб, бо смерць іх ужо разлучыла. Аднак я бачу праблему ў тым, што ніякага кахання там не было. Фінал мультфільма пацвярджае маю тэорыю.

Цяпер мой любімы мульцік — аскараносны «Уверх». Калі вы яго глядзелі, то ведаеце, што каханне Эліс і Карла — безумоўны доказ крытэрыя вечнасці.



**Дзмітрый Шулюк**

# Ярмо ў ахвяру

Я не люблю хварэць. Магчыма, гэта здаецца відавочным. Але гэта здаецца. Здаецца, што ўсе ўспрымаюць хваробу адмоўна. Здаецца, што кожны, калі б меў мажлівасць, заўсёды быў здаровы. Такім вось свет здаецца праз упарты суб'ектывізм.

Вялікая колькасць людзей хранічна хворыя на ляноту. І гэтым людзям проста неабходны іншыя якіясьці дадатковыя абставіны, якія іх апраўдаюць. Лёгкая прастуда, галаўны боль, нястраўнасць — цудоўныя выратавальнікі ад урокаў у школе, ад пар ва ўніверсітэце, ад работы. Як добра атрымаць бальнічны і спакойна сядзіць дома, час ад часу закідваючы ў свой арганізм белую круглую таблетку альбо іншую атруту.

Я не хачу нікога абразіць. Я не абагульняю. Проста разбураю ў вашых вачах міф. І на месцы разбуранага міфа будую падмурак для наступных радкоў.

Я не люблю хварэць. Не люблю прыкладна з дзясятага класа. Да таго я хварэў пастаянна. Бо не аказваў ніякага супраціўлення хваробе. Я прымаў яе ў абдымкі і бег да маці, старанна дэманструючы, наколькі мне цяжка. Гэта былі цудоўныя спектаклі. Патрэбна было акцэнтаваць увагу на тым, што ты сапраўды вельмі хацеў бы пайсці ў школу, але не можаш. Маці куплялася. Урач купляўся. Я сам верыў у тое, што я хворы. Магчыма, я і быў хворы. Хворы на здрадніцтва. Любому вірусу, любой недастачы, любому болю я з радасцю адкрываў свой арганізм, прызнаваў уладу над сабой. Дзясяткі, сотні таблетак кожную вясну і восень прывілі мне ледзь не імунітэт. Імунітэт да лекаў.

У дзясятым класе ўсё змянілася. Не ведаю чаму. Не разумею, як я здолеў адкрыць вочы і пабачыць, што я раблю. Але з таго часу я не хварэю. Не прапусціў па хваробе ні дня вучобы, ні дня работы. Па-ранейшаму пераход восені ў зіму, а зімы ў вясну аказвае на мяне ўздзеянне. Спрабуе аказаць. Кожны год з-за кліматычных змен у мяне павышаецца тэмпература, быццам ува мне ідзе вялікая работа. Быццам мой арганізм трэба перапраграмаваць, і пры гэтым выпрацоўваецца шмат цяпла. Ведаю, гучыць не вельмі навукова. Ды я ж пішу не навуковы артыкул, я толькі спрабую зрабіць свой вопыт больш значным. Асэнсаваць яго і адначасова даць вам штуршок для пераасэнсавання.

Цяпер я не ўжываю лекі. Мне дастаткова цеплыні. Цеплыні пледа, падоранага лепшым сябрам. Цеплыні гарбаты, якую я заўсёды п'ю з вялікага паўлітровага кубка. Цеплыні добрага фільма на экране альбо кнігі. Мяккіх, светлых старонак. Апошні раз гэта быў «Гары Потэр». Я перачытваў чароўны казачны цыкл трэці раз, перачытваў пад гукі свайго любімага гурта Lacrimosa. Мне так спадабаўся гэты сплаў, гэтае своеасаблівае сугучча, што нават пасля, калі я нарэшце дабраўся да фільмаў пра Потэра, я не мог не чуць замест музыкі, выбранай стваральнікамі, музыку, выбраную мной. Я і зараз яе чую. Але не таму, што настальгую, проста перад тым як пісаць гэты тэкст, я ўключыў тую ж кампазіцыю, «Dermorgendanach». Кампазіцыю, якая ў гэты год назаўсёды набыла аблічча Северуса Снэйпа.

Ведаеце, чаму я не люблю хварэць? Таму што я люблю сваё «зараз». Я люблю кожнае імгненне. Кожнае імгненне заслугоўвае таго, каб я адчуў яго цалкам. Каб я гарэў не ад тэмпературы, а ад шчасця, што я жывы, ад цеплыні, якой хочацца сагрэць кожнага. Мне здаецца, што гэта проста і зразумела. Але гэта здаецца. Вялікая колькасць людзей аддае сябе ўчарашняму дню. Гэта другая залежнасць, другое ярмо, пра якое я не магу не сказаць.

Падлетак, магчыма, хацеў бы вярнуць жыццё без школы. Студэнт — вярнуць школу. Малады спецыяліст — вярнуцца ў студэнцтва. Сталы мужчына — вярнуць маладосць.

Пенсіянер — вярнуць свой дапенсійны ўзрост. Стары дзядуля хацеў бы вярнуць хоць штонебудзь, бо прайшоў увесь шлях, аглядваючыся назад, аддаў усё жыццё смакаванню мінулага.

Я не прапагандую адмаўленне ад успамінаў. Проста часам успаміны становяцца сапраўднымі паразітамі, якія забіраюць усё, даючы ўзамен толькі ілюзію. Забіраюць жыццё, а пакідаюць яго выяву. Раз за разам розныя таты і мамы гартаюць фотаальбомы, дзе іх дзеці былі такімі малымі. Як яны незаўважна выраслі. Пакуль таты і мамы гартаюць фотаальбомы, іх дзеці працягваюць незаўважна расці.

Неабавязкова гэта таты і мамы. Гэта могуць быць сябры. Замест тэлефоннага званка або банальнай сустрэчы з блізкім чалавекам яны гартаюць перапіску ва «УКантакце», грэюць рукамі даўнія падарункі: сувеніры, кнігі, цацкі. Старанна ахоўваюць сваё сяброўства. Ахоўваюць яго ад свайго сёння.

Некалькі гадоў таму я быў у Мінску на канцэрце гурта «Сурганава і аркестр». Канцэрт скончыўся позна вечарам, цягнік мой адыходзіў толькі раніцай, пераначаваць не было ў каго. Таму мая ноч прайшла на чыгуначным вакзале. Яна павінна была быць сумнай і доўгай, нягледзячы нават на акіяны пасляканцэртных эмоцый. Але ўсё атрымалася нечакана.

Я стаяў на першым паверсе, глядзеў у вокны і спрабаваў затрымаць у сваёй галаве чароўныя гукі скрыпкі. Раптам каля акна прайшлі нагружаныя вялікімі сумкамі людзі. Штосьці прымусіла мяне ўгледзецца ў іх твары. Для таго, каб ледзь не падскочыць на месцы да самай столі. Гэта былі не проста людзі — гэта быў той самы гурт. У вакзал на маіх вачах заходзіла Святлана Сурганава са сваім «аркестрам».

Я імгненна выхапіў з сумкі CD з альбомам «Соль», звычайную ручку з сінім чарнілам і кінуўся ёй насустрач. Адчуванні, якія рвалі мяне на часткі, немагчыма апісаць і немагчыма ўявіць.

— Добры вечар. Прабачце, можна аўтограф? — прагаварыў я, няўпэўнена падышоўшы да спявачкі, а словы гучалі, быццам у іншым вымярэнні.

— Вядома, — адказала яна.

Простае слова. Адно простае слова стала для мяне на доўгі час доказам існавання іншага. Доказам існавання свету за межамі маёй штодзённасці. Яе подпіс стаў для мяне сведкам мажлівасцяў. Я раз за разам глядзеў на гэты чарнільны след на белай вокладцы і лічыў яго важным, патрэбным.

> Удача — гэта не прычына для гонару. Прычына для гонару — гэта калі табе не патрэбна ўдача. Прычына для гонару — гэта ўменне глядзець у будучыню і адначасова лавіць кожнае імгненне сапраўднасці

Я памыляўся. Сустрэча з вядомым чалавекам — проста сустрэча з чалавекам. Аўтограф — проста подпіс. Жыццё застаецца такім жа, якім было. Выпадковасць застаецца выпадковасцю. Я нічога не зрабіў для таго, што здарылася. Нічога. Чым я магу ганарыцца? Тым, што мне пашанцавала? Удача — гэта не прычына для гонару. Прычына для гонару — гэта калі табе не патрэбна ўдача. Прычына для гонару — гэта ўменне глядзець у будучыню і адначасова лавіць кожнае імгненне сапраўднасці.

Мой куратар у каледжы часта казала: «Я не сонейка — усіх не абагрэю». Я заўсёды дадаваў сам сабе: «Але ж паспрабаваць можна». І я спрабую. Вось зараз. Грэю праз свае радкі незнаёмых мне людзей, узамен прашу кожнага з іх скінуць з сябе ярмо, якое не дае быць шчаслівым, скінуць яго ў ахвяру сённяшняму дню.

А дыск з аўтографам Сурганавай я падарыў сваёй вучаніцы. Спадзяюся, яна таксама чытае гэта і ёй цёпла.

*Lacrimosa — швейцарскі гурт, які па сутнасці складаецца з двух чалавек: яе стваральніка Ціла Вольфа і клавішніцы і вакалісткі Анне Нурмі.*

*Шмат людзей пачынаюць пісаць кнігі, бо ім няма чаго чытаць. Так Ціла Вольф пачаў ствараць музыку, якую ён хацеў слухаць. Яму была блізкай гатычная сцэна: сваёй эмацыянальнасцю, атмасфернасцю, глыбінёй. Але ў той жа час тут не хапала сілы, крэпасці, моцы металу. Малады музыка звёў гэтыя два стылі-кірункі ў адзін, стварыўшы свой арыгінальны стыль.*

*Любыя мае словы пра любімы гурт першапачаткова прадузятыя, таму лепш пазнаёмцеся самі. Для знаёмства падыдзе альбом Live (1998 год) на двух дысках.*




# Добрай раніцы, Наталля!

**У наступным годзе праграме «Добрай раніцы, Беларусь!» спаўняецца дваццаць гадоў. Пятнаццаць з іх прамы эфір перадачы не абыходзіцца без Наталлі Бібікавай — яе можна ўбачыць як за рэжысёрскім пультам, так і перад камерай, дзе яна натхняе беларусаў жыць культурна. «Маладосць» і Яна Паляшчук папрасілі Наталлю распавесці пра такую нялёгкую і цікавую працу і ўсё тое, што адбываецца па-за ёй.**

## «Дванаццаць гадоў глядзела ўсе тэатральныя прэм’еры»

— Праграма выходзіць пяць разоў на тыдзень, штодня акрамя выходных мы робім трохгадзінны прамы эфір. Цяпер у краіне мала дзе ёсць прамыя эфіры. Спачатку я рабіла шмат розных рубрык і тэм, але па адукацыі я актрыса і музыкант, таму пачала аглядаць культурныя падзеі. У большасці сваёй гэта тэатральныя імпрэзы, але аглядаю таксама музычныя падзеі і выставы. Апошнія гадоў пяць, мусіць, кожную-кожную раніцу ў мяне выходзіць матэрыял. Гэтую аўтарскую рубрыку я вяду ўжо дванаццаць гадоў. Калі пачынала распавядаць пра прэм’еры і акцёраў, у нас ніхто не ведаў нават народных артыстаў, людзі не асабліва гэтым цікавіліся, і я старалася папулярызаваць, звяртаць увагу і на пачаткоўцаў. Мне здавалася несправядлівым, што ўсе захапляюцца расійскімі акцёрамі кіно і серыялаў, а нашых не ведаюць. Што датычыцца тэатральных падзей, магу дакладна сказаць, што ўсе пастаноўкі, якія выходзілі ў тэатрах Мінска апошнія дванаццаць гадоў, я глядзела. І ніколі не перастану дзякаваць сваёй працы за тое, што ў мяне ёсць магчымасць сустрэцца і пагаварыць з легендамі тэатральнага мастацтва. Мяне найбольш кранае пакаленне артыстаў, на якіх мы выраслі, — савецкія легенды кіно і тэатра.

## «Без рэжысёрскіх навыкаў, сама»

— Сэрца радуецца, калі бачыш поўныя залы ў нашых тэатрах. Такое сапраўды адбываецца. І гэта не на гастролях расійскіх акцёраў. Радуе, калі на прэм’ерах нашых няма вольных месцаў — раней такога не было. Цяпер квіток у Купалаўскі трэба замаўляць за месяц — добра, калі давядзецца трапіць. Я вельмі люблю тэатр. Для мяне назіраць тэндэнцыю нарастання цікавасці да мастацтва — захапленне.

Я з шасці гадоў вучылася ў музычнай школе імя Ахрэмчыка, яна знаходзіцца побач з вуліцай Макаёнка, дзе Белтэлерадыёкампанія. Як, напэўна, усім дзяўчынкам, мне хацелася быць актрысай. Пасля заканчэння школы я паступіла ва Універсітэт культуры на актрысу. Так склалася, што калі яго скончыла, я нарадзіла дачку, таму ісці працаваць у тэатр не магла. Я пачула пра кастынг на тэлебачанні — шукалі вядучую ў праграму «Землякі». Мяне зацвердзілі, і тэлевізійная кар’ера пачалася менавіта з працы вядучай. А ў 2000 годзе я вырашыла пайсці працаваць у «Добрай раніцы, Беларусь!», не маючы ніякіх навыкаў працы рэжысёра. Стала асістэнтам рэжысёра, хутка сама ўсяму навучылася.

## «Я раблюся звычайным гледачом»

— Адключаецца ўва мне прафесійны глядач, калі пастаноўка ўзрушвае, калі можна падзівіцца на ігру акцёраў. Я, дарэчы, кіруюся гэтым крытэрыем. Я не тэатральны крытык, каб даваць нейкія рэцэнзіі. Але ўсё роўна думаю пра ацэнку. Так што, калі атрымліваеш кайф ад ігры, ад пастаноўкі, калі захоплівае дух, з'яўляюцца мурашкі, падбіраецца камяк да горла, тады ўсё ацэначнае адключаецца, і я раблюся звычайным гледачом.

## Ад світання да світання

— Часта я на працы з пяці раніцы. А дзявятай эфір заканчваецца, але на гэтым работа не спыняецца — трэба напісаць тэксты да сюжэтаў, якія былі зняты да гэтага, зманціраваць, бо рубрыка выходзіць штодня. Я еду сама, пішу сама, манцірую сама — мне так зручней і прасцей. Адзінае, што за камерай стаіць аператар — аддаю гэта на волю прафесіяналаў. Бываюць такія дні, калі я працую з пяці раніцы да дзесяці вечара. І так па коле.

Я пятнаццаць гадоў за пультам, і да гэтага часу мне сняцца сны аб тым, што я праспала эфір, што прыйшла ў апаратную, а там тэхніка завісла. І адбываецца выкід адрэналіну, калі гучыць «Увага, мы ў эфіры», ідзе нашая шапка, нашыя пазыўныя, вядучыя вітаюцца. А потым ужо а дзявятай раніцы, калі завяршаем, ты кажаш у студыю па гучнай сувязі «Усім вялікі дзякуй за эфір» — і гэта ні з чым не параўнаць.

Цяпер квіток у Купалаўскі трэба замаўляць за месяц — добра, калі давядзецца трапіць

## «Дома ў нас не ціха»

— Большасць сапраўдных сяброў у мяне тут, у калектыве «Добрай раніцы, Беларусь!» — столькі гадоў ужо разам працуем, што склаліся пасапраўднаму сяброўскія адносіны. Мне складана прывесці прыклад, дзе б я бачыла такі дружны калектыў, які склаўся ў нас.

Мы вельмі любім хвалюючыя песні. Не сказала б, што мы спартыўныя. Часцей адпачываем у бацькоў — гэткае сумеснае баўленне часу. Калі ж мы толькі ўчатырох, то любім выязджаць на прыроду. Часта сустракаемся з сем'ямі сяброў. Любім пакатацца і што-небудзь паглядзець. Узялі і паехалі ў Нясвіжскі замак. Але пакуль што мы не экстрымшчыкі. Можа быць, гэта ў будучыні.

Хтосьці апрыёры любіць, каб яго менш чапалі. Але я не стамляюся ад зносін. Я вельмі люблю людзей і атрымліваю асалоду ад камунікавання. А адпачываю ўжо дома, у сям'і, і ў нас там не ціха! Мы ўсе творчыя людзі: муж — акцёр, дачка пайшла вучыцца на рэжысёра тэлебачання ў акадэмію, маленькі сын ставіць усю сям'ю на вушы. Не люблю закрывацца ва ўласнай шкарлупіне. Мы гарым, мы ўсе эмацыянальныя, але самае галоўнае ў сям'і — гэта каханне, вядома.



**Наталля Скарынка**

## Спыніцца

*Усё, што кранае мяне, падобнае на мяне…*
*Алесь Разанаў*

Пад рукой адказвае на маю цеплыню сваёй нагрэтая сонечнымі промнямі вокладка кнігі. Аднак нас аб'ядноўваюць не толькі пачуцці, але і змест. Цікавая мне кніга заўсёды падобная на мяне. Значыць, я бачу ў ёй сваё адлюстраванне. Раман, якога кранаюся зараз, — пра Беларусь, каханне, нацыю… Мой улюбёны Караткевіч заўсёды пісаў пра прыгожае.

«Каласы…» ад мяне неад'емныя. Я думаю, што той чалавек ува мне, якім я спрабую стаць, сустрэнецца са мной цяперашняй — каб, не адказваючы ні на якія пытанні майго інфантыльнага сённяшняга «я», прыбраць яго прэч і аднавіць ужо амаль нежывую ад празмернай марудлівасці асобу.

Як напісаў Алесь Разанаў, «чалавек — гэта два чалавекі…» Унутры мяне кіпіць кацёл слоў і пачуццяў, розных настолькі, што часам становіцца страшна. Магу быць ціхай і разважлівай, гадзінамі нейтральна філасофстваваць, павольна адказваючы на пытанні, а потым раптам пачаць страчваць розум. Думаць вельмі хутка, раз'юшана з кімсьці спрачацца, адчайна штосьці камусьці даказваць. Ува мне жывуць два чалавекі. Адзін з іх — дарослы, які паступае мудра незалежна ад акалічнасцяў, другі ж — вечна лезе на нейкі ражон. Яму гэта, здаецца, падабаецца. Шмат красамоўства (дзякуй хоць, што не галаслоўнага), актыўная дзейнасць і буйны эмацыянальны запас.

> Ува мне жывуць два чалавекі. Адзін з іх — дарослы, які паступае мудра незалежна ад акалічнасцяў, другі ж — вечна лезе на нейкі ражон. Яму гэта, здаецца, падабаецца

Два чалавекі. Працягваючы папярэдні абзац, зраблю адсылку да верша, які моцна запаў у душу, каб даказаць, наколькі гэтыя два чалавекі ўнутры мяне розныя: «Адзін з іх — выток, і другі — суток, адзін з іх — прычына, другі з іх — вынік, адзін з іх — пытанне, другі — адказ, а паміж імі цякуць, вынікаючы з іх і ўпадаючы ў іх сусветы...»

Сусветы… Цэлыя сусветы хістаюцца зараз ад адной маёй існасці да іншай, гэта толькі падумаць… Але яны ні паралельныя, ні перпендыкулярныя, ні перасякальныя. Яны проста розныя. Супярэчлівыя. Сусветы, якія часам перастаюць нагадваць мне нават самую сябе, бо пастаянна з'яўляецца ўсё больш новых, незнаёмых пачуццяў, уражанняў, думак, якіх я не чакаю, якіх я не прашу да мяне прыходзіць.

Адарвала погляд ад кнігі. Пасля прачытання шмат зразумела. Я — той чалавек, якому трэба на хвіліну спыніцца.

Спыніцца, перастаць так настойліва шукаць і ад гэтага — задыхацца.

Пачаць дыхаць больш свабодна, хоць гурт Akute колькі разоў настойліва паўтарае ў сваёй песні фразу, нібы папярэджанне, аб тым, што вакол нас «адзін атручаны дым».

Стомленасць пачынае караць моцныя бакі маёй асобы, якая ўнутры ўсё яшчэ падзеленая напалам. Адна палова хоча яшчэ большай актыўнасці, чым раней. Другая прапануе мне спыніцца. І апошняя — гэта я ў будучыні. Тая, што павінна будзе думаць інакш. Па-даросламу, пазбавіўшыся непатрэбнай няўпэўненасці ў дзеяннях і думках і дрэнна асэнсаваных комплексаў.

Але хто з іх дваіх зараз піша гэтыя радкі — я не ведаю.



Святлана Галуза

**нарадзілася 20 ліпеня 1997 года ў Оршы. Вучыцца ў Інстытуце журналістыкі БДУ. Раней займалася каратэ і танцамі, цяпер удзельнічае ў паўмарафонах і забегах. Валанцёр «Эгіды» і Цэнтра дзіцячай анкалогіі. У вольны час любіць чытаць, складаць розныя гісторыі і слухаць цяжкую музыку.**

## Смерць прыходзіць без запрашэння

Антон прачнуўся ад званка ў дзверы. Нягледзячы на тое, што за вокнамі было цёмна, а гадзіннік упарта паказваў чатыры раніцы, нехта, відаць, да зарэзу жадаў яго бачыць.

— Ат, каб цябе… — злосна прамовіў ён і падняўся з ложка. Холад кватэры, у якой дні тры таму адключылі ацяпленне, непрыемна ахутаў цела і прымусіў скуру пакрыцца дрыжыкамі. Антон ляніва сунуў ногі ў тапкі і, уздыхаючы, пайшоў да дзвярэй.

— Хто б ты ні быў, я цябе заб'ю! — сказаў ён, адчыняючы. І… абамлеў.

Насупраць стаяла даўганогая бландзінка ў ружовым паліто да сярэдзіны сцягна і ў ботах на вялізных абцасах. Яна была вельмі падобная да тых дзяўчат, якія часам траплялiся Антону ў крамах, метро, нават у рэдакцыі, дзе ён працаваў. Яны пагардліва аглядалі яго старое паліто і акуляры з паламанай дужкай, штурхалі яго ў плячо, маўляў, не стой на дарозе, і ішлі далей, а ён, задуменны і сарамлівы, моўчкі глядзеў ім услед, здаецца, нічога не разумеючы.

— Вы хто? — утаропіўшы вочы ў дзяўчыну, спытаў ён.

— Салю-ю-юцік! — яна занадта салодка ўсміхнулася і дастала з кішэні свайго паліто iPhone апошняй мадэлі ў ружовым чахле. — Мяне завуць Дэйзі. Я Смерць, прыйшла, каб забраць цябе.

— Ты-ы-ы? — Антон здзівіўся яшчэ больш і ледзь не ўпаў на каменную падлогу пад'езда, у апошні момант схапіўшыся за дзверы.

— Ага, — пагадзілася яна. — Давай сэлфі зробім.

— Што? — не зразумеў мужчына.

— Сэлфі! — яна, здаецца, пачала абурацца. — Што тут незразумелага? Ну, хадзі сюды! — дзяўчына абняла яго і, склаўшы вусны, быццам для пацалунку, зрабіла фотаздымак на франтальную камеру iPhone.

— Во, бачыш, гэта не страшна! Зараз толькі ў Інстаграм кіну. Можа, прапусціш дзяўчыну? А то тут холадна!

Антон стаяў як укапаны і проста не ведаў, што думаць і што рабіць. А Дэйзі і не заўважала гэтага. Адштурхнуўшы мужчыну, яна ўвайшла ў непрыбраную кватэру і накіравалася ў адзіны пакой.

— Да-а-а… Ну і гармідар тут у цябе! — канстатавала яна, агледзеўшы памяшканне. Антон моўчкі прайшоў за ёю, адчуваючы, як страх саступае і вяртаецца розум.

— Што табе тут патрэбна? Чаму ты прыйшла?

— Дзіўны ты! — Дэйзі какетліва адкінула валасы назад. — Не ведаеш, чаму смерць прыходзіць, ці як?

— Не, ну… Ведаю… Яна прыходзіць, калі чалавеку ўжо час на той свет.

— Вось… А твой час надышоў зараз! О! — яна зноў дастала тэлефон. — Люцыфер лайк на фотку паставіў. Глядзі, што напісаў: «Зачотны чувак! Дзе адхапіла?» О, яшчэ і Тарквемада камент пакінуў! — яна ненатуральна рассмяялася. — Хоча, каб ты з ім у футбол згуляў. Галовамі. Умееш?

Антон аслупянеў. Гэта не жарт? Гэта не сон? Няўжо ўсё адбываецца на самай справе? А што цяпер рабіць?

— Пачакай. Гэта… Ты што, праўда Смерць?

— Ну, ты глухі, ці як? — абурана працягнула дзяўчына. — Мала таго, што недарэка і небарака, дык яшчэ і вушы не чысціш. Фу такім быць!

— Навошта ты прыйшла? Мне ўсяго сорак восем!

— Усяго… — перадражніла яна. — Нам там без розніцы, сорак восем табе ці восем. Прыйдзем — і ўсё! Ды што табе губляць? Грошай няма, жонкі няма, дзяцей няма, нават палюбоўніцы — і той няма! Жывеш тут як наводшыбе, марнуеш жыццё, нават пра сэлфі і «УКантакце» не ведаеш!

— Ну, чаму… Ведаю.

— Да ладна-а-а? — недаверліва працягнула Дэйзі і ўтаропіла вочы ў Антона. — І што ж ты ведаеш?

— Ну… «УКантакце» — гэта як «Аднакласнікі», толькі там больш моладзі сядзіць.

Яна рассмяялася, а Антон ад гэтага збянтэжыўся і ўтаропіў вочы ў падлогу.

— І ўсё? — спытала яна, выціраючы слёзы. — Да-а… Напавал, так сказаць. Слухай, можа, прапануеш дзяўчыне кавы ці гарбаты? Мне, калі што, экспрэса.

— Эспрэса, — механічна паправіў мужчына і выйшаў на кухню, не разумеючы, што ўвогуле адбываецца і што трэба рабіць.

Пакуль ён гатаваў каву, Дэйзі крычала яму з пакоя:

— А наша фотка яшчэ Бісмарку спадабалася! І Сталіну таксама! О, і Мусаліні, і Гітлеру! Зараз прачытаю, што ён напісаў. Іхь… Ліе… Слухай, ты па-нямецку разумееш? А то гэты казёл іншых моў не ведае!

Ён моўчкі пайшоў у суседні пакой і ўзяў тэлефон.

— Толькі акуратна, не лапай. Я нядаўна экран замяніла, столькі баблосаў адваліла за гэта!

Антон праігнараваў словы Дэйзі.

— Гітлер піша, што мне няма чаго рабіць на зямлі і што жыві я ў яго час, ён бы мяне забіў.

— Ну, вось бачыш! Ды ты не трымці так, у пекле табе будзе добра! Бісмарк класны пацан, я цябе побач з ім пасялю. А насупраць у хаце жыве Чыкаціла. Ты з ім акуратна, добра? Ён увогуле добры дзядзька, але калі што… Ды я ў яго ўсё роўна штовечар бываю, буду заходзіць да цябе. Мы з Андрэйкам сустракаемся ўжо дзесяць гадоў, да-а!

Антон усё больш здзіўляўся кожнаму слову. Калі б ён захаваў хоць бы рэшткі розуму, ён перш-найперш выгнаў бы дзяўчыну за дзверы, але ён быў занадта разгублены. Голас Дэйзі гіпнатычна дзейнічаў на яго, ён моўчкі рабіў усё, што яна патрабавала.

— Я цябе не цікаўлю? — раптам спытала яна, і яе вусны скрывіліся і задрыжалі. — Ты ў мяне нават не пытаеш нічога!

— А што пытаць?

— Ну… Не ведаю… Хоць што! А то я сяджу, быццам каля сцяны. Як быццам табе напляваць, што я тут… Цяпер зразумела, чаму ў цябе жонкі няма…

А і праўда! Антон нават не заўважаў, што раней у размовах з жанчынамі заглыбляўся ў сябе і нічога не чуў і не бачыў.

— У мяне зараз толькі адно пытанне: чаму ты тут?

— Як чаму! — яна пераможна хіхікнула: нарэшце атрымалася разбудзіць мужчыну. — Час надышоў! Табе няма чаго рабіць тут. Усё жыццё ты спусціў дарма. Жыццё, што было табе дадзена, я адабрала і падарыла маленькаму хлопчыку з лейкозам. Няхай ён пажыве замест цябе.

— Што за хлопчык? — вырвалася ў яго.

— Стадзелаў Антон, пяць гадоў. Ён з дзіцячага дома. У яго лейкоз, і жыць яму засталося, мабыць, месяцы тры-чатыры. А твае гады, якія табе ўсё роўна не патрэбны, застануцца яму.

У Антоне змагаліся дзве супярэчнасці. З аднаго боку, сваёй смерцю ён падорыць гады жыцця маленькаму хлопчыку, з другога… Можа, не трэба? Малеча ўсё роўна нічога добрага ў дзіцячым доме не бачыць… Няхай зараз памрэ, чым потым ад наркотыкаў ці алкаголю.

«Божа, пра што я думаю!»

— Можна мне трохі часу, каб даць адказ? — слабым голасам папрасіў Антон.

— А я не прашу адказу, я стаўлю цябе перад фактам.

— Калі ласка… — ён ледзь не маліў. — Я не хачу паміраць!

— А ніхто не хоча! — Дэйзі стала вельмі сур'ёзнай. — Так што збірайся. А хаця… Ладна! Як памерці хочаш? Толькі каб прыгожанька было, бо я ў Instagram выкладу. І на Facebook напішу.

Антон пачаў разважаць. Цікава: чалавек разважае над спосабам уласнай смерці! Каму сказаць — не паверыць! Але ж…

— Можа, у мяне яшчэ ёсць шанц? — з надзеяй спытаў ён. На сэрцы было балюча ад таго, што ранкам ён не пойдзе на работу, не аддасць загады падначаленым, як было заўсёды, не вызначыць кантэнт наступнага нумара часопіса, не падпіша ніводнай справаздачы…

— Ну, ты тупы, ці як? — дзяўчына зноў раззлавалася, не па-добраму зыркнуўшы ў яго бок маленькімі вочкамі. — Колькі разоў яшчэ сказаць трэба, каб ты зразумеў? Індык! Кажы хутчэй, як памерці хочаш, мне яшчэ за дзедам Мацеем у суседні пад'езд ісці!

І тут у Антоне нешта заварушылася. Раптам ён адчуў такую прагу да жыцця, такое жаданне ўбачыць світанак, ранішняе метро, будынак рэдакцыі, што схапіў Дэйзі за каўнер ружовага паліто і адным махам узняў.

— Ты гэта вось што… Мне пляваць, хто ты і што ты, мне пляваць на ўсё, што ты тут мне казала! Я не збіраюся слухаць цябе, я ўжо ўсё зразумеў! Правальвай адсюль і не з’яўляйся ў бліжэйшыя гадоў трыццаць!

Быццам кацяня, ён вынес яе з кватэры і выкінуў на лесвіцу, не зважаючы на крыкі і пратэсты. Кіпцюрамі, пакрытымі ружовым лакам, яна драпала яго рукі, шыю, але ён быў мацнейшы. Жорсткасць (хоць ён ніколі не быў жорсткім) запоўніла кожную клетку яго цела. І да яе прымешвалася прага жыцця.

З пад’езда данесліся грукат і звон разбітага шкла. Пэўна, Дэйзі, падаючы, згубіла свой iPhone з Instagram і каментарыямі ад Гітлера, Бісмарка і іншых.

***

Антон са страхам падскочыў на ложку і агледзеўся. Ніякіх слядоў прысутнасці Дэйзі. «Фух, дзякаваць богу, сон!» — з палёгкай падумаў ён і глыбока ўдыхнуў. Марознае паветра з незачыненай форткі запоўніла лёгкія. «Як жа гэта добра — жыць!» — падумаў ён і стаў збірацца на работу.

Выйшаў з дому ён у добрым настроі, яго нават не палохала неабходнасць ехаць у рэдакцыю на метро і зноў лавіць пагардлівыя позіркі маладых дзяўчат, падобных да Дэйзі. Больш за ўсё хацелася ў офіс, туды, дзе яго, несумненна, чакаюць падначаленыя.

У двары ён сустрэў Валянціну, касірку з бліжэйшага супермаркета, якая жыла ў суседнім пад’ездзе.

— Прывітанне, Валя! — усміхнуўся ён, памахаўшы ёй рукой.

— Добрай раніцы, Антось!

Звычайна вясёлая і прыгожая, сёння жанчына выглядзела стомленай і засмучанай, і гэта насцярожыла Антона.

— Валя, што здарылася?

— Ты не ведаеш яшчэ? Дзед Мацей памёр.

І зноў гэтае адчуванне, як у сне — пачуццё страху, змешанага з нечаканасцю…

— Як памёр?

— Інфаркт, кажуць. Эх, шкада, добры чалавек быў!

«Няўжо мой сон быў праўдай?» — думаў Антон, баючыся зрабіць крок. — «Але… У маёй кватэры няма нічога, што паказвала б на тое, што Дэйзі прыходзіла да мяне…»

Азіраючыся, быццам у пошуках Дэйзі, ён бег да метро, нават забыўшыся развітацца з суседкай. Страх надаваў яму моц, нягледзячы на недахоп дыхання. Ледзь паспеўшы, ён ускочыў у апошні вагон адыходзячага цягніка метро і… І аслупянеў.

Перад ім сядзела яна. Такая самая, як і ў сне. Доўгія белыя валасы, маленькія вочкі, ружовае паліто да сярэдзіны сцягна, iPhone у руках (з адкрытым профілем Instagram), вострыя ружовыя пазногці. Яна паглядзела на яго так, што душа схавалася ў раёне ахілава сухажылля, і раптам тым жа самым голасам прамовіла.

— Ну, прывітанне, прыгожанькі!..



## Аляксандра Фагот



**нарадзілася 30 снежня 1996 года ў Кобрыне. Вучыцца ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве па спецыяльнасці «Літаратурная кампаратывістыка»: займаецца вывучэннем польскай і сусветнай культуры і літаратуры. Вывучае некалькі моў — плануе звязаць жыццё з перакладчыцкай дзейнасцю. Друкавалася ў рэспубліканскіх перыядычных выданнях і берасцейскім літаратурным альманаху «Жырандоля». Вельмі любіць людзей, асабліва творчых. А яшчэ — ускладняць сабе жыццё і, драматычна ўздыхаючы, пакутаваць. Шукае сябе, «па-напалеонску» марыць і штодзень спрабуе нешта новае.**

# Рэшткі акрыленых слоў

### незразумелае. нават мне.

Я з табой размаўляю праз вершы.
праз кожнае асобнае слова,
абранае мной з дакладным зместам,
я кажу столькі слоў,
колькі б хапіла для напісання
далёка не аднаго томіка вершаў.
і нават не дзесяці.

Я дару табе не проста словы,
а шпацыры пад неадкрытымі,
толькі для нас створанымі, планетамі.
дару табе столькі зорак,
колькі трэба для шчырай усмешкі,
і столькі знічак,
колькі трэба для стварэння цуда.
дару галактыкі,
дзе існуе больш сусветаў,
чым ва ўсіх кнігах за ўсе часы.
Ды што гэты космас у параўнанні
з душою паэзіі?
.......
……
Ты жывеш там, дзе сонца з месяцам
ніколі не сустракаецца,
надвор’е залежыць ад клімату,
а спатканнямі акрэсліваюць расстанні.

і не ведаеш,
якое незвычайнае тваё жыццё.
бо не спяшаешся прачытаць мае вершы.

## Тое, чаго не існуе

Вядома, словы — вечны агонь у імя
бязмежнай абстрактнасці.
толькі ўздых разгарачанае прытомнасці
і лішак нястрымнага хвалявання.
ім бракуе моцы, каб выказаць усё, чым
жывецца й марыцца.
наўпрост.
без дапамогі ўчынкаў.
яны збянтэжана знікаюць у вальсе ветру
з няздзейсненых абяцанняў.

Люб*ы*я,
але не мае.

Мае палымнеюць у палях красамоўных ажынаў.
Ад дотыкаў
узнімаюцца ўвысь.
прагнуць мацнейшых ваганняў.
большае амплітуды эмоцый.
і тваіх абдымкаў.
і, ведаеш, пачынаю «ўчынкавы пост».
так, проста зараз.
адно на тэрмін працягласці верша.
Праз яго
я. хачу. за далонь.
трымаць. цябе. кожнай метафарай і эпітэтам.
І няхай бурлівыя алегорыі — толькі спалучэнні гукаў.
Але заплюшчы вочы і…
слухай.
не. услухоўвайся.
каб адчуць імгненне.

Чуеш?
Шапаціць шматгалоссе шчабятлівае за шыбай
і сэрца ціхутка спявае ў адказ.
сонца лашчыцца зіхатлівымі промнямі
ды ўсё роўна цьмянее
у полымі кволых радкоў,
аб’яднаных пачуццёва-пяшчотным каркасам.
Спакушаная невядомасцю
неспадзяванай адданасці
душа чакае світання
аперазаная
Салодкай млоснасцю
ад жадання хутчэй пабачыцца.

...і сціхае соннае рэха павеваў і птушыных размоў
раптоўна.
за шыбай.

ужо — адчуваеш? — чацвёртая. досвітак.
я трымаю тваю далонь.
Адчуваю сябе няхай не каханай,
але адзінай.
няхай яшчэ не каханай.
але ўжо шчаслівай.
пакуль цішыня збірае
рэшткі акрыленых слоў.

## Пра штодзённае крывавае

Вечна жывуць дэманы, бавяцца, гуляючы ў хованкі ці квач
і падразаюць анёлам валасы або крылы.
Людзі не-\свядома ўдзельнічаюць у гэтых гульнях,
не разумеюць правілаў, \ахвотна?\ парушаюць іх
і гэтак змяняюць першапачатковы сэнс забаўкі.
Разлікам на першы-другі, хуткім крокам наперад
распачынаюць спаборніцтва-дзеля-весялосці.
Жарты неяк неўпрыцям становяцца кепікамі.
Выпадковыя дотыкі — наўмыснымі штуршкамі.
Заўзятыя выгукі — абразамі праз шаленства.
Так гульня пераносіцца на іншую пляцоўку,
дзе стае месца для танкаў, выбухаў ці здзяйснення
лёсаноснага ліхадзейства пад маркай шчырасці
й іншага непрадбачанага ўжо-не-рэквізіту.
Гуляюць, каб перамагчы,
і не пытаюцца, нашто.
Змагаюцца дзеля схілення слушнасці
на свой бок.
Слушнасці, што ніколі не становіцца на адзін
з бакоў.

Сівавалосы, спакутаваны Бог адчувае
такі боль,
нібыта Ён не адзін раз памёр на крыжы, а
тысячы,
ды столькі ж пасля разоў ажываў, каб зноў памерці.
І ўсіх яго смерцяў не хапіла б,
каб скончыць гульню,
бо удзельнікі цвёрда перакананыя ў тым, што
ведаюць правілы, гуляюць па правілах,
Успрымаючы кроў як чырвоную пляму ад фарбы.



Алена Папко




**нарадзілася 24 лютага 1990 года ў вёсцы Сакалова Бярозаўскага раёна. Скончыла факультэт замежных моў Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С. Пушкіна. Працуе настаўніцай нямецкай і англійскай моў. Лаўрэат рэспубліканскага літаратурнага конкурсу імя Максіма Багдановіча ў намінацыі «Паэзія» (2014), пераможца конкурсу маладых літаратараў Саюзнай дзяржавы «Мост дружбы» (2015), удзельніца міжнароднага літаратурна-музычнага фестывалю «Славянскі вянок» з удзелам пісьменнікаў Беларусі, Украіны, Расіі і Польшчы (2015).**

## Да зор ляцець…

***

І па-дзіцячы лоўкімі рукамі
Складзе жыццё з нас птушак-арыгамі.
Прыгожых, маладых, адпусціць ў неба…
Адна— асядзе на паўночнай глебе,
І птушкі гэтай тут не дачакацца —
Яна не марыць ў родны край вяртацца.

Другая — абярэ палёт на поўдзень…
Але ці шчасце там, далёка, знойдзе?
Пакружыць на чужыне непрыветнай —
І вернецца назад з імклівым ветрам.
Да родных берагоў, гнязда старога,
Каб тут пражыць адмеранае Богам.

***

Вецер духмяна-пшанічны
Спёку развеяў здалёк.
Пад небасхілам крынічным
Лёгка ляціць матылёк.

Жоўта-чырвоным ранетам
Жнівень саспеў уначы.
Шумна зашторыла лета
Вокны фіранкай з парчы.

І адгукнулася неба
Рэхам дажджоў шапаткіх,
Водар жытнёвага хлеба
Сыпаўся кменам ў радкі.

Сонны праменьчык стамлёна
Зранку хмурынкі раскрыў,
І загарэліся клёны
Водбліскам сонечных крыл.

Шчырую іх пазалоту
Усцешна ў далоні збяры!
Ў ёй — майго сэрца самота,
Ў ёй — твой свабодны парыў.

Лісцем згарэлі прызнанні,
Нашых пагляд аў сустрэчы…
Горкі апёк ад расстання
Восень на тварах залечыць.

***

Да зор ляцець нам тысячы гадоў —
І тысячы гадоў назад вяртацца.
Пакіну шчасце летніх вечароў,
Каб век ад веку мне ім прычашчацца,
І восені прамоклы парасон —
Дзяліць пароўну з ценем лістападаў.
Жыццё было і застаецца сном
Між воляю багоў і ўласным садам.
Дзе кросны ткуць дарогі на дваіх,
Там кожны сваё месца ўрэшце знойдзе.
Пульсуе днямі час ў руках маіх,
Жыццё ідзе, а ён — ніяк не пройдзе…

***

Калі душа слязой ў вачах імжыць,
Я пешчу лёс ліпнёваю гарбатай.
… Як трэба— не навучаная жыць,
А як не трэба — ведаю багата.

Час добры для пшаніцы і ільноў —
Плывуць дзянёчкі сонечнага лета.
У выгнутыя спіны тумаоў
Краплісты дождж трапляе рыкашэтам…

Вяслуюць аблачынкі ў вышыні—
Вандроўны шлях не лічыцца няўдалым,
Пакуль адвечнай зоркай свецяць дні,
Якім мы цеплыню сваю аддалі.

***

Прывыкаю да новай пары,
Толькі зноўку узгадваю лета,
І залітыя сонцам муры,
І пяшчоту зямлі абагрэтай.

Сцежку вузкую ў родны лясок,
Пах духмяны калючай іглiцы,
Меладычны птушыны куток,
Дзе малiннiк глядзiцца ў крынiцы!

Гэта сцежка — як лёсу рука,
Што цябе сярод іншых абрала.
…Ўецца стужкай у вечнасць рака,
І масток — як жыцця пераправа.



Валерый Гапееў

**нарадзіўся 6 лютага 1963 года ў вёсцы Восава Рагачоўскага раёна. Пісьменнік гэты не мае патрэбы ў прадстаўленні, таму можна проста працытаваць яго: «Вельмі шкада, бязмежна шкада, але разуменне таго, што свет вакол цябе можа змяніцца толькі тады, калі зменішся сам, прыходзіць адно з асабістым вопытам. Не ўспрымаецца гэта праз тэорыю. Але... можа, так і трэба? Той не паднімаўся, хто не спатыкаўся...»**

## Уцёкі

*(урывак з ненапісанага рамана)*

— Цікавае ён напіша! Вершыкі свае пішы сам, а астатнія тэмы — тое, што я скажу! — крычаў рэдактар, калі Віктар Сакуцін, 48-гадовы карэспандэнт раённай газеты, паспрабаваў аспрэчыць рашучы пратэст рэдактара на прапанову адправіць яго, Сакуціна, у Карчаваху. Там учарашняй раніцай было знойдзена мёртвае цяля (ужо другое, а былі яшчэ скрадзеныя гусі, куры), гэтым разам — якая жудасць — з літаральна вырванай з цела нагой, і па ўсім раёне успыхнулі яшчэ мацней і трывожней, чым месяц таму, размовы пра «чупакабру».

Віктар моўчкі праглынуў крыўду з-за абразлівага «вершыкі» — рэдактар ніколі не хаваў свайго стаўлення да рознай літаратурнай дзейнасці і лічыў літаратурную старонку, якая выходзіла раз на два месяцы ў раёнцы, адно марнаваннем газетнай плошчы.

— Увесь раён толькі пра гэта гаворыць… — не здаваўся Віктар, але ад яго мармытання рэдактар яшчэ больш узвіўся:

— Калі дадуць з райвыканкама каманду пісаць — знойдзецца каму, спецыяліст мне тут вялікі аб’явіўся, не твая справа туды лезці! План нарыхтоўкі кармоў зрываецца, травы цвітуць — во пра што пісаць і гаварыць трэба, а не чуткі падаграваць! Зараз жа збірайся і едзь! У Навасёлках траціны плана няма, трактарыста ўчора п’янага вывалаклі з кабіны. Едзь! Разбірайся і давай матэрыял! У нумар чарговы! Вадзіцеля да мяне пакліч.

Рэдактар шпульнуў ручку, якую трымаў у руках, на стол, ды замоцна, тая апынулася на падлозе, слізгануўшы па стальніцы.

Віктар мусіў выйсці з кабінета, ведаў: калі паляцелі ручкі на стол, казаць нешта ўжо марна. Зайшоў у кабінет, дзе зазвычай чакаў выклікаў вадзіцель, сказаў пра заданне.

Ехалі моўчкі. Вадзіцель паспрабаваў было пачаць гаворку, але Віктар адказваў аднаслоўна, і той замоўк. Ужо не першы раз у такіх паездках Віктар лавіў сябе на думцы, што яго часцей і часцей цягне у больш-менш «зацішных» абставінах паспрабаваць зразумець: як жа так атрымалася? Чаму ён стаў такім, якім ёсць цяпер?.. Хіба ж ён пра гэта некалі марыў? Да такога імкнуўся? Каб вось так на яго крычаў маладзейшы на дзясятак гадоў рэдактар, зневажаў, грэбліва ставіўся да яго справы жыцця — паэзіі?.. Чаму? Чаму нічога не збылося? Чаму ўрэшце

не мара збылася, а нейкі бляклы яе цень: не стаў ён вядомым і славутым паэтам, а толькі выдаў за свае ж грошы адну кніжачку вершаў, і яго вядомасць як паэта не можа выкараскацца далей за межы раёна?

З чаго ж пачалося? Што ён рабіў не так? У чым хібіў?

…Пасля сёмага класа Віктар пачуваў сябе самым лепшым вучнем у школе. Падмуркам гэтага былі не толькі пахвальныя граматы за кожны год навучання, пяцёркі па ўсіх прадметах за ўсе гады, першыя вершы і невялічкія заметкі аб жыцці школы, якія хай не вельмі часта, але ж друкавалі раённая і рэспубліканская піянерская газета, але найбольш — адносіны настаўнікаў дый увогуле дарослых да яго. Было ў іх тое, што падказвала Віктару пра яго выключнасць. Найбольш выразна тое праявілася ў панядзелак пасля Вялікадня.

Хто ў такі дзень думаў пра ўрокі? Вучні цалкам справядліва разлічвалі на паблажлівасць настаўнікаў — тыя ж таксама людзі. І хоць некалькі настаўнікаў разам з дырэктарам дзяжурылі ў Велікодную ноч каля царквы, праганяючы адтуль вучняў, усе разумелі, што гэта — неабходнасць выкананне нейкага знешняга рытуалу, на якім настойвалі розныя вышэйшыя ўлады. А ў глыбіні душы і сам дырэктар, і настаўнікі чакалі Велікоднай ночы і дня не менш за вучняў. Іх гульня ў хованкі вакол царквы стала неад'емнай часткай усяго вялікага атрыбута святкавання Уваскрэсення Хрыста ў іх вёсцы.

Тут былі свае правілы, дзе быў суботні «інструктаж» класнымі кіраўнікамі вучняў: не дай Божа, нехта з вучняў пойдзе ў царкву. Быў чорны тоўсты сшытак у руках дырэктара, куды запісваліся прозвішчы тых, каго заўважалі каля царквы. І было галоўнае: дамоўленасць адных уцякаць і хавацца, другіх — лавіць і запісваць. І адно запісваць, бо не памятала школа выпадку, каб раптам нейкаму вучню няхай хоць бы пры якіх умовах згадалі з абвінавачваннем яго колішнія бадзянні вакол царквы на Вялікдзень.

У апошнія гады ўзрасла колькасць «гульцоў» з абодвух бакоў: для моладзі то была першая цёплая ноч, ў якую бацькі не чакалі сваіх дачок і сыноў дадому ў вызначаны час і не трывожыліся іх адсутнасцю да ранку. І калі раней хіба што адзін дырэктар «дзяжурыў» каля царквы ў такую ноч, дык цяпер у яго было даволі памагатых: кожная з жанчын — класных кіраўнікоў — лічыла сваім абавязкам пракантраляваць сваіх вучняў. Жанчыны-настаўніцы часцей і больш затрымліваліся ў самой царкве, і невядома адкуль на іх галовах з'яўляліся лёгкія шоўкавыя хусцінкі, а пад раніцу ўся купка настаўніц збіралася вакол быццам нічыёй кашолкі, дзе ляжалі фарбаваныя ў цыбуліным шалупінні яйкі, кавалкі белых булак і яшчэ там рознае. Праходзіў поп, пырскаючы вадой на такія ж кашолкі, кошыкі побач. Гэтая, настаўніцкая кашолка, за колькі гадоў займела разам з настаўніцамі сваё сталае месца ў царкве, і поп пад усеагульнае ўхваленне іншых вернікаў пачынаў «свяціць Пасху» менавіта ад яго. А што ж, трэба ўважыць настаўніц, цэлую ноч адбылі…

Таму панядзелак пасля Вялікадня быў па праўдзе працягам існуючай не прамоўленай ніколі ўслых, але такой зразумелай усім дамоўленасці.

І калі іх класны кіраўнік, настаўнік матэматыкі, Уладзімір Афанасьевіч, раптам сказаў усім разгарнуць сшыткі на дамашнім заданні, гэта і здзівіла, абурыла, а потым і развесяліла — пасля таго, як першая і другая правераная парта атрымала двойкі адразу ў сшыткі і дзённікі. А што, хіба не весела — усім класам атрымаць двойкі?

Класны набліжаўся да стала Віктара і Андрэя, яго суседа, ціхага троечніка. Віктар адчуваў нейкую халодную весялосць — у яго, як і ва ўсіх, не было выканана заданне. Уладзімір Афанасьевіч нават не стаў пытацца: чаму не выканаў заданне Андрэй, адразу рэзка, са злосцю нават, запатрабаваў:

— Дзённік давай!

Адным рухам, моцна націскаючы, паставіў «двойку» і свой кароткі, у адну літару, роспіс і ў наступны момант яго рука кранулася сшытка Віктара.

— Не зроблена…

Віктар пачуў не просты папрок у двух словах настаўніка, а абвінавачванне ў страшным, непапраўным, ганебным учынку. Уладзімір Афанасьевіч ужо ішоў далей, а Віктар ніяк яшчэ не мог усвядоміць таго, што адбылося. У яго не запатрабавалі дзённік, яму не паставілі такую магчымую — і першую за ўсе сем гадоў у школе — двойку ў дзённік! Віктар амаль фізічна адчуў, як стаў нечым асобным ад усяго класа, ад астатніх вучняў. Увесь клас атрымаў адзнакі, большасць, канечне ж, двойкі. Хлопцы дык усе. За выключэннем вось яго, Віктара.

У гэтым выключэнні было, безумоўна, добрае, што грэла самалюбства і давала магчымасць глядзець на сябе як на значную асобу — яго, такога разумнага і таленавітага, вылучаюць настаўнікі, яго шануюць дарослыя людзі… Але гэта адначасова адасаблівала яго ад кола аднакласнікаў, ён выпадаў з таго асяродку, дзе цаніліся розныя якасці, але ніколі ў першую чаргу не здольнасць да вучобы, не круглыя пяцёркі як праява здольнасці. Ну, вядома, цаніліся і веды, але ўменне гуляць у футбол было куды больш значным. Было яшчэ многае і для Віктара ну зусім не зразумелае. Па якіх такіх крытэрыях адзін рабіўся сапраўдным лідарам, другі — аўтарытэтным суддзёй? І гэта ацэнка, вызначэнне, абіранне і вылучэнне ніяк не супадала з афіцыйнымі вучнёўскімі пасадамі. Віктар, адчуваючы па ўзрастаючай сваю выключнасць з пункту гледжання здольнасці і паспяховасці, адначасова са здзіўленнем мусіў бачыць змяненне сваёй ролі ў калектыве не вучняў, а проста хлопчыкаў і дзяўчынак. Ён не мог тады адзначыць для сябе, што кожны з іх станавіўся асобай, набываў асаблівыя якасці, вучыўся бачыць і цаніць пэўныя рысы характару ў іншых. Ён пакуль цалкам давяраўся меркаванню дарослых, цешыў сябе іх ацэнкай, а што тычыцца аднакласнікаў, то сваю адасобленасць, што ўсё большала, ён тлумачыў простай зайздрасцю. Пакрысе кволая, асцярожная думка ўзмацнела і, нарэшце, ён змог аднойчы смела прызнацца самому сабе: ён не проста самы паспяховы і здольны вучань, а ў сваім развіцці стаіць вышэй за ўсіх іншых. А што, хіба адносіны да яго настаўнікаў не казалі пра тое ж?

Ён як быццам паводзіў сябе гэтак жа, як і ў ранейшыя гады, але нешта ўсё ж змянілася ў ім — адна з аднакласніц, суседка Галіна, двойчы была кінула ў яго едкае «Хвалько!» І, трэба заўважыць, сказана было тое ў сітуацыі вельмі ж дарэчнай.

І першы, і другі раз словы апяклі, як удар бацькоўскай папругі ў дзяцінстве. Віктар зрабіў выгляд, быццам не пачуў, у кожным разе не адказаў ні позіркам, ні рухам, ні словам на гэтыя абразлівыя кпіны. «Зайздросцяць» — ён чапляўся за такое тлумачэнне, як за выратавальную і надзейную выспу.

Пасля сёмага класа яму, як выдатніку, можна было і не хадзіць у арганізаваны пры школе лагер працы і адпачынку. Але ён пайшоў, больш за тое — стаў заставацца нанач у школе, хоць той дарогі да дому было ўсяго тры кіламетры.

Прычына была ў тым, што цяпер выразна кідалася ў вочы і яму, і аднакласнікам, і дарослым-настаўнікам: у дзяўчат пад сукенкамі ўжо смела выкругляліся наперад маладыя грудзі, ілбы хлопцаў густа засейвалі прышчыкі.

Першая сарамлівая пачуццёвасць пасялілася ў школе разам з трыццаццю школьнікамі з двух сёмых класаў, і ўжо на другі вечар яна кіравала паводзінамі, дыктавала ўмовы, вызначала прыярытэты. Нясмелая і кволая, яна тым не менш адчайна прабівалася ў душах ужо юнакоў і дзяўчат, хоць мусіла яшчэ маскіравацца пад залішнюю весялосць, знарочыстую грубасць, вясёлую дураслівую гарэзлівасць, дзе ўсё менш было сэнсаў, а больш дотыкаў, стрэлаў вачэй, новых, нябачных раней усмешак і смешачак.

Які сэнс быць першым у вучобе і не мець поспеху ў дзяўчат?

Праз лічаныя дні Віктар быў на мяжы адчаю: ён быў ці не адзіны з хлопцаў, каго дзяўчаты хоць і не ігнаравалі (ім таксама была патрэбна ўвага кожнага), але ніхто не выказваў ні кроплі сваёй дзявочай зацікаўленасці да яго. Гэта было найвялікшым расчараваннем: цяпер, у лагеры, дакладна ўжо ніякія пяцёркі не мелі ніякай вагі. Ціхі і непрыкметны троечнік Міколка Тумар стаўся на танцульках самым хвацкім кавалерам: дасціпна жартаваў, нязмушана і прыгожа танцаваў, і на «белы танец» яго запрашалі ці не па чарзе!

Віктар балюча перажываў сваё прыкрае адкрыццё: ніхто з дзяўчат, якіх ён у думках абраў, ацаніўшы як магчымыя аб'екты яго ўвагі, не сімпатызаваў яму! Ён тое адчуваў адразу — дзяўчаты не адмаўлялі нікому ў танцы, але хіба не падкажуць рукі, рухі, усмешкі, позіркі?

І толькі ў адной дзяўчынкі з паралельнага «Б» класа, якую ён вызначыў для сябе, як «ніякая», ён сустрэў у вачах, здаецца, старанна прыхаваную сімпатыю. Ці простую зацікаўленасць? Але, ва ўсялякім разе, Надзейка Ракіцкая (так звалі дзяўчыну) клала свае рукі на яго плячах не бязвольна, як астатнія. Яна менавіта трымала рукі, і трымала быццам яго, Віктара. Рукі яе апынуліся нечакана моцнымі — калі ў іх другім танцы патушылі святло (што рабілі заўсёды), і Віктар адважыўся і хацеў прыблізіць да сябе дзявочы стан (так смела рабілі ўсе хлопцы), то раптоўна адчуў, як у плечы яго ўвапхнуліся быццам два сталёвыя прэнты. І не проста ўвапхнуліся, а ўладна адштурхнулі. Віктар чакаў такой рэакцыі, хоць і быў кволы спадзеў на іншае — павінна ж яна, шэрая мышка, разумець, з кім танцуе, хто яе запрасіў на танец! Тым не менш наступны кароткі момант акрыліў Віктара: Надзейка адштурхнула яго, але не на ранейшую дыстанцыю. Яна прытрымала адначасова яго плечы — і яны абое сталі заўважна хвалююча бліжэй…

Калі запалілі святло, Надзейка зноў аддалілася, гэтым разам мякка, але з той жа адчувальнай сілай у слабых на выгляд дзявочых руках. І адначасова зазірнула Віктару ў вочы.

Цяпер, зблізу зірнуўшы на яе твар, Віктар пабачыў, якая ў Надзеі прыгожая, ніколі і ні ў каго не бачаная ім раней усмешка: яна ўсміхалася не вуснамі, а адразу ўсім тварам, так хораша, прыемна і міла жмурылася, а ў вачах ззялі светлыя агеньчыкі, у якіх было… абяцанне. Так-так, абяцанне! Яе ўсмешка не давала Віктару заснуць у той вечар. Ён перабіраў па імгненнях вечар і знаходзіў новыя і новыя доказы сімпатыі да сябе з боку гэтага верабейчыка…

Надзейку за вочы хлопцы сапраўды іншы раз называлі верабейчыкам — яна была невялікага росту, хударлявая, грудкі яе былі яшчэ ледзь заўважнымі. Уся не проста рухавая — імклівая, рукі хуткія, ды не пужлівыя, а дакладныя, выверaныя, бы на самай справе прысеў побач з табой бясстрашны верабейчык, скача безбаязна, лёгкі і спрытны, упэўнены ў сабе і сваіх пругкіх крыльцах. І ведаеш: як бы блізка ні падпусціў, ды зможа выпырхнуць у любы момант.

Яе востры прамы тонкі нос з выразнымі крыламі яшчэ больш надаваў падабенства да невялікае, але адважнае, смелае птушачкі. Ён углядаўся ў гэты выразны тварык, на якім за адно кароткае імгненне магла адбіцца цэлая гама пачуццяў: ад выбухлівай весялосці да адчайнай рашучасці нешта бараніць…

Назаўтра, калі зграбалі-зносілі сена на калгасным полі ў адзін бясконца доўгі валок, Віктар неадчэпна сачыў за Надзейкай. Яна, увішная з граблямі, паспявала хутка, яшчэ і дапамагала сяброўкам, падганяла хлопцаў, весела, заразліва смяялася час ад часу. А што, думаў Віктар, калі прыглядзецца, дык Надзейка — ніколькі не горшая за іншых. Хай і дробненькая, хай пужлівая, хай і дзявочыя яе грудзі пакуль — далонню прыкрыеш.

«Нармальная дзяўчына», — думаў Віктар. — «Трэба сёння вечарам абавязкова паспрабаваць неяк застацца ўдваіх…»

Хоць, што будзе далей, як яны застануцца сам-насам, Віктар і ўявіць не мог. За некалькі дзён у лагеры ён пачуў і пра абдыманні, і пра пацалункі, але пра апошняе не думаў нават, баяўся. Сам факт магчымасці пабыць з Надзейкай разам, недзе ўдалечыні ад чужых вачэй, пры гэтым так, што ўсе будуць ведаць пра іх адчайны (для Віктара) учынак, знаходзіўся недзе за той няўлоўнай мяжой адносінаў, якая раз і назаўсёды мяняла ранейшы свет стасункаў. І, галоўнае, не толькі між ім і дзяўчынай, але і між імі і ўсімі астатнімі аднакласнікамі. То, лічы, што ў дарослых шлюбам пабрацца…

Але ж і для яе, калі яна пагодзіцца на самоту з ім, тое будзе крокам не абы якім!

Думка так уразіла, што Віктар ажно застыў з віламі. А так і ёсць: яму што, ён хлопец, ён, як каго павядзе падалей ад дасужых вачэй, дык — герой, пераможца. А яна — яна, значыць, пераможаная, яна — скарылася, паддалася. І ўсё роўна: прызнацца ўсім у сваім выбары? А як пачнуць кпіць: гэх, нейкага верабейчыка выбраў! І вечарам нерашуча таптаўся, не спяшаўся запрасіць на першы танец Надзейку. Запрасіў аднакласніцу. І пабачыў, што як толькі ён падышоў да іншай дзяўчыны, Надзейка нечакана ажывілася, горача загаварыла са сваёй сяброўкай, павяла яе ўбок…

Можа, каб яе не запрасіў хто іншы? Падганяў час, чакаў, калі зноў дзяўчаты паставяць павольны танец — іх улюбёны «Клён», раўніва сачыў за купкай хлопцаў і дзяўчат, дзе была і Надзейка. І ўсхваляваўся не на жарт, калі зайграла музыка, а каля яе застаўся стаяць аднакласнік. Віктар завагаўся — а раптам яна пойдзе танцаваць з ім, раптам гэты аднакласнік таксама абраў яе?

То быў Лявон, хлопец з яе класа, ніжэйшы за Віктара, відавочна слабейшы, але ж канфлікт мог здарыцца, а гэтага Віктар баяўся. Тым больш — бойкі. І нават не самой бойкі, а яе чакання, яе непазбежнасці… Вось чаго больш за ўсё баяўся Віктар: гвалту, фізічнага болю. Так, некалі ў самым дзяцінстве давялося, яму разбівалі нос, ён помніў страшнае пачуццё, калі боль і цёплая кроў з носа літаральна паралізавалі яго… Гэта было так страшна: удар у твар, яшчэ страшней было адчуваць непазбежнасць пякучага, знішчальнага ў сваім прыніжэнні болю…

І затрымаўся, не зрушыўся з месца, чакаў: як ужо Лявон запросіць Надзейку, дык што ж, трэба будзе праглядацца зноў, шукаць іншую. А што ж, калі адна такая знайшлася, дык павінны і яшчэ быць. Ён ужо недзе нібыта «на другім плане» пракручваў магчымы іншы сцэнарый вечара. Але загучалі першыя гукі вальса, першыя пары закалыхаліся ў паўцёмным вестыбюлі школы, а Лявон і Надзейка стаялі, як стаяць… брат і сястра, назіралі.

Віктар адважыўся.

Ён гэтым разам адразу даволі блізка прытуліў да сябе дзяўчыну, здавалася, цёплыя ўзгорачкі яе грудзей вось-вось крануцца яго праз тканіну. Замёр у чаканні, але адно адчуў, як напружыліся рукі Надзеі на яго плячах, яна ўсміхнулася яму, прыжмурылася з хітрынкай і просьбай, і сэрца Віктара радасна ёкнула: усё ідзе як трэба! Ён ёй падабаецца!

Потым былі яшчэ два дні работы на полі, былі два вечары з танцамі ў вестыбюлі. Віктар, бадай што не зводзіў вачэй з Надзейкі, шукаў — і ў яе быццам выпадковых сустрэчных позірках знаходзіў сваю значнасць, сваю асаблівасць для яе. О, як гэта было соладка ўсведамляць! Яго лічаць асаблівым не толькі таму, што ён — выдатнік і разумнік, а яшчэ ён стаўся асаблівым для дзяўчыны як хлопец!

Але нейкіх зрухаў далей не адбылося. Танцы ды яшчэ размовы пра нішто падчас іх, нейкія там спробы жартаў… Віктар, праўда, паспрабаваў быў неяк у адным танцы прыціснуць яе бліжэй да сябе, каб адчуць яе цела, але сустрэў маўклівы цвёрды супраціў, а ва ўскінутым на яго позірку пачытаў адначасовае ўшчуванне і ўпік, быццам ён хацеў зрабіць нешта непрыгожае, што было б сорамам для яе — дзяўчыны.

Ён вырашыў, што яму тут трэба пакрыўдзіцца — хай ведае, што з яго жаданнямі трэба лічыцца і выразна, падкрэслена аддаліўся сам. І зноў Надзейка коратка зірнула на яго, прыжмурылася.

Божа, які неверагодны мог быць позірк яе! Вось і цяпер: тут і здзіўленне — чаго ты крыўдуеш? Тут лёгкі дакор — навошта паказваць пры ўсіх свае пачуцці? Тут і просьба зразумець і прабачыць… Яна і сабой папрасіла прабачэння: падалася насустрач Віктару і не проста скараціла тую адлегласць, на якую адсунуўся Віктар, а прыблізілася на крышачку больш, і адначасова лёгка незаўважна для іншых паціснула далонямі на яго плечы, быццам сказала: «Будзе так. І не адпушчу…»

Віктара п'яніла новае адчуванне — выразна праяўленая сімпатыя дзяўчыны да яго. Ён лікаваў у душы, але тое доўжылася нядоўга. Галоўнае цяпер было вызначыцца: што рабіць далей? Мажліва, Надзейка чакала ад яго нейкіх слоў, хоць ці павінен ён нешта казаць, калі сама Надзейка нічога не гаварыла?

І вырашыў маўчаць увогуле, рабіць усё, як рабіў раней.

Ён за гэтыя дні адшукаў у Надзейкі нямала прыемных для яго адметнасцей. Па-першае, ён даведаўся, што вучылася яна амаль на выдатна, што смелая, рашучая і нікому не даруе крыўды ці абразы. Віктар вырашыў пасябраваць з Лявонам, які і насамрэч быў стрыечным братам Надзейкі, і ад яго даведаўся нямала.

— Ты ведаеш, якая яна смелая? — расказваў пра Надзейку Лявон. — З хлопцамі біцца пойдзе, як трэба! Ніколі не пабяжыць жаліцца, сама сябе бароніць! Малая была, дык і са мной білася. — прызнаўся Лявон, і тут жа, думаючы, мабыць, што такая характарыстыка напужае Віктара (каму ахвота звязвацца з такой дзікаватай?) дадаў: — Але яна вельмі харошая, добрая, ніколі цябе не прадасць.

І яшчэ Віктар заўважыў адну якасць Надзейкі — з ёй лічыліся аднакласнікі. Няхай яна не была афіцыйным лідарам, аднак да яе слоў вучні прыслухоўваліся. Асабліва на рабоце на лузе — тут Надзейка незаўважна станавілася ці не галоўнай. Але ў школе, па вечарах, яна рабілася сціплай і непрыкметнай. Пужлівы шэры верабейчык…

Карацей, Віктар вырашыў, што яго выбар досыць удалы: хай і не асаблівая прыгажуня, але і не дурніца, разумная досыць, а што характар такі, зусім не дзявочы, задзірысты, дык яна кахае, а значыць — саступіць, як што…

Хоць калі і ў чым трэба было б саступіць Надзейцы, Віктар не ведаў. Ён і пра пацалунак з ёй, Надзейкай, баяўся марыць…

Дні ішлі, міналі вечары, ужо многія пары звыкла адлучаліся на якіх хвілін дваццаць з танцаў, перад «адбоем» сыходзілі надоўга, а Віктар нічога не мог прапанаваць Надзейцы, апроч запрашэння на танец. Ён баяўся. Баяўся таго, што Надзейка адмовіць на яго прапанову-просьбу прайсціся па школьным садзе, напрыклад. І тады ўсё рухне, тады зруйнуецца гэты цудоўны свет, у якім ён цалкам паўнавартасны, цалкам задаволены сабой. Няхай усё ідзе як ідзе. Калі паразважаць, дык у яго ўсё вельмі добра, проста цудоўна…

У апошнія дні лагера Віктару давялося перажыць не самыя прыемныя моманты. І ён першы раз тады думаў пра Надзейку з раздражненнем, адначасова адчуваючы сваю асабістую пагрозу ў нечым вельмі важным для сябе.

Лагер павінен быў закончыцца паездкай школьнікаў у Хатынь, аўтобус абяцаў даць калгас — за дапамогу на нарыхтоўцы сена. Але за дні тры да заканчэння настаўнік Уладзімір Афанасьевіч, які быў начальнікам лагера, аб'явіў, што ў калгаса няма такой магчымасці. Нешта там здарылася.

Абурэнне школьнікаў было вялікім. Танцы вечарам атрымаліся невясёлымі. Надзейку Віктар пабачыў напачатку — разам з яшчэ некалькімі дзяўчатамі з 7 «Б». Яны з'явіліся недзе праз гадзіну, узбуджаныя, пра нешта стрымана перагаворваліся. Віктар запрасіў Надзею на танец, запытаўся, дзе былі. Яна без ахвоты адказала кшталту: «Па сваіх справах».

Ужо напрыканцы вечара ён даведаўся ад Лявона, што Надзейка падбухторыла сваіх сябровак, і яны хадзілі да старшыні калгаса дадому! Самога старшыню не засталі, затое Надзейка выказала яго жонцы, што падманваць школьнікаў, дзяцей такім дарослым і адказным людзям вельмі нядобра. «Чаму вы нас вучыце? Мы вырасцем і будзем ведаць, што абяцаць і не выконваць можна, як ты кіраўнік». Жонка старшыні абяцала пагаварыць з мужам.

Віктар у думках пасміхаўся — якія дзеці гэтыя дзяўчынкі, якая наіўная яна, Надзейка. Хіба ж ад іх — школьнікаў — можа нешта залежаць? Дарослыя самі вырашаюць. Можа, так сапраўды атрымалася з калгасным аўтобусам? Трэба ж дадумацца да такога — ісці і патрабаваць у старшыні калгаса, каб выканаў абяцанне! Добра яшчэ, што не было яго ў хаце, не прагнаў…

Але ранкам, пасля снедання ў сталоўцы, насмешлівы настрой знік. Уладзімір Афанасьевіч сабраў школьнікаў на лінейку і стаў казаць са злой раздражнёнасцю пра тое, што вось, даўмеліся пяцёра дзяўчат, пайшлі вучыць старшыню калгаса, як трэба выконваць абяцанні… Хто дазволіў так рабіць? Бо парушэнне дысцыпліны, так нельга! Нельга дзецям лезці ў дарослыя справы!

Віктар адчуваў сябе заўсёды дыскамфортна, калі любы настаўнік пачынаў злавацца і крычаць. Яму было няўтульна, страшна нават, бо крык заўсёды нёс пагрозу разбурэння ўтульнага свету, у якім добра пачувалася Віктару, крык і злосць дарослых азначалі нечыю віну з іх — школьнікаў і дзяцей, частку якой ён адчуваў на сабе.

О, як цяпер злаваў сам Віктар на Надзейку, як асуджальна ён глядзеў на яе. Чакаў, каб сустрэць яе позірк, каб яна зразумела, што ён — цалкам на баку Уладзіміра Афанасьевіча, усіх дарослых, бо сам думае па-даросламу…

Надзейка не ўзнімала галаву. Віны на яе тварыку не было. Была зацятасць, крыўда нават. Няўжо яна была перакананая, што зрабіла адзіна правільна? От жа, яшчэ і ўпартая…

А падчас абеду на полі адбылося ўжо зусім нечаканае. Да іх на сваім «козліку» прыехаў старшыня калгаса, мужчына гадоў сарака, з невялікім жыватом, павольны ў рухах, няспешлівы. Павітаўся гучна і добразычліва з усімі адразу, парукаўся з Уладзімірам Афанасьевічам. Потым павярнуўся да вучняў, якія ўжо пакрысе сабраліся паўколам каля яго:

— Ну што ж, сябры мае! Ваша рацыя! Падумалі мы на праўленні і вырашылі: трэба трымаць дарослым сваё слова перад дзецьмі! Будзе вам аўтобус на паездку як наша падзяка за вашу дапамогу!

У агульным крыку радасці школьнікаў не гучаў хіба што Віктараў голас — ён быў агаломшаны тым, што адбылося. Што ж атрымліваецца? Надзейка зрабіла, выходзіць, сапраўды правільна, яна — сапраўдны герой для ўсіх? Яна рызыкавала наклікаць на сваю галаву непрыемнасці (і наклікала — вунь як крычаў класны кіраўнік!), але ж урэшце яна перамагла!

Праз дзень яны паехалі ў Хатынь. Віктар заходзіў разам з хлопцамі пасля дзяўчынак. Ён яшчэ ад дзвярэй пабачыў, што каля Надзейкі вольнае месца, што ім можна сесці разам. А што тут — вунь колькі селі па парах! Але не пайшоў, плюхнуўся побач са сваім аднавяскоўцам.

Калі б ён арганізаваў той паход да старшыні, калі б ён выказваў дарослым, што нельга падманваць, калі б на яго глядзелі цяпер з захапленнем і ўдзячнасцю аднакласнікі, калі б ён стаў пераможцам, героем для ўсіх — о, вось тады б ён сеў каля Надзейкі смела, няхай бы яна была шчаслівая, што сядзіць побач з такім, што ён абраў яе. Ды што да Надзейкі, ён бы мог тады да любой дзяўчыны падсесці!

А цяпер… Як магла Надзейка не расказаць яму пра свае планы ісці да старшыні? Ён жа мог і сам пайсці з імі, мог сам казаць тыя словы! Яна, па сутнасці, скрала ягоны магчымы трыумф…

Калі вярталіся назад, прыкрасць забылася ад уражанняў, ад стомы… На развітанне Віктар не падышоў да Надзейкі, хоць двойчы быў сустрэўся з ёй позіркамі. Ужо навучыўся нешта чытаць па яе вачах, пабачыў там і чаканне, і шкадаванне. Затое падышоў да Лявона. А што, Лявон жа павінен ёй перадаць, што назаўтра Віктар збіраецца прыехаць на веласіпедзе да яго, ну і да яе ў вёску. Тут нейкіх пяць кіламетраў па шашы — хіба адлегласць? Сам Віктар не змог падысці да Надзеі і сказаць, што хоча прыехаць. І не таму, што надта саромеўся. Яму хацелася, каб яна сама падышла і папрасіла. А што, яна дзяўчына, ёй такое сказаць прасцей. Калі такая смелая, што без яго да старшыні пайшла, дык хай і цяпер не баіцца: падыдзе ды спытае, калі Віктар прыедзе да яе…

Так выйшла, што толькі праз чатыры дні Віктар сабраўся вечарам ехаць да Надзеі. То сябра прыехаў з горада да суседкі, то быў дождж, то раптам рабілася так страшна… А што, чужая вёска, яшчэ спыняць мясцовыя…

Віктар заўсёды імкнуўся ўнікнуць такой сітуацыі, пазбегнуць агрэсіі ці прыдуркаватага чапляння незнаёмых у незнаёмай вёсцы. А што могуць чапляцца — дык не сумняваўся. Тут колькі разоў ездзіў меншым па хлеб у блізкую вёску, у якой была іх школа, дык сярод дня чапляліся. А тут — цёмна будзе.

Ніхто не любіць чужынцаў на сваёй зямлі. Хоць з любоўю едзь, хоць з абыякавасцю — твае пачуцці нікога не хвалююць да тае пары, пакуль некаму сябрам не станеш. Трэба ехаць напачатку да Лявона. З ім Віктар прыязджаў у іх з Надзеяй вёску, Лявон і сваю хату паказаў, і падворак Надзеі…

Пачалі брацца прыцемкі, калі Віктар ад'ехаў ад свайго дома з ніколі раней не зведаным хваляваннем — ён першы раз у жыцці ехаў да дзяўчыны. І за гэтым хваляваннем, па шчырасці, нават не заўважыў, як мінуліся кіламетры дарогі. Вёска, дзе жылі Надзейка і Лявон, выглядала соннай — было ціха і бязлюдна на вуліцах.

Лявона дома не было. Цётка выйшла і сказала, што паехаў да сваякоў у гарадскі пасёлак. Усё абрынулася. Віктар разгубіўся: што рабіць далей? Ну, можна праехаць каля Надзейкінай хаты… А раптам яна сядзіць адна на лавачцы? Уяўленне было такім нечакана моцным і жывым, што Віктар заспяшаўся, быццам і на самай справе спазняўся, быццам яны дамаўляліся на вызначаны час, Надзейка ўжо чакае яго, нервуецца, у кожную хвіліну гатова ўзняцца з лавачкі і пайсці…

Ніхто яго не чакаў на лавачцы. Завулак быў пусты. Віктар праехаў міма дома, павольна, крадком выглядаючы — а раптам дзе пабачыць яе, ці яна пабачыць яго… Дарэмна. І як не было страшна, ён спыніўся каля хаты, пастаяў моўчкі з хвілін пяць, а потым з адчаю хрыпавата крыкнуў:

— Надзея!

Голас прагучаў бездапаможна і ціха. Ніхто не адгукнуўся. Ён яшчэ пастаяў, падганяючы сябе: крыкні! Вось зараз! І крыкнуў гучней імя дзяўчыны. Нечакана стукнулі дзверы сянец, пачуліся нетаропкія важкія крокі і ён зразумеў ужо — не Надзея, нехта з дарослых. Уцякаць?

Ат, што ён такога зрабіў? Усяго баяцца? Але баяўся, сцяўся ад страху, ад магчымага крыку. Во, зараз яго пагоняць адсюль, як шалудзівага ката…

Але мужчына невысокага росту выйшаў без прыкметаў злосці на твары. Зірнуў і, здаецца, са спачуваннем сказаў:

— Пабегла Надзька гуляць. Недзе на сяле шукай…

І тут Віктар нечакана адчуў палёгку. Ну так, ён жа выканаў сваё абяцанне, якое даў самому сабе — прыехаў жа. А што не сустрэліся… Дык дзе яе шукаць? От зараз бацька (а мужчына гэты — відавочна ж бацька) распавядзе ёй, што ён прыязджаў, дык будзе заўтра чакаць! Уга, яшчэ як будзе! А Віктар заадно і праверыць, як моцна яна хоча яго пабачыць. Можа, сказаць яе бацьку, што заўтра прыедзе? Не, нияк занадта ж… Ды і хай сама панервуецца… Трэба было дома сядзець, калі ён яе цікавіць, а не нехта іншы.

Віктар адчуваў, што апошнія яго думкі занадта жорсткія, што ён больш хаваў за імі сваю баязлівасць. Яму лёгка стала менавіта таму, што не было Надзейкі дома. А каб была яна? Як сябе весці? Пра што гаварыць? А раптам… раптам яна захоча пацалунка, а ён жа не ўмее… зусім не ўмее! Яму і хацелася, і баяўся страшэнна. Ад'ехаўшы трохі далей ад Надзейкінай хаты, пачакаў паўгадзіны, пакуль добра сцямнела. Была кволая надзея, што дзяўчына будзе ісці дадому… Бо, як бы там ні было, Віктару вельмі хацелася пабачыць яе, яе ўсмешку. Канечне, яна б усміхнулася яму. А цяпер вось некаму ўсміхаецца. І разанула знянацку пачуццё рэўнасці. Першы раз Віктар адчуў такое: адчай, сваю бездапаможнасць нешта змяніць, крыўду і злосць адначасова. Яна з некім недзе! Не з ім, з іншым! А так абяцала сваімі вачыма, усмешкай, дужымі, але пяшчотнымі рукамі, што ён, Віктар — для яе найлепшы з усіх!

З горкімі, першы раз адчутымі пачуццямі Віктар ехаў цёмнай бязлюднай вуліцай. Мінуў вёску Надзеі, падумаў пра тое, што так нікога з моладзі і не заўважыў… Дзе яны тут збіраюцца? Каб ведаць… А калі б і ведаў, то хіба б паехаў? Ага, быццам цяжка ўявіць, як сустрэнуць чужынца тутэйшыя.

Пад віхур думак у галаве, дзе змяшаліся і задаволенасць сабой (ага, паехаў усё ж!), і прыкрасць, што дарэмна, і рэўнасць, круціў педалі веласіпеда. Лёгкая смуга шкадобы, што не пабачыў Надзеі, паступова вырастала, згладжваючы вострыя вуглы іншых пачуццяў. І ён з хваляваннем і здзіўленнем адзначаў для сябе новае і нязвычнае, першы раз паспытанае ім пачуццё — сапраўдны сум на дзяўчыне… Ну і што, калі б і не атрымалася сустрэча? Ды і атрымалася б, усё атрымалася. Яны ж з Надзейкай навучыліся маўчаць… І так было б добра памаўчаць сёння… хоць бы і на яе лавачцы пад язмінавым кустом. Проста сядзець побач, сустракаць яе мілы ўсмешлівы позірк, трымаць яе далонькі ў сваіх…

Ён баяўся незнаёмых хлопцаў, жахаўся ад думкі, што давядзецца ж некалі сустрэцца з аднавяскоўцамі Надзейкі, і зусім забыўся на гэтую выцягнутую ўздоўж шашы на два кіламетры вёску, якую цяпер мінаў. Калі б ён ехаў хутчэй, як мог хутка, то б абавязкова праскочыў. А цяпер схапілі за багажнік. Мусіў стаць і апынуўся ў цесным коле нахабных і агрэсіўных хлопцаў.

— Хто такі па нашай вуліцы ездзіць?

— І не плаціў ні капейкі!

— Капейкі давай!

— Няма капеек! — асіпла прашаптаў Віктар, агідны страх скаваў рукі і ногі. Захаладзеў жывот.

— А ну, паскачы! — прагучаў загад

Віктар ведаў — так правяраюць, ці ёсць сапраўды ў кішэнях капейкі. Дрыжачымі рукамі вывернуў кішэні штаноў.

— Вось… няма…

Яму было страшна. І адначасова ўсё здавалася няправільным, не справядлівым. Як жа так — ён, лепшы вучань школы, куды ходзяць і гэтыя хлопцы, якія, магчыва, і ведаюць яго, ведаюць, як паважаюць Віктара ў школе, зараз баіцца іх — двоечнікаў і троечнікаў?

— О, я яго ведаю, — раптам пачуўся радасна-здзіўлены голас, але нічога добрага гэтая радасць Віктару не абяцала. — Ды гэта ж наш выдатнік, Сук-куцін!

— Папаўся, хвалько! — прагучаў пагрозлівы ўскрык адразу побач.

Віктара ўдарылі. Не моцна, у твар кулаком. Нос узарваўся болем і казытліва пабеглі па вуснах і барадзе струменьчыкі цёплай крыві.

— Будзеш ведаць, хвалько! — дадаў той жа хлопец, які стукнуў Віктара. — Яшчэ раз сустрэну, без веласіпеда застанешся, пабачыш, — закончыў з пагрозай.

— Пусціце яго, яшчэ пажаліцца дырэктару, — сказаў нехта ззаду.

Гэтага хлопца Віктар пазнаў. Так, разам былі ў лагеры… Сяргей.

— Ідзі давай, там калодзеж далей, памый морду, — загадаў Сяргей Віктару. — І нечага тут ездзіць, гэта не школа табе, дзе ты героем ходзіш, — папярэдзіў.

Віктар павёў веласіпед у напрамку калодзежа, але не спыніўся, каб памыцца — сеў на веласіпед і што моцы націснуў на педалі.

— А-а-а, хутчэй круці педалі, пакуль яшчэ не далі, — заблазнавалі ззаду, і стала яшчэ больш балюча.

За што? За што яго ўдарылі, за што абразілі? Ён хіба вінаваты, што лепей за ўсіх вучыцца? І чаму яны крычаць, што ён хвалько? Перад кім ён хваліцца? Яны… яны злуюцца, што ён вышэй за іх, яны помсцяць яму, што ён разумнейшы, лепшы! Сволачы…

Кроў сціхла амаль адразу. Кашуля была не выпацканая. Мыўся Віктар каля свайго калодзежа. Нос балеў, але не моцна. Здавалася, і не распух ніколькі. Галоўнае, каб назаўтра маці не пабачыла. І хлопцы. Бо яшчэ колькі будзе кпінаў і абраз, адразу здагадаюцца, куды Віктар учора ездзіў…

Раніцай найперш зірнуў у люстэрка. Усё было ў парадку.

Віктар нават не задумваўся над тым, калі яшчэ паедзе да Надзеі. Не хацеў успамінаць пра тое, што яе бацька абавязкова ж перадасць пра ягоны прыезд, што Надзейка будзе чакаць яго цяпер… Не, яшчэ калі яго спынілі ў той вёсцы, Віктар зразумеў, што болей ён сюды ніколі не паедзе вечаровай парой.

Бо яго там, на доўгай вуліцы, будуць чакаць. Будуць біць.

За лета забыліся вочы Надзейкі, сцерлася адчуванне цеплыні яе цела на сваіх далонях, падавалася прыдуманай хвалюючая блізкасць дзявочага цела. Лета стала звычайным і будзённым з працай у калгасе, з вечаровымі пасядзелкамі да трэціх пеўняў іх невялікай кампаніі.

Ды ці не кожны раз, вяртаючыся позна, прысаджваўся на лавачку каля свайго дома, якая стаяла над вялізным клёнам, і слухаў як спяваў драч далёка ў лузе. У гуках гэтай ніколі не бачанай ім птушкі было столькі нявыказанага болю і самотнай тугі, што шчымліва сціскалася нешта ў сярэдзіне, там утваралася пустэча, якая прагнула запаўнення. А чым яе запоўніць — Віктар не ведаў.

На яго сённяшні розум, было ў тых хвілінах нешта мазахісцкае, але не хапала смеласці, каб зразумець свой душэўны стан — каб прызнацца, што ён не толькі сумуе па Надзеі, але і адчувае пякучы сорам за сваю бязвольнасць, за страх, за здраду свайму першаму пачуццю.

Верасень пачаўся для Віктара з нечаканай навіны — праз месяц яму, вядома ж, як лепшаму, трэба ехаць у рэспубліканскі піянерскі лагер «Зубраня». О, як тое было прыемна. Адразу забыліся летнія непрыемнасці. І Надзейка, якую сустракаў у школе выпадкам, позірку якой унікаў, як мог, адышла на другі план.

Ведаў бы Віктар, што з «Зубраняці» пачнецца, бадай, самая горкая палоска ў яго жыцці, наўрад ці б згадзіўся ехаць… А цяпер ён жыў спадзяваннямі. Вось там, дзе збяруцца ўсе такія ж разумныя, як ён, яго здольнасці ўжо пэўна будуць ацэнены і настаўнікамі, і новымі, хай і часовымі, аднакласнікамі.

О, якое ж горкае расчараванне чакала Віктара ўжо ў першы дзень! А другі літаральна дабіў сваім адкрыццём: колькі лепшых ні збірай у адзін гурт, у ім знойдуцца самыя лепшыя, сярэднія і горшыя. Віктар не аказаўся сярод самых лепшых. Ужо на другі дзень ён атрымаў «тройку» па геаграфіі… Думаў, несправядліва, але тут жа пачуў адказ другога вучня і зразумеў: «От, то хлопец мае веды!»

На трэці-чацвёрты дзень стала зразумела, што сабраныя з розных школ выдатнікі пераўтварыліся ў самы звычайны клас, дзе былі і троечнікі, і чацвёрачнікі, і выдатнікі (іх, як заўсёды, былі адзінкі), былі і тыя, хто схапіў «двойкі». Настаўнікі выклікалі многа, давалі тэставыя заданні, аніколькі не шкадавалі, наадварот, яны быццам наўмысна зніжалі адзнакі, маючы на мэце прынізіць вучня, каб гэты выдатнік прывёз у сваю школу «тройкі» і «двойкі», каб тым настаўнікам вясковых школ стала сорамна: вы яго за вушы цягнеце на «пяцёркі», а ён адно «тройкі» варты…

Віктара быццам ударылі пад дых. За першы ж тыдзень ён ведаў з дзясятак хлопцаў, якія былі, ён не мог не прызнаць, лепшымі за яго ў многім: у ведах, ва ўменні маляваць, іграць на гітары (вось дзе засмактала пад лыжачкай ад зайздрасці!), спяваць, танцаваць прыгожа вальс, гуляць у шахматы і шашкі, расказваць цікавыя анекдоты, трапна жартаваць, весяліць. Словам — быць у цэнтры ўвагі і пры гэтым (ці не галоўнае) выклікаць у іншых не зайздрасць, а шчырае захапленне.

Віктар не змог аказацца сярод гэтых шчасліўчыкаў. Ён нічым, абсалютна нічым не змог вылучыцца тут, тым больш што і яго адказы на ўроках ацэньваліся амаль заўсёды на «4». Ці варта казаць, што і на «асабістым фронце» яго чакала горкая параза? Ён выбраў сабе дзяўчыну, з якой бы хацеў завязваць адносіны. Але яна не проста ігнаравала яго, а амаль што гідзілася, пазбягаючы старанна ўсякай гаворкі…

Ён вяртаўся дадому прыгнечаны жорсткім адкрыццём: ён — не лепшы. Ёсць лепшыя за яго. Ужо на радзіме, чакаючы на аўтастанцыі свой аўтобус, у пустым зале чакання выпраўляў «тройкі» ў лістку паспяховасці, які выдавалі кожнаму ў лагеры, дзе былі ўсе атрыманыя адзнакі. Хлопцы некаторыя там казалі, што проста выкінуць гэтыя лісткі, скажуць, маўляў, павінны даслаць па пошце. А там хай разбіраюцца.

Ён не мог так зрабіць. Бо ж і «пяцёрак» хапала… Усяго чатыры «тройкі» выправіць… Потым гэты лісток будзе ляжаць у класным журнале, кожны настаўнік будзе старанна разглядаць яго, а Віктар кожны раз будзе сціскацца, чырванець — бо так лёгка было заўважыць, што некаторыя адзнакі выпраўленыя… Як нясцерпна было сорамна!

Яго адразу пачалі выклікаць па ўсіх прадметах, ён і чакаў гэтага, рыхтаваўся. Адказваў добра, хоць і з нязвыклым хваляваннем, адчуваючы неверагодную патрабавальнасць да сябе. Яго быццам правяралі, правяралі доўга, мо з месяц… Праверылі, ён вытрымаў, але стаў трымацца куды больш сціпла, нават зацята ў класе.

Потым як быццам усё вярнулася на месца. Ужо стаў забывацца лагер і гэтыя чорныя дні паразы. Ну што, пераканаліся? Усе зразумелі, што ён насамрэч лепшы? Віктар стаў паводзіць сябе сярод аднакласнікаў, як і раней, можа, нават і больш падкрэслена, амаль з выклікам. Як раптам — чарговая аплявуха…

Ад Надзейкі. Аплявуха, усім, па сутнасці, зразумелая, ды толькі ім адным адчутая ва ўсім болі і прыніжэнні. Прычынай стала звычайнае сачыненне на банальную тэму: «Кім я хачу быць». Віктар, нататкі і вершы якога ўжо друкавалі як раённая газета, так і рэспубліканская піянерская, лічыўся не проста лепшым у напісанні сачыненняў — майстрам! А што сапраўднаму паэту нейкае сачыненне!

Ды і тэма — дзіцячая. Хоць Віктар ніколі і не задумваўся, кім ён хоча быць. Ды якраз у гэты час ішоў многасерыйны фільм «Нараджаная рэвалюцыяй». Канечне, Віктар рашыў, што ён хоча стаць супрацоўнікам крымінальнага вышуку. Адважным, рашучым, з такім пасведчаннем у кішэні, перад якім адчыняюцца любыя дзверы. Кожны чалавек перад табой — пужлівы заяц… От гэта работа!

Канечне, пра такую ўласцівасць сваёй мары Віктар не пісаў. Пра справядлівасць, пра пошукі злачынцаў, пра жаданне зрабіць свет вакол чыстым і бяспечным — нашкрабаў на тры старонкі, не сумняваўся: яго сачыненне будзе лепшым. Не пра абы-якія рэчы разважаў. Праз тыдзень настаўнік літаратуры прынёс сшыткі і дзяжурны раздаў. Віктар зірнуў — канечне, «пяцёрка». І нейкае прадчуванне з'явілася. Ад таго, што не было звычайнага «плюса», ці слова «малайчына», якія заўсёды каменціравалі адзнаку па сачыненнях. Праўда, настаўнік новы, але ж і ён ведае правілы… Віктар чакаў — ужо не першае сачыненне пісалі, зараз настаўнік выкажацца пра асобныя работы.

— Дзякуй, малайцы! — пачаў настаўнік, і дзякаваў ён сапраўды шчыра. — Дзякуй за тое, што пастараліся, за тое, што былі са мной адкрытымі. Што вам хачу сказаць: школьнае сачыненне на такую тэму — цалкам самастойны літаратурны твор. А літаратура — заўсёды сапраўднасць. Не праўда, а сапраўдны стан, сапраўдныя адчуванні, сапраўдныя словы. Я хачу прачытаць трошкі з аднаго сачынення, якое мяне ўразіла найбольш…

Настаўнік узяў са стала складзены лісток, куды, відавочна выпісаў нешта. Віктар гадаў: якія такія словы ў яго сачыненні так спадабаліся настаўніку? Здаецца, там любы абзац можа быць прыкладам. Прыемная для Віктара паўза зацягнулася, ён узняў галаву — і ёкнула ў сярэдзіне: настаўнік, папраўляючы акуляры, ні разу не падказаў сваім позіркам, што ён будзе зачытваць радкі з Віктаравага сачынення!

Але хто мог напісаць лепш? Сачыненне ніхто не напіша лепш за Віктара! Хоць з іх «А» класа, хоць з паралельнага «Б»!

— Ды вось, дзеці, — пачаў нарэшце настаўнік, перапыніўшы адчайныя здагадкі Віктара. — Напачатку аўтарка расказвае, як яна ў дзяцінстве лячыла лялек. Потым — кацянят. А падрасла — у яе заўсёды былі бінт, вата з ёдам — выпрошвала на медпункце. Яна марыла стаць урачом. Вельмі марыла. Але аднойчы, піша яна: «Мы былі на нашым возеры. Усё было як заўсёды, плавалі, нырцавалі з самаробнага мастка. Было так добра, сонейка, усе вясёлыя. А потым… мой сусед выходзіў з вады і ускрыкнуў. То быў сапраўдны крык болю. Там было плытка, ён выцягнуў нагу з вады… а ў падэшве сядзела шкліна з чырвонымі пісягамі крыві. Ён ірвануў яе, і тады кроў палілася. Струменем. І я спалохалася. Спалохалася так, што скамянела, не магла ўзняцца з месца. Сусед даскакаў да берага на адной назе, нехта з яго сяброў схапіў кашулю, і ёй шчыльна-шчыльна абматалі ступню. Сусед крывіўся ад болю, кашуля набракла крывёю, а ў мяне анямелі рукі і ногі. Я бачыла адно крывавы след на шэрым пяску, скрываўленую ступню…

Вечарам я выкінула са сваёй торбачкі загорнутыя ў паперыну бінт і вату, паставіла ў шкапік ёд і зялёнку. Пайшла ў сад за маліну, села там і плакала: я зразумела, што не стану ўрачом. Бо я баюся крыві… Цяпер я не ведаю, кім я буду. Бо я не ведаю, кім хачу быць…».

Настаўнік закончыў чытаць. Наступіла цішыня, а потым нехта з дзяўчат уголас выказаў здагадку:

— Гэта Ракіцкая з «Б» класа.

— Так, сачыненне Надзеі Ракіцкай, — адказаў настаўнік. — І яна малайчына, праўда ж, дзеці?

Ніхто не запярэчыў.

Віктар, здавалася, увесь палаў. Ён адчуваў сябе літаральна аголеным. Хоць ніхто і словам не абмовіўся пра яго, яму здавалася, што ўсе зараз пераглядваюцца, радасна хіхікаюць: «Ага! А нашага самага лепшага сачыненне не пахвалілі! Глядзіце, як чакае!»

Віктар уявіць не мог, што нехта напіша лепш за яго! Ды каб яшчэ яна, Надзея! Зразумела, чаму настаўнік пахваліў яе. Шчыра, напісала, прызналася… Ды каб быў у Віктара такі выпадак у жыцці — ён бы змог лепш! Дык жа не было…

Шчырасць ім трэба… А што напісаць шчыра?

Віктар задумаўся. А сапраўды, не планаваў ён сваю будучыню. Кім ён хоча стаць? Касманаўтам? Каб некалі прыехаць у вёску, а людзі сустракаюць з хлебам-соллю, як па тэлевізары паказвалі? Дык жа пра гэта не напішаш, смяяцца стануць: ого, захацеў знакамітым быць!

Ну і захацеў! І стане, усё адно стане!

Ужо на перапынку прыкрасць у душы Віктара трохі згасла: ён сярод усіх іншыя пачуццяў у сабе заўважыў і кволую ці то радасць, ці то гонар. Што ж, ён не памыліўся раней у сваім выбары — Надзея разумная дзяўчына. Бач, як умее пісаць… Шкада, што ў іх не атрымалася — яму б зараз прыемна было быць побач з ёй. А можа яна і старалася таму, каб Віктару было прыемна. Ведае ж, што ён піша вершы і нататкі, дык і шчыравала, імкнулася дацягнуцца да яго…

Але і гэтыя думкі не маглі згасіць крыўду — яго перагналі, перамаглі, узялі верх у той справе, якой валодаў у школе па-майстэрску адзін ён. І то была не яго перакананне, школа і вёска ведалі — Віктар Сакуцін сапраўдны паэт. І вось у гэтага прызнанага паэта, пра якога і куры шэпчуцца, сачыненне атрымалася горшым за нечае…

Шчыра яму трэба, настаўніку гэтаму! Правільна трэба, правільна! Каб прыклад бралі, каб выхоўвала словa! Хіба не гэтаму вучаць?..

Ішлі тыдні, забылася і сачыненне — пяцёра лепшых з іх класа прымалі ў камсамол.

Віктар чакаў гэтага з трапятаннем у душы. Бо два апошнія гады, кіруючы піянерскай дружынай класа, ён зразумеў, што гэта — гульня. І найперш таму, што ў класе ўсе былі піянерамі. О, ён помніў той дзень, калі яму павязвалі гальштук. З якой адказнасцю ён яго насіў першыя два гады! Яго ідэалам на той час быў Цімур — герой аповесці Аркадзя Гайдара. Ён, Віктар, так марыў тады зрабіць нешта падобнае… І шкадаваў, што час мірны, няма вайны, няма выпрабаванняў…

Піянерыя бачылася Віктару ў апошні год як гульня, а дакладней — расцягнуты на гады спектакль, дзе антрактам былі доўгія перапынкі між піянерскімі сходамі. Адыграў сваю ролю на такім сходзе цягам паўгадзіны — і далей можна было жыць спакойна. Але з кожным годам сталення гульня адгукалася ўсё большай прыкрасцю ад разумення яе штучнасці. Тым больш, бачыў Віктар, як адносілася большасць, ды што большасць — амаль усе аднакласнікі да тых піянерскіх сходаў і спраў… І сам Віктар адмахнуўся ад думак пра доўг і абавязак, але статус лепшага вучня школы, актывіста, таленавітага паэта прымушаў яго згаджацца з абраннем сябе старшынёй атрада… Хоць, канечне, была ў гэтым і прыемная кропля — яго лічаць здольным і аўтарытэтным кіраўніком…

Камсамол ва ўяўленні Віктара быў не гульнёй. Ужо адно тое, што ў школьную арганізацыю прымалі не ўсіх з іх класа, хто б мог уступіць, паказвала на сур'ёзнасць і грунтоўнасць…

Трохі расчараваў прыём у райкаме камсамола. Неяк атрымалася занадта хутка… Іх выклікалі адразу ўсіх, пяць чалавек, задалі некалькі зусім не складаных пытанняў наконт дэмакратычнага цэнтралізму… Уручылі білеты. Сакратар кожнаму паціснуў руку, сказаў словы віншавання… І гэтыя словы таксама драпнулі расчараваннем: яны былі ўсе аднолькавыя для кожнага і прагучалі, нібыта паўтораны пяць разоў магнітафонны запіс. Да ўсяго дадалася прыкрасць ад жарцікаў яго сяброў, ужо камсамольцаў, якія, ён тое бачыў і адчуваў, ніколькі не былі ўзрушаныя такім хвалюючым момантам.

«Як яны не могуць зразумець? Мы ж — камсамольцы! Як Паўка Карчагін…» — з адчаем думаў Віктар.

Думаў, але выказаць услых свае пакуль няўцямныя адчуванні, свае сумневы ў штучнасці часткі жыцця вакол сябе нікому не мог. Бо не было такіх сяброў. Віктар у свае пятнаццаць гадоў адчуваў сябе адзінокім — па-сапраўднаму падзяліцца сваімі планамі, думкамі, сумненнямі не было з кім.

Год ад года ў яго павялічвалася тая частка яго жыцця, якая ў асноўным жыла адно ў ім, не праяўлялася ані дзеямі, ані думкамі, адно марамі-мроямі аб некалішнім будучым. Дзе ён, Віктар, будзе мець рацыю ва ўсім, дзе яго будуць паважаць і ганарыцца ім, дзе ўсе нарэшце будзе так, як напісана ў кніжках…

— Занадта многа ты кніг чытаеш, — з незразумелым жалем заўважыла неяк старэйшая за Віктара на пяць гадоў сястра. — Глядзі, кнігі — адно, у жыцці так не бывае.

Віктар і насамрэч чытаў многа. А што было рабіць летам ці доўгімі восеньскімі вечарамі? Тых урокаў — на паўгадзіны для яго, не болей. Ён чытаў многа, чытаў рознае, усё, што траплялася пад руку, што раілі бібліятэкары, што прываблівала сваёй вокладкай і кароткай анатацыяй. Чытаў — і марыў. Пра сапраўдныя прыгоды, дзе правяраецца моц духу і гартуецца воля, дзе справядлівасць заўсёды перамагае, дзе ранейшыя слабыя і непрыметныя робяцца сапраўднымі героямі. Чытаў — і шкадаваў. Калі пра прыгоды на таямнічай выспе — то аб тым, што ў іх тут ні гор, ні мора, калі пра юных герояў-партызан — што цяпер не вайна, калі пра дзіцячы дом — што ў яго ёсць бацька і маці, сям'я, што ён не ў такім дзетдоме…

Эх, яму б патрапіць да няўлоўных мсціўцаў, яму б разам з Паўкам Карчагіным — у адну камсамольскую арганізацыю!

З якой зайздрасцю ён гады тры запар глядзеў на студэнцкі будаўнічы атрад «Арыён», што прыязджаў да іх на цэнтральную сядзібу калгаса штогод! Вось у іх было жыццё! А якія хлопцы былі: дужыя, загарэлыя, як будавалі, як ігралі на гітары, як годна трымаліся, калі прыходзілі ў клуб на танцы…

Праўда, і тут знайшлася лыжка дзёгцю… Мінулым летам да іх у вёсачку, дзе ладзілі танцы з некалькіх навакольных вёсак, прыйшлі былі ў адзін дзень будатрадаўцы з гітарамі. І яны былі п'яныя. Такія, што не маглі і танчыць, некаторыя і падалі, а адзін, павіснуўшы на плоце, ванітаваў…

Так, жыццё вакол было зусім не такое, як пісалі аўтары ў сваіх кнігах. Але Віктар ведаў, чаму так — то іх вёска такая. А недзе ж… Недзе ж ёсць сапраўднае, такое, якім яно паўстае са старонак улюбёных аповесцей і раманаў!

Віктар марыў. Але марыў пра тое, якім стане, а не пра тое, кім будзе і як таго дасягнуць. Ужо пачыналася вясна, бацька пару разоў пытаўся: ці будзе ён заканчваць дзесяць класаў, ці пойдзе ў які тэхнікум, як старэйшая сястра, з васьмі, і куды пойдзе? Віктар не ведаў. Ён на самай справе ні разу не задумваўся над тым, якую прафесію абраць. Настаўніца англійскай мовы раіла заканчваць дзесяць класаў ды паступаць у інстытут замежных моў, настаўнік працы — у мастацкае вучылішча (Віктар займаўся ў яго гуртку, у яго няблага атрымлівалася разьба па дрэве і маляванне). Раіў не спяшацца класны кіраўнік, атрымаць па завяршэнні вучобы медаль (а ў такой перспектыве ніхто не сумняваўся), паступаць у інстытут. А Віктар хацеў як мага хутчэй вырвацца ў іншы свет. Ён дакладна ведаў, што за яго вёскай віруе сапраўднае жыццё…

У пачатку сакавіка яго абралі старшынёй камітэта камсамола школы. Гэта было нечакана, страшыла сваёй невядомасцю і адказнасцю. Ён аднекваўся (шчыра, бо не ведаў: як і што яму рабіць на такой пасадзе), але яго ўгаварылі, маўляў, нічога страшнага, павучышся, пратаколы пісаць не цяжка…

Гэтыя пратаколы былі бічом для яго падчас старшынства ў піянерскім атрадзе, пасля — і камсамольскай ячэйкі класа. Прымусіць сябе сесці і пісаць, на дзве трэці прыдумляючы — тое было сапраўдным выпрабаваннем для Віктара. Яго вярнула ад агіды, якую выклікала неабходнасць ілгаць, а галоўнае — бачыць, як гэтую прыдуманую вечарам актыўнасць прымалі ў камітэце камсамола школы з удзячнасцю за своечасовасць і акуратнасць пратакола. Але тое было, як кажуць, кветачкі. Першыя ягадкі райкама камсамола Віктар паспрабаваў літаральна праз тыдзень — адбылася раённая канферэнцыя.

Даклад, выступленне, галасаванне, абранне — цалкам усе так, як па тэлевізары са з'ездаў. Ды цяпер Віктар быў не гледачом, а нібыта ў тым тэлевізары. Тут было тое, чаго на экране тэлевізара ніколі не паказвалі: сум, абыякавасць, раўнадушша ў вачах дэлегатаў, якія сядзелі побач, удалечыні. Віктар шчыра спрабаваў слухаць, успрымаць словы выступоўцаў, але марна — нічога не пакідала след ні ў душы, ні ў розуме. Праз тыдзень зноў у райкам — чарговая сходка, зноў тая ж абыякавасць у зале. Ды амаль тыя ж прамовы, а дакладней — чытанне з трыбуны, бо ніхто не казаў, чыталі з паперак, якія пасля ці не ўрачыста перадавалі ў прэзідыум, там дзякавалі, запрашалі сесці, аб'яўлялі наступнага. Для Віктара заставалася загадкай: у які час выступоўцы запісваюцца, каб патрапіць на трыбуну, калі паспяваюць напісаць на лістках свае выступленні? Ну, няхай там трэці-пяты, а першы-другі?

Туга завалодвала Віктарам ўсё глыбей і шырэй. Ён згубіў цікавасць да ўсяго: да школьных камсамольскіх спраў, да вучобы (рабіў дамашнія заданні аўтаматычна). Пра дзяўчат ён не думаў. Бо думаць пра каханне і пачуцці значыла для яго цяпер успамінаць Надзею. І сваю баязлівасць, свой сорам, пякучы, проста невыносны. І ён не думаў.

З Надзеяй яны не сутыкаліся ніколі так, каб сустрэча стала нягодай для хоць кароткай размовы. Бачыў яе здаля, з сяброўкамі, з аднакласнікамі, але не затрымліваў позірк. Што было — тое мінулася, сцвярджаў сам сабе. Ды нічога і не было. Нічога, нічога…

У той дзень на вялікай перамене ён мусіў затрымацца ў піянерскім пакоі — прыехаў спецыяліст з райкама камсамола, абмяркоўвалі арганізацыю вясенняга збору металалому. Віктар хацеў выказацца прама і злосна: яшчэ з мінулага года засталіся кучы па вёсках, якія сабралі школьнікі. І каля школьнага гаража гара металалому расце трэці год — каму ён трэба, нашто збіраць? Але стрымаўся, бо райкамавец пачаў казаць, быццам пачуўшы думкі Віктара:

— Трэба дакладна разумець: справа не колькасці сабранага, справа ў самім збіранні! Вынік не мае сэнсу, сэнс — у арганізацыі, у занятасці камсамольцаў і школьнікаў важнай справай…

Віктар, агаломшаны, думаў: як справа можа быць важнай, калі яе вынік кідаюць сабаку пад хвост? Мабыць, нечага, вельмі важнага, яму не гавораць да гэтай пары… Адчуванне сябе непаўнавартым членам арганізацыі, некім, каго прымалі толькі вонкава, каму не давяраюць сваіх тайн, было такім пякучым, што Віктар забыўся, куды нясуць яго ногі. Ішоў урок, было ціха ў школе. Ён прайшоў калідорам другога паверха і спыніўся, як спатыкнуўся ў вестыбюлі, уражаны, у момант аглушаны.

Каля акна, спінамі да Віктара, стаялі двое, побач, амаль кранаючыся адзін аднаго — Надзея і яе аднакласнік, Уладзімір. Яны пра нешта ціха размаўлялі, потым Надзея стрымана засмяялася, зірнула ў твар хлопца.

«І жмурыцца, і ўсміхаецца яму», — абпаліла думка і ў вачах узнікла ўмомант ўсмешка Надзеі, яе прыжмураныя ззяючыя вочы.

Праняло аж да болю і да дрыжыкаў пад каленямі жаданне стаяць зараз побач з ёй замест аднакласніка. Які ж сэнс ва ўсіх яго поспехах у вучобе, у камсамольскай рабоце, калі ён пазбаўлены такога простага шчасця — стаяць у адзіноце з дзяўчынай у пустым вестыбюлі прыцішанай школы…

Мажліва, Надзея адчула яго позірк, яна неяк умомант напружынілася, ну акурат верабейчык сабраўся вось-вось успырхнуць, і Віктар крутнуўся імкліва, схаваўся за вуглом. Не-не, нельга, каб Надзея бачыла яго…

На наступным тыдні зноў у райкаме камсамола была нейкая зборка, зноў Віктар на рэйсавым аўтобусе ехаў у райцэнтр. Калі б ведаў ён, што гэта паездка, кажучы мовай высокага стылю, заб'е апошні цвік у труну яго сумневаў, ці паехаў бы? А з другога боку, у яго хіба быў выбар? Сказалі — заўтра быць. То і будзь. На сходзе казалі зноў пра металалом, пра ідэю з таго металу пабудаваць цягнік і даць яму імя героя-камсамольца. Выступоўцы, канечне ж, падтрымалі горача, зала завучана прагаласавала «за». У самым канцы, калі нецярплівыя сталі ўздымацца з месца, на трыбуну ўзнялася маладая жанчына, работніца райкама (Віктар ніяк не мог запомніць іх у твар).

— Таварышы сакратары школьных камітэтаў! — бадзёра і гучна, без усякай паперкі пачала яна, і гэты голас, ці не адзіна на сёння жывы, не штучны, прымусіў прысутных у зале прыслухацца ўважліва. — Я вам павінна давесці, таварышы сакратары, што мы ў другім паўгоддзі вельмі адсталі ад плана прыёму. Трэба тэрмінова выпраўляць сітуацыю…

Віктара нібыта хто абудзіў крыкам сярод ночы: пра што кажа прыгожая жанчына такім звонкім упэўненым голасам? Які такі план прыёму?

— Разумею, што за кароткі час падрыхтаваць як след цяжка, таму мы зробім паслабленне. Галоўнае — ведаць статус ЦК ЛКСМБ, — тлумачыла тым часам жанчына. Віктар у роспачы мусіў прызнаць: так, жанчына кажа пра прыём у рады камсамольцаў новых членаў. І гэты прыём вядзецца па плане. Значыць, прымаюць не лепшых — тады, калі яны ёсць, а прымаюць столькі, колькі трэба…

Далей жанчына пералічыла школы раёна, дзе з прыёмам зусім блага і таму трэба тэрмінова папраўляць справы. І назвала лічбы: у якой школе колькі трэба прыняць у камсамол старшакласнікаў, каб той план выканаць…

Віктар вяртаўся дадому, усведамляючы, што яму нарэшце даверылі адну з таямніц. І што яна — адна з многіх цаглінак, на якой пабудавана ў раёне іх камсамольская арганізацыя. Ніяк не скажаш, што цаглінка — несапраўдная. План — гэта закон, усе ведаюць. Але ж хіба могуць па плане нараджацца незвычайныя, таленавітыя, здольныя? І калі год ад году раён той план павялічвае, што атрымаецца: некалі, як і ў піянерах, увесь клас будзе ў камсамоле?

— Ну, што ты там выездзіў сваім камсамолам? — без папроку спытала маці, калі ён пераступіў парог дома. — Ці булачку хоць якую еў?

— Еў, мам, — адказаў Віктар, зняў куртку, прысеў на ўслончык стомлена. — Мам, я з васьмі класаў у тэхнікум паступаць буду.

— Глядзі сам, сынок, — ціха пагадзілася маці. — Садзіся за стол, дранікі зараз з печы дастану.

Віктар разумеў, што ён, па сутнасці, уцякае. Уцякае ад ілжы, уцякае ад сваёй чарговай вялікай паразы, уцякае ад сораму.

Уцякае ад страху зноў апынуцца не першым, ад страху абразы і крыўды, ад страху адмовы і няўдачы.

Уцякае са сваёй вёскі, з раёна, дзе ўсё несапраўднае і ўсё гульня.

Ён верыў, што там, у Мінску, у сталіцы, усё будзе інакш. Там — сапраўднае, там — месца яго пачуццям і здзяйсненне яго мараў. Ён прыедзе ў вёску… Ён хутка прыедзе сюды, ужо дарослым і мужным студэнтам-будатрадаўцам, ён будзе іграць на гітары, спяваць песні, якія напіша сам, і тады ніхто не асмеліцца перастрэць яго, калі ён паедзе ў вёску да Надзеі…



Ірына Сінкевіч

**нарадзілася 21 чэрвеня 1970 года ў вёсцы Радаўня Іванаўскага раёна. Працуе загадчыкам аддзела іванаўскай раённай газеты «Чырвоная звязда». Друкавалася ў часопісах «Першацвет» і «Маладосць», альманаху «Ясельда». Рыхтуе паэтычны зборнік.**

## На хадулях ласкавага ветру

***

Вечар на дыван травы садзіцца,
Каб ад дзённых спраў знайсці спачынак,
Сонейка вымае промні-спіцы
З пуху шарсцянога аблачынак.

Коціцца ў цішы за бор сасновы,
Жарам больш не пыхкае сярдзіта,
Абмывае цёплы твар маркоўны
Хвалямі нябеснага блакіту.

Ды сваёй патыліцай чырвонай
Трэцца аб калючкі тоўстых соснаў.
Накрывае медную папонай
Спіну успацелую нябёсаў.

Цішыня пануе на паўсвету,
Шчодра ёй настоена паветра —
Па зямлі лагодна крочыць лета
На хадулях ласкавага ветру.

***

Мне баляць твае словы: «Даруй і бывай!»
Ты пайшоў, а яны засталіся са мною.
Помню: ў момант расстання усмешлівы май
Праслязіўся чаромхавай белай слязою.

І пяшчотнае сонца ў сваёй вышыні
Аблачынкаю вочы закрыла ад болю,
Помню цяжкі прыглушаны стогн цішыні
І дрыжачыя плечыкі юнай таполі.

Захлынаўся атрутаю горычы свет:
На скрыжалях гадоў памірала каханне.
Напісала жыццё драматычны сюжэт,
Бо яго кульмінацыяй стала расстанне.

Можна жорсткую кропку паставіць. Ды ўсё ж
Мне адчайна, пакутна баляць твае словы.
Будзе зноў на зямлі ліць чаромхавы дождж,
Будзе зноўку вясна, май квітнеючы новы.

Ты прызнаешся мне: «Я зрабіў адкрыццё:
Без цябе нешчаслівым сябе адчуваю».
…Ў кнізе лёсу шматкроп'е паставіць жыццё:
У любімых вачах я чытаю: «Кахаю…»

***

Абудзі недаспаную ноч
Дзіўнай музыкай слоў ласкавых,
На дваіх адзін лёс напрароч,
Зацалуй у сп'янелых травах.

Фіялетавы дождж запалі
Паднябесных вільготных зорак.
Ты і я — на бязмежнай зямлі,
І здалёк усміхаецца золак.

Ты і я — пад крылом нябёс .
Дзве істоты з адным дыханнем.
І шчаслівая, і лёгка да слёз
Жыць каханнем і быць каханнем.

## Ранішняя песня

Вынырнула сонейка лабатае
З неабсяжнай глыбіні нябеснай,
Страсянула грываю калматаю,
Залілося радаснаю песняй.

«До-рэ-мі», — спявала міла сонейка,
«Фа-соль-ля», — праменьчыкі звінелі.
Гушкаліся гукі нотак тоненькіх
У паветры, нібы на арэлях.

І зямля, адкрыўшы вочы сонныя,
Свой да песні голас далучыла.
«До-рэ-мі…» — ляцела над прасторамі.
«Фа-соль-ля»… — лунала легкакрыла.

***

Бойкі надвячорак блізарукі
Прагна да нябёсаў цягне рукі,
Сонейка злавіць за бок імкнецца.
А яно гарэзліва смяецца,
Асляпляе вочы надвячорку
І схавацца хоча за пагоркам,
Ад задавальнення ружавее.
Надвячорак злее і… старэе.
Вечарам нязветлівым зрабіўся.
Неўпрыкмет і ў ноч ператварыўся.

***

Сонца свеціць дзіўнаю іконай
У нябеснай сіняй вышыні .
Пальцы растапыраныя клёнаў
Ловяць залатыя прамяні.

Вецер росы срэбраныя поле,
Аббягае вольныя палі.
Летні ранак з кветкамі ў прыполе
Нетаропка крочыць па зямлі.

## Нараджэнне дня

Выпівае сонейка туман
Вуснамі пяшчотнымі, ласкавымі.
Прашывае травяны дыван
Ніцямі агністымі яскравымі.

А затым спускаецца ў раку
Боязна, на пальчыках. Смялеючы
Амывае цёплую шчаку,
Ад задавальнення пунсавеючы.

Хвілю пасядзіць на беражку
І да нівы соннай накіруецца,
Паказыча плечы каласку,
З сіняю валошкай пацалуецца.

Пазрывае ценю касмылі,
З ветрыкам віхрастым паспрачаецца.
Дзякуючы сонцу, на зямлі
Новы дзень шчаслівы нараджаецца.

## Падару сваім дзецям на шчасце Айчыну

Падару сваім дзецям на шчасце Айчыну —
Ад духоўнае скрухі святы абярэг.
Накажу дарагім мне дачушцы і сыну:
«Не забудзьце да хаты бацькоўскай сцяжыну,
Не ўчыніце ніколі бяспамяцтва грэх.

Да апошняга ўздыху, да скону любіце
Краявіды яе у някідкай красе:
Кучаравае сонца ў нябесным блакіце,
Пеpазвон жаўрукоў і валошкі у жыце,
Шаўкавістыя травы ў крыштальнай расе,

Сінявокую рэчку і шчодрае поле,
Ціхі дожджык, што слёзкі капрызныя лье, —
Неаглядных, бязмежных прастораў раздолле,
Каб ад горычы, крыўды, пакуты і болю
Не знямела вялікае сэрца яе».

…Падару сваім дзецям на шчасце Радзіму —
Спаконвечную памяць бацькоўскай зямлі,
Каб збяднелымі сэрцам, зайздроснымі, злымі,
Безнадзейна глухімі, адчайна сляпымі
Мае дзеці ніколі ў жыцці не былі.





## Марыя Кобец

**нарадзілася 19 кастрычніка 1974 года ў вёсцы Валішча Пінскага раёна. Працуе рэдактарам аддзела навін карэспандэнцкага пункта Пінска РУП РТЦ «Тэлерадыёкампанія «Брэст». Студэнтка VI курса Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Друкавалася ў перыядычных выданнях Беларусі, Расіі, Польшчы, Сербіі, Чарнагоры. Удзельніца Міжнароднага фестывалю славянскай паэзіі «Поющие письмена» (Расія, 2014), 51 Міжнароднай сустрэчы пісьменнікаў у Бялградзе (Сербія, 2014). Аўтар паэтычнага зборніка «Кроплі» (2011), лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка (2012). Верыць у наканаванасць, лічыць, што ў жыцці адбываецца ўсё так, як і павінна быць, і шкадуе толькі аб адным — дарэмна страчаным часе.**

# …І раскашуе верас у лясах

### Пяць півоняў

Спадае барва кужалю півоняў,
Губляе тонкі, ледзьве ўлоўны пах…
А помніце вільготныя далоні,
Спатканняў нашых абарваны шлях…

А памяць — во! Што тая неспадзеўка!
То дробязь схопіць, то забудзе сэнс.
Кружылі галаву (прапала дзеўка)
Півоні Вашы ў барвавай красе.

Вачэй ласкавых аксамітна-сініх
Усмешка — як дагодлівы палон…
А мы ішлі, мінаючы асіннік,
І я трымала Вашых пяць півонь.

Лавіла ўдзячна шчырую гуллівасць,
І голас Ваш, што прымушаў дранцвець,
І рухаў імпульсіўную імклівасць,
І тых півоняў барвавую квецьь.

Міналі тыдні, адцвілі півоні,
Парос быллём стары забыты шлях.
Тут звыкла палыном гарчаць сутонні
І раскашуе верас у лясах…

***

«…Долю ж мая, долю!» —
Па начох
Гушкала журбу маю самота, —
«Ці ж цябе гнявіла?
Бачыць Бог!
Ці ж тваю я праклінала слоту?
Ой, мая ты ж долю,
Ці ж калі
На твой нораў жорсткі наракала?
Клікалі ў нябёсы жураўлі,
Поўня ноччу чорнаю гукала.

Крыўдавала ў думках —
Ой, маню,—
Колькі раз здавалася адчайна!
Долю ж мая, долю,
Гаманю
Ці з табой, ці з горыччу звычайнай?!»

...Вецер б’е па шыбах
Па начох.
Гушкае журбу маю самота:
«…Долю ж мая, долю!
Бачыць Бог!
На мае забылася турботы».

## А помніш, мам…

Тваёй вясны раскошны цвет
Згарэў агністаю шыпшынай…
А помніш, мам, як мы абед
Дзялілі з чарадой пташынай.

Шапталі штось да збажыны
У полі сарамліва макі…
Апоўдзень.
Бічаўнік.
А мы
Расклалі сціплыя прысмакі:

Сальцо на гладзі хвартуха,
Акраец хлеба, соль, цыбуля…
Смачней ці ж пёк хто пірага
За той акраец твой, матуля?!

— Налі, дачушка, й малака,
Навошта есці ўсухамятку?!
Дае стамлёная рука:
— Шчэ яйка з’еш, яно ж усмятку!

Нервова бзыкаюць чмялі,
Раяцца ля няхітрай снедзі.
— Дачушка, малака налі!
Запі, ды й будзе па абедзе!

Буяюць зёлкі ў санцапёк.
Дзень — доўгі век за працай ў полі.
— Радочак, ну яшчэ радок! —
Ты заахвочваеш міжволі.

Гадзіна, дзве, радок, другі,
Дранцвее спіна — дзень упрысядзь.
— Эх, пахне лепш за пірагі —
Скарынкі ў торбе ж засталіся.

Садзіцца сонца спакваля:
— Пара, пара заканчваць справу.
Хай песціць ўдзячная зямля
Ўраджай багаты нам на славу!

Лагодзіць вершаліны дрэў
Бурштыну фарбай надвячорак,
Бруіцца жаўрукова спеў,
Кладзецца сонейка на ўзгорак.

…Маёй вясны таксама цвет
Згарэў агністаю шыпшынай…
А помніш, мам: жыты, абед
І гоман чарады пташынай…

***

…Запаволіцца сэрца стук,
Бег гадзінны…
Як жывецца табе між скрух,
Край радзінны?

Ці ж пяецца табе, пра што?
Ці ж смяецца?
Што лагодзіць душу, а што
Не ўдаецца?
Чым сілкуеш сваіх сыноў,
Чым мацуеш?
Хмары неба ўсцілаюць зноў.
Пэўна, чуеш —
Завывае вятрыска вунь,
Завывае.
Вылягае калоссяў рунь,
Вылягае.
Застывае ад золі кроў,
Цела стыне —
Хмары,
хмары клубяцца зноў
Ў небе сінім.
Навальніца вось-вось ужо
Загрукоча.
Няўжо хочаш ты так, няўжо
Ты так хочаш?!

…Запаволіцца сэрца стук,
Бег гадзінны…
Ты ж стаміўся ад вечных скрух,
край радзінны!
Ты крывёю зямлю паліў
Ў ліхалецці!
Помняць раны лясы, палі,
Помніць вецер!
Помняць сэрцы грымотаў жах,
Плач ад болю!
Край радзінны, даволі так!
Ўжо даволі?!

...Ты пяшчотаю свет кранай
Штохвілінна,
Чысцінёй, мой радзінны край,
Мой адзіны.

***

Заляцела птушачка ў сіло.
Білася,
дрыжэла і
крычала.
Палыном ў вачах рудых цвіло
Гора-горачка,
а ЎСЁ — маўчала.

— Вызвалюся! Так! Усім назло! —
Дыхала
парывіста
пад джалам.
Пад жалезнай пасткаю крыло
ўшчэнт знявечыла,
а ЎСЁ — маўчала.

У дрыготкім целе не было
рэшткаў сілы,
крыўдаў не гучала.
Хоць крывёй сышло,
але… жыло,
існавала…
Толькі ЎСЁ — маўчала!

І ў маўчання немаце змагло
роспачна з’явіцца пакаянне —
Праз пакору шчырую прыйшло
Трызненне і светлае адхланне.

...Зноў заняўся золак над сялом,
Тчэ зазвычай кужаль свой світанне…
Заляцела птушачка ў сіло? —
На паклікання святога пакаянне!





Лада Алейнік

**нарадзілася ў 1970 годзе ў вёсцы Чаплічы на Случчыне. У 1976 пераехала з бацькамі ў Мінск. Скончыла сталічную сярэднюю школу, вывучылася на філфаку БДУ, выйшла замуж і нарадзіла двух сыноў. Амаль дзесяць год працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў той самай школе, дзе калісьці вучылася. У 2002 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю і з 2003 года працуе на філфаку БДУ.**

## Чатыры гісторыйкі

### Цяжка быць Богам

Прыгадваючы свае школьныя гады, заўжды са шкадаваннем успамінаю гэтага хлопца. Са шкадаваннем і з дамешкам сораму, прыкрай няёмкасці.

Ці не ў кожным класе былі такія вучні… Самотныя ізгоі, якіх не прымалі ні ў адзін хаўрус, з якімі ніхто не сябраваў. У лепшым выпадку іх не заўважалі, у горшым — яны рабіліся ахвярамі дзіцячай зграі — з іх кпілі і здзекаваліся, іх бясконца прыніжалі і абражалі.

Вось такой ахвярай быў у нашым класе гэты хлопец. Не, такой жорсткасці, якую сёння можна ўбачыць у Сеціве — калі падлеткі натоўпам топчуць нагамі аднагодка і здымаюць гэта на мабільнікі, — у нас не было. Было іншае...

Мы вучыліся разам усяго два гады. Пасля восьмага класа, калі частка вучняў паступіла ў тэхнікумы ды вучылішчы, астатніх «аб'ядналі» — з пяці восьмых класаў утварылі два дзявятыя. Вось так мы сталі з ім аднакласнікамі.

Хлопец гэты быў… вялізны. Вельмі высокі і вельмі тоўсты, рыхлы і няўклюдны. І страшна неахайны. Не прыгадаю, каб хоць раз бачыла яго з чыстай галавой. Валасы ў яго заўсёды былі тлустыя і зліплыя. Твар вуграваты. Школьны касцюм — пакамечаны і заплямлены. Ад яго патыхала потам і нейкімі лекамі — ці то валяр'янкай, ці то карвалолам. Апроч таго, у яго былі акуляры з тоўстымі лінзамі, якія рабілі вочы маленькімі, а ўвесь твар камічным.

За адну парту з ім ніхто не садзіўся. Ім адкрыта грэбавалі. Зняважыць яго не лічылася чымсьці выключным, гэта было натуральна, як чхнуць. Яго ніхто не называў па імені, да яго звярталіся толькі па мянушцы — Сала.

У яго не было сяброў ні ў школе, ні па-за школай. На вуліцы яго можна было ўбачыць толькі ў кампаніі маці — неверагодна тоўстай жанчыны ў дзіўнай вопратцы. Яна заўжды была апранутая ў нейкія старасвецкія ўборы — шырокія і даўжэзныя спадніцы, кофтачкі з процьмай брыжыкаў ды карункаў, ідыёцкія капялюшыкі. Сын і маці былі вельмі падобныя — абое вялізныя, няўклюдныя… і агідныя.

Вучыўся ён добра. Асаблівыя здольнасці выяўляў у матэматыцы ды фізіцы. Гэтым карысталіся. У яго ледзь не штодня адбіралі партфель, выцягвалі сшыткі з дамашнімі заданнямі і дружна спісвалі. А пасля шпурлялі сшыткі яму ў твар і гразілі: «Ну, глядзі, Сала! Калі будуць памылкі, капец табе!»

Але найбольшыя прыніжэнні ён перажыў у дзясятым класе — калі закахаўся ў аднакласніцу. Не ведаю, што яго ў ёй прывабіла. Бо не была яна ні прыгожай, ні разумнай… Ці не самая разбэшчаная ў нашым класе, вучылася праз пень-калоду.

Ён не ўмеў хаваць пачуцці, у яго ўсё было на твары. На ўроках вачэй з яе не зводзіў — нават за тоўстымі лінзамі было відно, якой пяшчотай поўняцца яго вочы.

А дзяўчына гэтая ўспрыняла яго ўвагу як абразу. Яна проста ўзненавідзела яго! (Тым больш, што яе пачалі пацвельваць аднакласнікі — маўляў, вось які ў цябе класны кавалер! Пашанцавала дык пашанцавала!). Праходзячы каля яго парты, яна магла плюнуць яму ў сшытак. Брудны анучкай, якой мыюць дошку, магла пляснуць яму па твары і задаволена зарагатаць пры гэтым на ўвесь клас. А ён ніяк не рэагаваў — чырванеў і маўчаў.

Дасюль не магу дараваць сабе, што я тады яго не абараніла. Я магла гэта зрабіць. Не, я не была супер-пупер аўтарытэтам у класе. Відавочнага лідара ў нас ўвогуле не было. Проста з маім меркаваннем лічыліся. І я дакладна ведаю, што калі б загадала пакінуць гэтага хлопца ў спакоі, ад яго адчапіліся б. Толькі вось тады мне не было яго шкада. Зусім. Ні кроплі. Ён не выклікаў у мяне ніякага спачування, адно агіду ды грэблівасць. Мне, як і ўсім, было смешна, калі ў сталоўцы нехта пацэліць катлетай у яго міску з баршчом. Смешна было глядзець, як ён абцірае рукавом запырсканы твар…

Дзіўна, але пасля заканчэння школы — на працягу дваццаці пяці гадоў! — мы з ім ніводнага разу не перастрэліся. Хоць яго дом стаіць на адлегласці каля сотні метраў ад майго, і паўз гэты дом я кожны дзень праходжу па некалькі разоў.

З той аднакласніцай, у якую ён быў закаханы, нашы шляхі таксама разышліся адразу пасля школы. Праўда, яе мне даводзіцца бачыць амаль штодня — у кампаніі спітых мужыкоў каля крамы. Часам яна запыняе мяне і жаласліва просіць грошай — заўсёды адна і тая ж песня: «Выручы… вельмі трэба… я ж аддам…».

І вось гэтым летам, працуючы ў прыёмнай камісіі, я такі сустрэла таго хлопца. Мы сутыкнуліся каля выхаду з універсітэцкага рэктарата. Ён галантна адчыніў перада мной дзверы, глянуў у твар і… пазнаў. І так радасна павітаўся, быццам убачыў дарагога сябра!

Выйшлі з будынка і прыпыніліся пагаварыць. Ён расказаў, што даўным-даўно жыве ў іншым раёне горада, да маці прыязджае рэдка. Часцей яна ездзіць да яго — дапамагае даглядаць дзяцей. Іх у яго двое — сын і дачка. Працуе ён ва ўніверсітэце. Летась абараніў доктарскую.

Нельга сказаць, што знешне ён моцна змяніўся. Такі ж высозны і тоўсты. Толькі цяпер ён выглядаў не няўклюдна, як у падлеткавыя гады, а прадстаўніча ды імпазантна. Увесь з сябе рэспектабельны, халёны, дагледжаны. Тыя жудасныя акуляры змяніў на кантактныя лінзы. Патыхаў дарагой парфумай. Пахваліўся дарагім аўтамабілем.

Мне страшна хацелася папрасіць у яго прабачэння за ўсё, што калісьці адбывалася ў школе. Але размова ў нас была такая лёгкая і прыязная, што няёмка было нават згадваць пра колішнія падзеі. Магчыма, я проста сапсавала б яму настрой напамінам пра былое. Бо каму прыемна такое ўспамінаць?

А пасля ён пацікавіўся, ці не ведаю я, як пажывае тая дзяўчына — тая, у якую ён быў закаханы ў дзясятым класе, і якая так люта помсціла яму за гэта. І я схлусіла. Сказала, што сто год яе не бачыла і нічога пра яе не ведаю. А што я павінна была яму сказаць? Што яна ўшчэнт спілася? Што яна ходзіць брудная і пабітая? Было ж відно, што нават праз дваццаць шэсць гадоў пасля школы, пасля ўсіх прыніжэнняў, якія стрываў ад той дзяўчыны, ён захаваў да яе нейкія рэшткі пачуццяў. Вось няхай і далей захоўвае. Магчыма, ён марыць сустрэць яе калі-небудзь. Марыць, што яна ўбачыць, якім ён стаў, і моцна-моцна пашкадуе, што тады адпрэчыла яго.

Пасля той сустрэчы я доўга думала пра гэтых дваіх. Фантазіравала, як маглі б скласціся іх лёсы, калі б, напрыклад, усё пайшло па-іншаму… Уяўляла розныя варыянты разгарнення жыццёвых сюжэтаў.

Разумею, якая няпростая праца ў Таго, хто назірае за намі зверху. Столькі лёсаў у Яго руках! І пра кожны лёс трэба паклапаціцца асобна. Відавочна, што шанц Ён дае кожнаму. Ну, а ўжо як распарадзіцца гэтым шанцам — наша асабістая справа.

## Аве, Оза

Мянушка «Оза» прыляпілася да яе ў восьмым класе. Дакладней, пасля восьмага класа — улетку, у канцы чэрвеня. Разам з іншымі вучнямі восьмых-дзявятых класаў яна брала ўдзел ва «ўрачыстай частцы» выпускнога вечара. У нашай школе была такая завядзёнка — выпускнікоў віншавалі вучні на клас альбо два малодшыя: чыталі ім вершы з усялякімі добрымі пажаданнямі, спявалі песні пра «цудоўныя школьныя гады» і ўсё такое. Я тады стаяла на сцэне актавай залы поруч з Аксанай і, вядома ж, неверагодна хвалявалася. Я дасюль хвалююся, калі даводзіцца публічна выступаць.

…Аксана была крыху дзіўнай — маўклівай, заглыбленай у сябе, нейкай адстароненай. Незразумелай, адным словам. З ёй было цяжка. Ёсць такія людзі, з якімі і гаварыць складана, і маўчаць немагчыма. Яна якраз з такіх... Хаця, трэба заўважыць, да таго выпускнога вечара на яе ніхто асабліва не звяртаў увагі. Магчыма, каб не гэты выступ, так бы і далей ішло. Але на школьнай урачыстасці адбылося вось што...

Аксана павінна была прачытаць верш, які выдала ёй педагог-арганізатар. Дый які там верш! Чатырохрадкоўе, напісанае на вузенькай палосцы паперы. Звычайныя саматужна-рытуальныя радкі, накшталт: «...Удалячынь ад школьнага парога павядзе вас новая дарога...» На рэпетыцыях усё было цудоўна, выступоўцы бадзёра тараторылі без адзінай запінкі. А на самім вечары, калі чарга дайшла да Аксаны, яе нібы заклініла — збялела ўся, стаіць-трымціць і слова сказаць не можа. Усе ёй шэпчуць, падказваюць, а яна маўчыць і ўсё тут. І раптам, калі ўжо ніхто не спадзяваўся нешта пачуць, Аксана зрабіла крок наперад — як бы адлучылася ад шарэнгі іншых выступоўцаў — і пачала дэкламаваць:

Аве, Оза. Ночь или жилье,
псы ли воют, слизывая слезы,
слушаю дыхание Твое.
Аве, Оза...

Не столькі ад верша, колькі ад яе голасу ў зале раптоўна зрабілася вусцішна, нават педагог-арганізатар перастала сіпець і торгацца — стаяла, як скамянелая, з перакошаным ад жаху тварам. А Аксана, здавалася, забылася, дзе знаходзіцца. На высокіх нотах, з надзвычайным надрывам яна чытала:

Противоположности свело.
Дай возьму всю боль твою и горечь.
У магнита я — печальный полюс,
ты же — светлый. Пусть тебе светло.

Дай тебе не ведать, как грущу.
Я тебя не огорчу собою.
Даже смертью не обеспокою.
Даже жизнью не отягощу...

Прачытала, і на нягнуткіх нагах, не раўнуючы, як зомбі з фільма жахаў, пайшла са сцэны...

Тым летам Аксана паступіла ў нейкае музычнае вучылішча і ў школу больш не вярнулася. Але ва ўсіх згадках, ва ўсіх размовах яе пачалі называць няйнакш, як Оза.

***

У школе нас чамусьці лічылі сяброўкамі. Хоць на самай справе сяброўкамі мы ніколі не былі. Вучыліся ў паралельных класах, жылі далёка адна ад адной — я зусім побач са школай, а яна ездзіла аднекуль з іншага боку горада. І толькі з-за таго, што мы абедзве наведвалі адну і тую ж музычную школу, дзе сустракаліся па некалькі разоў на тыдзень, мы выглядалі прыяцелькамі. Сутыкнуўшыся ў школьным калідоры, прыпыняліся ды перакідваліся парай фраз. Ну, яшчэ маглі сесці побач у кінатэатры (нас тады ў «добраахвотна-прымусовым» парадку ганялі на «кіналекторый») альбо за адзін столік у школьнай сталоўцы. Праўда, аднойчы Аксана праявіла да мяне надзвычайную ўвагу. Гэта быў проста позірк. Але ён мне надоўга ўрэзаўся ў памяць...

Здарылася гэта якраз у пачатку таго самага восьмага класа. Была сярэдзіна кастрычніка, аднак надвор'е стаяла зусім летняе, дажджоў амаль не было. А ў той дзень нечакана лінуў дождж. Ды такі, што ў класе сярод белага дня зрабілася цёмна, ажно прыйшлося святло ўключаць.

Урокі скончыліся, а дождж усё не спыняўся. На школьным ганку стоўпілася шмат вучняў, усе чакалі пакуль залева трохі суцішыцца. Парасоны мала хто з сабой насіў. Вось тады праз натоўп да мяне пралез Яшка. Патрос над галавой парасонам і гучна абвясціў: «Пайшлі, малая, да дому давяду! Вазьму нядорага — сто грам і бублік!» Каб схавацца разам пад адным парасонам, мне давялося ўзяць яго пад локаць і прыціснуцца бліжэй. Такой «парачкай» мы і рушылі пад дождж. Але праз дзясятак крокаў нешта прымусіла мяне азірнуцца. Ведаеце, як гэта бывае — калі скурай адчуваеш, што на цябе хтосьці глядзіць? Вось я і азірнулася. І сустрэлася позіркам з Аксанай. Колькі ўсяго было ў гэтым позірку! І адчай, і боль, і крыўда, і ўвогуле немаведама што... драматызм, калі хочаце. І якой жа я была наіўнай у свае чатырнаццаць гадоў, што не зразумела гэтага позірку!

З Яшкам Шэхтманам мы жылі ў адным доме, ён быў старэйшым за мяне на два гады і жыў на два паверхі вышэй. Раней, як былі меншымі, мы разам гулялі ў двары. Але і пазней, калі дзіцячая кампанія распалася, нашы стасункі захаваліся. Па-першае, мне часцяком даводзілася бываць у Яшкі «ў гасцях», бо яго бабуля была адмысловай краўчыхай. У яе шылі ўборы не толькі ўсе жанчыны нашага дома, а ледзь ні паўгорада. Перыядычна я таксама штосьці сабе «заказвала». Па-другое, час ад часу я звярталася да Яшкі па дапамогу — калі не магла самастойна справіцца з матэматыкай ці фізікай. Ён бліскуча вучыўся. Перамагаў фактычна ва ўсіх алімпіядах — і па фізіцы, і па хіміі, і па матэматыцы, і па замежнай мове... Апроч таго, быў непераўзыдзеным шахматыстам. На школьных сходах яму бясконца ўручалі граматы. Дык вось, калі я прыходзіла да яго са сваім падручнікам, — раздражнёная, упэўненая, што ў змесце задачы нейкая «памылка-абдрукоўка», ён заўсёды смяяўся і нязменна казаў: «Твар зрабі прасцейшым!» І сходу рашаў любую задачу!

Знешне ён быў трохі смешны. Худы, высокі, няскладны, крыху сутулаваты, валасы кучаравыя, вогненна-рудыя, твар усыпаны рабаціннем... Ён ніколі не бываў сур'ёзным — бесперапынна сыпаў анекдотамі ды жартамі, рагатаў і пацвельваўся.

...Праз два месяцы пасля выпускнога Яшка з бацькамі з'ехаў у Амерыку. І толькі яго бабуля не паехала, засталася. Менавіта яна і паведаміла мне гэтую навіну.

***

З Яшкам мы ўбачыліся толькі праз дваццаць два гады. Ён і раней пару разоў прыязджаў сюды, але так атрымлівалася, што мы з ім ніколі не сутыкаліся. Можа таму, што прыязджаў ён заўсёды летам, а я ўлетку рэдка сяджу ў горадзе.

Сустрэча ў нас выйшла проста-такі камічная. У ліфце! Ішла ў краму, выклікала ліфт... Дзверы раз'ехаліся, а там дзядзька стаіць — не тое, каб тоўсты, хутчэй здаравенны, увесь з сябе такі незвычайны, з доўгімі валасамі. Калі б не дзелавы гарнітур з гальштукам, быў бы падобны да якоганебудзь рок-музыкі. Мы моўчкі даехалі да першага паверха, моўчкі выйшлі з пад'езда і пайшлі ў розныя бакі... Адышлася я крыху і міжволі азірнулася. І ён азірнуўся. Толькі тут я яго і прызнала! З паўгадзіны смяяліся! А пасля яшчэ гадзіну расказвалі адзін аднаму пра жыццё-быццё...

Хоць мне пра яго і так усё было вядома. Праграміст, працуе ў вялікай кампаніі, жыве заможна. Я часцяком размаўляла з Яшкавай бабуляй — калі было цёплае надвор'е, яна сядзела на лавачцы каля пад'езда — «дыхала паветрам». Варта было адно павітацца, як бабулька адразу пачынала дзяліцца навінамі… І ўсе яе навіны тычыліся «амерыканцаў» — як у іх усё хораша ды паспяхова. Пра ўнука расказвала з асаблівым гонарам — маўляў, вывучыўся ў прэстыжным універсітэце, зрабіў бліскучую кар'еру, пабудаваў шыкоўны дом... Карацей, усё супер-пупер. І толькі адзінае, пра што яна бедавала, дык гэта што асабістае жыццё ў яго не складваецца. Ажаніўся позна, праз пару гадоў развёўся. Так і халасцякуе.

Усё гэта Яшка і пераказаў мне ў агульных рысах. Ну, а я яму трохі пра сябе парасказвала...

Ад той сустрэчы засталося дзіўнае ўражанне. Нягледзячы на тое, што Яшка хваліўся, як у яго ўсё крута, гучна смяяўся ды па-ранейшаму сыпаў жартамі, я адчула да яго нейкае неўсвядомленае шкадаванне. Здавалася б, аніякіх падстаў для гэтага не было. Але адчуванне засталося.

***

І ў той жа год, літаральна праз пару месяцаў пасля сустрэчы з Яшкам, я сутыкнулася з Аксанай — у ГУМе, у шчыльным натоўпе, твар у твар. З ёй мы «пазналіся» адразу. За прамінулыя гады я некалькі разоў бачыла яе па тэлевізары — яна грае на скрыпцы ў знакамітым аркестры. А яна паведаміла, што таксама бачыла мяне па тэлебачанні... Гэта праўда, я неаднаразова брала ўдзел у перадачах на літаратурныя тэмы.

Там жа, у ГУМе, мы зайшлі ў кавярню, прыселі пагаварыць. Дакладней, спачатку гаварыць давялося мне. Бо Аксана, як і ў школьныя гады, была нейкай затоенай, напружанай. І вось, калі я нешта эмацыянальна апавядала пра нашых агульных школьных знаёмых, яна раптам перабіла мяне на паўслове... «Памятаеш, у тваім доме жыў Яшка Шэхтман? Ён пасля школы ў Амерыку з'ехаў. Ты пра яго што-небудзь ведаеш?» Ну, я і вылажыла ёй пра нашу з Яшкам нядаўнюю сустрэчу...

Аксана нібы знерухомела. Яна пільна глядзела мне ў вочы і маўчала. Я скончыла свой маналог, расказала ўсё, што магла, а яна працягвала маўчаць. Нават няёмка зрабілася. І калі я ўжо сабралася перавесці размову на іншую тэму, Аксана загаварыла. Пры тым, гледзячы не на мяне, а ў свой кубачак з кавай, быццам з гэтай кавай і размаўляла. Мяне ад яе аповеду ажно дрыжыкі прабралі. Роўным голасам — безэмацыянальна, стрымана, амаль стомлена, яна расказала пра тое, што Яшка быў адзіным яе каханнем — адзіным за ўсё жыццё. Што сустракаліся ёй прыстойныя мужчыны, і некалькі разоў яна нават збіралася замуж, але так і не рашылася... Доўга гаварыла. Неяк з аднаго на другое пераскоквала. То расказвала, як у школе пакутавала з-за свайго кахання, як званіла яму і маўчала — проста слухала яго голас, то ўспаміналя, як спрабавала збіраць пра Яшку інфармацыю, — дзе жыве, чым займаецца. Пасля сумна ўсміхнулася... «Памятаеш, як я яму верш на выпускным чытала? Мне ў той дзень выпадкова стала вядома, што ён хутка ад'язджае. Назаўсёды. Вось адсюль і істэрыка...» Пасля яна моўчкі палезла ў сумку, дастала «візітоўку», паклала перада мной: «Слухай, раптам ён сюды яшчэ калі-небудзь прыедзе... Пазвані мне тады, скажы...» І ўсё. Паднялася ды пайшла, нават не развіталася. А я засталася сядзець.

***

Праз паўгода памерла Яшкава бабуля. Пра гэта мне паведаміла цётачка-суседка. Памятаю, вярталася з работы, а жанчыны каля пад'езда напаўголаса абмяркоўвалі гэтую навіну. Ну, як абмяркоўвалі… Абгаворвалі Яшкаву сям'ю, асуджалі — маўляў, кінулі бабулю адну, а самі жывуць прыпяваючы ў сваіх амерыках. Добра, што хоць на пахаванне з'явіліся…

Насамрэч усім было цудоўна вядома, што бабуля сама не захацела адсюль з'язджаць, адмовілася наадрэз — тут у яе былі сяброўкі-прыяцелькі, тут былі магілы яе мужа і старэйшага сына, які калісьці трагічна загінуў. Дый дзеці нанялі ёй «няньку», якая апекавалася старою, — у краму хадзіла, гатавала, прыбірала...

...Я трохі вагалася — пазваніць Аксане ці не. Аднак пазваніла. Усяго толькі і сказала пару фраз — маўляў, Яшкава бабуля памерла, ён прыехаў на пахаванне. Хацела яшчэ што-небудзь дадаць — выключна з ветлівасці, але Аксана падзякавала і адключылася. Я ж казала, яна заўсёды была дзіўнай.

***

На наступны дзень я выйшла на вуліцу, каб за трунoй прайсці, правесці Яшкаву бабулю ў апошні шлях. Каля пад'езда шмат людзей сабралася. Воддаль, каля лесвіцы, я ўбачыла Аксану. Яна мне кіўнула, але не падышла...

Па вялікім рахунку, гэта ўсё. Што было далей, я не ведаю. З таго часу прайшло амаль два гады, але ні Аксану, ні Яшку я болей ніколі не бачыла і нічога пра іх не чула. Але нядаўна, напярэдадні Новага года, я атрымала паштоўку. Дакладней, не паштоўку, а фотаздымак у прыгожым канверце. На фотаздымку — смешны тоўсценькі хлопчык. Валасы кучаравенькія, вогненна-рудыя... На зваротным баку фотаздымка кароценькі допіс, кожная фраза з клічнікам: «Гэта наш маленькі Яшка! Якаў Якаўлевіч! Яму сёння споўнілася дзевяць месяцаў! Мы вельмі-вельмі шчаслівыя! Дзякуй табе за ўсё! Сям'я Шэхтман».

## Жыццё магло скласціся зусім па-іншаму…

Больш за дваццаць гадоў мая сяброўка настальгічна згадвала сваё страчанае каханне. Казала, што яе жыццё магло скласціся зусім па-іншаму. Яна магла быць чароўнай дамай, а поруч з ёй мог быць сапраўдны рыцар. Яна магла жыць у шыкоўным палацы і хадзіць выключна па пялёстках руж…

Але склалася ўсё вельмі пасрэдна. Муж — рафінаваны інтэлігент, вучоны. Які з яго рыцар? Сама — звычайная хатняя гаспадыня. Якая з яе чароўная дама? Абедзве дачкі з'ехалі ў Еўропу — адна вучыцца, другая замуж.

З матэрыяльнага дабрабыту — трохпакаёўка ў цэнтры сталіцы ды дом на Нарачы. Ну, больш-менш прыстойны аўтамабіль… Ну, вандроўкі па замежжы пару разоў на год... Але нічога звыш таго. Усё банальна. Усё, як ва ўсіх. А хацелася казкі, як казала гераіня аднаго рамантычнага фільма. І самае прыкрае, што казка ў жыцці маёй сяброўкі мела ўсе шанцы спраўдзіцца… Але не спраўдзілася.

***

Зачын той казкі здарыўся вельмі даўно, яшчэ ў мінулым стагоддзі. Пасля дзявятага класа мая сяброўка закахалася. Адбылося гэта ў вёсцы, дзе гарадская школьніца традыцыйна бавіла час летніх канікул. Аднойчы мясцовыя дзяўчаты зацягнулі яе на танцы ў клуб. Яна цярпець не магла падобных гулянак, бо пасля сталічных дыскатэк вясковыя ўцехі выглядалі проста смешна. Хрыпатая музыка з дапатопных калонак, п'яныя хлопцы, закуранае памяшканне, мацюкі ды пошлыя жарты…

Ён з'явіўся ў клубе, калі гулянка блізілася да завяршэння. Увайшоў, павітаўся за руку з некаторымі хлопцамі, абыякавым позіркам акінуў прысутных дзяўчат. Які ён быў, патлумачыць няпроста. Давіда бачылі? Апалона Бельведэрскага ведаеце? Алена Дэлона таксама? Якія яшчэ ёсць сімвалы мужчынскай прыгажосці? Карацей, ён быў прыкладна такі, як усе гэтыя сімвалы разам узятыя. Толькі лепшы.

Пры яго з'яўленні ў шэрагах дзяўчат адбылося заўважальнае хваляванне — гаварыць пачалі гучней, смяяцца званчэй… Але ён пастаяў пару хвілін, з кімсьці перакінуўся парай слоў ды зноў выйшаў на вуліцу. А калі яна вярталася дамоў і падыходзіла да бабулінай хаты, згледзела ў цемры аганёк цыгарэты. Спачатку спалохалася, вядома. А падступілася бліжэй і ўбачыла, што гэта ён, той самы хлопец — стаіць, абапёршыся на матацыкл, курыць. Без аніякіх выхілкаў сказаў наўпрост, што чакае яе, што хоча пазнаёміцца, што яна яму спадабалася. Хлопец быў старэйшым за яе па ўзросце, ужо адслужыў у войску і на падлеткавую сарамлівасць не пакутаваў. Вось так усё і пачалося…

…На працягу ўсяго дзясятага класа мая сяброўка трызніла сваім каханнем. У той час мы з ёй нібыта памяняліся месцамі. Яна ніколі не была вельмі гаваркой, балбатлівасцю ў нашым тандэме вылучалася менавіта я. А тут раптам так разгаварылася, што не суняць! Узнаўляла ў памяці літаральна кожны эпізод мінулага лета і ў самых дэталёвых падрабязнасцях пераказвала мне… Як штовечар ён прыязджаў па яе на сваім матацыкле, як яны імчалі на якія-небудзь гульбішчы ў суседнія вёскі ці проста лёталі па начных дарогах — толькі вецер свістаў у вушах! Неверагодная рамантыка! На ўсякі выпадак удакладню, калі хто не ў курсе, што сам факт валодання матацыклам «Ява» ў 80-я гады мінулага стагоддзя быў надзвычай прэстыжным — гэта было крута.

Мая сяброўка адчувала сябе чароўнай дамай, бо поруч з ёй быў сапраўдны рыцар. Дзе б яны ні з'яўляліся разам, перад імі ўсе расступаліся… Не толькі таму, што гэтыя двое складалі на рэдкасць прыгожую пару, але і таму, што ў хлопца была адпаведная рэпутацыя. Ён быў дужы, смелы, адчайны, з крутым норавам. Калі што не па ім, лёгка мог разабрацца з кожным. І толькі са сваёй каханай быў увасабленнем пяшчоты і клапатлівасці — абыходзіўся з дзяўчынай, як з крышталёвай, парушынцы не дазваляў на яе ўпасці.

А што адчувала дзяўчына, дык гэтага словамі не выказаць. Ад аднаго яго позірку ў яе перахоплівала дыханне, ад дотыку — зямля сыходзіла з-пад ног. А як ён цалаваўся! Па-сапраўднаму, па-дарослому, не тое, што гэтыя гарадскія кавалеры-малалеткі.

Напрыканцы лета яны дамовіліся пажаніцца — праз год, як толькі дзяўчына скончыць школу. У іх былі грандыёзныя планы… Каханы паабяцаў, што заробіць кучу грошай. Што ён пабудуе для сваёй чароўнай дамы шыкоўны палац. Што яна будзе хадзіць выключна па пялёстках руж. Што яны будуць падарожнічаць і аб'едуць разам увесь зямны шар. Што ўсе скарбы свету будуць каля яе ног…

Цэлы год яны перапісваліся. Мая сяброўка пісала лісты на ўроках. У тыя моманты ў яе быў такі незвычайны твар — летуценны, самазабыўны, каханне проста выпраменьвалася з яе. І ўсё магло б быць цудоўна, як у апавяданні Грына, дзе «жылі доўга і памерлі ў адзін дзень», калі б не адна акалічнасць… Мая сяброўка паведаміла пра свае планы бацькам, і выбухнуў скандал. Якое каханне?! Якое вяселле?! Вывучыцца трэба! Кар'еру зрабіць!

Зразумела было, што бацькі-выкладчыкі зусім не гарэлі жаданнем прымаць у сваю цёпленькую акадэмічную сямейку нейкага калгаснага зяця.

Што ж, падзецца не было куды. Дзяўчына змушана была падпарадкавацца бацькоўскай волі і сказаць каханаму, каб крыху пачакаў — маўляў, паступлю ў інстытут, бацькі супакояцца, а тады ўжо…

Але ён не пачакаў. Абразіўся. І ў тую ж восень з'ехаў з вёскі. Казалі, што некуды на поўнач, на заробкі нібыта.

А мая сяброўка стала студэнткай — паступіла ў лінгвістычны (тады ён яшчэ ін'язам зваўся). З-за разрыву з каханым перажывала, безумоўна. Моцна перажывала. Доўга чакала ад яго лістоў. Але вучоба, новыя сустрэчы, знаёмствы, замежныя паездкі… Усё гэта паглынула з галавой. І неўзабаве мітрэнгі адступілі.

На апошнім курсе яна выйшла замуж за сімпатычнага і сур'ёзнага аспіранта. Гэтае каханне было зусім іншае — спакойнае, стрыманае, я б нават сказала, па-асабліваму грунтоўнае.

Пра свайго былога кавалера мая сяброўка больш ніколі нічога не чула. Яе бабуля памерла, дом у вёсцы бацькі прадалі, ніякіх сваякоў і блізкіх там не засталося. Але першае каханне з памяці дзяўчыны не выпетрылася канчаткова. Трапяткі ўспамін пра яго ўвесь час таіўся дзесьці ў нетрах душы. А з цягам часу мая сяброўка пачала згадваць тое каханне ўсё часцей і часцей, асабліва ў размовах са мной. Бо я ж была амаль што сведкай колішніх перыпетый, ведала ўсе дэталі тых адносінаў.

Яна даволі часта тэлефанавала мне, прасіла зайсці «хоць на паўгадзінкі». Але гэтыя «паўгадзінкі» ў нас заўжды расцягваліся на палову дня. Сяброўка ставіла на стол пляшку дарагога віна, прывезенага дочкамі з Еўропы, пачынала скардзіцца на самоту — шкадавала, што калісьці не зрабіла кар'еры. Тады, у маладосці, у гэтым не было патрэбы — муж добра зарабляў, а яна гадавала дзяцей. А зараз, калі дочкі выраслі і пакінулі бацькоўскі дом, ёй зусім няма чым сябе заняць. Яна нават вершы пачала пісаць. Дрэнныя, праўда, вершы. Пра каханне. Накшталт: «Не забуду нашы ночы, не забуду твае вочы…» Але даводзілася слухаць, што паробіш.

А пасля вершаў пачыналася спавядальная гаворка пра былое… Яна спрабавала ўявіць сабе, як склаўся лёс таго вясковага каханага, якіх жыццёвых вяршынь ён дасягнуў. Неяк прызналася, што навіны па тэлебачанні глядзіць «з халадком» пад сэрцам. Бо аднойчы ёй нешта такое падалося… Яна прасавала бялізну і амаль не глядзела ў тэлевізар — ну, так сабе… краем вуха слухала навіны. Выступаў вядомы бізнес-аналітык, расказваў пра сітуацыю з нафтай, а на экране мільгалі кадры, як уплывовыя бізнесоўцы вядуць дзелавую размову — …бараль-долар-сусветны крызіс і ўсё такое. І вось сярод іх, нібыта, мільгануў яго твар… «Натуральна! — горача пераконвала яна мяне. — Я заўсёды адчувала, што ён стане якім-небудзь выдатным дзеячам… Бізнесоўцам. Алігархам! Альбо палітыкам. Альбо… Ды кім заўгодна! Ён быў неверагодна амбітным, меў грандыёзныя планы… А гэта, як вядома, самае важнае. Бо чым вышэй уздымаеш планку, тым большага дасягаеш». Яна нават «гугліла» яго прозвішча і імя. Але ніякай інфармацыі не знайшла.

Перыядычна мая сяброўка наракала на свайго мужа, параўноўвала яго з былым каханым. Скардзілася, што муж у яе празмерна ўраўнаважаны, педантычны, прадказальны, не здольны на рамантычны ўчынак. Яму абсалютна не ўласцівы дух авантурызму. Ён да ўсяго падыходзіць надзвычай рацыянальна, нават са святамі віншуе заўсёды аднолькава — дорыць ёй букет ружаў і канверт з грашыма. Каб набыла сабе тое, што сама пажадае. Знявага, а не падарунак! А яна ж магла быць жонкай алігарха… Увесь свет мог апынуцца каля яе ног… Жыццё магло скласціся зусім па-іншаму!

***

На Радаўніцу мая сяброўка з мужам ездзіла ў вёску. Дакладней, не ў вёску, а на вясковыя могілкі, дзе пахавана яе бабуля. У вёску яны ніколі не заязджаюць — ёй па сённяшні дзень балюча бачыць родную хату, у якой жывуць чужыя людзі.

Так атрымалася, што прыехалі пазнавата, сонца пачынала хіліцца да захаду. На могілках было ціха, урачыста і ніводнага чалавека. Натуральна, памерлых родзічаў вяскоўцы традыцыйна праведваюць раніцай.

Магіла бабулі была прыбрана, каля помніка ляжалі велікодныя яйкі — відаць, нехта са сваякоў прыязджаў. Пастаялі хвілін колькі, памаўчалі. Сяброўка адзначыла, што з таго часу, як была тут апошні раз, магіл заўважальна пабольшала. Вырашыла прайсціся, паглядзець, хто пахаваны. Зусім трошкі адышла, калі пачула, што паблізу нехта ёсць — ці то галінка якая трэснула, ці то яшчэ што… Міжвольная цікаўнасць падштурхнула паглядзець, хто там. Зрабіла пару крокаў і ўбачыла валацугу.

Моцна кульгаючы, ад магілы да магілы соваўся старац са слоікам у руках. Яна не адразу ўцяміла, што ён робіць. Але неўзабаве зразумела — шукае гарэлку. Паводле язычніцкай традыцыі, людзі пакідаюць на магілах родзічаў чаркі з гарэлкай. Вось ён і карыстаўся дармовым пачастункам — знаходзіў, пераліваў у сваю ёмкасць і задаволена нешта бубнеў сабе пад нос. Яна паназірала за ім некалькі хвілін і хацела цішком адступіцца, як раптам валацуга азірнуўся... Азірнуўся, і мутным няўцямным позіркам паглядзеў ёй проста ў твар. Пасля блазнавата заўсміхаўся шчарбатым ротам і нараспеў прамовіў: «Якія лю-ю-юдзі…»

Некалькі імгненняў яна не магла даць веры ўласным вачам. Спіты цёмны твар, нос крывы — яўна быў калісьці зламаны, рэдкія зліплыя валасы… Усохлы, страшны, дзікі — ён выглядаў гадоў на семдзесят, не меней. Яе рыцар, яе колішні каханы! Яна не ведала, што рабіць і што казаць — нібы ступар напаў. Урэшце неяк справілася з шокавым уражаннем і спытала: «Як ты?»

Блытана, цьмяна, але сяк-так ён расказаў… Працаваў на поўначы пару год, пасля трапіў «у заварушку» і апынуўся на зоне. Выйшаў — ізноў уляпаўся, сеў па-новай. Так што за плячыма дзве ходкі, у сукупнасці чатырнаццаць гадоў. Вярнуўся ў вёску, атрымаў групу інваліднасці, жыве з маці…

Муж сяброўкі назіраў за імі здаля, тактоўна не падыходзіў, каб не перашкаджаць размове. Але праз пэўны час гукнуў — сказаў, што трэба выпраўляцца ў зваротны шлях, вечарэе…

***

Безліч разоў я чула ад сяброўкі, што яе жыццё магло скласціся зусім па-іншаму. Пра гэта яна заўжды казала летуценна — са светлым сумам і салодкай пяшчотай. І толькі апошні раз, калі расказвала мне заключную частку гісторыі свайго кахання, прамовіла тое самае з жахам.

## Пра адну дзяўчынку

Дзяўчынцы было адзінаццаць гадоў. І аднойчы хлопчык-аднакласнік запрасіў яе на дзень нараджэння. У яго тады сабралася даволі вялікая кампанія, чалавек пятнаццаць дзяцей. Святкаванне ладзілася традыцыйна. Спачатку — пачостка, прысмакі, торт са свечкамі, пасля — гульні...

У кватэры хлопчыка мелася шмат цікавых рэчаў з вобласці «марской тэматыкі» — ракавіны, каралы, засушаныя экзатычныя рыбіны. А каля люстра ў калідоры быў прымацаваны дэкаратыўны штурвал, на якім віселі матчыны ўпрыгожанні — рознакаляровыя пацеркі ды ланцужкі… Адзін ланцужок быў з адмысловым кулонам. Хлопчык сказаў, што кулону — бурштынавай кроплі з замураваным усярэдзіне павучком — больш за тысячу год.

Дзяўчынка зняла ланцужок, разгледзела, на сябе прыкінула, каля люстра пакруцілася… Дый вярнула на ранейшае месца.

А на наступны дзень маці гэтага хлопчыка прыйшла ў школу і абвінавацiла дзяўчынку ў крадзяжы. Спачатку выклікала яе ў калідор і сказала, што калі тая верне ланцужок, то яна нікому пра гэты выпадак не раскажа. Дзяўчынка патлумачыла, што нічога не брала. Тады маці хлопчыка пагаварыла з настаўніцай, і дзве дарослыя жанчыны пачалі ўшчуваць і палохаць школьніцу разам… Пасля настаўніца завяла дзяўчынку ў клас, загадала стаць каля дошкі

і звярнулася да ўсіх вучняў — маўляў, на дні нараджэння вашага сябра здарылася злачынства… калі хтосьці ведае пра гэта што-небудзь ці нешта бачыў, няхай шчыра раскажа… бо бацькі хлопчыка выклічуць міліцыю і ўсё будзе высветлена так ці інакш…

Ніхто не разумеў, пра што ідзе гаворка. І дзеці пачалі прыгадваць усе злачынствы дзяўчынкі, пра якія ведалі.

Лепшая сяброўка дзяўчынкі, з якой яны сядзелі за адной партай, паднялася і сказала:

— Яна з Сярожам цалавалася!

Сярожа пачырванеў і крыкнуў:

— Мы не цалаваліся! Яна мне парушынку з вока…

Дагаварыць ён не змог, бо клас выбухнуў рогатам.

А другая аднакласніца гучна абвясціла:

— Яна ўжо ліфчык носіць!

Усе ізноў зарагаталі…

Гэта працягвалася хвілін пятнаццаць. Амаль што вечнасць. Абвінавачанні сыпаліся, як з мяшка гарох… Згадана было ўсё — у каго дзяўчынка аднойчы спісала хатняе заданне, у каго была закахана, што пра каго гаварыла.

Пасля ўрокаў настаўніца прыйшла да дзяўчынкі дамоў і паведаміла яе бацькам, што іх дачка ўкрала залатое ўпрыгажэнне і цяпер «трэба думаць, як выходзіць з сітуацыі». Дзяўчынка горка плакала і клялася, што нічога не брала…

На наступны дзень яна не пайшла ў школу. Паўдня блукала па горадзе і думала, як памерці — каб хутка і не балюча. Але не прыдумала. А дома яе чакаў чарговы скандал — настаўніца пазваніла бацькам, і прагул быў выкрыты па гарачых слядах, даруйце за каламбур.

Вечарам таго дня маці дала дзяўчынцы некалькі буйных грашовых купюр і загадала занесці бацькам аднакласніка. Дзяўчынка ізноў плакала і прасіла-маліла, каб яе не прымушалі гэтага рабіць. Бо яна ж нічога не крала, а занесці грошы — гэта значыць прызнаць сваю віну. Але бацькі былі няўмольнымі... І яна пайшла. Засляпіўшы вочы, стараючыся ні пра што не думаць. А калі пазваніла ў дзверы і працягнула маці аднакласніка грошы, тая збянтэжылася і замітусілася. Запрасіла дзяўчынку ў кватэру, пачала войкаць ды выбачацца… Урэшце патлумачыла, што ланцужок ужо знайшоўся.

Хлопчык, на дні нараджэння якога ўсё адбылося, пазней прызнаўся дзяўчынцы, што ланцужок сапраўды быў украдзены іх аднакласніцай (нават імя злачынцы назваў). Напалохаўшыся магічнага слова «міліцыя», тая адзінаццацігадовая школьніца ва ўсім прызналася і вярнула рэч гаспадыні. А несправядліва абвінавачаная дзяўчынка была рэабілітаваная — настаўніца перад усім класам папрасіла ў яе прабачэння.

Але, нягледзячы на тое, што ўсё высветлілася, дзяўчынцы яшчэ доўга чамусьці было сорамна. Невядома чаму. Пазней яна знайшла адказ у кнізе аднаго пісьменніка. «Мы адчуваем сорам не таму, што ў чымсьці вінаваты, а таму, што наша прыніжэнне бачаць усе».

У цэлым жа гэта гісторыя амаль не паўплывала на далейшы лёс дзяўчынкі. У яе душы не засталося незагойнай раны, яна не ачарсцвела, не расчаравалася ў людзях і нават не зрабіла ніякіх мудрых высноў. Бо якія там высновы ў адзінаццаць гадоў?

...Дзяўчынка даўно вырасла і стала жанчынай. Яшчэ сто разоў у жыцці яна сутыкалася з крыўднымі абвінавачваннямі. Але прынізіць яе мацней, чым яна была прыніжана тады, у пятым класе, нельга. Гэта проста немагчыма. Нават не старайцеся.

# Як навучыць быць пісьменнікам

**Наша Кацярына Захарэвіч паразмаўляла з Галінай Пупач, кіраўніком узорнага літаратурнага аб'яднання «Верасок», што дзейнічае ў Ганцавічах. Вось такая атрымалася размова.**



**— Ведаю, што «Вераску» хутка сорак гадоў. Раскажыце пра гісторыю аб'яднання.**

— Літаратурнае аб'яднанне «Верасок» стварыла Вера Уладзіміраўна Паляшчук. У 1978 годзе яна, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, згуртавала вакол сябе літаратурныя таленты вёскі Востраў, якіх на той час у самабытнай і маляўнічай старонцы было нямала. Дарэчы, Востраў — малая радзіма знакамітага на ўсю Берасцейшчыну паэта Міхася Рудкоўскага.

Вера Уладзіміраўна сама пісала вершы, добра ведала паэзію, умела зацікавіць дзяцей і павесці іх за сабою. Яна была далікатным, мудрым і ў той жа час патрабавальным чалавекам. Часта любіла паўтараць: «У жыцці заўсёды трэба быць прыкладам». Можа таму слава пра літаратурнае аб'яднанне і яго кіраўніка хутка разляцелася па раёне і за яго межамі. У 1996 годзе літаратурнаму аб'яднанню «Верасок» было прысвоена званне «ўзорны калектыў», а жаданне здольнай да літаратурнай творчасці дзятвы дало падставы перанесці яго работу у Ганцавіцкі раённы цэнтр дзіцячай і юнацкай творчасці.

У 2001 годзе Веры Паляшчук не стала. Выхаваннем юных паэтаў Ганцавіччыны ў хуткім часе заняўся паэт Аляксей Галаскок, чалавек таленавіты, адданы роднай мове і краіне. Ён не проста вучыў дзяцей вершаскладанню, а рабіў рэдактарскія праўкі, вучыў укладаць у кожны радок часцінку душы, быць зразумелым і шчырым. Потым у «Верасок» прыйшла паэтка Святлана Шушко. Пад яе кіраўніцтвам юныя таленты не проста пісалі і друкаваліся на старонках газет і часопісаў, а ўдзельнічалі ў розных творчых конкурсах і выдавалі ўласныя зборнікі.

**— Як вы трапілі ў «Верасок»?**

— Я пачала працаваць у аб'яднанні ў 2011 годзе. Не па прызванні, так склаліся абставіны. Пасля плеяды творчых, неардынарных асоб мне, бібліятэкару па адукацыі, было гэта пачэсна і адказна. Не ведаю, наколькі ўдала атрымліваецца працаваць у «Вераску». Аб гэтым меркаваць не мне. Хоць мне работа па душы, радуе кожны дзіцячы радок, кожны поспех, кожная публікацыя юных паэтаў. Дарэчы, вераскоўцам пашчасціла двойчы друкавацца на старонках і вашага выдання!

Мушу прызнацца — сама вершы не пішу. Часцей хочацца рабіць замалёўкі пра землякоў, расказваць непрыдуманыя гісторыі з жыцця знаёмых і родных. Дзясяткі гадоў сябрую з раённай газетай «Савецкае Палессе», друкуюся на старонках абласной газеты «Народная Трыбуна».

**— Якія дзеці прыходзяць да вас на заняткі (узрост, здольнасці, схільнасці)? Колькі ў вас навучэнцаў?**

— У «Верасок» прыходзяць хлопчыкі ў дзяўчынкі ад сямі да сямнаццаці гадоў. Нехта з іх спрабаваў сябе ў творчасці, а нехта толькі хоча навучыцца пісаць. Ёсць дзеці, у якіх адразу адчуваюцца літаратурныя здольнасці, як гэта было, напрыклад, з Кацярынай Руткоўскай і Яўгеніяй Пракапчук. Цікавыя думкі, неардынарная іх падача, узвышанасць... І таму невыпадковым стала тое, што Кацярына — студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ, Жэня — двойчы пераможца абласнога конкурсу юнацкай паэзіі (2013, 2014), які ладзіцца на Берасцейшчыне ў рамках дзён шведскай і беларускай літаратуры.

**— Як юныя і таленавітыя дазнаюцца пра ваша аб'яднанне і трапляюць у яго?**

— Для літаратурнай суполкі, спецыфічнага (лічу) аб'яднання, раённага цэнтра дзіцячай і юнацкай творчасці сорак гадоў — немалая лічба, тым больш, што за ёю стаяць поспехі, прызнанне, вядомасць калектыву. «Верасок» ведаюць, таму, калі ёсць здольнасці, а яшчэ больш жаданне, то стаць удзельнікам літаратурнага аб'яднання ніякая не праблема. А як трапляюць некаторыя ў «Верасок» — прывяду прыклад. Неяк у кабінет, дзе праходзяць заняткі, зайшла жанчына. Прадставілася. Яна жыве з сям'ёй, мабыць, у самай аддаленай ад райцэнтра вёсцы — Чудзіне. Жанчына расказала пра сваю дачушку Марыю, у якой яна адчувае літаратурныя здольнасці. Праз некаторы час дзяўчынка-сямікласніца пачала раз на тыдзень ездзіць на заняткі ў «Верасок», нягледзячы на саракакіламетровую адлегласць і сваю занятасць. Пазней Марыя Стральчэня дэбютавала на старонках «Маладосці».

**— А як праходзяць вашы заняткі?**

— Ёсць адукацыйная праграма, якая прадугледжвае тэарэтычныя і практычныя заняткі. У межах першых хочацца даць дзецям веды па асновах вершаскладання, расказаць аб Ганцавіччыне літаратурнай, пазнаёміць з лепшымі прадстаўнікамі нацыянальнай літаратуры. На практычных занятках мы рэдагуем напісаныя навучэнцамі работы, працуем над кожным радком і словам, каб у рэшце рэшт атрымаліся верш, казка ці апавяданне «на ўзроўні». Праводзім майстар-класы з мясцовымі паэтамі, удзельнічаем у раённых, абласных і рэспубліканскіх конкурсах. Рыхтуем тэксты да друку ў газетах і часопісах. Уласнымі сіламі штогод выдаём зборнікі паэзіі і прозы. Маем камп'ютар і прынтары, каляровы і чорна-белы, фотаапарат, капіравальны апарат.

**— Як вы лічыце, ці можна ўвогуле навучыць быць пісьменнікам?**

— Навучыць быць сапраўдным пісьменнікам — нельга. Можа, будзе гучаць банальна, але ж літаратурны талент даецца Богам і пры тым не кожнаму. Можна прывіць любоў да літаратуры, можна навучыць рыфмаваць радкі, пісаць у прозе прыгожа і шчыра. Усё гэта можна. Але ж «зляпіць», падкрэслю, сапраўднага паэта ці пісьменніка — немагчыма. Можа, са мною нехта і не пагодзіцца…

**— Якія перспектывы бачыце вы для вашага аб'яднання?**

— Літаратурнае аб'яднанне «Верасок» працуе ў гэты няпросты, вірлівы і непрадказальны час. Юныя паэты пішуць, няхай і немудрагелістыя, просценькія вершы, прозу і цешаць ёю свайго чытача. На занятках яны імкнуцца размаўляць, думаць і пісаць па-беларуску. Дзеці ўзбагачаюцца духоўна, яны маюць свой погляд і пяро, свае пошукі і сумненні, свае поспехі і паражэнні, свае радасці і расчараванні. Вядома ж, мала хто становіцца сапраўдным паэтам, але ж куды важней, што вераскоўцы становяцца добрымі людзьмі. Зноў прывяду прыклады, як склаўся лёс былых удзельнікаў літаратурнага аб'яднання, кім яны сталі ў жыцці. Артур Грыгаран — намеснік старшыні Ганцавіцкага райвыканкама, Ала Міхлюк — дырэктар Ганцавіцкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы, Настасся Паўлоўская — журналіст, Таццяна і Людміла Ціхан, Жана Ярашэвіч — настаўніцы беларускай мовы і літаратуры. Ведаю, што некаторыя пішуць вершы і сёння. Упэўнена, што добрым словам успамінаюць «Верасок», светлы агеньчык іх бесклапотнага жыцця.

Вынік — у перамогах. Шэсць гадоў запар праходзіць рэспубліканскі конкурс паэтычнай творчасці «Юныя таленты Беларусі», галоўным прызам якога з'яўляецца крыштальны зубр. І вось ужо два гады запар прыгожая крыштальная жывёлка жыве на Ганцавіччыне, у руках дзяцей, для якіх літаратурная работа не забаўка, а сур'ёзнае захапленне і цяжкая праца.

А бачылі б вы твары людзей, якія прыходзяць на нашы літаратурныя сустрэчы, калі дзеці расказваюць свае паэтычныя гісторыі, шчыра, пранікнёна. І нельга стрымаць слёз, яны коцяцца самі, нечаканыя і шчымлівыя. Словы, што ідуць ад дзіцячай душы, прымушаюць суперажываць, інакш нельга.

Але ж самы галоўны вынік ў тым, што «Верасок» жыве. Углядаючыся ў высокія нябёсы, я іншы раз думаю, што душа Веры Паляшчук радуецца. Радуецца таму, што выпеставаны ёю «Верасок» працуе, што яе любімае дзіця расце.



# З «Маладосцю» — роўна дзесяць гадоў

Роўна дзесяць гадоў таму ў гэты самы час мы рыхтавалі да друку першы берасцейскі нумар часопіса «Маладосць». Гэта было нешта такое трапяткое! Не прайшло і паўгода ад часу стварэння Саюза пісьменнікаў Беларусі, як мы з Раісай Баравіковай, галоўным рэдактарам выдання, усе літаратурныя тытулы якой не злічыць, але галоўныя з іх — усё лепшае чалавечае і творчае, дамовіліся ажыццявіць такі амбіцыйны для Берасцейшчыны праект. З мудрай Раісай Андрэеўнай лёгка было дамовіцца пра гэта, бо яна і сама разумела важнасць творча-духоўнай падтрымкі рэгіёнаў, так званай глыбінкі, тым больш, што яна і сама з Берасцейшчыны — з Бярозаўскага раёна.

У тым жа 2006 годзе была дасягнута дамоўленасць са старшынёй Брэсцкага аблвыканкама К.А. Сумарам аб заснаванні абласной літаратурнай прэміі імя Ул. Калесніка, якая пачала ўручацца ў 2007-м. Так супала, што першы нумар берасцейскага выпуску выйшаў у лістападзе, а прэмію таксама было вырашана ўручаць напрыканцы лістапада. З тае пары і ўсталявалася традыцыя берасцейскі выпуск змяшчаць у восеньскім нумары (гэта сёлетні — яшчэ летні, і тое таксама няблага, бо многія задоўга да свята паспеюць пазнаёміцца са сваім своеасаблівым альманахам).

Традыцыю прадоўжылі наступныя галоўныя рэдактары. Як тут быць няўдзячным! Тым больш, што кіраўнік выдання прыязджае на свята, каб павіншаваць пераможцаў, а тыя пераможцы зазвычай — якраз аўтары «Маладосці». Прычым, не толькі дарослыя, а хутчэй — не столькі, колькі юныя асобы, у тым ліку дзеці. Натуральна, лепшыя з лепшых. Дарэчы, не толькі аўтары. Напрыклад, Маргарыта Латышкевіч цяпер ужо — супрацоўніца «Маладосці». Гэта зараз яна — у Мінску, а на момант атрымання ўзнагароды жыла ў Брэсце.

Увогуле, Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ вельмі актыўна працуе з маладымі дараваннямі. У выніку арганізацыя папаўняецца новымі талентамі: за апошнія некалькі гадоў у СПБ прыняты Алена Дзебіш — самая юная ў нашым аддзяленні (яна была прынята ў Саюз пісьменнікаў у 20-гадовым узросце), Настасся Нарэйка (25 гадоў) — пастаянны аўтар «Маладосці», ужо добра вядомая ў літаратурных колах краіны, яе творчасць прыхільна ўспрынята крытыкай, шырокі станоўчы рэзананс атрымала яе першая кніга паэзіі «Магдэбургскае права маёй душы», Таццяна Дзямідовіч (35 гадоў) — таксама досыць гучна заявіла пра сябе ў літаратуры творамі ў літвыданнях і перамогамі ў конкурсах, а нядаўна вельмі прыязна сустрэты дзве яе выдатнейшыя навелы ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Здавалася б, зусім нядаўна разглядаліся ў прыёмнай камісіі дакументы на Алену Папко (25 гадоў), якая, жывучы ў вёсцы на Бярозаўшчыне, выдае ў вядучых літвыданнях краіны, а найперш у «Маладосці», выдатныя паэтычныя падборкі, а апошнім часам і прозу. Усе яны актыўна ўдзельнічаюць у жыцці аддзялення, шмат выступаюць. А тое, што патрабаванні да кандыдатаў сталі больш жорсткімі, толькі на карысць — мы за сваіх вылучэнцаў не баімся, бо іх творы выпрабаваны літаратурнай перыёдыкай. Пацвярджэннем таму з'яўляецца наступны факт: сёлета ў Саюз пісьменнікаў Беларусі прыняты яшчэ чацвёра берасцейцаў — Сяргей Белаяр (даўні і пастаянны аўтар «Маладосці»), Кацярына Мядзведзева (нядаўні аўтар часопіса, але, думаецца, цяпер стане пастаянным), Таццяна Шульга ды Вячаслаў Бельцюкоў.

Такое цеснае супрацоўніцтва з рэспубліканскім літаратурным выданнем — гонар для абласнога аддзялення СПБ, а для юных талентаў — як ёсць шчасце, для некаторых нават лёс, першая прыступка ў сапраўдную літаратуру.

У свой час і я, калі апублікаваў у шостым нумары «Маладосці» за 1991 год першы свой твор — апавяданне «Хуліган», быў таксама малады — 26

гадоў. І стаў лаўрэатам за лепшы празаічны твор года. Гэта так акрыліла! Таму я вельмі разумею сённяшніх маладых, якія радуюцца, убачыўшы свае творы на старонках часопіса, перамагаюць у конкурсах.

На абласным узроўні такая падтрымка таксама істотная. Адначасова з заснаваннем у 2007 годзе літаратурнай прэміі аддзяленнем разам з філалагічным факультэтам Брэсцкага дзяржуніверсітэта і пры непасрэднай падтрымцы галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы аблвыканкама заснаваны дзіцячы літаратурны конкурс, пераможцы якога атрымліваюць Дыпломы і падарункі, як і лаўрэаты літпрэміі, з рук старшыні аблвыканкама. Лепшыя творы юных удзельнікаў конкурсу змяшчаюцца ў заснаваным і выдаваным зноў-такі аддзяленнем калектыўным зборніку «Адкрыццё». Што ў ім? Давайце падглядзім. Калі ўлічыць, што літконкурсы прысвячаліся вызваленню Берасцейшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Вялікай Перамозе, то і тэматыка твораў у кнізе адпаведная.

Вось допіс Максіма Савіцкага, 16-гадовага навучэнца Пінскага дзяржаўнага прафесійнага ліцэя будаўнікоў, які па-мастацку эмацыянальна перажыў на паперы сваё гасцяванне ў Нямеччыне працягласцю цэлы месяц. Самае ж істотнае ў гэтым расповедзе тое, што гаспадар дома Курт Гозінг, у якога пасяліўся беларускі юнак, таксама франтавік. Толькі нямецкі.

Хлопец бярэ ў рукі фотаальбом:

«На адным са здымкаў малады Курт, а ўнізе — надпіс на нямецкай мове: “Горад Пінск, 1942 год.”

Я быў вельмі здзіўлены і папрасіў яго расказаць пра гэты фотаздымак. Высветлілася, што Вялікая Айчынная закінула зусім юнага Курта ў Беларусь. У Кобрынскіх лясах трапіў у палон да партызан. Ён і цяпер захапляўся дабрынёй і прыстойнасцю беларусаў. Яны не расстралялі ворага, а адносіліся да яго як да простага салдата, які вымушаны быў выконваць загад...»

І далей: «Потым мы доўга сядзелі побач і маўчалі. Пра што думаў тады сівы немец, які ваяваў супраць майго народа, я не ведаю. Я думаў аб тым, што вайна пакалечыла лёсы не толькі маіх суайчыннікаў, але і саміх немцаў, прымусіўшы іх жыць з адчуваннем віны і сораму.»

Алена Жур, 17 гадоў, навучэнка Белаазёрскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа электратэхнікі: «Спыняю погляд на скульптурнай кампазіцыі “Журавы” і чытаю выбітае на помніку: “Живущие перед вами в вечном долгу”. Гэты надпіс для мяне». Коратка, але гэтак шчымліва.

Дарэчы, некаторыя аўтары «Адкрыцця» з'яўляюцца адначасова і аўтарамі «Маладосці».

Прымаюць маладыя людзі таксама ўдзел у абласным адборачным туры рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Мы народжаны дзеля натхнення».

Следам за ініцыятывамі, якія ператвараюцца ў традыцыі, з'яўляюцца новыя праекты, новыя акцыі, запатрабаваныя самім жыццём. Адна з такіх — заснаванне разам з Гродзенскім аддзяленнем СПБ і Беластоцкім літаб'яднаннем «Белавежа», якое ўзначальвае вялікі патрыёт Беларусі, прафесар Беластоцкага ўніверсітэта, рэдактар літаратурнага часопіса «Тэрмапілы» спадар Ян Чыквін, так званага «Літаратурнага трохкутніка» — свята беларускай літаратуры, якое маем ладзіць у кожным з трох рэгіёнаў.

Дасягнута трохбаковая дамова з пісьменніцкімі суполкамі Валыні (Украіна) ды Люблінскага ваяводства (Польшча). У рамках гэтай дамовы перакладаем і публікуем аўтараў з суседніх краін, а яны — нас.

Некалькі гадоў таму міжнародныя літаратурныя стасункі пашырыліся яшчэ болей — да Варшавы, Лондана, да ЮНЕСКА. Гэта стала магчымым дзякуючы знаёмству з вядомым літаратарам і выдаўцом з Варшавы Аляксандрам Наўроцкім, рэдактарам часопіса «Паэзія сёння» і ўладальнікам выдавецтва «IBIS». Ён штогод ладзіць разнастайныя міжнародныя літаратурныя конкурсы, літаратурныя святы па лініі ЮНЕСКА, і мы далучыліся да гэтай справы. У тым ліку ў выдавецкім плане. Натуральна, і тут не абыдзецца без моладзі.

Віншую ўсіх берасцейскіх літаратараў і чытачоў, прыхільнікаў беларускай літаратуры, беларускага свята, калектыў заўсёды такога маладога часопіса «Маладосць» з дзесяцігоддзем берасцейскага выпуску. Да наступнага юбілею!

*Анатоль Крэйдзіч,*
*старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі*

# Без сяброў мы ніхто!..

Дзясяты год запар у Беларусі на міжнародны «круглы стол», агульная ідэя якога выкладзена наступным чынам: «Мастацкае слова як шлях адзін да аднаго», збіраюцца пісьменнікі розных краін.

Геаграфія адрасоў самая шырокая: Польшча, Балгарыя, Казахстан, Азербайджан, Арменія, Малдова, Літва, Латвія, Кітай, Турцыя, Грузія, Чарнагорыя, Сербія, Таджыкістан, Расія, Украіна... З Расіі прыязджалі і, пэўна, яшчэ не раз прыедуць паэты, празаікі, перакладчыкі, літаратуразнаўцы з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Новасібірска, Іжэўска (Удмурція), Казані (Татарстан), Нальчыка (Кабардзіна-Балкарыя)... Заснавальнікі «круглага стала» — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Выдавецкі дом «Звязда» (а пачыналася ініцыятыва некалі з РВУ «Літаратура і Мастацтва»). У 2007 годзе, прызнацца, не вельмі і верылася, што «круглы стол» стане добрай традыцыяй. Многія ж ініцыятывы рушацца, не паспеўшы пачацца. У «круглага стала» за плячыма сёлета, лічы, — амаль дзве пяцігодкі.

На пачатку верасня 2016 года літаратары (гэтым разам запрошаны госці з Азербайджана, Чарнагорыі, Сербіі, Казахстана, Латвіі, Літвы, Расіі, Украіны, Славакіі, Турцыі, Кітая, Таджыкістана) збяруцца для грунтоўнага абмеркавання праблем у межах наступнай тэмы — «Сугучча: слова Скарыны ў сучасным свеце». Тры асноўных тэматычных блокі для дыскусій прапануюць арганізатары: «Кнігадрукаванне і камунікацыі: гісторыя і сучаснасць»; «Кніга — асаблівы помнік гісторыі і культуры»; «Кніга ў эпоху інфармацыйных тэхналогій». Некаторым чынам менавіта гэтыя стратэгічна важныя тэмы акрэслены ў сілу таго, што наперадзе — у жніўні 2017 года — Беларусь будзе адзначаць 500-годдзе беларускага кнігадрукавання. Святло Францыска Скарыны, сонца яго гістарычнай місіі да многага абавязвае. І мы збіраемся расказаць пра гэта ўсяму свету. Тым болей, што аснову для гэтага ў «Звяздзе» заклалі яшчэ некаторы час назад, выдаўшы па даручэнні Міністэрства інфармацыі краіны кнігу «Францыск Скарына на мовах народаў свету», калі пад адной вокладкай сабралі 72 пераклады аднаго верша першдрукара ў перакладзе на 64 мовы...

Як звяры,
што блукаюць у пушчы,
ад нараджэння
ведаюць сховы свае,
як птушкі,
што лётаюць у паветры,
помняць
гнёзды свае,
як рыбы,
што плаваюць у моры і ў рэках,
чуюць
віры свае
і як пчолы
бароняць вуллі свае —
гэтак і людзі
да месца, дзе нарадзіліся
і ўзгадаваныя ў Бозе,
вялікую ласку маюць.

(Пераклад Алеся Разанава).



Чынгіз Алі Аглу.



Слабадан Вуканавіч.



Аляксандр Казінцаў.


Святлана Ананьева.


Невена Вітошавіч-Чэкліч.


Георгій Прахін.

...Відавочна, кожнаму з удзельнікаў «круглага стала» будзе пра што сказаць. У кожнага ж — свая ўласная повязь з Беларуссю, беларускай літаратурай... Ведаю, што азербайджанец Чынгіз Алі аглу павінен прывезці ў Мінск паэму пра Хатынь, над якой ён працуе не першы год, ці хаця б асобныя яе раздзелы. Чарнагорац паэт і драматург, празаік і перакладчык Слабадан Вуканавіч раскажа пра свае памкненні па прапагандзе беларускай літаратуры ў старажытным чарнагорскім краі, у краіне Монтэнэгра. Дарэчы, Слабадан — часты госць у Беларусі. У яго вершах — адлюстраванні беларускай ментальнасці, беларускіх дум і перажыванняў за ўвесь свет. А таджык празаік, драматург, перакладчык, публіцыст Ато Хамдам, несумненна, вылучыць новы праект, звязаны з публікацыяй твораў сучаснай беларускай літаратуры ў Таджыкістане. Нядаўна па яго ініцыятыве выйшаў «беларускі выпуск» часопіса «Памир». Дапамогу ў рэалізацыі гэтага клопату Ато Хамдаму, таджыкскім калегам аказалі супрацоўнікі часопіса «Нёман» на чале з Аляксеем Іванавічам Чаротам. А следам і «таджыкскі выпуск» «Нёмана» зрабілі. Былі яшчэ і прэзентацыі гэтых праектаў — у Мінску і Душанбэ, былі рэцэнзіі, водгукі ў друку. Як вынік — шырэйшым стала веданне пра Беларусь у свеце.

Далучаюцца да міжнародных стасункаў і маладыя літаратары. Асабліва моцнай атрымліваецца повязь у гэтым кірунку з пісьменнікамі Расіі і Украіны. Шмат такім праявам спрыяе часопіс «Маладосць». Тут і пераклады друкуюцца, і ў значнай ступені творчая праблематыка развіваецца ў жаданні раскрыць іншыя літаратурна-мастацкія прасторы.

Вельмі шмат па развіцці стасункаў беларускай літаратуры з усім светам зроблена газетай «Літаратура і мастацтва». Што цікава, газета ўсямерна спрыяе прадстаўленню ў Беларусі так званых «малых» літаратур народаў Расіі. Што пішуць сёння ўдмурты, калмыкі, комі, аварцы, балкарцы, нагайцы, нанайцы, ненцы, марыйцы, якуты... Гэтаму, безумоўна, спрыяе работа цэлага атрада перакладчыкаў. Мастацкае слова іншых народаў — у полі зроку Віктара Гардзея, Казіміра Камейшы, Яны Явіч, Юліі Алейчанка, Адама Шостака, Рагнеда Малахоўскага, Навума Гальпяровіча, Таццяны Сівец, Марыі Кобец...

Прыемна, што «ЛіМ», ды і «Полымя» таксама, аддзячылі памяці Міхаіла Ханінава — беларускага партызана, калмыцкага паэта. Дзякуючы намаганням яго дачкі, вядомага літаратуразнаўцы Рымы Ханінавай, усталяваны добрыя стасункі Беларусі літаратурнай з Калмыкіяй. Як плён гэтых

намаганняў — новыя пераклады паэзіі Міхаіла Ванькаевіча, вершаў іншых калмыцкіх паэтаў на старонках «Літаратуры і мастацтва». Шкада, што яшчэ, праўда, не рэалізавана задума па перакладзе паэмы Міхаіла Ханінава пра Хатынь. Веру, што гэтую працу пад сілу адолець шмат каму з беларускіх паэтаў.

У апошнія гады ў беларускіх літаратурна-мастацкіх выданняў склаліся выдатныя адносіны з казахскімі пісьменнікамі. Найперш пастараўся ў гэтым кірунку нядаўні галоўны рэдактар часопіса «Полымя» лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Мікола Мятліцкі. Пераклаўшы кнігу вялікага Абая «Стэпавы прастор», ён нагадаў казахскім калегам, што ў Беларусі існуе сур'ёзная перакладчыцкая школа ў галіне паэзіі. Дарэчы, Мікола Мятліцкі выдаў у свой час грунтоўную аўтарскую анталогію перакладаў «Лучнасць», дзе прадставіў сваё бачанне паэзіі літаральна дзясяткаў краін. Казах Абай, аварац Расул Гамзатаў, удмурт Вячаслаў Ар-Сяргі, туркмен Сапармурад Авязбярдыеў... А былі ж яшчэ ў ёй паэты Кітая, Кубы, Чэхіі, Расіі, Кыргызстана, Таджыкістана...

Следам Адам Шостак пераклаў паэму таксама адметнага сучаснага казахскага паэта Галыма Жайлыбая «Чорная хустка». З'явіўся шэраг іншых перакладаў — у газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Полымя». Мікола Мятліцкі пераклаў вялікія падборкі вершаў Героя Казахстана Алжаса Сулейменава, выдатнага паэта сучаснасці Нурлана Аразаліна. Былі перакладзены апавяданне Амантая Ахетава, творы іншых сучасных пісьменнікаў Казахстана. У гасцях у Беларусі пабывалі казахскія пісьменнікі, літаратуразнаўцы Любоў Шашкова, Валерый Міхайлаў, Кайрат Бакбергенаў, Жанат Сейдуманаў, Святлана Ананьева, Алжас Сулейменаў, Анатоль Кім, Мурат Аўэзаў... Ужо толькі іх стасункі з нашымі перакладчыкамі, выдавецтвамі, рэдакцыямі часопісаў і газет, з Саюзам пісьменнікаў Беларусі — тэма ўважлівага вывучэння. Што, канешне ж, з часам і будзе зроблена.

А зараз мы чакаем новых сустрэч, новых перакладаў! Чакаем у перакананні, што жыць без сяброў, без сяброўства нельга!.. З гэтымі думкамі і ладзім чарговы раз сустрэчу пісьменнікаў розных краін за сяброўскім круглым сталом.

*Алесь Карлюкевіч, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда».*
*Фота Кастуся Дробава.*



Ато Хамдам.



Эдвард Мілітанян.



Вячаслаў Ар Сяргі.



# Бахром Рахматаў

**Бахром Рахматаў нарадзіўся 3 красавіка 1987 года ў Таджыкістане. Выпускнік факультэта ўсходазнаўства Худжанскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя акадэміка Гафурава. Аспірант і выкладчык гэтай установы. Працаваў адказным сакратаром літаратурнага часопіса «Паёмі Сугд» («Голас Сагдыяны»). Намеснік дырэктара Навуковага цэнтра імя Камаля Худжандзі. Выдаў 35 навуковых артыкулаў і два зборнікі вершаў.**

## Каханне і час

Мы клеткі ўсе павінны адчыніць,
Дзе птушкай паднявольнай здатна жыць
Каханне наша — вольны, годны лёт
Пашырыць свет да знаных тых шырот,
Дзе толькі сонцу і сузор'ям плыць.
Мы клеткі ўсе павінны адчыніць.

Мы адчыніць павінны клеткі ўраз,
Каб голуб здолеў апярэдзіць час,
Цюльпаны каб раскрыліся наўкруг,
Зазелянеў травою весні луг,
Каб зрэнка, дзе зардзелася сляза,
Усёй пяшчотай здолела сказаць:
Мы клеткі адчыніць павінны ўраз.

Мы адчыніць павінны клеткі ўсё ж,
Каб Чалавек, ступіўшы басанож,
Дакрочыўшы да званняў і чыноў,
Перш на вяршыні духу узышоў,
І дальш ішоў так — за вярстой вярста.
І гэткіх усяго — працэнт ад ста.

Мы адчыніць павінны клеткі ўсе,
Каб не пачуць, што голад нам нясе,
Як шматпакутным дзецям, боль і сум,
Дзе і Вялікдзень, як пакутны тлум,
А шчасце — блік на ранішняй расе…
Мы адчыніць павінны клеткі ўсе.

Мы клеткі ўсе павінны адчыніць,
Каб дзеўчынка, душа ў якой шчыміць,
Спазнаўшы промні зыркага святла,
Ў падол сумлення пазбіраць змагла
Надзеі іскры — з імі далей жыць.
Мы клеткі ўсе павінны адчыніць.

Мы клеткі ўсё ж павінны адчыніць,
Каб перш людзьмі пад сон-
цам гэтым быць,
Каб і стары пад ношай зім і лет,
Прайшоўшы гэты жорсткі, тлумны свет,
Век мог спакойна на зямлі дажыць.
Мы клеткі ўсе павінны адчыніць.

## Час

Кожную раніцу будзіць мяне званок мабільнага тэлефона,
Каб я ўміг пазбыўся нябеснае асалоды —
казачнага святла —
І апынуўся ў бескаляровым і бессэнсоўным
Паўсядзённым нашым жыцці.
Ды не… Здаецца, бессэнсоўным іменаваць яго не варта,
Не аднатоннае…
І для прыязнасці не стае часу?!
Раніцу кожную каля дастархана
Смех-пошчак званцовы дачушкі.
Напятыя струны маіх нерваў
увільгатняе спакоем
І спявае ўсмешліва: «Тата!
Прынясі мне зязюльку!»
Ды я, не пераступіўшы нат і хаты парога,
Пра цудоўнае пажаданне дачушкі,
Што важнае для яе такое,
Забываюся, быццам і ведаць не ведаю.
І чаму для любові не стае часу?!

Штораніцы па ўзбочыне дарогі
Ступае дзядуля бяссільны, стамлёны
і адзінокі…
З цікавасцю пазірае на людскі спрыт,
Сам як гара трывання,
сцінае ў грудзях вулкан гора
з усмешкай ледзь кметнай…
Ён супакойліва засяроджаны ў сабе амім.
Ды ягоныя думкі «гойсаюць», а ён сабе даводзіць:
«І жыццё гэткае кульгавае, як і я!
І чаму для любові не стае часу?!»

Штораніцы на прыпынку маршруткі,
Не даючы ходу другім,
Падбіраюць людзей.
Яны як «чалавекаадборшчыкі»
Патрабавальна «спяваюць»:
«Адзін не разлічыўся!» —
І з-за капеечнай рэшты з людзьмі сварацца.
І чаму для любові не стае часу?!

Дабяруся на працу
І для калег
Апроч сухога вітання
у скутай маўклівасці
Не маю вартага падарунка.
Мой стол упрыгожвае адзінокая ружа.
Ды ад заўсёднага недахопу ўвагі
Утапілася ў пыле.
І чаму ж для любові не стае часу?!

## Восень

І непадалёк ад мяне
плакала восень.
Заход,
І ні адзінага лісціка,
І голае дрэва маўчала.
І непадалёк ад мяне старая,
якая гандлявала цыгарэтамі
і прадавала кайф смертаносны,
Мармытала пра небыццё
І быццё…
Непадалёк ад мяне
Басаногі дзяцюк мыў машыну
дамачкі нейкай,
У якой сэрца цвярдзейшае за камень блішчасты кулона,
І мары бедака лопаліся бурбалкамі шампуню —
Выбух за выбухам.
Непадалёк ад мяне
п'яны жабрак падлічваў прыбытак,
І, каля яго тупаючы, разважаў згарбелы стары:
Я «нішчымніцу» гэтую куды панясу?
Хоць бы меўся прытулак…
І была восень пахмурай
Як і наша жыццё…
І непадалёк ад мяне
адна даражэнная іншамарка з гучным смехам і музыкай
Радасць панесла.
І засталіся Я, Восень і Смутак…

## Былое каханне

### *(Дзве газелі)*

Я чуў: ты, любая мая, па мне рыдала,
І, помнячы пяшчоту рук, сярод начы згасала.
І вочы поўнымі былі салёных слёз у цемры,
Як дождж над полем руж, няшчасная, рыдала.
У адзіноце патанала, агромністай, як мора,
Самотай скутая прагорклай, ты рыдала.
Пятлі падобна, што дыханне перацісла,
Ад болю страшнага, ад скрухі ты рыдала.
Душа мая ў зіндане, розум — ў кабале,
Скусаўшы вусны да крыві, ты ў ростані рыдала.
Я усхваляў дабро, вітаючы лік сонца,
Свет крык душы не ўчуў — і ты па мне рыдала.
Каханнем паланёны я — як птушка ў клетцы чорнай,
Па кім ты, муза, мной апетая, рыдала?

*

Сышло каханне, быццам салаўі адпелі,
Аб ранах у душы крычаць мае газелі.
Разбіліся, бы шкло, шчаслівыя імгненні,
Зламалася пяро, што несла мне натхненне.
Туга радкоў пустых — гучаць на зманны лад.
Каханне, што прайшло, мне не вярнуць назад.
Ад ростані я пасівеў — згас позірк ад пакут,
Нябёсы, поўныя агню, мне вынеслі прысуд.
Параненай лябёдкай больш табе ўжо не ўзляцець,
Зламала ты крыло — мне песні не дапець.

## Хвароба

Жыццё захварэла…
Я даланёю прыкрыў лоб сонца, ён ад гарачкі палаў,
Пот халодны расы цёк ракой,
Лісты, як нервозныя пальцы, дрыжэлі,
Далібог, жыццё захварэла.
У паліклініку рушыў.
Доктар няёмка сябе адчуваў без таблетак удзень,
Хворы бурчэў ад начной мітусні,
Хлапчук, зазірнуўшы, спытаў,
Дзе доктар Айбаліт?!

Бацька пры смерці.
Матуля яго галубіць…
Прыйшоў дзень хваравіты,
Прыйшла ноч хворая.
…Вечар у ложку дрыжэў ад грыпознае ліхаманкі,
Таблеткі поўні нямашака, каб стан свой палепшыць.
Колькі разоў мокрай анучай хмурыны
ні выціраў лоб начы,
Ды ноч засталася хворай.
О Божа, што за ранак такі,
Кашлем скуты і…
Як корань хваробы зорак драбнюткіх.
Раніца шарэе і бялее
Ад святла твар у доктара ці ад белае крыві
Жыцця хворага?
Мы ўсе чакаем хуткую дапамогу з надзеяй…

## Сон дрэва

Матуля мая была падобнай на восень,
Яе мары, як жоўтае лісце,
Зялёнае лісце — як кніга жыцця,
Плаваюць на хвалях малых ручаіны.
Лёс яе быў як урукавае дрэва —
Трывалі ўдары палкі плады,
Абломваліся галіны надзей,
Жыла адно дзеля сына.
Вучыла мяне, як быць садоўнікам,
Як песціць гранат і грушу,
Яе натруджаныя пальцы
Кратаць любілі вінаграднае лісце.
Матуля мая была залатой восенню,
Мы былі сытыя сенам яе валасоў,
Яе словы здаваліся салодкімі ягадамі,
Твар сонцам свяціўся.
Матуля мая была падобнай на восень,
Галінкі яе веек былі апушчанымі,
Як у дрэва, якое засынае зімой
І вясной абуджаецца…

*З таджыкскай. Пераклад Міколы Мятліцкага*



# Чэмен Анабердыева

## Сфатаграфуй мяне, фатограф

Сфатаграфуй мяне, фатограф, ну, хадзем жа!
Здымі — у поўны рост, ледзь-ледзь набок.
Найлепшыя ўпрыгожванні надзеўшы,
Я кіну выклік тым, хто пэўна меў папрок.

Здымі, і лепей так, каб відавочна
Ўвачч у зіхцеў іскрынак карагод,
Каб быў відзён у колерах паўзмрочных
Бляск воч маіх,
шчаслівых без нагод.

## У цемнаце

Прытаіліся дрэвы ў вечаровай цішы.
Маладзік заблукаў між сутокаў вышынь.
Чутны шэпат гарачы — жаданняў вянец —
Не жадае ўпусціць свайго шчасця хлапец.

— Скажы «так» — назаву цябе любай сваёй,
Я ў каханні к табе загубіў свой спакой.
«Так» скажы — і з мінулым пакончу я ўраз,
І ад жонкі былой не пачую абраз.

А ў грудзях у дзяўчыны адказ як наспеў:
«Так», ды з розумам сэрца ўступае ў сумнеў,
І варожыя думкі снуюць ў галаве:
— «Так», гары яно гарам,
ці ўсё-такі «не»?

Ды, хаваючы горыч, дзяўчына ў цішы
Таямніцаў сваіх выдаваць не спяшыць.
Шэпча вуснаў лагода:
— Прабач, і бывай!
За адмову маю ў сэрцы зла не трымай.
На гняздоўях чужых птушкам гнёздаў не віць,
На няшчасці другой мне шчаслівай не быць.

## Хто ты?

...І няма на зямлі месца смуткам пустым!
Ты са мной — і адпрэчу самоту.
Плача проліўнем неба надрыўна густым...
Ці ўратуемся ў ім і ў грымотах?
Ці сябры ж мы з табою, ці... Хто ты?

Растае, як туман у лагчыне, ці дым,
Ад вачэй тваіх — гіне нудота.
Усміхнешся — свет стане мізэрна-малым,
Калі ж глянеш мне ў вочы ты ўпотай...
Ці сябры ж мы з табою, ці... Хто ты?

Для сустрэчы нагода — якая бяда!
Ды і я ж не баюся ліхотаў!
Хоць і вымавіш потым: «Бывай! Мне шкада!»
Што ж, сваёй не кіруеш ахвотай...
Ці сябры ж мы з табою, ці... Хто ты?

Жар вачэй чужых — студзіш.
Запэўніся ты —
Гэта й праўда пустая марнота!
Мне не трэба вачэй чужых і пекнаты —
Толькі голас твой будзіць дрыготу...
Ці сябры ж мы з табою, ці... Хто ты?

Ад сяброўства да крыўды — хвіліна хады
І мяжа з недамовак згрызотных.
І маўчыш... Толькі вочы — яскравей вады,
Толькі вочы не зманяць, як, пэўна, і ты —
Ці сябры ж мы з табою, ці... Хто ты?

*З туркменскай. Пераклад Марыі Кобец*



# Жэня Моры

**Украіна, Львоў або Днепрапятроўск. Увесь час праводзіць за піяніна і знерваваным выкананнем пісьменніцкага кантракта. Раз на паўгода скіроўваецца з выступленнямі па гарадах і таму не выносіць цягнікоў, аўтамабіляў, трамваяў, самалётаў et cetera. Дзень пачынае з чытання навінаў, а заканчвае шклянкаю малака. Ставіцца да паэтычных штучак з непаразуменнем, выкарыстоўвае паэзію адно як спосаб камунікацыі паміж людзьмі ды ідэямі. Шавец у падзёртых ботах ходзіць.**

## Memento mori | але не сёння

### маё бяссонне

гэты ранак пахне калыскай
для ўсіх думак,
пажадных поглядаў,
жэстаў —
лішняй сціпласцю нетры пад'ездаў
раскрываюць перад намі дзверы.

ты не верыш ім,
і я не веру.
гэты пах зблытаць цяжка,
а гэтыя рукі, у дрыжыках акоў,
кранаюць думкамі мінакоў.

і хапаюць
іх утрымліваць на месцы
мне не хочацца,
глядзець у вочы і
папрасіць аб дапамозе.
сказаць: «зірніце!
гэта пачуццё гонару,
або маё нутро
заклікае да маладосці?»

раніца пахне няўпэўненасцю,
скаванай грацыяй,
жорсткай сумленнасцю —
я адлічваю вокны
бессэнсоўна,
але
калыхнецца фіранка,
дзверы адкрыюцца —
я сціскаю плечы яе
немагчыма,
але
вось адказ на ўсе мае пытанні.

гэтая раніца.

як жывеш ты,
маё бяссонне?

## расколіны

я затрымаўся ў расколіне паміж днямі,
паміж бульварамі
і алеямі.
тое,
што колісь рабіла мацнейшым —
зараз проста
робіць сумленнымі;

басанож па шкле,
да ўчорашняга дня; —
вострымі іголкамі
надвор'е залазіць пад скуру.
колькі сваёй натурай
залежных

блукае па вуліцах
у пошуках святла,
у пошуках сонца,
у пошуках шчырасці?

расколіны ў днях,
расколіны ў сэрцы —
закінуць слоўца
за тых, хто выпаў,

і час згубіў,
і страчаных ў часе,
захраслых, няшчасных,
і надламаных.

я затрымаўся
ў расколіне паміж днямі —
хто ўспомніць былое?
хто ўспомніць тое,
што
здарылася

паміж намі?

## ЦЭЛАСНАСЦЬ

Усё на свеце узважаць, ацэняць.
ахвярнасць —
быццам новая валюта;

аднойчы
я пакіну
вецер зменаў,
да ачага і ўтульнасці
прыкуты.

ўцячы пасля —
рэгрэс яшчэ адзін.

зарад матора ў сэрцы
на нулі,
і столькі дыму
без агню,
чужога мне
накрые
пачуццямі гарачымі
—
ў зіме
—
павяне лісце.

непазбежна
замерзнуць рэкі.

цэлым
як застацца
і паснуць?

ад высілкаў набухнуць вены,
саслабнуць пальцы, сціснуцца
ў кулак.

задача наша — падавацца
цэлымі,
нават калі гэта
зусім
не так.

## пстрычка

калі мой бацька ўпершыню сказаў мне,
што кіне паліць — мне было 7.
і з тых часоў кожны божы дзень
ён выконваў сваё абяцанне.
як толькі цыгарэта ператваралася
у недакурак
ён пстрыкаў пальцамі
і казаў:
«Вось я і кінуў».

калі я ўпершыню сказаў сабе,
што кіну паліць — мне было 20.
мне не было каму пстрыкаць пальцамі,
таму я ўспамінаў бацьку
і ўспамінаў гэты гук,
з якім кожная «апошняя»
ўцісквалася ў попельніцу
да канца.

калі мой бацька сказаў мне,
што не зможа больш кідаць
паліць
і хутка памрэ —
мне было 18.
я падняў галаву і скрозь слёзы сказаў:
«Я ж прасіў, я ж цябе засцерагаў!»
ён ударыў мяне, закрычаў
і таксама заплакаў.

яго жыццё — 40 пстрычак у дзень
маё — 22.
мой бацька працягнуў 60 гадоў,
а колькі засталося мне?

«прастора»
у маіх грудзях ёсць месца,
якое нішто не можа запоўніць

бясконцая прастора надзеяў,
ператворанае ў сметнік
няспраўджаных жаданняў.

пустка добрых спраў,
засыпаная пяском
непаразумення.

роўнядзь спакойнага возера,
ўзбуджанага каменем
непрадказальнасці падзей.

вусцішны лес слоў,
што гніе пад цяжарам
цішыні.

ды
дзесьці ўсярэдзіне ёсць сапраўдны я
і дзесь унутры ёсць сапраўдная ты.

у маіх грудзях ёсць месца,
якое я ніяк не магу запоўніць —

і ў гэтай прасторы
блукае маленькі хлопчык,
што задзірае нос.
у змятай вопратцы, з замучаным поглядам
і мяшкамі пад вачыма.

я вяду яго праз поле,
спадзеючыся, што калі-небудзь ён падыме галаў,
пабачыць сонца
і зможа па-сапраўднаму
ўсміхнуцца.

## я веру ў лепшае але не сёння

размалёўваеш дзень
фарбамі,
алкаголем,
людзьмі —
на палітру дня
выплёскваючы.

што будзе з тым, хто не прасякнуўся
гэтай карцінай?
чаму столькі людзей
праходзіць міма
мяне?

дзверы — адкрытыя насцеж,
па калідорах шпацыруе скразняк.
навобмацак, белымі сцяжкамі
маё нутро
сшывае восень.

і лепшае блаславенне —
гэта прачнуцца без галаўнога болю;
без настрою, што шэпча
«а ці варта?»,
без рук дрыготкіх,
ног, якія спяшаюцца з абрыву —
ў мора.

пераціскае жгутом сумневу,
пускаю ў кроў іншыя
лекі:
навобмацак — цёплыя,
на смак — гадкія,
усе, без астатку.

погляд блукае па сценах,
нервова сціскаецца ўсё ўнутры
я веру ў лепшае,
але не сёння —
а ты?

*Пераклад з рускай Маргарыты Латышкевіч*



## Ігар Астапенка



**нарадзіўся ў Белай Царкве. Аспірант Інстытута літаратуры НАН Украіны. Удзельнік Кніжнага арсеналу, Львоўскага форуму выдаўцоў, ГогальФэсту, «Мастацкай платформы», «Арт-каўчэга», фестывалю Аб'ёмнай паэзіі, Міжнароднага паэтычнага фестывалю «Terra poetica» і іншых. Асобныя вершы перакладзены на італьянскую, рускую, беларускую, англійскую, польскую, грузінскую, чэшскую мовы.**

# Спевы маўклівага саду

### Выразанка памяці (ліхатамія)

мы сядзелі на беразе вечара
і выразалі памяць

вось табе фігурка здрады
вось табе сняжынка роспачы
вось табе краска страты
вось табе мятлік болю
божа як многа мятлікаў!

трымай разбіты самалёт
маёй веры
а гэта дамок
з маімі грахамі
хочаш у ім пагрэцца?

а гэта ластаўка
леташняга суму
а гэта пацеркі
з дзіцячых слёзак
толькі не разарві
яны мне дарагія

зірні — вось анёл
майго бацькі
(а чаму ён з адным крылом?)
а гэта трохколерны салдацік
(таму ў яго адно крыло)

мы выразалі памяць
і нашыя задыханыя рукі
сцякалі крывёй успамінаў

божа як многа мятлікаў!

## Футбол

хлапчукі што граюць у футбол
на бетоннай пляцоўцы каля таварных складоў
ведаюць што такое каленныя чашачкі
з чырвонай да чарнаты вадою

хлапчукі кураць трыснёг
а пасля адну на ўсіх цыгарэту
атрыманую ад вартаўніка за цэлыя дзверы
толькі потым граюць у футбол
граюць а не гуляюць
бо гуляць гэта іншае ў іх разуменні

у хлапчукоў адна на ўсіх галава
без вачэй без вушэй не раўнуючы мяч
у хлапчукоў адна на ўсіх душа
як разбіты ліхтар ля таварных складоў

у стаўку дзе хаваюцца ду□хі жаб
хлапчукі мыюць ногі
ценькія як трыснёг
выціраюць вільгаць трыпутнікам
які ваўсю за зялёных заўзее

хлапчукі падрастуць і сыдуць
нехта стане дзядзькам а можа і не
і хто ведае ці прыйдуць на іх месца новыя
і ці будуць душу з мяча выбіваць

хлапчукі падрастуць і сыдуць
і камусь закарціць вярнуцца
бі ў браму! прагучыць у вушах
бі ў браму!
ці жыве ў табе хлопчык яшчэ?

## (Думаў)

калі душа
працілегласць цела
то ў рыбы (думаў)
душа шорсткая

чысціў яе жоўтымі рукамі
трыбушыў заўзята
сытымі рухамі
вымаў вантробы
зазіраў у хрыбет
у вочы яе ўсмоктваўся сваімі
шукаў яе душу
як арганаўты

чытаў гэтай рыбіне
вялікай — раманы
маленькай — хайку
фаршыраваў яе цытатамі
карасёў — з Антоныча
фугу — з Басё
думаў хоць так
душа адгукнецца

на чарвякоў сваіх думак
хацеў яе злавіць
лавіся душа
вялікая і малая!

нерваваўся
раздражняўся
не бачыў яе
быў да таго
сляпым
што не заўважаў
як яна мне ўсміхалася
паміж лускою
на руках

*Пераклад з украінскай Алеся Емяльянава-Шыловіча*

## ДЗП

у дзень збору парэчак
патаемны дзень збору парэчак
у храмах кустоў моляцца чорныя рукі

чорныя рукі прычашчаюцца ягадамі
чорныя рукі вызнаюцца перад ягадамі
мы ўсе роўныя перад богам
у дзень збору парэчак

мы ўсе роўныя перад кустамі
як і яны перад намі
і той самы высокі бабнік
і той худы сціплы паэт
і той голы абарваны збянтэжаны
быццам хлопчык на літургіі
які не ведае
калі хрысціцца

## Варэнне

вочы баяцца а рукі робяць
жоўтыя чарэшні ляцяць у міску

маці казала калісьці: «розчерепаню»
злая была маці не ведала як быць
дзеці раты хавалі ў далоні
быццам чарэшні ва ўлонні кісцяў

маці слязьмі ў варэнне сыпала
цукар з мяшка бадзёра выскокваў
міска цяжарала дзеці мурзатыя
цішу трымалі ў шчоках абветраных

маці крычала голас хацеў павесіцца
суседзі прытулілі вушы да банак літровых
дзеці хацелі плакаць кроплямі кукурузнымі
бацька маўчаў расхрыстаны
бо праз яго

госпадзі госпадзі госпадзі
абыякава мне ўсё гэта
час дурны выслізнуў
быццам чарэшня з далоні
на языку мінулае
сокам п’янлівым нясецца
але варэнне божа
няўмольны божа
да гэтага часу салёнае!

## Працэсія

вінаградныя гронкі што змірыліся з лёсам
таму што не здольныя папярэдзіць сваю спеласць
не лезуць у рукі але здольныя ўлезці ў душу
хатнім душэўным віном
смачным п’янкім выстаяным сумленна

мы нясём смяротныя бочкі з вінаградам
а ў смяротных місках адбываецца горшае
памятаеш мы скручвалі сунічныя галавы
так гэта былі яшчэ кветачкі
павер гэта былі яшчэ кветачкі

а зараз ходзіць-блукае звілінамі
вінаградны дзядзька
моліцца бесперапынна
за кожную святую гронку
б’ецца ілбом аб нашы далоні
як аб Саборную падлогу

дванаццаць апосталаў
дзесяць пальцаў і двое вачэй
нясуць вінаград на пакаранне

аве Марыя
спявае наш маўклівы сад
зачыняючы слёзы
разгалістым вінаградным лісцем
якое ўсё роўна не трэба

## Арэх!

*школьным дрэвам «метрафобіі»*

на старым арэшніку дзеці страчалі раніцы
выразалі дні ў карчыстым ствале
цалаваліся дзеці пад разгалістай мантыяй
у шчокі ў вусны ў шыі
языкі слінявыя пускалі

на старым арэшніку
на лапчастым добрым дрэве
у будане трухлявым
дзеці вучыліся забіваць
колькі вас імклівых
мурашак камароў і божых каровак
на руках у дзяцей перастала дыхаць
царства вам паветранае!

распадаліся дні і ночы
і краіны і сусветы распадаліся
як арэхавае шкаралупінне
дзеці дымам смярдзючым арэх асвячалі
і цалаваліся зноў
ужо па-цыганску

о вялікае раскідзістае дрэва
колькі тваіх дзяцей паскідана ў мяшкі
як мёртвых невядомых воінаў
колькі твайго лісця патоплена ў гарэлачных банках
як сляпых кацянят
(але божа колькі вы бачылі!)
мы цяпер з іншымі галасамі
мы цяпер з вялікімі галовамі
ўсё ж так цалуемся
пад нейкімі чужымі дрэвамі

о разгалісты вартаўніку часу
ты стаіш цяпер пад белым плоскім сонцам
і горка ўсміхаешся сотняй зялёных вачэй
а я сумны дурны з калючай шыяй
ем гарачы бабін пірог з арэхамі
і не магу памерці

*Пераклад з украінскай Марыі Кобец*

*Больш вершаў — на партале «Сугучча»*



# Прасякнутыя часам

***Вершы маладых украінцаў***

## Аня Невіркавец

***

жанчыну, якую б я, напэўна, кахала,
калі б не была сабою,
пакахаў і ты
і цяпер мяне папалам
раздзірае
штосьці з сярэдзіны.
ты і яна. / .яна і ты

так хочацца сказаць:
«адзінае, што вас лучыць —
я»
так і хочацца,
але маўчу
колькі я ўжо маўчу?
ды ўжо да чорта
толькі ўсё гэта дым.
хоць паліць тытунь ці масты
забаронена
жанчына, якую б кахала,
кахай,
бо я не ўмею.
жанчына,
кахай.

***

размаўляючы пра Морысана
забываюся адключыць ваду
яна сцякае на падлогу
і напаўняе сабой мой свет.
А ты падтрымліваеш гутарку,
разбуваючыся
і падплываючы бліжэй да агню
— вада ж халодная
а на пліце закіпае імбрык.

чаюючы бавім час
а вада падыходзіць да горла
толькі хочацца пракрычаць,
што Морысан быў геніяльным!
я ўжо амаль задыхнулася
ужо, здаецца, памерла
а мы ўсё размаўляем пра Морысана

табе, відаць, трэба ісці
але кіслароду ўсё меней
тады застаешся целам

нарэшце ўспамінаю пра ваду
разумею — нам з табою пашанцавала
вокны ж адкрытыя
і наша вада пайшла сабе прэч
так мы з табою не патанулі
гутарачы пра Морысана
і нават не сталіся рыбамі
і ты зноўку дыхаеш
і я зноў адпускаю цябе
хадзі за вадою
хадзі сабе

*Пераклад з украінскай Алеся Емяльянава-Шыловіча*

# Ганна Ютчанка

## Пасля дажджу

ноч слізгае з-пад пальцаў
мокрай алівай
і коціцца далей ад мяне
крэсліць кола

а мне яшчэ ісці далей доўгім шляхам
вуліцы танчэюць
з кожным крокам маім

іду ў цемру што халаднее і глыбее
як след на сырой зямлі
пасля дажджу

мінаць ліхтары —
келіхі напоўніцу налітыя святлом
што ліпне і пахне алеем

мінаць будынкі
на якія раней на зважала

мінаць вокны
бы вочы
якія бачылі ўсё

глыбей паўзці ў цемру
сырую такую дзе не бачна
як заходзіць у рэчку камень
скрозь каламуцце

дзе цень мой знікае
ў акрэсленым коле

на дне ў святле месяца
што захраснуў аліўкавай
косткаю

***

Я павінна б з табою сястра размаўляць часцей
распавядаць пра тое як напярэдадні зімы
цені гусцеюць пад дрэвамі ў маім двары
пра тое як яны быццам смала
непрыкметна ліпнуць да ног
і як я мінаю гэтыя нерухомыя слупы
забываюся на цень лесу
што цягнецца
за мною

павінна б распавесці табе пра тое
як ціха ў горадзе ўначы
я чую як замярзае раса на галінках
як зарастае інеем самотнае ржышча
як ціха і роўна ты дыхаеш сястра
пакуль за шыбамі вокнаў тваіх
тонуць у імгле гэтыя восеньскія вогнішчы —
раскіданае насенне ў цемені

і толькі калі раніцою знаходжу ў чорнай траве
іх згаслыя целы — сырыя арэхі

толькі калі станаўлюся паслухмяней і цішэй
вады пад ільдом возера

толькі напярэдадні зімы
з табою часцей размаўляю

і чую як цень густы
нас кранае сястра
адзін
на дваіх

## Першая квецень

у першую квецень гэтай вясны
я ні на што не чакаю
ўвечары назіраю за сонцам
маладой травы

спасцігаю
як прыгожа квітнеюць дахі і вуліцы
квітнеюць бледныя аблічча мінакоў
што абыходзяць мяне

мяне якая ні на што не чакае

і вокны шматпавярховікаў
налітыя святлом
маўляў саспелыя плады
што віснуць над мною

спасцігаю як усё лягчэй і цішэй
робіцца ўвечары

як далёкі ліхтар у цемры
асыпаецца жоўтым цветам

як на небе
бы на вільготнай зямлі
квітнее сонца след
які месяцам завецца

і ў гэтай квецені белай
я бачу маё безыменнае цела
зрэшты ўваходзіць яно ў цень свой
бы ў глыбокую рэчку

усё стае лёгкім
і ціша наўкола
паўстае

у першую квецень
гэтай вясны

*Пераклад з украінскай Адама Шостака*

## Маўчанне, якое спыняе ўсё

*Анры Мішо*

і калі прагнеш цішыні
гаворыць мне
ідзі да ракі
там перад залевай святло
апускаецца на глыбіню
нібы распалены камень
стомлены ад чакання

ідзі да ракі пакідаючы дом свой
дзе ў вокнах ад ветру дрыжыць шкло
як застойная вада ў шклянках

пакідаючы вуліцу сваю
па якой удзень каціцца сонца
нібы толькі што выпушчаны з рук прадаўца
жаўтабокі апельсін

пакідаючы горад свой
з якога ўвечар спадаюць чорныя цені
нібы алівы з галля на зямлю

паэзія
гаворыць мне
гэта яшчэ адзін спосаб маўчання
глыбокага і роўнага
у якім чуеш
залеву што раптоўна пачынаецца над ракой
смех дзяцей што хаваюцца пад дрэвамі
прыціскаючыся спінамі да ствалоў
скрыгат шыбаў старых вокнаў
якія зачыняюць суседзі
кроплі што павольна разыходзяцца
коламі па вадзе
апускаючыся на глыбіню

чуеш як твае сляды
што стомленыя ад чакання
парастаюць тонкімі ценямі
пад вільготнай травой

пасля раптоўнай залевы
гаворыць мне
чуеш любоў і цішыню
якія ў тваім целе
гадуюць
словы

*Пераклад з украінскай Алісы Мінінай*

# Катруся Танчак

***

кажаш усё добра а чую зямля зямля
то мора маё высахла на ўсходзе
і цяжка стае шкарлупінай карабля
чапляцца за хвалі
і вадзяную роўнасць.

кажаш не трэба а я ўсё трымаю стырно
і бераг чамусьці губляць пачынае рысы
а мы не снягі а бачыш як замяло
цяпер толькі прыпыніцца і ты прыпыніся.

я думаю так я рвуся туды ісці
звяры разыходзяцца нібы пад скурай рэбры
і лісце цвіце. ты кажаш вядзі вязі
вязі мяне як калумб

гаманец са срэбрам

не трэба не прапануй мне сваё плячо
я ў болю тану на мне камяні і словы

хто я цяпер напужанае дзяўчо

руйнуеш мяне
каб збудаваць нанова.

***

вось табе дом як ракавінка на спіне
цісне гавораць як ты заслала нізка
цісне пытаюць хто прыйшоўся хто не
сонца залазіць няроўным шчарбатым дыскам

у люстраное шкло. І колькасцю кніг
лічыш асенні час вымяраеш стому
вось табе іншая скура і трэці ўздых
цісне — то бок ты дома.

*Пераклад з украінскай Алісы Мінінай*

# Вікторыя Дыкабраз

***

Паміж намі розніца, як паміж вышнімі і чарэшнімі[1]:
Ты кажаш пра колішніх — я пра цяперашніх.

Вострыш для мяне нажы — я рэжу яблыкі.
Гэты лістапад — люты са смакам патакі.
Ты гатовы прымаць смерць і мяне
з усмешкаю.

Я сцвярджаю, Бог — жанчы-
на, і Ён са мной пагаджаецца.

Хіба дарэмна складаю з тваіх рухаў азбуку?
Ну, хадзі ж да мяне, зямля хістаецца.

*******

Час — паганая рэч:
ад яго знікаюць шнары і гузакі,
і іншыя твае цыдулкі.

Іншая рэч — памяць:

дома
я досыць часта б'юся ў люстра там,
дзе ў цябе
пачынаецца калідор.

**Кароткі верш пра будзённыя рэчы**

Смерць цягнецца за табой
нібы рука па

запальнічку.

*******

Людзі глядзелі на мяне і пужаліся.
Глядзелі — і пужаліся,
што ў мяне шырока расплюшчаныя вочы.

Так быццам у іх праходзяць усе акіяны.

Шырока расплюшчаныя вочы —
як шырока расстаўленыя рукі. Я заўсёды
вылучалася на фоне класа

нетыповымі сімпатыямі да літаратуры
і самааналізу.

Потым зразумела, што нас такіх — не адзінкі,
а зрэдзьчас і не нулі. Навошта гэта?

Мы кідаем выклік сістэме —
яна вяртае нам яго, быццам палку.

*Пераклад з украінскай Алеся Емяльянава-Шыловіча*

[1] Граматычная гульня слоў.

# Міхайла Жаржайла

## Пінакіяда і тарантэла

я ляжу на спіне на падлозе як дрэва
ссечанае і прасякнутае часам
мае вочы зарастаюць лісцем
у носе маім гняздуюцца восы

я плыву па рацэ нібы пінокіа
а ворагі на беразе застылыя як балваны
крычаць
гэй гэй выходзь!

а мой нос даўжэе і расце
цягнецца да неба й дубянее
у паветры свішча як спінінг
рассыпаецца салютам

а вагонка на сценах папросту драўляныя вадаспады
і неба нада мной драўляны саркафаг
што сыпле парэшткамі дошак
а падлога то лес што цячэ
і бумерангі маланак
складаюцца ў паркет

а павучкі на кроквах з-пад страхі
ткуць драўляную павуціну
якая напаўняе прастору пакоя
хвалюецца
расхіствае берагі

мая апошняя здабыча загорнутая ў скрутак
дэкаратыўнай драўлянай калоны

а наступныя ахвяры ўжо падымаюцца
лесвіцай да майго навесу
трымаючыся за драўляную спінку
майго носа

лавіся вораг
танцуй пад маю вуду
вялікі і маленькі

## О мама музыка

музыка ахутвае вушы быццам цёплая похва
нічога не застаецца
толькі што нырнуць назад у яе
павярнуцца

о мама музыка!

складаеш пальцы як старавер
паглыбляешся як умееш

у лепшым выпадку атрымоўваецца
нырнуць далонню
а другой перагортваць ноты

музыка ахутвае вушы
музыка ахутвае нос і вусны
падбародак
кадык
ды не праходзяць плечы

таму абедзвюма рукамі ўжо вільготнымі
ад антысептыку
трэба асцярожна надрэзаць жывот музыкі
ўзяць сябе ў рукі
згарнуцца клубочкам
загарнуцца ў пупавіну
як немаўля валторны
зашыць жывот знутры
меднымі струнамі
і заснуць
заснуць
заснуць

***

карцінка якую ты лашчыш
драўляны фантан старой вішні
капліца шпакоўні дзе пасяліліся сінічкі
пудзіла чарэшні
закручаныя краны цюльпанаў
заблытаная гарнітура вінаграду
тачпад дзвярнога кілімка
запаволеныя йо-йо слімакоў
прыціхлая ў кустах парэчак антылопа сну
натапыраныя рукавіцы
дом з непакрытай галавой
капялюш у руцэ
але
на бераг гарызонту выкінуўся гранітны кіт кар’ера
выбухі пароды кананада дыхання
фантаны дыму
за імгненне да гэтага
журавель студні ў ролі сапраўднага жураўля
мужчына ля калодзежа ў ролі сапраўднага мужчыны
вада ў ролі вады
і сонца ў ролі сонца

*Пераклад з украінскай Адама Шостака.*





# Руслан Гаравы

**Руслан Гаравы — украінскі журналіст, аўтар і кіраўнік праекта «Служба розшуку дітей», заслужаны журналіст Украіны, рэжысёр кароткаметражнага і дакументальнага кіно, пісьменнік, паэт. Аўтар кніг «Країна «У»», «Buenosdias, chica», «Гагарін і Барселона», «Ген воїна», «Казки на ніч» і іншых.**

## Васіль Сямёнавіч

Калі ў Васіля Сямёнавіча нарадзіўся трэці сын, ён узяў вяроўку, падхапіў правай рукой зэдлік і, накарабаўшы на абадраным кавалку паперы колькі слоў жонцы, пайшоў горадам да рэчкі.

Ішоў Васіль цяжка. Ногі, якія былі, не зважаючы на майскую спёку, абутыя ў кірзавыя боты, зануралiся ў зямлю і непрыемна чвакалі. У думках быў сапраўдны хаос. Васіль ішоў да старога арэха, які пасадзілі яшчэ калісьці ў дзень яго народзінаў. Ішоў з канкрэтнай мэтай: закінуць вяроўку як мага вышэй на галіну, зацягнуць на шыі пятлю і… толькі б не бачыць гэтага свету.

Двое папярэдніх сыноў — сямнаццацігадовы Слаўка і амаль дваццацігадовы Мікола — ужо даўно сталі прадметам здзекаў сялян. Не толькі дзеці, але і дарослыя час ад часу адпускалі наўздагон Васілёвым сынам страшныя ды абразлівыя словы. А цяпер… цяпер пра такое не хацелася нават думаць.

Абышоўшы чарот, Васіль цяжка сеў на беразе каля арэха. Па вадзе, разразаючы яе, быццам лязом, бегалі ашалелыя вадамеры, недзе ў вышыні цвыркала птушка. Заржаў на полі суседскі конь. Аднак гукі, якія раней бянтэжылі душу, зараз чамусьці выклікалі агіду.

Ну што ж так, думаў Васіль, жывеш сабе, як усе, з ранку да ночы ў полі, потым па гаспадарцы, аж раптам трое сыноў і ўсе мурыны. Усе вакол белыя, а яны чорныя. Нават каваль-цыган, і той, у параўнанні са Слаўкам, не іначай як у крэйдзе выкачаўся.

За што такая кара? Вось старшаму ў ПТВ ісці, а ў раёне за яго цямнейшы хіба што мармуровы Шаўчэнка каля мясцовай рады. А сярэдні? У школе хіба яго Міколам завуць? Чорта лысага! То Патрысам Лумумбам, царства нябеснае мужу, то Тарзанам. Самае прыстойнае, але і тое рэдка, Шахцёрам.

Васіль кінуў недапаленую самакрутку проста на бераг, высмаркаўся і пайшоў да арэха.

Ніжнія галіны дрэва ўжо былі моцнымі. Такія б лёгка вытрымалі на сабе цела Васіля. Ён пастаяў, глянуў навокал і прывязаў вяроўку.

Сумныя часы, мільганула ў галаве ў Васіля, не людзі вакол, а звяры. І чаго чапляюцца да нас з Марусяй? Не п'яніцы, у сям'і яшчэ ніхто з голаду не памёр, дваіх сыноў выгадавалі і трэцяга нарадзілі…

Васіль цяжка сеў пад дрэва, вяроўка выслізнула з непаслухмяных рук. Галава ўпала на старую, выгаралую ад сонца сарочку, і па шчоках пакаціліся слёзы.

За што? Васіль расціраў тылам далоні салёную вільгаць па твары і скуголіў, як пабіты сабака. За што, Божа праведны?

Хіба ж дзеці вінаватыя? Ці вінаваты я, што калісьці прапрадзед, які ваяваў за Напалеона, патрапіў у палон да дзявочай прыгажосці прапрабабулі і замест Францыі асеў тут, пад Палтавай? Ці вінаватыя ўсе нашы пакаленні, што не павесіліся вось так у гарадзе, як я, а жылі, кахаліся, і нараджалі наступных вырадкаў роду людскога? Ці можа бацька, які загінуў у Вялікую Айчынную, бароначы сваю зямлю? Хто? Хто вінаваты? Каго пытаць?

Ад страшнага сардэчнага болю Васіль на імгненне страціў прытомнасць і нават, пасунуўшыся па ствале дрэва, зваліўся на бок. Праўда, сырая берагавая зямля і духмяная трава хутка вярнулі яго да жыцця.

Досыць, прашаптаў Васіль, паднімаючыся. З мяне хопіць. Няхай сыны як там хочуць, а я жыць болей не магу. Думаў, хоць трэці народзіцца белым, фельчар казаў жа, што гэта магчыма, а яно вось як. Ды і фельчара таго, шэльму, тут бы поруч павесіць. Тры разы казаў, быццам магчыма, што будуць дзеці як дзеці, а выйшлі ўсе як вуголле.

Васіль моцна прывязаў вяроўку да галіны, зрабіў пятлю і паставіў пад яе зэдлік. Выцер твар сарочкай, аднак не стаў на лаўку, а нешта згадаўшы, зноў пайшоў да рэчкі. Васіль зайшоў у ваду па пояс, зняў сарочку і кінуў яе ў плынь.

Закарэлае рыззё амаль адразу пайшло ўглыб.

Вось так і я, падумаў Васіль, і пачаў умывацца.

Патрэсканыя ад працы далоні, як каўшы, ўвайшлі ў ваду. Ён зачарпнуў вады, паднёс яе да твару — і знерухомеў. З маленькага азярца між далоняў на яго глядзеў твар старога, забітага жыццём чалавека. Валасы, ужо даўно сівыя, не іначай першы зімовы іней, вылучаліся на фоне цёмнага ілба. Няголеныя чорныя шчокі ішлі ў кантраст з чырвонымі ад слёз вачыма.

Васіль узняў рукі ўверх і што было сілы ўдарыў аб ваду.

— А якія яшчэ дзеці павінны нарадзіцца ў мурына? — прагучала з возера. — Якія? Можа, жоўтыя? Ці блакітныя? Якія? Адкажыце! Чаму вы ўсе больш за мяне чакалі, што трэці сын будзе белым? А ведаю чаму! Бо мала смяяцца з Марусі, што пабралася шлюбам з вырадкам, трэба яшчэ потым смяяцца, калі мурын народзіцца! Скаты! Нелюдзі!

Васіль, як нейкі страшны бог, выйшаў з рэчкі і, адшпурнуўшы нагой зэдлік, пайшоў да сяла.

— Я вам пакажу і Патрыса Лумумбу, і Тарзана, і шахцёраў. Вы ўсе ў мяне ў вуголле ператворыцеся!

Чорныя плечы Васіля зіхацелі на сонцы, ён нібы крыху вырас. У налітых крывёю вачах іграла прага помсты.

Першым на яго шляху апынуўся мясцовы фельчар…

# Мятлушка

*Ані Харчанка,*
*найлепшай мятлушцы ў свеце.*

Чаму Наталля раптам прачнулася, яна не адразу зразумела. Недзе ў падсвядомасці ёкнула: поруч нехта ёсць. Наталля расплюшчыла вочы і пабачыла каля ложка мужчыну. Сказаць, колькі яму гадоў, было цяжка — магчыма, трыццаць, а магчыма, пяцьдзясят. У свае дванаццаць Наталля бачыла толькі, што ён значна старэйшы за яе. Мужчына сядзеў на крэсле каля яе ложка, накінуўшы на плечы халат, і ветліва ўсміхаўся. Наталля спрабавала ўстаць, аднак мужчына спыніў яе, асцярожна паклаўшы на яе руку сваю.

Вы прыйшлі, — ціха прамовіла Наталля.

Прыйшоў, — таксама ціха адказаў мужчына.

Я ведала, што вы хутка прыйдзеце, нават чакала гэтай сустрэчы, хоць і баялася.

Дзяўчынка павярнула галаву ў бок акна. Па шчоках самі сабой пацяклі слёзы.

Я і цяпер баюся.

Натальчын позірк паплыў па правадах і трубках, што цягнуліся ад яе рук да медыцынскіх апаратаў, якія час ад часу міргалі рознакаляровымі лямпачкамі. Упаўшы на падаконне, дзе ў слоіку стаяла некалькі рамонкаў, яе позірк на момант затрымаўся на невялікай расколіне ў фарбе на аконнай раме і выскачыў на вуліцу. Асенні вецер зрываў апошняе пажухлае лісце старой яблыні.

Я і зараз баюся, — ціха паўтарыла Наталля.

Не бойся.

Я ведаю. Я ўвесь час думала, якой будзе наша сустрэча. Намагалася вас уявіць, аднак нічога не выходзіла.

Наталля спрабавала стрымаць слёзы, аднак яны падступна цяклі па шчоках.

Не плач, — мужчына асцярожна пагладзіў тую Натальчыну руку, на якой не было дратоў і трубак.

І што цяпер? — плюхнуўшы носам, спытала Наталля.

Цяпер? — мужчына на хвілінку задумаўся. — А цяпер я раскажу табе казку.

Мужчына забраў сваю руку з Натальчынай, паправіў халат, які злез з пляча, і склаў далоні ў сябе перад тварам, не іначай збіраўся маліцца.

Жыў сабе ў адным садзе маленькі вусень. Штодня ён мроіў толькі пра адно — стаць мятлушкаю. Ён бачыў, як унізе пад дрэвам сярод кветак лётаюць маляўнічыя стварэнні, як яны кружаць у неверагодным танцы, як іхнія крыльцы блішчаць на сонцы. Маленькі вусень любаваўся мятлушкамі і моцна ім зайздросціў. Неяк адна стракатая паднялася ўверх і села на галінку недалёка ад вусеня. Яна была прыгожая. Крылы ў пышных узорах зіхацелі вясёлкай. Набраўшыся смеласці, вусень спытаў мятлушку, як стаць такім жа. І мятлушка адказала, што калісь таксама была вусенем, а потым спляла на дрэве кокан, загарнулася ў яго і ляжала там усю зіму, пакуль стала сабой. «А ці страшна было чакаць усю зіму ў кокане?» — цікавіўся вусень. «Страшна, — адказала мятлушка — Аднак іншага спосабу вырасціць крылы няма».

Я ўсё разумею, — ціха сказала Наталля. — Я ўжо не такая маленькая. Але гэты ложак зусім не кокан, а я не вусень і зусім не хачу быць мятлушкай.

Я ведаю, — адказаў мужчына. — Аднак ты не даслухала: быць ці не быць мятлушкай, ад вусеня не залежыць. Надышоў час — і ён зімуе ў кокане, а па вясне ўжо лётае над лугам, расправіўшы прыгожыя крылы.

Гэта значыць, ад мяне нічога не залежыць?

Так, — мужчына зноў пагладзіў Натальчыну руку. — Галоўнае — не баяцца. Не баяцца таго, што будзе.

Але ж я не хачу. Няхай я буду жыць вусенем, няхай, абы толькі жыць, — Наталля зноў заплакала, — вы зразумейце, я хачу **жыць**. Проста жыць. Проста **хадзіць**, **дыхаць**, няўжо я хачу так шмат?

Мужчына зноў лагодна ўсміхнуўся. Ён працягнуў руку і асцярожна пагладзіў Наталлю па галаве. Цёплая далонь прыемна лашчыла яе лысы чэрап, а потым спусцілася ніжэй да шчакі. Наталля мімаволі прыціснулася мокрай ад слёз шчакою да рукі мужчыны.

— Вы таксама калісьці былі вусенем? — ціха спытала Наталля.

— Так, — адказаў мужчына. — Усе мы да часу вусені. А мятлушкамі становяцца толькі тыя, хто гэта заслугоўвае. Некаторым, каб стаць мятлушкай, трэба быць вусенем даволі доўга, а камусьці дастаткова і дванаццаці гадоў.

— Дык калі вы мятлушка, матылёк, то дзе вашы крылы, — ціха спытала Наталля, прыціскаючыся шчакою да рукі мужчыны.

Ён асцярожна вызваліў сваю руку з-пад шчакі Наталлі, падняўся з крэсла і зняў халат. Наталля пабачыла за спінай мужчыны напаўпразрыстыя белыя крылы. Мужчына ўсміхнуўся.

— Давай руку, Наталка. Досыць сядзець у тым кокане. Хадзем.

— Куды? — Наталля і сапраўды была перапалоханая.

— На луг, да красак.

— Але ж я не хаджу. Я ўжо чатыры месяцы не хаджу.

— Ну тады паляцелі.

Наталля працягнула руку мужчыну і раптам адчула лёгкасць ва ўсім целе. Яна ўзнялася над ложкам, з рук павыпадалі трубкі з іголкамі і нейкія правады. У тое ж імгненне апарат, які стаяў каля сцяны, заміргаў лямпамі і завішчаў, а на экранчыку, дзе звычайна пульсавала, малюючы горы, лінія, з'явілася прамая. Наталлі стала лёгка, як ніколі, аж раптам яна адчула штосьці за спінай. Азірнуўшыся цераз плячо, яна пабачыла такія самыя, як у мужчыны, напаўпразрыстыя крылы.

Наталля яму ўсміхнулася, і яны, трымаючыся за рукі, праляцелі скрозь зачыненае акно. Дзяўчынка азірнулася, на момант замерла і пабачыла, што ў палату забеглі ўрачы. Яны замітусіліся каля ложка, на якім застаўся яе кокан. Наталля спытала ў свайго спадарожніка:

— А ці лекары, мая мама, і ўсе астатнія, яны шчэ доўга будуць вусенямі?

— Хто яго ведае… — сказаў мужчына і, узмахнуўшы крыламі, паляцеў з Наталляю на далёкі і яшчэ невядомы ёй луг.

*Пераклад з украінскай Мікіты Найдзёнава*

# Бо падаюць зоркі з неба
***Падляшша прэзентуе***

## Гжэгаж Шупілюк

### птушка

ты прыгожая
як чорная аксамітная птушка
поўная спакою

як чыстая рака
у якой адбіваецца сонца

ты даглядаеш свой таямнічы сад
у якім растуць дзікія ружы

чакаеш кагосьці
хто захопіць цябе сваімі хароствамі
хто будзе побач з Табой
і не сыдзе
калі прыйдзе момант пустэчы

бо каханне
гэта пертварэнне ў сонца

### добрыя словы

калі я сустракаю сябра
то даю яму шклянку добрых слоў
бо ўсё што мы аддаём вяртаецца

калі-небудзь я ўздымуся высока
неба запалае чырванню кахання
а я загляджуся ў душу чорнай ружы

тады сябар дасць мне
скібку звычайнага хлеба
прамые мае аслеплыя вочы
бо падаюць зоркі з неба

гэта тыя хто засталіся адрынутыя
бо не ведаюць што іх сонца
з'яўляецца ўсяго толькі чалавекам

цяпер мой сад пусты
хоць ён нясе ў сабе красу раю
прыходзяць сябры
як бедуіны па вадзе да аазіса
каб паразмаўляць пра Бога
і пра самоту

добрыя словы як чыстая вада
мае кветкі прагнуць яе
дзякую табе сябра
што ты ёсць

### ліст паэту-пачаткоўцу

пішаш пра матылёў
зялёныя лугі
на тых самым лугах
у Харватыі
забівалі людзей

пішаш чалавек добры
любіць бліжніх сваіх
паразмаўляй з кім-небудзь
хто быў у лагерах
смерці

пішаш
што хацеў бы быць
зноў дзіцём
быць нявінным
прачытай
«уладара мух» Голдынга

гляджу
на гэты свет
і пачынаю баяцца

ведаю і не ведаю
чаму



Ілюстрацыя Анеты Валута.

## белыя птушкі

святар прымае прычасце
каб ахвяраваць душу Богу
каб адчуць каліва боскасці

я збіраю палявыя кветкі
каб даць іх табе
каб адчуць каліва кахання

бо ў боскасці каханне
а ў каханні боскасць

мастак паволі накладае
фарбу на карціну
каб каліва прыгажосці
засталася назаўсёды

цяпер ты далёка
я пішу верш пра цябе
усе белыя птушкі майго кахання
ніколі не загінуць

*Пераклад з польскай Аліны Агрэніч.*

# Катажына Пёнтковска

***

жанчына чакае каб прытуліць да сэрца
павекамі прыкрытыя свае летуценныя вочы
заўважае кожнага мужчыну
які ў памяці — рамантычны
нібыта чытае з нот

сапраўдная жанчына з вачыма цыганкі
і з глыбокім голасам
як цыганская гармонія
узмацняе ў мужчыне
які жабрачыць кінутую з неахвотай
грашынку прывітання
смутак
каб пачуць
— Я твая маленькая

і на гук гэтых слоў
чайкі спадаюць галавою ўніз

сапраўдная жанчына
калі вецер падрывае ўгару сукенку
кладзе далонь на адкрыты клуб
як на белую лань

***

кожная жанчына
што ранак павекамі
расчэсвае сны і укладае
старанна пад павекамі

валасы ў яе яшчэ ўскудлачаныя
ад яго пацалункаў уночы
памятае гэтую слязу
якая на смак была кубікам цукру
калі бачыў яе скуру
у колеры кавы з малаком
расцягнутую на лапатках
як у звяроў

кожная жанчына
штораніцы бяжыць
знішчаючы рэшткі сну
з прагненнем
каб калі ўвечары
Бог падставіць далонь
Пакласці на яе картачку
з просьбаю
— «не раздзяляй Нас»

***

ты малая як цень
што змесціцца пад каменьчыкам
які нясе адзін мураш

ты малая як цень
схаваная пад лістком прарастаючай расліны
— калі яна з двух лісткоў
то толькі пад адным

Ты малая як цень
Што калі глядзець на сонца
З'язджае па павуцінай нітцы
А калі ў цябе будуць рудыя валасы
Ты будзеш як падстрахоўка ценю

***

Ноччу гук чутно
стукаючых сэрц птушыных

ветру за акном, што выпаў з павароту

чутно як месяц сябе зачэсвае заколвае
дробнымі галінкамі дрэў

чутно што я ўнебаўшэсце маю ў вачах
а ў майго мужчыны
паціху расце барада

*Пераклад з польскай Аксаны Ючкавіч.*

# Магдалена Назарук

## кругі

з балкона прыкрытага атрамантам
бачу сябе ўнізе
як шатаю колы
у садкім хаосе

я і мае эмацыянальныя станы
атручаныя летам

праца над сэнсам не спрыяе паэзіі
адкладаю ўсё на пасля

не маю выбару
ці хачу застацца чалавекам
тады чаму цяпер
загадвае мне выбірацца
што я сёння
што заўтра

уздыхаю
і засыхаю

## дэфект зроку

ляжаць радамі
гнілыя гісторыі
засыпаныя
хларафілам пластыкам і воскам
шматзначна маўчаць

нашу ўсё цяжэйшыя акуляры
ад пошуку чарговых шафаў
камбінезонаў форм
замарозь мае патрэсканыя далоні
а я буду…
нічым?

благаслаўлёны тыя што шукаюць

## сцэна з супермаркета

па алейцы ідзе мігрант-тэрарыст
і паляк-злодзей
кладуць у кошыкі
два бананы бляшанку сардзінак
і тры булкі

нешта павінна здарыцца
або ў гэтым маркеце ёсць бомба
або хтосьці ўкрадзе кошык са змесцівам

сябар каталік можа не вытрымаць
урэшце Польшча для палякаў
і Вялікабрытанія для палякаў
Германія Швецыя і Нарвегія

бедны Ісус
напэўна яго б сюды не пусцілі
бо не паляк
да таго ж габрэй

але што мы будзем забіваць сабе галаву
хадзем як сапраўдныя палякі
на кебаба

*Пераклад з польскай Ірыны Зімневай.*

# Віктар Левандоўскі

## Не крута быць дэкадэнтам

Не крута быць дэкадэнтам…
Божа даруй мне!
кінуў свой крыж
цяпер падняў яго
і далей іду
да Цябе

маю стрэмкі
і раны
але не
не памёр яшчэ
толькі ўпаў

цяпер устаю
і далей іду
да Цябе

да светласці
да шчасця

## Каханне незнішчальнае

bonjur mademoiselle

я запрасіў пані Смерць

анёл адкахання
кат сэрцаў

я прасіў яе:
*забі мне пачуцце*
*да маёй Liebe!*

паслухала
спрабавала
не дала рады

майго кахання
нават не зачапіла

## Саман ладна прыбраны

прадаў бы свой рамантызм
за пару абутку
з лепшай пэўна паліцы
але абутку…

ведаю
прыкрыя
notabene
універсальныя

здолеем прадаць
свае ідэалы і вартасці
як лёгка
без педантызму
проста так

маем іншыя прыярытэты
перамагае матэрыялізм

*Пераклад з польскай Святланы Дзянісавай.*



Ілюстрацыя Анеты Валута.

# Анна Раманюк

## Дзядуля

Калі ён памёр
пра гэта не сказалі ў навінах
не значыцца ён таксама
і ў слоўніку сучасных філосафаў
праўды яго так простыя
што ажно баляць несвядомасцю
запісаныя ўва мне
хаця зразумелыя позна

прабяжы праз жыццё даражэнькая
як босая ранкам па ржышчы
вось найглыбейшая праўда

## Жыдоўка

калі яна йшла
шэрым брукам мястэчка
адчувалі мужчыны агонь
што распальвае іхнія целы
валасы яе рудыя беглі
каскадам на белыя плечы
эсэсавец гвалціў іх руляй
чорнай як смерць вінтоўкі

ніхто ў мястэчку не верыў
што ўсшэсце на неба няпраўда
што Яхвэ дазволіў з’явіцца
ёй у воблаку з коміна дыму

***

У маленькім мястэчку час як гарачы асфальт
Прыклейваецца да падэшваў

Гадзіннік што памятае доўгую косу бабулі
Даўно ўжо не цэдзіць гадзіны

Толькі жыццё як на злосць
Усё дамагаецца нейкай працягласці плёну

Крохкае бы прывезены з Пецярбурга сервіз
Разлічвае трываць да апошняй
вышчарбленай філіжанкі

У маленькім мястэчку час кансервуе як ботакс
Лепіць на твары маскі без следу жыцця

***

памерла ўва мне тая вера
што жыцьму я толькі на спробу
што лепшыя месцы чакаюць
адсюль што магу ўцячы

страх цёмных забруджаных вулак
маім стаў зусім незаўважна
штодняназіраю ў люстэрку
маці стомлены твар

*Пераклад з польскай Святланы Дзянісавай.*

# Міраслаў Хадыніцкі

## А ты ідзі…

натоўп калышацца
плыве рака
шырокая і шэрая

няпроста знайсці сябе ў зборы
мільярдаў слоў
якія
выказваюцца
крычаць
часам заклінаюць
у вершах

трэба сачыць каб не збочыць
з правeранай плыні
памятай
бо патонеш

растаптаныя не маюць рацыі

седзячы на ўзбярэжжы
можна адно
сузіраць
ухваляючы
адзіна слушны курс

мэта
гэта ўжо іншая казка

## Ноч

Я так моцна хацеў бы быць з Табой
калі цябе няма

а ведаеш…
прамочаная ноч
прыгожая
прыбраная ў ціш і клубочкі імглы

доўжыцца нерухома

час таксама прыпыніўся
лічыць кроплі
на бязлістых галінках
збірае іх
сыпне пасля казкай пад ногі
ранішнім мінакам

я так моцна хацеў бы быць
з Табой

## Сакрэт

З акраўкаў кахання
сшыў ноч
каб накрыла штодзённасць

у сонца скраў пыл залаты
рассыпаў па млечнай дарозе
якая вядзе ўнікуды
але пра тое ша… ціха

не адбірайма ілюзій
у вандроўцаў

*Пераклад з польскай Святланы Дзянісавай.*

# Міхал Гжывачэўскі

## Маці

маці
на крыж прыбітая мною
ў той час як з хмараў
ішоў навальнічны дождж
якая стаяла за венецыянскім люстрам
калі я глядзеўся ў яго

вось я стаю прад Табою
без маскі з аголенай галавою
я што патануў у будучыні
забыўшыся на сённяшні дзень
я сухая трысцінка на ветры
ў Тваёй моцнай дубовай цішы
я тут маці

я ўстаў калісьці каб несці штандар
сцяг майго гонару сімвал эгаізму
вар'яцкім паглядам
я перасоўваў горы
каб легчы пад іхнім цяжарам

і дагнала мяне маці
гэтая злая істота – дарослацсь

я калісьці ўпаў
наперакор Тваім крылам.
я пачуваўся самотным побач з Табою
маці! Я адладзіў душу!
у ёй зноўку палае агонь
толькі ўжо не для Цябе

я адыходжу маці!
пакідаю штандар свой
сваё адзенне
я забіраю працу Тваю і Тваё маленне
пакідаю Табе поціск
цяпло ўспамінаў
забіраю знак крыжа
і ківок галавы

дабранач маці…

## Пакаленне

пакаленне недаўгавечных
зорак што блякнуць яшчэ
на золку
пакаленне п'яных без падпітку
нахабна трасучых бутэлькай

пакаленне маленькіх дарослых
што з'елі ўсялякі розум
пакаленне бедных у абдымках моды
што за жабрацтва
купляюць строі

пакаленне багоў без душы
з крыжам лёгкім цяжарам на шыі
пакаленне з камення
што і лёгкі вятрыска раскрышыць
няхай не думаюць
што напужаюць чуллівасцю

## Мармуровыя людзі

недатыкальныя пекныя цвёрдыя
з усмешкамі боствaў Поўдня
з вачамі багінь паўночных
пахмурныя ганарыстыя ганарлівыя
жывыя ідэальныя фігуры
рухомыя помнікі натуры
фенаменальныя рэальна нерэальныя
з рэльефам цвёрдым
рысамі завостранымі
вуснамі мяккімі
далонямі моцнымі
каханкі багінь
сыны божыя

адно што крылаў няма
адно што не хапае ім сэрцаў

*Пераклад з польскай Святланы Дзянісавай.*

# Людвік Філіп Чэх

## Прыватнасць

Сяджу над возерам
Вельмі прыватным
На беразе шыльда з забаронай
Купання і лову рыбы

Неба адбіваецца бяскарна
У гэтай прыватнасці
Вецер без большых
скрупулаў
Трасе трыснягом
Нават паганка сядае на вадзе
І не зважаючы на санкцыі
З вядомай мэтай
дае нырца

Толькі я не магу

Таму выцягваю сшытак
Чвэртку і каўбасу
І пачынаю пісаць верш
Не менш прыватны
Але пішу яго так
Каб слова
было запрашэннем

## Дзень Памерлых

Сяджу на агароджы магілы
Гледзячы як уваходзяць
На могілкавыя ўзгоркі
Целы

Маладое — з апаратамі
Старое — у апаратах
Барадатыя лысыя

Маё — крыху ўжытае
Акурат адпачывае
І на рахунку за ваду
Спрабую пісаць верш
Пра смерць

Нягледзячы на слабую веру
Ва ўласныя мроі

# Хенрык Козак

## Перакананне

яшчэ калі
мо і прачнуся ўвесну ранкам
у родным доме

у шчыліне паміж бэлькамі
шпакі пабудуюць гняздо
а я басанож пакірую праз сад
сустракаць сваю маці

і ўсё будзе як даўней
маладое яскравае гожае

## Кніжкі з маёй бібліятэкі

Ведаеш сябра кнігі з маёй бібліятэкі
Таксама не найлепш
Пачуваюцца

Расклейваюцца
Таму асцярожна
Пяшчотна
Як найкаштоўнейшую парцэляну
Бяру іх у рукі

У нямодных вокладках
Састарэлі нябогі
Выпадаюць лісты з іх
Залатыя думкі
Забытыя пасланні
Лістота
І здымкі

Сціпла стаяць зляканыя
На кульгавым
Сасновым стэлажы
Зжаўцелыя пабляклыя

Мае нічога не вартыя
Любыя бясцэнныя
Сямейныя каштоўнасці

*Пераклад з польскай Ірыны Зімневай.*

### У мястэчку тамтэйшай Б

я жыў тут
памятаю
пакой у габрэйскім некалі доме
з кафлянай печчу
і відам з акна
на царкву
і Буг бліскуча-цемнаводны
у гушчарах лазняка

была яшчэ дзяўчына
быццам з апаведаў Буніна
прыходзіла ўвечары
і кляліся сабе мы
пры свечцы
ў каханні бясконцым
такім
якое яшчэ
ніколі і ні з кім
не здаралася ў гэтым мястэчку

пытаешся
хто з нас
у пошуках шчасця
першым уцёк з мястэчка
не папярэдзіўшы
і не пакінуўшы адрас

мо гэта была яна
мо гэта быў я
памятае толькі
той час

### Мелодыя з сітніцкай рамізы

Усё часцей
Сярод ночы ўзімку
Будзіць мяне
Музыка

Тады выбягаю з дому
Шукаю, хто грае

Дарэмна аднак бо нечакана
Апускаецца цішыня

Часам вяртаюся ажно здалёку з прадмесця
Або з сітніцкай рамізы
Дзе музыкі вясковыя гралі
Найпрыгажэйшыя вальсы
І танга
На гармоніку
І на скрыпцы
А на трубе
Цішыню
Усё часцей узімку
Чую ўласна
Яе

*Пераклад з польскай Святланы Дзянісавай.*

*Часопіс «Маладосць» выказвае сардэчную падзяку галоўнаму рэдактару часопіса «Падляскі квартальнік культурны» Гжэгажу Міхалоўскаму за пасрэдніцтва ў штогадовым плённым супрацоўніцтве з польскімі літаратарамі і мастакамі.*





## Анна Аўгустыняк

**Анна Аўгустыняк нарадзілася ў Вэлюні, скончыла філалагічны факультэт па спецыяльнасці «польская мова і літаратура» ў Варшаўскім універсітэце, Вышэйшую школу журналістыкі імя Мельхіёра Ваньковіча і аспірантуру ў Інстытуце літаратурных даследаванняў Польскай акадэміі навук. Журналіст, аўтар рэпартажаў для Польскага радыё, рэдактар тэлевізійных дакументальных праграм. Аўтар кніг «Hrabia, literat, dandys. Rzecz o Antonim Sobańskim» («Граф, літаратар, дэндзі. Слова пра Антонія Сабаньскага», біяграфія аўтара рэпартажаў з нацысцкай Германіі, 2009); «Kochałam, kiedy odeszła» («Я кахала, калі яна адышла», проза аб паміранні, 2013, намінацыя на літаратурную ўзнагароду Gryfia, 2014); «Bez ciebie» («Без цябе», том вершаў, 2014, 3-я ўзнагарода Złoty Środek Poezji 2015 за паэтычны дэбют года). Друкавала свае вершы ў шматлікіх польскіх літаратурных часопісах, а таксама ў англійскай, сербскай, турэцкай, румынскай, рускай перыёдыцы. Яе рэпартажы і вершы перакладаліся таксама на ўкраінскую, англійскую, нямецкую, іспанскую мовы. Жыве ў Варшаве.**

# Я кахала, калі яна адышла

Я кахала яго, паглядзела я на маці. Ці яна зразумела? Не павярнула галавы, не расплюшчыла вачэй. Нешта пяражывала. Я кахала яго, паспрабавала я зноўку. І ён мяне таксама кахаў, ведаеш? Аніякага водгаласу, маці была занята паміраннем. Калі чалавек заняты паміраннем, у яго няма часу на іншыя справы. Зараз я ўжо гэта ведаю. А тады здавалася, што на ўсё яшчэ ёсць час. Размаўляй з ёю, тарахцела ў маёй галаве. Ты памятаеш, колькі ён для мяне значыў? Ты была побач са мной з першай хвіліны, з таго дня, калі я да яго пайшла. Я прыехала на гадзіну раней. Добра, што апранула гэты блакітны кажушок. Рыпеў снег пад маімі абцасамі. Я хадзіла туды-

*«Найлепш было б назваць гэтую кнігу зборнікам трэнаў у прозе. Гэта не аповесць, а хутчэй за ўсё серыя празаічных мініяцюр, нататак з цяжкага перыяду або абразкоў, якія імкнуцца не апавядаць, а выражаць боль, шок, здзіўленне, выкліканыя адначасовым спатканнем палымянага кахання і смерці.»*

***«Газета выборча», Анна Насілоўска***

*«Аўтарка, усведамляючы тое, як цяжка перадаць словамі прысутнасць смерці і сам яе момант, вандруе па новых за кожным разам формах аповеду. Дзякуючы злучэнню турпізму з прыгажосцю, сакральнага і свецкага або сумнення з бунтам, яна дасягае зусім нечаканага эфекту. [. . .] Кніга захапляе разнастайнасцю форм і стыляў. [. . .] Яна ўзрушвае, падаецца да болю праўдзівай, пазбаўленай эўфемізмаў.»*

***«Кнігарня», Паўла Шэўчык***

сюды пад яго домам і калі а восьмай увечары ўскараскалася на верхні паверх, ён гукнуў: Можна гадзіннік наводзіць, такая Вы пунктуальная. Я прынесла кветку сланечніку. Зусім не ведаю чаму. У яго былі такія вялікія жоўтыя пялёсткі. Калі я выходзіла, знайшла адзін на прыступках. Ён быў нібы згубленая сляза. Мне не хацелася плакаць. Можа крыху ад шчасця. Я вярталася на таксі як папялушка экіпажам з гарбуза. А ў вачах маіх было размазанае святло ліхтара. Гэта былі мае зоркі, якія заззялі неспадзявана, калі Амад мяне пацалаваў. Ён без усялякага слова акунуў у мяне язык. А я ўцякла. Ведаеш, мама, чаму? Матка нешта сказала. Не мне. Я рызыкнула: Насамрэч, мама? Яна пацвердзіла. Была ў нейкім іншым свеце. Прынеслі кампот. Я давала яго па лыжачцы, каб яна не папярхнулася. Паглядзі, як ён пахне спелымі вішнямі. Яна паварухнулася, нібы нюхала. Яна зрабіла гэта для мяне. Усё яшчэ паказвала, што яна тут, каля мяне. Не я каля яе, а яна. Яна ўжо зусім не расплюшчвала вачэй, але гэта і не было патрэбна. Усё адно мы разумелі адна адну нейкім мармытаннем. Зрэшты, яна не расплюшчыла вачэй ужо да самай смерці.

***

На тваёй скуры з’явілася кветка, мама. Цвінтарная ружа расцвіла на левым баку шыі. Нібы ты зрабіла сабе наколку. Нават прыгожа. Мы з сястрою ўважліва яе разглядалі. Яна дакранулася пальцам. Ніхто іншы не звяртаў на ружу ўвагі. Усе ўзіраліся ў вусны і хацелі, каб ты ўсміхалася. Каб сказала ім, што ўжо не баліць, што ты пачуваешся лепш. Яны хацелі пачуць палёгку. Яны прыйшлі сюды, каб супакоіцца. Сястра хацела б цябе затрымаць: Калі б яна магла гэтак ляжаць у той труне, я прыходзіла б да яе штодня, лашчыла яе і папраўляла валасы. Я прынесла шчотку і лак. І мы пачалі цябе расчэсваць. Гэта было нялёгка, бо твае валасы былі брудныя, нехта іх раней прасякнуў нечым ліпкім. Але сястра зацялася. Яна часала табе чупрыну, закладала за вушы касмылі, выцягвала іх, а я здалёк апырсквала лакам. Заплюшчы ёй вочы, сказала я і адразу ж у маёй галаве прамільгнула, што памерлым жа лак не будзе есці вочы, але сястра шчыльненька засланіла іх аберуч.

***

Ты ізноў мне снілася. З таго часу, як ты памерла, ты са мной штоноч. Можа гэта я не дазваляю табе адысці?

***

Яна была ўсім маім жыццём, сказала сястра. А зараз ужо ў мяне анічога няма. У цябе ўсё ёсць, гаварыў мне Амад, у цябе ёсць я. Я тады распраменьвалася, хаця ў мяне ж не было нічога. Толькі словы былі мае. Я іх любіла, увесь час іх прагнула.

***

Я еду да цябе. Да якой цябе? Бацька кажа, што ізноў ідзе дождж і ўсё гэта капае на цябе. Якая цяпер розніца, адказвала я і рабіла выгляд, што мне ўсё роўна. Які гэта мае сэнс для цябе, мама? Я не ўсцерагла цябе. Я дазволіла ўсё гэта. Я не крычала, не было слёз. Іграла труба, а я глядзела на стагадовыя дубы і сасновы бор навокал. Галасы птушак запаўнялі прастору паміж галінамі. Было неяк шчыльна, нягледзячы на маладую лістоту. Сонца прасвечвала. Прыгожа і прыемна. Расказваць табе гэта ўсё, ці ты і так ведаеш? Перш чым труну апусцілі долу, я спраўдзіла, што там цябе чакае. Схованка як для звяроў або габрэяў. Бетонная яма. То зараз мы мусім хавацца? Ты ж такая прыгожая. Бацька хваліўся, што, куды б вы ні пайшлі, ты заўсёды вылучалася. Пра мяне таксама гэтак жа гавораць, хоць я толькі крыху да цябе падобная. Дзёрзкая і задзірыстая. У мяне твае вар'яцка зграбныя ногі і чорныя, доўгія валасы. Толькі ты рабіла прычоску як у Брыджыт Бардо, а можа і як у Сафі Ларэн, я ўжо не памятаю. Уяўляю сабе, як ты карпела над іх фотаздымкамі. Што ты магла тады ведаць пра свет. Ты выцінала здымкі і ўклейвала іх паміж рэцэптамі хрустоў і бісквітаў. Гэты вялікі сшытак ты цягала з сабой усё жыццё, з дому да дому. Крышацца пажоўклыя лісты, плямы ад тлустых пальцаў расціраюць твае літары, але Бардо з поўнымі сцёгнамі выгінаецца ў пажадлівай позе ўвесь час, ужо хіба з паўстагоддзя. Мая матка паміж чорнымі вокладкамі з цвёрдага кардону. Я зусім не хацела быць такой як ты, і ў свае сшыткі ўклейвала гісторыі жывёл з Афрыкі.

***

Я глядзела, як ты хапаеш паветра. Табе быў патрэбны кісларод. Не, лепш не даваць, бо інакш не памрэ, падумала я. А смерць ужо цікавала. Тая самая, з карціны Бэксіньскага. Калісьці я марыла, каб мець яе на сцяне. А зараз яна падпаўзла да твайго ложка. Яна кленчыць перад табой, з завязанымі крывавымі бінтамі вачамі. Яна забярэ цябе ў мяне, я ведаю, толькі не ведаю, калі, але ж усё роўна хачу яе палашчыць. Не для таго, каб прыручыць, але проста ў нейкім памкненні ўдзячнасці, што і яна дзяжурыць пры табе. Бачыш, мамулечка, можаш паміраць, колькі хочаш. Няхай ты ледзьве дыхаеш, але ж ты не адна. Але і без кіслароду, бо нашто абяцаць табе яшчэ жыццё, нашто падлучаць да свету. Свабодная, ты канала абсалютна свабоднай.

***

Шма Ісраэль, Шма Ісраэль, Аданай Элаэйну, Аданай эхад, спявала я сама сабе перад сном так голасна, каб чуць свае словы. Але гэта не былі мае словы. Нехта мяне ім навучыў. Я ведала, што яны азначаюць. Я праслаўляла цябе, Гасподзь. Яхвэ, ці ты й далей існуеш у сваім імі? Ты ёсць, я пыталася. Будзь у маёй матцы. Слухай, Ізраіль, Гасподзь — наш Бог, Гасподзь адзіны, спяваю я.

***

Ці духі памерлых рэагуюць на заклік аб дапамозе? Мама! Мама! Гэта няпраўда, што цябе няма. Цябе не можа не быць, ты ж заўсёды была. Ты мой пачатак. Я не магу ісці далей без таго позірку, які ты на мне затрымлівала. Так глядзець умеў яшчэ толькі Амад. Ён запальваў цыгарэту і ўтаропліваўся на мяне. Я дзьмула на дым, а ён крывіўся і мармытаў: Кінь, нічога з табой не станецца. Я была закаханая ў гэтых позірках. Я вілася як дзяўчынка, напружвалася як жанчына. Ён мяне ацэньваў. Я б усё зрабіла, каб атрымаць пяцёрку. Я нават пераставала дыхаць. Была бюстам, які ніколі не спускае долу вачэй. Я чакала, калі Амад адвернецца.

*«Гэтая кранальная кніга — зборнік кароткіх празаічных форм, якія апавядаюць пра адыход маці і адначасова — пра перажыванне вялікага кахання. Пісьменніца прымярае да апісання гэтага досведу разнастайныя мовы, сягае па розныя рээстры, спрабуючы выказаць тое, што выказаць вельмі цяжка. Звяртае на гэта ўвагу Гражына Баркоўска: «Анна Аўгустыняк сягае па розныя традыцыі і мовы — укладае трэны і рапсоды, спявае песні і элегіі, уваходзіць у свет бязлітаснай казкі.»*

***Прадстаўленне намінантаў на Агульнапольскую літаратурную ўзнагароду GRYFIA***

***

Ты чытала кнігу за кнігай. Я прынесла «Восем гісторый пра каханне» Шміта. Ты праглынула іх у адзін дзень. І як, спыталася я, цудоўна? Не перашкаджай, я мушу скончыць раман. Але гэтыя «Гісторыі» цудоўныя, праўда? І ў кожнай — новае каханне. Яна прыўзняла галаву: Кахання няма. Ёсць, ёсць, запярэчыла я. Яна не патлумачыла мне, у яе не было часу. Зрэшты, яна б мяне не пераканала, можа пра гэта й ведала. А можа ў яе не было ўжо столькі слоў. Больш гаварыла поглядамі. У іх была глыбіня ці атупленне морфіем? Так ці інакш, яна не адводзіла вачэй ад той кнігі, што распавядала пра лёс некалькіх пакаленняў жанчын. Яна памерла, калі перагарнула апошнюю старонку. Праз два дні. Аднойчы, калі я, як заўсёды, ляжала каля яе на ложку і ўзіралася, як яна гартае старонкі, яна спытала: «А ты чытала?» Я зрабіла гэта толькі праз некалькі тыдняў. Я прыдумала, што гэты раман будзе як голас маці з таго свету. Я шукала нейкі знак. І знайшла сказ на 276 старонцы, што яна застанецца са мной назаўсёды.

***

У маім садзе — сляды рук. Ты лашчыла брызгліну і смяялася, калі я не дазволіла абразаць галінкі. Але ж усе кусты гэта любяць, казала ты і ладзіла з самшыта кулі, адна за адной. Яны адраслі няроўна, чакалі цябе ўвосень. Ты не прыйшла. Пасля зімы яны надалей чакалі. Мінула вясна. Магноліі не зацвілі. Ружы абраслі калючкамі. Каралеўскія кароны нахілілі пустыя келіхі. Дзе маці, якая выкалыхала каташкі на вярбе і гімалайскае дрэва pinus wallichiana з доўгімі мяккімі шыпулькамі з вашчаным налётам? Зараз яе скуру пакрывае слой воску, нібы бароніць перад выпарваннем рэшты жыцця. Дзе маці, пытаюся зараз я. Яна нежывая, ідзі па некага, кажа сястра. Па каго? Каго-небудзь. Проша пані, мая маці хіба якраз памерла.

***

У кішэні джынсаў у мяне заўсёды было некалькі таблетак морфію. У выпадку неспадзяванага болю я магла іх хуценька табе даць. Але ты не была занадта ахвочая. Ухілялася ад таго, каб выпіць чарговую порцыю. Я мушу спраўдзіць, колькі мой арганізм можа вытрываць, паўтарала ты, нельга гэтак паддавацца, боль належыць кантраляваць. Кантраляваць гэта значыць пакутаваць, курчыцца ад болю і крычаць у падушку? Чаму ты гэта робіш, пытала я. Адыдзі, адказвала ты.

***

Яе вочы. З чорнымі плямкамі на абалонцы. Зялёныя ці карыя? Я мушу прыгадваць сабе іх адценне. Гэта цяжка, таму я шукаю яго на фотаздымках. Ці гэта мажліва, каб колер ажно так змяняўся? Нібы кожны фатограф надаваў ім свой каларыт. А можа гэта вопратка так змяняла яе вочы. Яны станавіліся яснейшыя, калі яна апраналася ў белае ці крэмавае. Насычаліся цяплом пры каштанавых колерах. Але калі яна піла каньяк — цьмянелі. Не, спачатку мінаў жах, таму вочы маці пачыналі блішчэць. Толькі потым, калі заканчвалася бутэлька, яны затуманьваліся. Для мяне яна тады памірала. Апошні кілішак каньяку яна ставіла каля ложка. Часцей за ўсё ён так і стаяў, а яна спала. Вытхнутага алкаголю яна ніколі потым не піла. Дарэчы, у яе было правіла, у наступны дзень яна адмаўлялася, якая б нагода ні была. Не, дзякуй, чула я заўсёды. Я бегала за ёю з бутэлькай, а яна адварочвала з агідаю галаву. Яна глядзела на мяне як на дзіця, якое гуляе без усялякага разумення з рэчамі дарослых. І крыўдзілася на здымкі з кілішкам у руцэ. Я спецыяльна іх рабіла, чакаючы моманту, калі яна разамкне вусны, увалье каньяк і скрывіцца. Мне якраз гэта было патрэбна. Табе ж не падабаецца, казала я, то нашто п'еш? Ты ўся ў бацьку, адказвала яна, нават не ўмееш весяліцца.

***

У маім сне ў цябе былі абедзве грудзі. Ты ляжала голая ў дамавіне. Была маладая, можа, саракагадовая. Ну так, тады ты ж мела абедзве грудзі. І насіла такія спецыяльныя станікі з вострым канцом для саскоў. Я памятаю, як мы ездзілі да гарсэтніцы, каб яна шыла іх табе па памеры. Я сядзела і назірала, як ты прымяраеш місачкі, выбіраеш шлеечкі. Ты не любіла карункаў і банцікаў. Станік быў патрэбны не для прыгажосці. Ён павінен быў узмацняць пажадлівасць. Менавіта гэтаму я тады навучылася. Мне было можа з дзесяць гадоў.

***

Божа, які стварыў неба і зямлю і падмануў мяне, смерць не ёсць жыццё. З таго часу, як мая маці памерла назаўсёды, я ўжо табе не веру. Мне да аднаго месца ўзнагарода за пакуты і мяса, якое паўстане з мёртвых. Я хачу маці тленную.

***

Ты казала, што чуеш музыку. Што робіцца з маёй галавой, пыталася ты. Я хацела зрабіць выгляд, што таксама яе чую, але не магла. Я, якая ледзьве не стала актрысай. Падыдзі сюды, дзяўчо, распусці валасы. Зараз больш па-жаноцку выглядае, праўда, спадар рэктар? «Разлучаныя, аднак адзін аднаго памятаем, Паміж намі лётае белы голуб смутку і носіць увесь час весткі…». Не, гэта не так, казаў Амад, паслухай: «На кожным месцы і кожнай парою, Дзе з табой плакаў, дзе з табой час мінуў, Усюды і заўсёды буду я з табою, Бо ўсюды частку душы маёй пакінуў». І быў са мною. І ты была ўсюды там, дзе быў ён, са мною.

***

Тваё цела ферментавала, а я малілася да трыадзінага Бога. Аднойчы я размаўляла з ім усю ноч. Я хацела чуць: Я ёсць тут, які ёсць. Я хацела чуць: Я буду тут з вамі тым, кім тут з вамі буду. Яхвэ, мне не былі патрэбныя манна нябесная або перапёлкі. Я шукала моцы, якая адчыніць чэрава маёй маці. Кім я тады была, што смяротнымі вуснамі вымаўляла тваё імя? Ажно ты сказаў: Суціш свой боль, дачка. Ты быў Богам майго бацькі, і я паслухалася.

*«Кніга "Я кахала, калі яна адышла" лічыцца прозай, але магла б разглядацца і як паэзія. [. . .] У гэтым дзённіку жалобы шмат іншых моў, а таксама бібліятэчных, музейных, рэлігійных, эрудычных алюзій, кодаў чалавецтва, тэм сучаснай антрапалогіі (жаноцкасць, цела, эратызм), але, нягледзячы на ўсё гэта, кніга захоўвае наскрозь інтымны, неэгацэнтрычны характар. [. . .] Гэта добрая літаратура.»*

***«Тыгоднік паўшэхны», Пётр Слівіньскі***

***

Бо станеш паляўнічым, смяялася ты з мяне. Панна паляўнічая, называў мяне Амад. Сапраўды, я хацела вылавіць нешта з маёй галавы. З фантазій, якімі я жыла. Панна летуценніца.

***

Ці рак пайшоў туды разам з табой? Гэты сукін сын.

***

Мозгу не хапае кіслароду, сказала ўрач, ужо пачаліся сутаргі. Я не ўяўляла, як гэта выглядае. У кіно паміраюць годна. Можна паплакаць і падаць руку на развітанне. Твае рукі выкручвалі сутаргі. Ты кідалася на ложку. Мама, не мусіш уставаць, яшчэ крыху паляжы, казала я. З цяжкасцю ты клалася ізноў. Хутчэй за ўсё, гэта цела эфемерна выходзіла з цябе. Гэта відаць у вачах, але яны ў цябе ўвесь час былі заплюшчаныя. Я азіралася па сценах. Можа, гэтыя дзіркі выдрапалі іншыя, якія таксама паміралі? Не маглі даць веры, што ўсё роўна пранікнуць мур? Я дакранулася да тваіх пальцаў. Яны былі толькі крыху старэйшыя за мае. Я памятаю, як ты ўвесь час іх калечыла, мыючы шклянкі.

***

А калі яна не памерла? Напэўна памерла, сказала сястра. Яна не варушыцца ўжо з суботы. Гэта толькі трэці дзень, падумала я. Я ведала, што яна не будзе з намі прыкідвацца. Яна не магла б згуляць камедыю. Ляжыць нерухома, нібы наступіў канец свету. Для цела маці гэта і быў канец свету. Яна перайшла праз смерць да новага жыцця. Якога жыцця, яна ж ляжыць, як бервяно. Мне холадна, мама. Я кленчу на пліткавай падлозе. Падніміся, прастудзіш калені. Лепей сядзь. Мне холадна. Павінна быць холадна маме і ўсім іншым. Не бойся яе, чую я голас бацькі, калі не хочаш, не мусіш дакранацца. А нізавошта б не дакранулася. Усё ж такі баішся. Не, проста гідка. Ну так.

***

Яна ўжо гатовая. На пальцах у яе залатыя пярсцёнкі. У правай кішэні медальён, сатканы са срэбных ніцей. Усярэдзіне мініяцюрныя здымкі. Тры галоўкі. Мы будзем з табой, куды б ты ні пайшла. Мы не пакінем цябе адну, думаю я. Я апускаю вочы, калі накрыўка прыкрывае твой твар. Не спрабую нічога ўжо ўціснуць у труну. Можа падацца, што я з камення. Але я з яе, з яе цела. Нават ніз жывата у нас аднолькавы. І гэтая адсутнасць сораму падобная. З абыякавасці гэта вынікае. Кожны можа да нас дакрануцца.

*«Я кахала, калі яна адышла» — гэта лямантацыйныя, выключна паэтычныя нататкі. Гэта спроба прызвычаіцца да пакут і смерці маці, якая, аднак, прыносіць не супакой, а толькі балючае, крыху іранічнае сцвярджэнне: «усё можна перажыць».*

***«Знак», Ілона Клімэк***

***

Труна стаіць пасярэдзіне. Ты ляжыш, адвярнуўшыся ад анёлаў з абразоў. Дзе ты, мама. Добра, што ўжо не мучыцца, кажа нехта. Вунь, як усміхаецца, паглядзіце. Ты здрадзіла мне. Наш серыял ніколі не павінен быў скончыцца.

***

Ты не хочаш, каб табе папраўлялі валасы. Я лашчу цябе дзеля жарту, ты адштурхоўваеш мяне. Якая ў цябе шорсткая скура, кажаш, гэта балюча. Я паціраю рукі аб сябе. Няпраўда, мае рукі такія далікатныя. Як жа я магу праявіць табе любоў, калі пяшчота расчароўвае. Рвецца наша сувязь. Аднак ты не расчульваешся над сабою. Пытаешся толькі, калі ачуняеш. Яшчэ крыху мусіш вытрываць. Чаму мы не ідзём у сад, здзіўляешся ты. Дождж надта моцны, кажу я, захіляючы акно. Што гэта за лета.

***

Зноўку аглядае малпаў, злуецца бацька. Калі я увайду раніцай і будуць малпы, то не атрымаеш сняданку, кажа сястра, хоць на выхадныя зрабі сабе перапынак. Хімерычныя малпы з менструацыяй кожныя чатыры тыдні. Рэзусы з моцнымі мышцамі твару і складанай мімікай, якія распазнаюць сваё аблічча ў люстры. Чаго ты шукала, мама, у іх свеце? Тое, чаго не было ў тваім? Немаўлячыя прыгожыя мартышкі. Ты клапацілася пра нас прагна. Курс навукі жыцця не быў дарэмны. Мы моцныя і дасканала навучаныя. Ты нам дала нават свабоду, але паклапацілася пра тое, каб мы не выйшлі з твайго цела. Ты мела два зародкі да канца.

***

Ты ў новай рэчаіснасці. Ну і як там, мама, без злых духаў? На пачатку імшы з анёламі і нябесным воінствам усе спявалі, каб Бог адпусціў табе грахі. Якія грахі, думала я і рабіла выгляд, што спяваю. Ты беззаганная, празрыстая. Перад тым, як ты памерла, прыйшоў шафар з oleum infirmorum. Я не ведала, як сябе паводзіць, ці пакінуць гэты алей на ілбе? Таму што на руках ты адразу выцерла. Я баялася дакрануцца хустачкай, счысціць яго аздараўленчую моц. Ужо другі раз у жыцці цябе сабаравалі. Я думала, што гэта грэх. Можа і добра, ты мела б нешта на сваім рахунку, нейкія хітрыкі, вязнярка цела. Ты грашыш у думках, сказаў калісьці іншы святар, седзячы ў тваім фатэлі, аднак дараваў грахі думкам. Памятаеш? Ён гаварыў пра таінства, у якім Бог пагладжвае скуру чалавека. Нясмела. Патрэбны быў чуллівы дотык, бо ты пакутавала так відавочна. Я хацела мець знак, што ты адчула божы перст. Але нічога не здарылася. Толькі боль. Твой асвечаны боль. Ты ляжала як лялька з карціны ван дэр Вэйдэна. Я доўга шукала гэтую сцэну. Постаці ў зачараваных паставах. Як мы. Спаборніцтва паміж жывымі. Ты на парозе нечага. Я ў маўклівым жаху здзяйснення. «Праз гэтае святое саборыванне няхай Гасподзь у сваёй бясконцай літасцівасці дапаможа табе ласкай Святога Духа. Гасподзь, які даруе табе грахі, няхай цябе збавіць і ласкава ўзніме. Амінь». Амінь, сказала я.

*Пераклад з польскай Кацярыны Канчэўскай.*

**Юрый Лаўрык**

# «Добро есть братие почетанье книжьное...»

## Чытанне кніг на Беларусі ў Сярэднявеччы (канец X — сярэдзіна XVI ст.)

Першыя рукапісы на Беларусі пачалі з’яўляцца па меры распаўсюджвання на нашых землях хрысціянства. Кнігі былі патрэбныя Царкве, яе святарам ды іерархам, для богаслужбы, навучання вернікаў і духоўнага дасканалення манахаў. Таму за пачатак адліку мы абіраем менавіта канец X стагоддзя, то бок час, калі з прычыны прыняцця хросту кіеўскім князем Уладзімірам, хрысціянская вера пачынае пранікаць і да нас, а менавіта — на землі Полацкага княства (згадайма трагічную гісторыю Рагнеды і легенду пра паходжанне назвы Заслаўя).

Але чаму за верхнюю мяжу мы абралі менавіта сярэдзіну XVI стагоддзя? Мы абмяжоўваем нашае даследаванне 1550-мі гадамі таму, што распаўсюджванне друкарства і звязанае з ім патанненне выданняў з аднаго боку, а таксама наступ пратэстанцтва ды «літаратурная» і «адукацыйная вайна» з ім каталіцызму — з другога, цалкам змянілі формы існавання і бытавання кнігі як увогуле ў свеце, так і на беларускіх землях.

Заўважнага ўплыву на айчынную кніжную культуру гэтыя з’явы пачынаюць дасягаць толькі ў другой палове XVI стагоддзя, а больш дакладна, у 1560—70-х гадах — гэта значыць тады, калі ўжо пачынае ўсталёўвацца і развівацца новы тып кнігавыдання ды кнігагандлю, калі з навукі за мяжой масава вяртаюцца нашы студэнты, а ў Вялікае Княства Літоўскае прыходзяць езуіты і шырока ўкараняюць тут сістэму адукацыі новага тыпу; урэшце, калі самотны ды кволы колісь атожылак Скарынавага варштата паступова разрастаецца ў магутнае дрэва айчыннага кнігадруку са шматлікімі галінамі-друкарнямі і густой лістотай выданняў. На грамадска-палітычнай плоскасці змены гэтага перыяду «запячатала» ў 1569 годзе Люблінская унія, падпісанне якой — іронія лёсу! — супала па часе з заснаваннем езуітамі ў Вільні першага калегіума.

Мусім таксама адразу вызначыцца з тым, што мы маем на ўвазе пад тэрмінам «беларускія землі». Цалкам зразумела, што дзяржаўныя межы далёка не заўсёды пакрываюцца з фактычнай мяжой заўважнага (як кажуць навукоўцы, «кампактнага») рассялення прадстаўнікоў той ці іншай нацыі. Таму, гаворачы пра беларускія землі ў мінуласці, было б недарэчна абмяжоўвацца тэрыторыяй сучаснай Рэспублікі Беларусь — бо тады па-за нашай увагай застаюцца вялікія і яшчэ нават у пачатку XX стагоддзя беларускамоўныя тэрыторыі з буйнымі на той час культурнымі і кніжнымі цэнтрамі.

Будзем абапірацца на працы філолагаў у галіне вывучэння арэалу распаўсюджанасці беларускай мовы, — а перад усім, на складзеную яшчэ ў пачатку XX стагоддзя прафесарам Яўхімам Карскім «Этнографическую карту белорусского племени». Гэта азначае, што мы таксама бяром пад увагу Беласток з Беласточчынай, што знаходзіцца на захад, Вільню з Віленшчынай — на паўночны захад, і Смаленск са Смаленшчынай — на ўсход ад межаў Рэспублікі Беларусь.

Што датычыцца паўднёвай мяжы распаўсюджвання беларускіх гаворак, дык Карскі праводзіў яе больш на поўнач адносна сённяшняй мяжы нашай краіны; аднак, на думку іншых даследчыкаў (напрыклад, Вітаўта Тумаша), тэрыторыя рассялення беларусаў на поўдні з увагі на этнаграфічныя прыкметы супадае у агульных рысах з дзяржаўнай мяжой сучаснай Беларусі. Прымем гэтае меркаванне за адпраўны пункт для вызначэння гранічнай рысы беларускіх земляў з паўднёвага боку.

Пра тое, што нашы продкі мелі зачаткі пісьма яшчэ да прыняцця хрысціянства, мы ведаем з паведамлення чарнарызца Храбра: «Прежде убо славяне еже суще погани, не имаху писмен, но чертами и нарезаньми читаху и гадаху». Тым не менш няма дакладных сведчанняў або пераканаўчых аргументаў пра наяўнасць у іх уласнай кніжнасці або бытаванне кніг у гэты перыяд.

Хрысціянства, прарасшы з іўдзейскай культуры і ўзгадаваўшыся ў асяродку культуры грэка-рымскай, пераняло ад антычнай цывілізацыі шмат уласцівасцяў — а перад усім, прывычку да ўжывання пісанага слова. Не беручы-

ся ў прапанаваным артыкуле асвятляць цалкам гісторыю пісьменства на нашых землях, адзначым, аднак, наяўнасць шматлікіх знаходак XI — XIII стагоддзяў, звязаных з уменнем нашых продкаў чытаць і пісаць. Гэта выяўленыя падчас археалагічных раскопак у розных беларускіх гарадах прылады для пісьма, надпісы на побытавых рэчах ды манументальных помніках, кніжныя зашчапкі і г. д.

Кнігі мелі вельмі высокі аўтарытэт сярод ўсходніх славян. Услаўленне кніжнасці і вучонасці (што ў вачах нашых продкаў азначала, бадай, тое самае) чырвонай ніткай праходзіць праз усю ўсходнеславянскую літаратурную спадчыну — як перакладную, так і арыгінальную. Сведчаннем гэтаму і «Слова пэўнага калугера пра чытанне кніг» у «Ізборніку 1076 г. » («Добро есть братие почетанье книжьное: паче вьсякомоу хрьстьяноу ... »); і сапраўдны гімн кніжнасці ў «Аповесці мінулых гадоў» («Велика бо бываеть польза от ученья книжного; книгами бо кажеми и учими есмы пути покаянью, мудрость бо обретаем и въздержанье от словес книжных. Се бо суть реки, напаяюще вселенную, се суть исходяща мудрости ... »).

Да гэтага славаслоўнага хору далучаюцца і айчынныя аўтары — напрыклад, Кірыла Тураўскі ў «Слове, каб не забывалі настаўнікаў сваіх» параўноўвае настаўніка са святым і гаворыць пра маральны абавязак вучня памінаць яго ў малітвах, «понеже ... путь показал есть, и дверь отворил райскую видением поведания, и ключа дал разума книжнаго».



Пісалы, знойдзеныя падчас археалагічных раскопак на тэрыторыі Беларусі (з экспазіцыі Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь).

Паводле літаратурных помнікаў XII—XIII стагоддзяў навучанне чытанню і кніжным ведам, прынамсі, у буйных культурных цэнтрах, не бачыцца нечым выключным: пра гэта гаворыцца як пра шырока распаўсюджаную справу. Напрыклад, у «Жыцціі Аўрамія Смаленскага» мы чытаем пра святога: «И егда же бе отрочатем Христовою благодатию в возраст смысла пришедшу, родители же его даста книгам учити; не бо унываше отрача, яко и прочия дети, но скорым прилежанием извыче; сему же на игры со инеми не исходити, но на божественное и на церковное пение и почитание прежде инех притекая …».

Нават дзяўчаты маглі атрымаць адпаведную сваёй эпосе кніжную адукацыю, хоць гэта, бадай, здаралася ўжо радзей і было прэрагатывай вярхоўкі грамадства, як мы бачым тое з «Жыцця Ефрасінні Полацкай»: «Случи же ся девици сей ученне быти книжному писанию, еще не достигше ей в совершен возраст телесного естества...» У цытаваным фрагменце пісьменнік падкрэслівае менавіта тое, што св. Ефрасінні здарылася навучыцца пісьменству яшчэ ў дзіцячым узросце — а значыць, уласна гэта было нехарактэрна для тае эпохі. Трэба думаць, прадстаўніцы пекнай паловы зазвычай атрымлівалі адукацыю толькі дасягнуўшы сталага ўзросту, і, відаць, у сувязі з неабходнасцю выканання тых ці іншых абавязкаў — напрыклад, малітвы і пабожнага чытання ў манастыры.

Натуральна, што і сярод прадстаўнікоў мужчынскага полу — нават у выпадку вышэйшых слаёў — адукаванасць была далёка не пагалоўнай. Таму чытанне не магло заставацца актам асабовым; значна часцей яно мусіла набываць сацыяльны аспект — які, у прыватнасці, рэалізоўваўся падчас набажэнства ў святыні (нездарма аўтар аднаго са спісаў «душазбаўчых» кніг пасля пераліку іх адзначае: «Сія книгы подобает чести и слушати ученія их»).

Пры гэтым чытанне дапаўнялася тлумачэннем прачытанага, без якога кніжныя тэксты цяжка было зразумець мала прывычным да інтэлектуальнай працы вернікам: «И оттоле [Аўрамій] вниде во град и пребысть во едином монастыри у Честного Креста, и ту начаша боле приходити, и учение его множайше быти ... Украси же церковь иконами и завесами, и свещами,

и мнози начаша от града приходити послушати церковнаго пения и почитания божественных книг, бе бо блаженный хитр почитати и даст бо ся ему благодать не токмо почитати, но и протолковати, якоже мнозем несведущим от него сказана — и всем разумети и слышащим, к сему изъуст и памятию сказая ...».

Менавіта таму — як у цытаваных вышэй фрагментах, так і ў шэрагу іншых твораў (напрыклад, у «Жыціі Кірылы Тураўскага»: «добре извыче святых книг учению») — пры згадцы пра навучанне заўсёды падкрэсліваецца яго кніжны характар; заўсёды маецца на ўвазе не проста ўменне чытаць ці пісаць, але таксама і здольнасць зразумець чытанае ды выкарыстаць набытыя веды ў жыцці.

Аднак, толькі ведання літараў і ўмення складаць іх у словы для гэтага было недастаткова: па-першае, царкоўнаславянскую кніжную мову нашы продкі ўжо не разумелі так добра, як колішнія неафіты Кірылы і Мяфодзія; а па-другое, каб успрыняць тэкст, чытач мусіў авалодаць яшчэ і пэўнай сістэмай паняццяў, якія дазволілі б яму ўзняцца над літаральным значэннем слоў, зразумець іх містычны сэнс.

Такое стаўленне да вучонасці, перад усім, звязана з тым, што тагачасная айчынная адукацыя мела філасофска-тэалагічны характар. Чытанне было заклікана выступаць выхавальнікам, правадніком на шляху да збаўлення. Навучыцца кнігам азначала успрыняць, засвоіць (гэта значыць, «зрабіць сваёй») запісаную мудрасць. Тыя, каму ўдавалася гэтага дасягнуць, кардынальна змянялі сваё жыццё, пакідалі даброты мінучыя і сыходзілі ў манастыр, каб «збіраць скарбы духоўныя».

Гэткае рашэнне, напрыклад, прыняла княжна Прадслава, зрокшыся свайго высокага становішча і прыняўшы пострыг пад імем Ефрасінні. Так зрабіў Кірыла Тураўскі, «богату родителей сын», які «не любляше богатьства ... паче всего прилежаща божественных писаний, добре извыче святых книг учению», а таму «по времени ... отшед в монастырь и бысть мних». Так учыніў і Аўрамій Смаленскі, якому «родителя же яже остависта богатство», але ён яго «убогим розддаде»; сам жа «богодухновенныя же книги и святых жития почитая… И утаився всех, Богу наставляющу, отшед … и острижеся».



Бронзавы сыгнет – пярсцёнак-пячатка з выявай герба ўладальніка і надпісам.

Кніжная мудрасць спадарожнічала сваім абранцам ды настаўляла іх і пасля пастрыжэння; чытанне Святога Пісьма, патэрыкоў і маральна-павучальных твораў давала ім сілы ісці абраным шляхам: «И бысть оттоле [Аўрамій] по благодати Христове болий на подвиг и на вся труды подвизася, и мыслию воспоминая святаго града Иерусалима и гроб Господень, и вся честныя места, яко избавитель Бог и Спас всего мира идеже страсть прият нашего ради спасения, и вся честная места и преподобных отец пустыня, идеже суть подвиг и труд совершивше: дивнаго начальника всем и возсияша равна ангелом великаго мню Антония, бывшаго крепка храбра и победившаго силою крестною духи неприязненыя; Илариона, бывшаго ученика его и по нем — светлаго в постницех чюдотворца Евфимиа, и иже по них — Савву и Феодосия архимандрита, и старейша всех наставника черноризцем сущим окрест Иерусалима».

Аднак, нават на той час кніг было напісана ўжо шмат, і сарыентавацца ў іх было няпроста. Няўжо ж ніхто з кніжнікаў не паспрабаваў упарадкаваць і сістэматызаваць вартыя чытання кнігі, скласці спіс найбольш важных твораў? Безумоўна, сярод іх былі такія, хто імкнуўся палегчыць сваім паплечнікам і аднадумцам нялёгкае ўзыходжанне на вяршыню мудрасці.

Так найбольш ранняя ва ўсходніх славян рэкамендацыйныя спісы змешчаны ўжо ў «Ізборніку Святаслава» 1073 года, які, паводле меркавання рэдкалегіі факсімільнага выдан-



Рукапісная Мінея XV стагоддзя.

ня гэтага манускрыпта, з’яўляецца «помнікам культуры трох усходнеславянскіх народаў: рускага, украінскага і беларускага». Сапраўды, тэксты, што перакладаліся або ад пачатку ствараліся ў мітрапалітальным Кіеве і былі тым ці іншым чынам звязаныя з практыкай грэка-візантыйскай Царквы, распаўсюджваліся па ўсіх усходнеславянскіх — а ў тым ліку і беларускіх — землях. Сёння вядомыя 24 спісы гэтага помніка; некаторыя з іх бытавалі і на нашых землях (напрыклад, г. зв. «віленскі»). Гэта дае нам поўнае права разглядаць змешчаныя ў зборніку матэрыялы ў сувязі і з айчыннай кніжнасцю.

Дарэчы, адзначым, што тэкстаў такога роду ў «Ізборніку Святаслава» 1073 года змешчана некалькі — гэта, па-першае, твор «Пра святыя кнігі» Яна Дамаскіна; па-другое, аналагічная паводле зместу вытрымка з казанняў Рыгора Багаслова; і нарэшце, ліст Ісідора Пілузіёта пра «60 кніг».

Спіс Яна Дамаскіна досыць невялікі як з увагі на аб’ём, так і на колькасць згаданых назваў; ахоплівае ён, пераважна, кананічныя кнігі Святога Пісьма. Са Старога Запавету Дамаскін называе 20 тытулаў, дзелячы іх на 4 «пяцерыкі» або «пентатэухі» (славянскі пракладчык цалкам атаясамлівае абодва тэрміны, ужываючы іх узамен адзін аднаго). У гэтым спісе прапушчаны т. зв. «Малыя прарокі», якія, відаць, мусілі пад адзінай назвай уваходзіць у групу прароцкіх кніг (дзе прысутнічаюць толькі чатыры тытулы замест дакляраваных пяці). Разам з тым, у пераліку зрэдку можна заўважыць і дэўтэра-кананічныя тэксты (напрыклад, «Мудрасць Сіраха»). Падсумоўвае гэтую частку спіса ацэнка-рэкамендацыя, дадзеная Янам Дамаскіным старазапаветным кнігам: «Добры оубо соуть и лепотьны...». Заканчваецца спіс поўным пералікам кніг Новага Запавету.

Нам, прывычным да сучасных выданняў Святога Пісьма, дзе ўсе боганатхнёныя кнігі сабраныя разам, можа падацца незразумелай патрэба складання такога роду спіса. Аднак у разгляданы перыяд Біблія найчасцей трапляла да айчыннага чытача (падобна, як і да грэцкага ў часы Дамаскіна) яшчэ не ў выглядзе суцэльнага комплексу, а паасобнымі часткамі, што складаліся з адной або некалькіх кніг. Менавіта таму нават Скарына публікуе сваю «Біблію рускую» ў выглядзе асобных кніжак, хоць і забяспечвае іх — на падабенства заходнееўрапейскіх друкаваных выданняў — супольным тытульным аркушам.

Вельмі блізкім паводле свайго зместу да апісанага вышэй з’яўляецца і рэкамендацыйны бібліяграфічны спіс, падрыхтаваны Рыгорам Багасловам — ён таксама змяшчае толькі кнігі Св. Пісьма. Аўтар, патлумачыўшы напачатку, чаму мусіў заняцца гэтым пытаннем («Нъда оубо нештюжими прелиштаються книгами»), пералічае далей тэксты, што ўваходзяць у склад Старога і Новага Запавету. Зрэшты, таксама як і ў Дамаскіна, не ўсе з іх тут названыя (напрыклад, прапушчаны Апакаліпсіс). Разам з тым, Рыгор Багаслоў, не паленаваўся згадаць у сваім спісе ўсіх прарокаў (як вялікіх, так і малых) паіменна.

Спіс Ісідора Пілузіёта больш шырокі і цікавы ў параўнанні з двума папярэднімі. Ён, праўда, таксама не згадвае Апакаліпсіса, але напрыканцы называе цэлы шэраг дэўтэра-кананічных кніг, якіх няма ў Дамаскіна — напрыклад, Макавейскія і Тавіт. Тут яскрава праяўляецца рэкамендацыйны характар гэтага тэксту: на першае месца вынесены кнігі, на думку аўтара, больш важныя, — то бок, кананічныя. Далей ідуць дэўтэра-кананічныя пісанні. Урэшце ж, напрыканцы спіса, з новага радка (каб, крый Божа, чытач не паблытаў!), па-дадзены пералік кніг «съкровьныихъ» (гэта значыць, таемных, забароненых). У ліку апошніх Ісідор пералічае кнігі Адама, Яноха, Малеха, Патрыярхаў, апакрыфічнае евангелле Варнавы і інш. — усяго 24 назвы.

Згадку пра тое, што праблема чытання кніг, не ўхваленых Царквой, на Беларусі таксама была актуальнай, мы сустракаем ужо ў *Жыціі Аўрамія Смаленскага*: закід у чытанні «глыбінных» (то бок, гэтых самых «съкровьныихъ») кніг становіцца адным з падставовых абвінавачанняў у бок святога («И начаша ови клеветати ко епископу ..., а инии глаголяху на нь: «Глубинные книги почитает»). Такім чынам, мы можам сцвярджаць, што разам з хрысціянствам на нашых землях з'явілася не толькі само чытанне, але і зачаткі цэнзуры.

Індэксы забароненых кніг у спісах, непасрэдна звязаных сваім паходжаннем або бытаваннем з беларускімі землямі часоў Аўрамія да нас, на жаль, не дайшлі (або, прынамсі, не фігуруюць у літаратуры прадмета як айчынныя) — хоць, як ужо адзначалася, тэксты, змешчаныя ў «Ізборніку Святаслава» 1073 года, хутчэй за ўсё, чыталіся ды перапісваліся таксама і ў нас. Верагодна, што «хадзілі» на нашых землях і тыя тэксты, што дайшлі толькі ў больш позніх спісах.

Адзін з такіх пазнейшых спісаў змешчаны ў зборніку 1500—1501 гг. разам з «Псалтырам» і складаецца з пераліку кніг «ісцінных» ды «ложных». Гэты манускрыпт сёння захоўваецца у Нацыянальнай бібліятэцы Польшчы ў Варшаве, а паходзіць ён з кнігазбору полацкай Сафійскай бібліятэкі, адкуль быў вывезены пасля адваявання Полацка ў маскоўцаў войскамі Стэфана Баторыя ў 1579 годзе.

У літаратуры сустракаюцца звесткі і пра іншую рэдакцыю гэтага тэксту; яна таксама прысутнічае ў манускрыптах беларускага паходжання. У прыватнасці, піша пра яго Дабранскі ў «Описании рукописей Виленской Публичной библиотеки» пры разглядзе «Ізмарагда» XVI стагоддзя з колішніх збораў Жыровіцкага манастыра, прычым, цытуе досыць вялікі фрагмент. Сустракаюцца згаданыя пералікі кніг і ў айчынных манускрыптах пазнейшага часу.

Прысутнасць гэтага тэксту ў манускрыптах з розных кнігахоўніц Беларусі даўніх часоў дазваляе нам сцвярджаць, што тагачасныя айчынныя кніжнікі былі добра з ім знаёмыя. У наш час згаданыя спісы з Варшаўскай бібліятэкі былі апублікаваныя Шчапавым у дадатку да складзенага даследчыкам каталога «Восточнославянские и южнославянские рукописные книги в собраниях Польской Народной Республики». Звернемся да названай публікацыі, каб больш уважліва прыглядзіцца да гэтага цікавага помніка.

> Хрысціянства, прарosшы з іўдзейскай культуры і ўзгадаваўшыся ў асяродку культуры грэка-рымскай, пераняло ад антычнай цывілізацыі шмат уласцівасцяў — а перад усім, прывычку да ўжывання пісанага слова

Тэкст азагалоўлены: «Правило св. апостол и св. отец о книгах которые чести ил[и] которых не чести Лаодикійскаго собора» і складаецца са спісаў кніг, як рэкамендаваных, так і забароненых Царквой. Адразу зазначым, што час і месца стварэння яго выклікае сумненні. У прыватнасці, сабор у горадзе Лаадыкія, што знаходзіўся ў Фрыгіі, адбываўся ў сярэдзіне IV стагоддзя (верагодна, у 363—364 гг.), а шэраг згаданых у спісе аўтараў жылі значна пазней (напрыклад, Ян Дамаскін, Ян Экзарх, Ян Леств ічнік, Рыгор Папа Рымскі і інш.). Гэта дазваляе зрабіць выснову, што ўкладальнік імкнуўся дадаць свайму паказальніку аўтарытэтнасці за кошт прыпісвання яго аўтарства Айцам Царквы, хоць насамрэч тэкст быў складзены (або, прынамсі, істотным чынам адрэдагаваны) значна пазней. Па-за тым, сам Шчапаў мяркуе, што ў гэты спіс уключаны і «старажытнарускія кнігі», але не ўказвае, якія менавіта ён мае на ўвазе.

Рэкамендацыйная частка гэтага спіса, у параўнанні з апісанымі вышэй, з'яўляецца даволі вялікай. Найперш у спісе пералічаны кнігі Біблііі, сярод якіх сустракаюцца і зборнікі, што змяшчаюць звесткі ці фрагменты, са Св. Пісьма ўзятыя (такія як «Шасцідзён» ці «Палея»). Затым ідуць творы хрысціянскіх аўтараў — пераважна, грэцкіх — таксама наперамен з рознага роду, зборнікамі (у тым ліку складзенымі ўжо называнымі ў спісе аўтарамі: напрыклад, «Ян Златавусны» — «Маргарыт» і «Златая чепь»).

Нельга не адзначыць вялікую эрудыцыю аўтара тэксту і яго знаёмства з асноўнай хрысціянскай літаратурай і пісьменнікамі грэцкага свету. Каб праілюстраваць гэта, наважымся працытаваць прынамсі частку назваў



Рукапісны Тыпікон XVI стагоддзя.

і аўтараў. Так, аўтар раіць чытаць наступныя творы і зборнікі (пералічым іх у адвольным парадку): «Шестодневець, Палея, Крыница, Асае, Диоптра, Лимонисъ, Патерикы Египетскы, Александрьскыи, Римскы, Киевскы, Синаискыи, [книгы] рекомыи Златоструи, Судебникъ, Стифата, Златая чепь, Женчюгъ, Глубина, Бисеръ, Бисеріе бисером, Пандокъ, Стословец, Маргарит, Лапсаик, три вопрошенія философ; Пчела, [книга] рекомая Матица, Приточник, Прологъ, Гранографъ, Летописец, Състав, Соборникъ Анастасеи Синаискыя горы, Правила, Синоксарь, Словоположникъ, Притчи притчем, Гаданіе притчям».

Сярод хрысціянскіх пісьменнікаў аўтар рэкамендуе такіх як «Іоанъ Златоустъ, Іоанъ Дамаскын, Іоанъ Эксархъ, Іоанъ Лествичникъ, Григореи Богословъ, Григореи Папа Римскы, Григореи Акраганьскы, Григорей Синаитъ, Іоан Богословъ, Симеон Новый Богословъ, Кирил Іерусалимьскы, Кирил Александрьскыи, Афанасей Александрьскы, Дионисей Ареопагит, Ефрем Сирин, Исаак Сиринъ, Климент папа Римскы, Василеи Великыи, Василеи Новыи Панагирикъ, Дорофеи Никоніискыи, Нілъ, Максим, Павел Рьскый, Ісидоръ Пилусіискыи, иже і тысящь, посланіи написа во вселению; Феодоръ Студіискыи и оглашенія его, Феодоръ Едесскыи, Іосиф Матафіискы; Козма Дикоплов, Козма Халкидоньскыи, Сихии, Петръ Дамаскын, Дорофеи, Іаков Жидовинъ, Варлам, Сімеон Богопріимец, Аврам Евдодіи, Каіафъ, Генадеи, Нифонтъ, Андреи Іродивыи, Данило Странникъ». Падсумоўваецца спіс словамі: «Сія книгы подобает чести и слушати ученія их».

Такім чынам, мы можам пабачыць, што большасць пералічаных тэкстаў актыўна бытавалі і перапісваліся на нашых землях (а з 2-й паловы XVI стагоддзя выходзілі нават друкам), хоць да сённяшняга дня ацалела іх зусім мала. З вядомых сёння згадаем, перш за ўсё, славуты Супрасльскі рукапіс XI стагоддзя, у склад якога ўваходзілі, у прыватнасці, казанні Яна Златавуснага са «Златой чепи», а з больш позніх манускрыптаў назавём «Беседу Григорія Папы Римского» XIV стагоддзя, «Слово Исаака Сирина» 1428 года і «Поученія Ефрема Сирина» 1492 года.

Па-за тым, думаецца, што некаторыя прысутныя ў спісе назвы сапраўды можна атаясамліваць з усходнеславянскімі творамі, як напрыклад, кнігу «Данило Странникъ» — з «Хаджэннем ігумена Данііла» або «Летопісец» — з тым ці іншым летапісамі (хоць, напрыклад, гэта можа быць і «Хроніка» Амартола, зрэшты, таксама, паводле Вацлава Ластоўскага, вядомая і ў беларускім рукапісе XIII стагоддзя).

Вернемся, аднак, непасрэдна да нашых спісаў. Не менш доўгім за пералік рэкамендаваных кніг з'яўляецца і пералік кніг забароненых. Пачынаецца ён заўвагай, што свецкім людзям забараняецца складаць і спяваць у царкве ўласныя псальмы (мабыць, такая з'ява была дастаткова пашыранай, калі выклікала адмысловую забарону), а таксама, што «иже кто лженаписаныя и нечестивыа полагает книгы, глаголя святым, сам да изврѫжется, а книгы да сожгутся».

Далей жа пералічваюцца апокрыфы — сёння больш ці менш вядомыя; дамо тут кароткую вытрымку, каб прадэманстраваць каларыт тэксту (літары пад цітламі азначаюць парадкавы нумар славянскай азбукай): *«А ложная же писанія суть сія и имена книгамъ ихъ: первое Адам, в̃ Енох, г̃ Лямек, д̃ Патриарси, е̃ молитва Іосіева, ѕ̃ Адам, з̃ завет Моисеов криво складеныи, и̃ Псальмы Соломони, θ̃ Ильино обавленіе, ї̃ Исаево виденіе; аї̃ Софоніево виденіе; вї̃ Захарьино обавленіе; гї̃ Іаковая повесть, дї̃ Петрово обавленіе; еї̃ Апостольстіи обиходи; ѕї̃ Варнавина повесть; зї̃ Деяніе Павлово лжею складено; нї̃ Павлово объявленіе; θї̃ Ученіе Климентово; к̃ еуангеліе от Варнавы; ка̃ еуангеліе от Фомы; кв̃ Парапаліменоны ложныя; кг̃ Еремііно сказаніе и о плененіи Іерусалімли, что орла слали из Вавулона в*

*Іерусалімъ съ грамотою; ... о китоврасе, что поведаютъ о нем: станъ коневеи, а глава человечая и брата его Соломону нарицають, басни, кощуны; лѕ̃ о Соломоне и младеньстве его; ... Писанія Іеремія, попа болгаръскаго, что Христосъ плугомъ оралъ; м̃ молитвы лживыя о трясавицехъ.»* Тлумачэнні пра змест тых ці іншых апакрыфічных кніг паказваюць, што ўкладальнік спіса быў добра знаёмы з іх тэкстамі. Гэтую частку спіса аўтар падсумоўвае наступнымі словамі: «Суть межу писанія Божественнаго словеса насеяная невежамъ на соблазн ...».

Некаторыя з названых тут кніг таксама дайшлі да нас у беларускіх спісках: напрыклад, Ластоўскі паведамляе пра пісанае ў XVI стагоддзі «Слова Иеремии презвитора яко Христос плугом орал». Яно, дарэчы, першапачаткова ўваходзіла ў склад зборніка апокрыфаў, бо на рэштках апошняга аркуша прысутнічае загаловак «Книги Еноха». Верагодна, ужо ў гэты час на нашых землях былі вядомыя і адрасаваныя чытачам-каталікам індэксы забароненых кніг Лацінскай царквы, аднак на сённяшні момант выявіць звесткі пра іх не ўдалося.

У канцы XV — 1-й палове XVI стагоддзя істотным чынам пашыраецца пісьменнасць сярод прадстаўнікоў розных слаёў грамадства, у тым ліку тых, якія раней зацікаўлення адукаванасцю не выказвалі. Напрыклад, з дзённіка Фёдара Еўлашоўскага мы даведваемся пра некаторыя асаблівасці навучання чытанню і пісьму ў сем'ях дробнай шляхты ды баярства у гэты час: «А в пятом року почато ме бавить наукою рускою, кгды ж в тых часех в тэй нашей строне не было еще иншых наук. И для того ж пришло ми зостать з рускою и полскою наукою, и по жидовску написать умелом. Але тое писмо их не потребуе умеентности езыка эбрайского, або хоть немецкого; кгды ж вжо тепер Библия жидовская немецким езыком, а литерами их выдана, чого полским езыком учинить бы се не могло для ортокграфеи, якей в ыншых языкох не маш.»

У гэты час далучаецца да адукацыі і прагне чытаць кнігі нават мяшчанства. Найяскравейшы прыклад гэтаму дае той агульнавядомы факт, што ў пачатку XVI стагоддзя полацкі мешчанін Францішак Скарына здолеў не толькі атрымаць у замежных універсітэтах адукацыю ды ступень доктара, але і заснаваў першую беларускую друкарню. Скарына не быў самотны у сваіх поглядах, пра што сведчыць падтрымка ягоных пачынанняў прадстаўнікамі віленскага патрыцыяту (згадайма надпісы на пражскіх друках: «А то ся сталося накладом Богдана Онкова сына, радцы места віленского» і да т. п.).



Рукапісны Тыпікон XVI стагоддзя.

Надзвычай выразным паказчыкам літаратурнай адукаванасці грамадства ў гэты час з'яўляецца факт стварэння літаратурных твораў не для друку, а для выказвання ў штодзённым жыцці сваіх пачуццяў ці паглядаў. Напрыклад, пісанне сатырычных твораў у сярэдзіне XVI стагоддзя становіцца такой масавай з'явай, што згадкі пра яго мы знаходзім нават у хроніках. Так, з летапісу Рачынскага можна даведацца, што калі Жыгімонт Аўгуст у 1548 годзе прыехаў у Вільню і публічна абвясціў пра свой шлюб з Барбарай Радзівіл, то «ўсім людзям і ўсёй зямлі тое шлюбаванне каралеўскае было вельмі няміла, ... і многія пашквілюсы пісалі аб тым, у замку да сцен і да ратушы, і да панскіх дамоў да варот прыбівалі, каторыя многія і да караля былі прынесены». Калі б адукаванай была толькі невялічкая купка грамадскай эліты, уявіць падобную карціну было б папросту немагчыма.

Падсумоўваючы назіранні над прадстаўленым вышэй матэрыялам, скажам некалькі слоў пра кола чытання нашых продкаў. Першапачаткова яго дыяпазон ахопліваў па-за літургічнай ды малітоўнай літаратурай у асноўным кнігі Святога Пісьма і творы хрысціянскіх аўтараў — як грэцкіх, так і ўсходнеславянскіх. Гэта пацвярджаюць і літаратурныя помнікі — напрыклад, з «Жыція Аўрамія Смаленскага» мы даведваемся, што святы «Богодухновенныя же книги и святых жития

Кірыла Тураўскі ў «Слове, каб не забывалі настаўнікаў сваіх» параўноўвае настаўніка са святым і гаворыць пра маральны абавязак вучня памінаць яго ў малітвах, «понеже ... путь показал есть, и дверь отворил райскую видением поведания, и ключа дал разума книжнаго»

почитая… (…) Изо всех любя часто почитати поучение преподобного Ефрема и великаго вселенскаго учителя Иоанна Златоустаго и Феодосия Печерскаго (…) и вся святых богодухновенных книг, жития и словеса проходя и внимаше, почиташе день и нощь…».

Але нават царкоўныя іерархі не цураліся чытання і цытавання антычнай (пераважна, грэцкай) класікі. Напрыклад, прадстаўнік смаленскае кніжнасці, Клімент Смаляціч, ствараючы ў XII стагоддзі сваё палемічнае «Пасланне да Фамы прасвітара», спасылаўся ў ім не толькі на хрысціянскія аўтарытэты (як, напрыклад, на Яна Златавуснага), але і на Гамера ды старажытных філосафаў: «аз писах от Омира, и от Аристотеля, и от Платона, иже во елиньскых нырех славне беша».

Разам з тым, айчынная кніжнасць Сярэднявечча выразна падзяляецца на дзве часткі, мяжа паміж якімі праходзіць па досыць шырокай храналагічна паласе: ад сярэдзіны XIII стагоддзя да 2-й паловы XIV стагоддзя. Арыгінальнае ўсходнеславянскае пісьменства і кніжная вучонасць, якія пачалі развівацца пасля прыняцця хрысціянства, перажываюць у гэты час заняпад як вынік неспрыяльных прыродных фактараў* і знішчэння мангола-татарамі найбуйнейшых кніжных цэнтраў — а што для нас актуальна, Кіева ды Смаленска. Ва Усходняй Русі (якая пазней пачне называцца Маскоўшчынай) узровень адукаванасці духавенства знізіўся да такой ступені, што святары нават не рызыкавалі самастойна рыхтаваць казанні, чытаючы замест іх на набажэнстве «словы» Яна Златавуснага і іншых духоўных аўтараў са зборнікаў кшталту *Павучальнага Евангелля* або *Златавуста* — пра гэта нам паведамляюць замежныя падарожнікі ў Маскоўшчыну яшчэ нават у XVI стагоддзі (гл., напрыклад, апісанні падарожжаў Р. Гейдэнштэйна і З. Герберштэйна).

Мангола-татарскія выправы XIII стагоддзя не абмінулі і Беларусь; гэтаксама і ваенная экспансія паганскай Літвы прыводзіла да вынішчэння насельніцтва, а ў тым ліку яго найбольш адукаванай часткі — святарства. Натуральна, гэта не магло не адбіцца на стане айчыннай кніжнасці. Таму, хоць і ў XIV стагоддзі, і пазней, на чале Літоўскай мітраполіі не раз станавіліся адукаваныя іерархі, якія пакідалі па сабе казанні (як, напрыклад, Рыгор Цамблак), аднак, трэба думаць, што агульны ўзровень адукаванасці праваслаўнага духавенства і ў нас быў не нашмат вышэйшы, чым у Маскоўшчыне.

Уваходжанне беларускіх земляў у 2-й палове XIV стагоддзя ў арбіту ўплываў заходнееўрапейскай цывілізацыі прывяло да паступовага пашырэння чытацкага дыяпазону продкаў. Паступова на Беларусь пачынае пранікаць спачатку лацінамоўная літургічная, тэалагічная і духоўная кніга, а пазней — і літаратура свецкая. Кнігі становяцца больш даступнымі і нярэдка знаходзяцца ва ўладанні не толькі царкоўных інстытуцый ды вышэйшай арыстакратыі, але і прадстаўнікоў сярэдніх слаёў грамадства, якія чым далей, тым болей праяўляюць цягу да адукаванасці. Напрыканцы разгляданага перыяду беларусы ўжо імкнуцца атрымліваць ад чытання не толькі мудрасць ды веды, але і асалоду; таму актыўна пачынаюць звяртацца і да мастацкай літаратуры, а ў прыватнасці, да антычнай класікі і да рыцарскіх раманаў — «Александрыі», «Троі» ці іншых да т. п. твораў.

---

*Вывучэнне расійскай Галоўнай геафізічнай абсерваторыяй імя А. І. Ваейкава летапісаў і даўніх метэаралагічных трактатаў дазволіла скласці звод экстрэмальных прыродных з'яў, што мелі месца на ўсходнеславянскіх землях на працягу 714 — 1914 гг. Паводле вынікаў даследавання, у 1-ю трэціну XIII ст. узрасла колькасць неспрыяльных прыродных з'яў, якія спрычыніліся да распаўсюджвання голаду і пошасцяў. На думку даследчыкаў, за некалькі гадоў да мангола-татарскага нашэсця некаторыя гарады, як напрыклад Смаленск, амаль цалкам вымерлі (паводле: Из рассказа русских летописей // Наука и религия. 1988. № 12. С. 13).

**Наталля Заяц**

# «Мы з Нямігі…»

## *Узаемапрысвячэнні Генадзя Бураўкіна і Васіля Зуёнка*

**Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Анатоль Вярцінскі, Міхась Стральцоў, Янка Сіпакоў, Іван Чыгрынаў, Вячаслаў Адамчык і іншыя добра вядомыя ў другой палове 1950-х разам спасцігалі навуку, разам адольвалі цяжкасці і дзялілі радасці ў студэнцкім інтэрнаце.**

У адным пакоі на Нямізе, 21 сышліся шляхі двух юнакоў — Генадзя Бураўкіна і Васіля Зуёнка. На працягу некалькіх гадоў студэнты журналісцкага аддзялення і па сумяшчальніцтве пачаткоўцы ў літаратуры жылі поруч. Сёння Васіль Зуёнак з удзячнасцю, настальгіяй і добрым гумарам згадвае час юнацтва ў лірычных творах. Так, у вершы «Прафесар мовы Леў Шакун…» (2011) ажывае «неафіцыйная» сустрэча з аўтарытэтным настаўнікам: «Зваліўшы мову» Шакуну, / З Бураўкіным Генадзем / Мы зазірнулі ў чайхану — / Па кроплю чаю «ради». // І трэба ж: толькі налілі / (Студэнцкі сціплы шкалік!..) — / Узнік, як быццам з-пад зямлі, / Каго мы не чакалі. // Прафесар мовы Леў Шакун / (Мо ў знак, што мы не «ўтоплі»?) / Па-партызанску «першаку» / Забег «прычаіць» кроплю. // Ну што ж, ну што ж, бывае й так: / Галодныя паэты / З прафесарам глынулі ўсмак, / А ён яшчэ й катлеты // Замовіў: «Хлопчыкі, з’ядзім, / З’ядзім — а не закусім», — / Стылёва нас адгарадзіў — / І чарку ўзяць прымусіў». Вядома, для студэнта застолле з прафесарам — з’ява не шараговая, такія кур’ёзныя падзеі помняцца ўсё жыццё: «З экзамену навесяле / У інтэрнат прыйшлі мы. / Ну, хай сабе, ну, хай… — але // Па мове пабрацімы: / Не проста пачастунак быў / У нас прафесаровы, — / Не так, не лыкнуць, не абы… — / А за здароўе мовы!». Як паказаў час, колішнія юнакі сваім шматгадовым служэннем паэзіі апраўдалі «пабрацімства» з вядомым мовазнаўцам, стаўшы не менш аўтарытэтнымі майстрамі слова, чым іх настаўнік, толькі не ў навуцы, а ў літаратурнай творчасці.

Атмасфера нястомных творчых пошукаў, перыяд назапашвання першага літаратурнага вопыту, жыццё ў асяродку калег і аднадумцаў узнаўляюцца і ў зуёнкаўскім вершы 2001 года «Мы з Нямігі», прысвечаным Генадзю Бураўкіну: «Інтэрнат быў настаўнік строгі — / Індульгенцый не выдаваў, / Скараспела рэдакцый парогі / Разам з намі не абіваў. / І вучыў, і даваў заруку, / І салодкі ялей не ліў. / І што выблісне раптам у друку — / Ахалоджваў больш, чым хваліў. / Не згінацца і не схіляцца, / Не выпрошваць лёгкіх дарог, — / На Нямізе крылы юнацтва / Разгарнуць інтэрнат нам памог». Няміга, 21 давала не толькі прытулак, але і адмысловую загартоўку, па якой і цяпер пазнаюцца даўнія таварышы: «І па сёння авансаў не просім: / Мы з Нямігі, — такі пакрой. / І ў чупрыны майская просінь / Заблукала — спытаць пра настрой» («Мы з Нямігі»).



Студэнты-першакурснікі аддзялення журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. Васіль Зуёнак, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Скапа. Інтэрнат БДУ на вул. Няміга, 21. Мінск, 1954 год.

Заключная страфа адсылае да зборніка Генадзя Бураўкіна, з якім ён даволі паспяхова дэбютаваў у 1960-м, неўзабаве пасля заканчэння ўніверсітэта. «Назва “Майская просінь” добра адцяняе свежасць і непаўторнасць юнацкай пары аўтара і яго лірычнага героя, удала перадае жыццярадасны пафас усёй кнігі», — зазначае ў акадэмічным шматтомніку «Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя» даследчыца З. Драздова. Падкупляюць праўдзівасць інтанацый, рамантычна-ўзнёслая настраёвасць кнігі, лірычны герой якой адкрыты свету: «Сёння я незвычайна радасны, / Ну, не хлопец — усмешка адна: /



Ва ўніверсітэцкім скверыку. Стаяць (злева направа): Рыгор Барадулін, Анатоль Клышка, Васіль Зуёнак, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін. Сядзяць: Юрась Свірка, Мікола Арочка, Кастусь Цвірка

Цеплынёю дваццаціградуснай / Абагрэла мяне вясна. <…> // І паветра здаецца мядовым, / І нябёсы — / чысцей і сіней. / Я іду — дваццацігадовы, / І дзяўчаты глядзяць на мяне».

Першая кніга Васіля Зуёнка «Крэсіва» прымусіла сябе чакаць — яна пабачыла свет толькі праз шэсць гадоў пасля бураўкінскага дэбюту (праўда, у 1965-м ёй папярэднічаў зборнік вершаў для дзяцей «Вясёлы калаўрот»). У ліку першых у лімаўскай рэцэнзіі «Выспелена ў сэрцы» шчыра вітаў з'яўленне лірычнага зборніка Генадзь Бураўкін. «Гэта кніжка паэта, — упэўнена сцвярджаў нядаўні аднакашнік. — Не "пачынаючага", не "здольнага", а — паэта. <…> Гэта паэт са сваім голасам, з высокай культурай радка. Ён паза кніжкай пераўжыў пару літаратурнай маладосці, пару вучнёўства. Да сваёй першай (па ліку) кніжкі ён прыйшоў у поўным узбраенні, добра ведаючы высокія сённяшнія патрабаванні да паэзіі і не баючыся іх…». Водгук умяшчае ў сябе прафесійны погляд і высокую ацэнку калегі, захапленне чытача, радасць сябра: «Радуе цэласнасць і шырыня яго светаўспрымання, ашчаднае стаўленне да роднага слова. Радуе яго непаспешлівасць і патрабавальнасць. <…> В. Зуёнак не дапусціў у кніжку старых, вучнёўскіх вершаў, якія калісьці друкаваліся ў газетах і, дарэчы, былі не горшымі сярод сваіх "братоў". І гэта таксама гаворыць аб яго ўдумлівасці».

Менавіта верш з кнігі «Крэсіва» — «Ніхто не пачуў…» — натхніў Генадзя Бураўкіна на тое, каб напісаць паэтычнае прысвячэнне Васілю Зуёнку. Датаваны 1995-м, лірычны тэкст быў уключаны ў «Выбраныя творы» («Кнігазбор», 2009), што сведчыць пра ягоную каштоўнасць для аўтара.



Генадзь Бураўкін і Васіль Зуёнак на Фестывалі беларускай культуры на Алтаі, 1973 год.

По даху грукне яблык уначы,
Падкрэсліць цішу і спакой вясковы.
І ты між небам і зямлёй —
нічый,
Як іншапланецянін выпадковы.

Табе пашанцавала неўпрыкмет
Забрацца ў пуню на сухое сена,
З падстрэшша зорку кінуць у Сусвет,
І засмяяцца,
І заснуць імгненна.

І абдымаць туманам сенажаць,
І ветрам пралятаць па-над палямі,
І ў неба рукі лёгкія ўзнімаць,
І чуць зямлю жывую пад нагамі.

І забывацца,
Хто ты ёсць і дзе,
І несці ў сэрцы ўздым і азарэнне…
Пакуль зялёны яблык не ўпадзе
І вернецца зямное прыцягненне.

У творы трапна і беспамылкова прыкмечана здольнасць Васіля Зуёнка-паэта сягаць у касмічныя вышыні, не страчваючы пры гэтым сувязі са звычайным жыццём, заўважана адначасовая прыналежнасць мастака да дзвюх стыхій — нябеснай і зямной. Інтэртэкстуальныя элементы (алюзіі, рэмінісцэнцыі, цытаты) натуральна ўваходзяць у творы-прысвячэнні і выступаюць своеасаблівым ключом для разумення аўтарскай інтэнцыі, спасціжэння ідэі твора. Арганічна ўключаныя ў верш вобразы яблыка, што грукнуў па даху, зорак, Сусвету, зямлі, зямнога прыцягнення адсылаюць да тэкстаў-першакрыніц і з'яўляюцца, па-сутнасці, паэтычнымі кодамі мастацкага свету Васіля Зуёнка. Як некалі рэцэнзія «Выспелена ў сэрцы», гэтае прысвячэнне не толькі дакладна характарызуе наробак сябра юнацтва, але і выяўляе ўласны літаратурны густ і творчыя прыярытэты Генадзя Бураўкіна.

Адным з прыярытэтаў бураўкінскай паэзіі з самага пачатку стала непрыняцце лозунгавасці і рытарычнасці, хваласпеўства ў гонар уяўных правадыроў і куміраў. Значны рэзананс і шырокую вядомасць атрымаў верш Генадзя Бураўкіна «Адышлі ў нябыт панегірыкі…», ідэйны змест якога якраз і накіраваны на сцвярджэнне праўды ў мастацкай творчасці і ў жыцці, на развенчванне літаратурных канонаў папярэдняй эпохі. Напісаны ў 1962 годзе, на ўздыме «адлігі», твор сведчыў пра грамадскія зрухі і чаканні: «Адышлі ў нябыт панегірыкі / ціхім вінцікам, ранняй сяўбе. / Людзям хочацца шчырай лірыкі / Не пра вінцікаў, пра сябе <…> // Людзі хочуць, каб званні і славу / Не давалі нікому дарма… / Людзі маюць на гэта права. / Ім дала яго праўда сама…». У 2000 годзе пра рэцыдывы трывожных тэндэнцый гаворыць Васіль Зуёнак у вершы «Вяртанне», створаным «па матывах» працытаванага твора. Інтэртэкстуальная прырода верша відавочная: яна ажыццяўляецца праз эпіграф («Адышлі ў нябыт панегірыкі…». Г. Бураўкін. 1962), а таксама праз выкарыстанне рэмінісцэнцый (узнаўленне асобнага вершаванага радка, некаторых элементаў вобразнай сістэмы, рытміка-інтанацыйнага малюнка). Аўтар канстатуе факт вяртання «панегірыкаў» у літаратурную творчасць і жыццё: «І прытронна ўжоззяюць мундзірыкі. / І патрону сведчыць бамонд, / Што вяртаюцца панегірыкі / І другі адкрываецца



Святочная вечарына, прысвечаная 75-годдзю Генадзя Бураўкіна, 14 верасня 2011 года.

фронт…», і гэта не можа не засмучаць яго. Расчараванне Васіля Зуёнка ў былых надзеях і засмучэнне сучасным станам рэчаў выяўляецца таксама ў вершы-звароце «Няўжо, Генадзь…» (1996): «Няўжо, Генадзь, / Гацілі гаць, / Радком масцілі / Грэблю, / Каб вылез шлях той зруйнаваць / Якісьці непатрэбнік?.. ». Нягледзячы на агульную мінорную танальнасць твора, фінальныя радкі поўняцца аптымістычнай верай у перамогу сапраўдных каштоўнасцей над ілюзорнымі: «Ілжэпрарокі — да пары, / А праўда — несмяротная!.. ».

Сугучча думак і пераканання, запачаткаванае ў студэнцкія гады, падмацоўвалася наступным жыццёвым вопытам, нярэдка агульным для абодвух паэтаў. Напрыклад, гэта датычыцца іх



Развітанне з Генадзем Бураўкіным у мінскім Свята-Петра-Паўлаўскім саборы 31 мая 2014 года.




Вечарына памяці Генадзя Бураўкіна ў Палацы мастацтваў 2 верасня 2014 года.

судачыненняў з часопісам «Маладосць», дзе ў розны час яны займалі адны і тыя ж пасады — намесніка галоўнага рэдактара і галоўнага рэдактара. Абодва паэты былі ўганараваны прэміямі Ленінскага камсамола Беларусі і Дзяржаўнай прэміяй імя Янкі Купалы, абодва мелі стасункі з ААН. У 1985 годзе Васіль Зуёнак у складзе беларускай дэлегацыі пабываў на 40-й сесіі Генеральнай Асамблеі, Генадзь Бураўкін жа ўвогуле амаль чатыры гады быў пастаянным прадстаўніком Беларусі ў гэтай міжнароднай арганізацыі…

Кожны з равеснікаў, тым не менш намацаў сваю, адзіную сцяжыну ў мастацтве і атрымаў на ёй добры плён. Пра захапленне літаратурным набыткам таварыша гаворыць Васіль Зуёнак у вершы «Усяночная», прысвечаным Генадзю Бураўкіну і напісаным пасля прачытання ягоных «Выбраных твораў». Па прызнанні паэта, ноч з 27-га на 28-е лістапада 2009 года сталася для яго шчырай размовай і пацвярджэннем душэўнага сугучча з аўтарам выбранага: «Гэта кніга колеру зары — / Гэты том — мне расхінаў нябёсы: / Усю ноч з табой прагаварыў / Сон мой, — як ступаў па зорах босы. // Колькі ўскалыхнулася ў душы / Заімглёных радасцяў і боляў!.. / Гаманілі дні ў начной цішы, — / Гэта гаманілі мы з табою... // Хай цікуе старасць на двары / І карціць старой ля нас пагрэцца, — / Не, тых дзён ніхто не адбярэ: / Што было — навекі застаецца. // Знае кніга: сон мой не заснуў, / Ні на хвілю не замружыў вочы, — / Ён бяссонна мне вяртаў вясну / Гэтай лістападаўскаю ноччу».

У Зуёнкавых прысвячэннях Генадзю Бураўкіну асоба адрасата звычайна асацыюецца з вясною. Шмат якія акалічнасці можна згадаць, разважаючы аб прычынах узнікнення такой асацыяцыі: сярод іх — і агульнае юнацтва, і вясновая назва першага зборніка Генадзя Бураўкіна — «Майская просінь», і толькі ўзмоцненая з часам чысціня і свежасць яго мастакоўскага голасу… Менавіта вясной, 31 мая 2014 года, выдатнага творцу праводзілі ў апошні шлях са Свята-Петра-Паўлаўскага сабора на Нямізе, што наводзіць на роздум пра фатальную прадвызначанасць чалавечых пуцявін, іх невыпадковасць. На аналогіі паміж апошняй вясной і вясной юнацтва пабудаваны прачула-жалобны, пранізлівы твор-развітанне Васіля Зуёнка «Дзве вясны на Нямізе», прысвечаным памяці Генадзя Бураўкіна: «“Няміга, 21”… / Вясновы адрас юнацтва… / Зямныя шляхі адхадзіў — / Прыйшоў развітацца… // Паведаць штосьці сябрам — / А дом даўно зруйнаваны… / Няміга… Насупраць храм / З труною, вянкамі ўбранай… // Няўжо гэта ты, Генадзь, / Такі паважны, спакойны, — / Няўжо нам не заспяваць / І чарку не ўзняць ніколі? // Як тое было, дзе вадзіў / Ты рэй інтэрнацкі вясновы: / “Няміга, 21” — / І майская просінь слова. // Няміга… Зноўку вясна, / І майская квецень бушуе. / А ты ўжо ў нябесных снах / І толькі малітву чуеш… // “Няміга, 21”, — / Шапчу я ў тон адпявання: / Паўстань з руінаў — прыйдзі / З сябрам на развітанне. // “Няміга, 21” — / На першым паверсе крама, / Другі, інтэрнацкі, глядзіць / На сціплыя прыступкі храма… // Цяпер па прыступках тых / Выносіцца дамавіна, — / Апошні Нямігі ўздых / У імя Айца і Сына… // Закончаны шлях крыжавы / Дарогай нябеснаю весняй, — / Вясна застаецца жывым: / Вясна яго вечнай песні».

Праз шэсць дзесяцігоддзяў пасля першай сустрэчы Васіль Зуёнак сказаў апошняе «бывай» сябру студэнцкіх дзён. У храме на Нямізе, непадалёк ад месца, дзе некалі квітнела іх агульная вясна і дзе пачыналася новая літаратурная эпоха — філалагічная.

# Сустрэча з гістарычным пісьменнікам

# Вітаўт Чаропка:

# «Літаратура не сродак заробку, а прызванне…»



Фота Анатоля Клешчука.

**Шмат гадоў таму Алесем Карлюкевічам былі зададзены пытанні і тады вядомаму пісьменніку Вітаўту Чаропку пра літаратуру і яго ўласнае месца ў літаратурным працэсе. У выніку з'явілася інтэрв'ю і было надрукавана ў газеце «Культура» пад назвай «Хто сказаў, што я пісьменнік?». Быў 1995 год. Прайшло болей як два дзесяцігоддзі. Можна толькі здагадвацца, што змянілася за гэты час. Увогуле ў жыцці. У літаратуры. У творчым лёсе некалі культавага аўтара Вітаўта Чаропкі, які па-ранейшаму піша і выдае мастацкія і публіцыстычныя кнігі. Бібліяграфія падказвае: іх выдадзена болей за дваццаць… І цяпер пісьменнік час ад часу друкуецца ў часопісах. Хацелася б, каб гэта было часцей. Вось у «Звяздзе» Чаропкам распачата публікацыя цыкла гістарычных эсэ пра розных персанажаў беларускага пантэона. Пачатак пакладзены расповедам пра Рагвалода. Хацелася б, каб да напісанага Чаропкам большай была ўвага з боку і сучасных чытачоў.**

**А каб уявіць, чым кіруецца сёння Вітаўт Чаропка ў сваіх шуканнях, яму зноў былі зададзены пытанні для інтэрв'ю. Тыя самыя пытанні, з якімі Алесь Карлюкевіч звяртаўся да Вітаўта ў 1995 годзе. І вось што пачута было ў адказ…**



Фота Анатоля Клешчука.

**— Вітаўт, як сёння жывецца беларускаму пісьменніку? Добра, дрэнна?**

— Само па сабе пытанне правакацыйнае. Пісьменнікі, як і людзі, розныя, і ўсё залежыць ад таго, што яны лічаць жыць добра ці дрэнна. Скажам, за савецкім часам іх матэрыяльнае становішча было неблагое, выплачваліся добрыя ганарары. Улады апекавалі пісьменнікаў як інтэлектуальную эліту. Сёння, пэўна, чыноўнікі лічаць сябе інтэлектуальнай элітай народа, а таму ім напляваць на пісьменнікаў — жывіце як хочаце, выжывайце, як зможаце. Але сёння пісьменнік свабодны ад дыктату, сёння яго талент належыць толькі яму, сёння ён можа свабодна тварыць. І гэта сапраўды вялікае дасягненне пісьменніка. Калі ён піша, як пішацца, дык ён і жыве як пісьменнік і пляваць яму, што ён за рысай жабрацтва, бо літаратура не сродак заробку, а прызванне, стан душы і лад жыцця.

**— Што ж тады астатнія людзі?**

— А што да астатніх людзей, дык параю ім пісаць сваю кнігу жыцця на «нябеснай паперы» (працытую Дранько-Майсюка), каб яна была прыгожай, а душы былі чыстымі і светлымі, не засмечваць атмасферу сваёй горкай сутнасцю, а несці радасць у жыццё.

**— Дык чаму ж тады ваш жыццёвы выбар прыпаў на літаратуру? Узрост жа, на мой погляд, яшчэ дазваляе пачаць іншую справу. Пайсці, прыкладам, у бізнес…**

— Гэта не мой выбар, павер. І на камянях растуць дрэвы і праз брук праб'ецца трава — такая моцная жыццёвая сіла. А чалавечы дух не стрымае нягоды, ён рассячэ ўсе перашкоды, як сонечны прамень — імглу хмар, і заззяе светачам. У доказ гэтай ісціны богі знаходзяць чалавека, жыцця якога ім не шкада. Вось чаму талент і ёсць самае пакутлівае пакаранне чалавека. Прыводзіць прыклады залішне. Я не сустракаў яшчэ шчаслівых пісьменнікаў, бо ў іх сэрцах жыве боль за ўсіх.

А наконт бізнесу скажу так. Уяві сабе Уладзіміра Караткевіча ўладальнікам крамы ці гандляром. Не можаш? Вось і я не магу ўявіць сябе бізнесоўцам. Ёсць такое паняцце, як Гамбургскі рахунак, калі падводзіцца вынік твайго жыцця, калі ні твае грошы, ні твой сацыяльны стан нічога не каштуюць — вартае нечага тое, што ты пакінуў людзям. Па ўзросце я перажыў свайго дзеда, які загінуў пад Варшавай, але ён пакінуў пасля сябе шасцярых дзяцей і кроплі яго крыві цякуць у маіх жылах. І ў ягоным доме я вырас. Я ўжо перажыў і Караткевіча, які ў свае 54 гады адышоў ад нас легендай і класікам. Дык вось у мяне якраз той узрост, калі трэба пачынаць усё спачатку. Хай ужо няма юнацкага запалу і ружовай мары, якія вядуць наперад, але ёсць вопыт і майстэрства, з якімі можна дарабіць недаробленае і ў рэшце рэшт ажыццявіць самае значнае, дзеля чаго ты і прыйшоў у гэты свет. Такі ўзрост, калі няма ўжо страху перад смерцю, але ты даражыш самым дарагім — часам, што ні за якія грошы не вернеш. А ты кажаш, займацца мышынай валтузнёй, пасля таго, як мае героі ішлі ў бой за Беларусь, гінулі за яе.

**— Вы высокай думкі пра свой талент?**

— Дрэнны той творца, які не шануе свой талент. Хоць часта таленавітыя людзі і самі не ўсведамляюць сілу свайго таленту. Для іх натуральна пісаць вершы, музыку, карціны — гэта іх сутнасць. Затое мы не бачым іх таленту, а шкада, вельмі шкада, хоць плач.

**— Якія мэты вы вызначаеце перад сваёй творчасцю?**

— Ніякіх. Творчасць не ставіць ніякіх мэт, словы самі выліваюцца з душы, а я іх толькі запісваю. І мае творы ляжаць у мяне гадамі. І толькі тады, калі яны не струхнелі, калі яны сапраўды вартыя таго, каб быць надрукаванымі, я аддаю іх у друк. І павер, у мяне іх досыць, ад абразкоў да рамана «Гульня з часам», дзе я правёў сваіх герояў па этапах чалавечага жыцця, каб яны вызначыліся ў ім і былі годнымі проста жыць.

**— Выходзіць, што, імкнучыся выказацца, вы ўсё ж такі пэўны адрас бачыце?**

— Як жа я магу ўбачыць, і ўвогуле, як гэта магчыма? Ніхто не ведае, як слова наша адгукнецца, як казаў Пушкін. Мы ўжо столькі напісалі, што не дастае чытачоў для нашых твораў. А мы ўсё пішам і пішам, каб не памерла наша мова.

**— Вітаўт, вы працуеце ў розных разгалінаваннях літаратуры. Першая кніга — раман. Пасля — зборнік гістарычных нарысаў. Далей — выразна публіцыстычная кніжка — «Гісторыя нашага імя». Што ёсць для вас фарматворчасць, як вы ставіцеся да розных жанраў?**

— Пісьменнік павінен быць разнастайным, і ўвесь час развівацца і расці ўгору да нябёсаў, а каранямі трымацца за зямлю, каб шырэй раскінуць свае далоні-галіны. Хай гэта вобразна сказана, але, лічу, правільна. Капіраванне сябе, паўтарэнне пройдзенага і дасягнутага — гэта смерць творчай натуры, гэта боязь перад новым, нязведаным, немагчымым. Я магу год патраціць на вывучэнне старажытнабеларускай мовы і напісаць на ёй аповесць, каб давесці, што на ёй можна было ствараць беларускіх «Трыстана і Ізольду». Магу напісаць авантурны раман з

## Інтэрв'ю 1995 года

### Вітаўт Чаропка: «Хто сказаў, што я пісьменнік?..»

Вітаўт Чаропка — імя для беларускага чытача знаёмае. З рэцэнзіямі на першы раман маладога пісьменніка — «Храм без бога» — выступілі часопісы «Беларусь», «Спадчына», газета «Літаратура і мастацтва».

Услед за раманам пабачылі свет яшчэ і дзве кнігі гістарычнай публіцыстыкі Чаропкі — «Імя ў летапісе» і «Гісторыя нашага імя».

У мінскіх выдавецтвах падрыхтаваны да друку новыя рукапісы літаратара, які ўсё яшчэ не з'яўляецца сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Сённяшні наш дыялог з Вітаўтам Чаропкам — не гэтулькі пра літаратуру ўвогуле, колькі пра яго асабістае асэнсаванне творчасці, пра жыццё ўвогуле.

**— Вітаўт, як сёння жывецца беларускаму пісьменніку? Добра, дрэнна?**

— Канешне, дрэнна. Ды і няўжо сёння можна жыць...

**— Што ж тады астатнія людзі?**

— Так і астатнія. Жуюць, каб выжыць.



Вітаўт Чаропка, 1995 год. Фота Кастуся Дробава.

Мы ўжо столькі напісалі, што не дастае чытачоў для нашых твораў. А мы ўсё пішам і пішам, каб не памерла наша мова

элементамі фантасмагорыі, а магу ў «Эрагеннай зоне» выкарыстоўваць мат, бо гэта таксама частка нашай мовы і культуры і нікуды не падзенешся, як нікуды не падзенешся ад кахання ці сексу. І адна з бед беларускай літаратуры ў тым, што яна сумная і несучасная, даволі аднастайная і абмежаваная менавіта жанрава. У нас няма, ох шмат чаго няма…

**— Час ад часу вы здраджваеце ў сваёй творчасці гістарычнай праблематыцы, гістарычнай тэме…**

— Калі ты маеш на ўвазе мае гістарычныя штудыі, дык гэта катарга, з якой я хачу даўно ўцячы. Але, што паробіш, я сам добраахвотна ўлез у яе, бо мне было няўтульна жыць у соцыуме, дзе няма сваёй гісторыі, культуры, мовы. Вось я пачаў пісаць сваю гісторыю, ствараць свет сваіх герояў, а пасля высветлілася, што я проста каментатар чужых жыццяў. Ды пасля стольких гадоў катаргі ў бібліятэках у пошуках ведаў і схіленні над паперай, калі ад стомы ручка робіцца цяжкай, як вясло галеры, я маю права на свабоду. Маю права сядзець ноччу і пісаць перайманне «Песні песняў» Саламона, і, прачытаўшы яе на ранку, сказаць сабе, што гэта лепшае пра каханне ў нашай літаратуры. Але да гэтага трэба было ісці ўсё жыццё, несучы боль і смутак па загубленым каханні, і кахаць, кахаць нават прывід каханай. Ці тая ж «Гульня з часам», дзеля яе, каб адчуць творчасць мастака (майго галоўнага героя), я закінуў і гістарычную тэму, і літаратуру і ўвогуле рэальнае ўспрыманне жыцця, я пісаў карціны, я вучыўся бачыць свет мастака, бачыць у фарбах і колеры вобразы. І цяпер у мяне не кватэра, а Луўр! І я шчаслівы, што ў мяне ёсць калекцыя карцін, якая

**— Дык чаму тады ваш жыццёвы выбар прыпаў на літаратуру? Узрост жа, на мой погляд, яшчэ дазваляе пачаць і іншую справу. Пайсці, прыкладам, у бізнес...**

— Такая хвароба ў мяне — пісаць, жыць у літаратуры.

**— Вы высокай думкі пра свой талент?**

— Такія пісьменнікі, як Чаропка, нараджаюцца толькі раз у тысячу гадоў... А калі ўсур'ёз, то думкі пра мяне няхай выказваюць іншыя. На тое ёсць крытыка. Ёсць чытачы.

**— Якія мэты вы вызначаеце перад сваёй творчасцю?**

— Адзіную мэту я стаўлю — толькі рэалізаваць сябе. Не хачу быць ні маралізатарам, ні настаўнікам-дыдактыкам. Проста праз творчасць хачу выказаць свае погляды на сённяшнюю сітуацыю, на мінулае.

**— Выходзіць, што, імкнучыся выказацца, вы ўсё ж такі пэўны адрас напісанага бачыце?**

— Не, я раблю ўсё толькі дзеля сябе аднаго. Я арыентуюся не на чытача, а на сваё «я». Калі знойдуцца людзі, якім мая творчасць цікавая, значыцца, чытача з пісьменнікам звязала агульная плынь. Але гэта ўжо справа чытача, ініцыятыва — якраз за ім... А ўвогуле, і ў гэтым я перакананы, пісьменнік павінен быць яркай індывідуальнасцю.

**— Вітаўт, вы працуеце ў розных разгалінаваннях літаратуры. Першая кніга — раман. Пасля — зборнік гістарычных нарысаў. Цяпер вось выразна публіцыстычная кніжка — «Гісторыя нашага імя». Што ёсць для вас фарматворчасць, як вы ставіцеся да розных жанраў?**

— Не раблю пэўнага падзелу. Галоўнае, лічу, — выказацца.

**— Час ад часу Вв здраджваеце ў сваёй творчасці гістарычнай праблематыцы, гістарычнай тэме...**

— Не час ад часу, а ўвесь час. І таму, што мне так падабаецца. Не магу ж я ўвесь час пісаць пра забойствы, пра інтрыгі. Хочацца самому нешта ствараць.

Кнігу «Імя ў летапісе» мог бы любы напісаць. Толькі не трэба ленавацца, а папрацаваць у бібліятэцы 3—4 гады. Проза ж, мастацкая проза — зусім іншая рэч. Проза — чыста індывідуальная справа. Вось і цягне да яе. Хочацца нешта менавіта стварыць, прыдумаць. Хочацца прыдумваць сваіх герояў. Узнікае патрэба выпрацаваць, па-мастацку зацвердзіць сваю эстэтыку. І якраз у прозе больш прасторы для выражэння самога сябе.

**— А ці не здарыцца з часам так, што корпацца ў гісторыі вам зусім надакучыць?**

— Надакучваюць «гісторыі хвароб»... Гісторыя ж — такая таямніца, што не можа надакучыць. Іншае, што часам трэба мець сілу волі, каб пакінуць, як вы кажаце, корпацца. Прынамсі, усё, што мы робім, — гісторыя. А праз 100 гадоў, дык дакладна — гісторыя. Мой плюс, што я ўсведамляю сябе чалавекам гістарычным. І творчасць сваю асэнсоўваю як частку гісторыі Беларусі. І тут, у такіх высновах мною кіруюць зусім не амбіцыі. А хутчэй — гэта гістарычнае самавызначэнне накладвае адказнасць як за самога сябе, так і за талент.

**— Вітаўт, вашы развагі проста падштурхоўваюць і да такога вось пытання. Як вы лічыце, якое ваша месца ў беларускай літаратуры?**

— Далібог, апроч свайго, у мяне ніякага месца няма.

**— Таму вы і не ўступаеце ў Саюз пісьменнікаў Беларусі?**

— Хто сказаў, што я пісьменнік?..

*Гутарыў Алесь Карлюкевіч*

для мяне бясцэнная. Вось такія метамарфозы могуць адбывацца, калі «здраджваеш» гістарычнай праблематыцы.

**— А ці не здарыцца часам так, што корпацца ў гісторыі вам зусім надакучыць?**

— Здаецца, на гэта пытанне я адказаў. Часам не толькі надакучвае, але і разбіваеш сабе мазгаўню. У самым прамым сэнсе. Калі я паказваў сцэну са свайго сцэнарыя аб Усяславе Чарадзею кінарэжысёру Юрыю Бяржыцкаму, як трэба сыграць адчай, дык ад задужай экспрэсіі так ляпнуўся галавой аб падлогу, што разбіў да юхі нос. Вось гэта пранікненне ў гісторыю! Не лезь туды, куды не просяць. Яшчэ ж снілася, што за мной ганяецца князь Гедымін з кулямётам, каб застрэліць гэтага нахабнага самазванца Вітаўта Чаропку, які лезе ва ўсе шчыліны мінулага і ўсё хоча выведаць, і вывесці ўсіх на чыстую ваду.

**— Вітаўт, вашы развагі проста падштурхоўваюць і да такога вось пытання. Як вы лічыце, якое ваша месца ў беларускай літаратуры?**

— Маё месца ў літаратуры самае што ні ёсць пачэснае, сярод іншых. Спачатку класікі, якія асобна, пасля пералік заслужаных прозвішчаў, а пасля «і іншыя». Дык вось, я сярод іншых, сярод тых, якіх яшчэ пашукаюць.

**— Таму вы і не ўступаеце ў Саюз пісьменнікаў Беларусі?[1]**

— А вось тут я адкажу. Я першы і адзіны, каго выключаюць з Саюза пісьменнікаў не з-за нейкіх там ідэйных меркаванняў, а з-за маёй беднасці, бо ў мяне няма грошай плаціць членскія ўзносы. А калі б нават і былі, я іх патраціў бы на фарбы і гэта былі б грошы, якія не выкінуты на вецер, а ператвораныя ў памятку часу, у якім жывём мы, і якія не ведаюць дэнамінацыі. Гэта тое, што належыць ужо не мне, я толькі захоўваю памятку часу[2].

*Чэрвень — ліпень 2016 г.*

---

[1] Вітаўт Чаропка — член Саюза пісьменнікаў.
[2] На момант падрыхтоўкі гутаркі да друку ніхто Вітаўта Чаропку з Саюза пісьменнікаў не выключаў.



Вітаўт ЧАРОПКА

## Яго вялікасць паэт

Ёсць людзі, якіх ужо пры жыцці прызнаюць вялікімі, у тым ліку і вялікімі пісьменнікамі. У нашай літаратуры такімі былі Купала, Колас, Багдановіч, Мележ, Караткевіч, Быкаў. Але ёсць і такія, што імкнуцца, аж са скуры лезуць, са скарлупіны свайго быцця вылушчваюцца, каб здавацца вялікімі, выкарыстоўваюць для гэтага ўсё прыдатнае для славы ад плётак да эпатажу. У савецкую эпоху блізкасць да ўлады, а то і сама ўлада ў саюзе пісьменнікаў вылучыла кагорту шэрых «класікаў», якія друкаваліся і перадрукоўваліся, тыражаваліся і праслаўляліся заўсёды і ўсюды, расхвальваліся, асыпаліся ўзнагародамі і прэміямі, рознымі шчодрасцямі як то кватэры, ільготы, ласкі ўлады. Яны, як мыльныя бурбалкі, падымаліся высока, зіхацелі яскрава ў сонечных промнях славы, а пасля лопаліся, як тыя бурбалкі на вадзе, і ўсё — нічога не засталося ад іх.

Але ёсць пісьменнікі, якія ствараюць міфы аб сваёй вялікасці і асаблівай выключнасці. Не трэба іх блытаць з правакатарамі асабістай славы, якія свядома падстаўляюць сябе пад удары лёсу, каб толькі аб іх згадвалі, трымалі іх імя на языку. Тыповы таму прыклад Славамір Адамовіч. А самым вялікім міфатворцам аб сваёй выключнай асобе і яе высокай паэзіі, без сумненняў, лічыцца Анатоль Сыс. Кажуць, што Сыс не пакінуў следу ў літаратуры, яго паэзія ўсё ж не паднялася да ўзроўню хоць бы Дубоўкі ці Жылкі, Сербантовіча ці Дзяргая. Ён бы так і застаўся паэтам сярэдняга ўзроўню, каб не наслядзіў там, дзе з'яўляўся, як шэрая хмара з грымотамі і маланкамі, то ў бары Дома літаратараў (адсюль і яго прозвішча Барскі), рэдакцыях часопісаў і газет, кватэрах знаёмых і незнаёмых выпівох і сабутэльнікаў, майстэрнях мастакоў — усюды, дзе ён выпіваў, блазнаваў, трызніў вершамі і пужаў тых, хто не ведаў яго. Вось пра гэта дружна і ўспамінаюць. Не пра яго творчасць, не пра яго загублены марна паэтычны дар, не пра яго драматычны лёс, а менавіта пра блазноты і п'яныя выхадкі і выкрутасы вечна хмяльнога, а цяпер ужо, як высвятляецца, ажно вялікага паэта. П'яных выхадак ці проста сцёбу або эпатажу ў Сыса хапала. Напрыклад, адбываецца нейкае ўрачыстае паседжанне пісьменнікаў у іх доме на Фрунзэ, 5. У прэзідыуме за доўгім сталом вассядаюць паважаныя мэтры на чале з Іванам Шамякіным, які зіхаціць на пінжаку залатой зоркай Героя Сацпрацы. Усё чын-чынарам — сур'ёзна і адказна, выступаюць прамоўцы, зал моўчкі затоена слухае іх. Мэтры ганарліва паглядаюць на шэрую пісьменніцкую масу, радуючыся ў душы, што ім удалося выбрацца з гэтай багны на выратавальны бераг сцэны прэзідыума. Цяпер яны ужо выбраныя, амаль неўміручыя, да іх слова прыслухоўваюцца. І тут як чорт з табакеркі, у зале з'яўляецца сам Анатоль Ціханавіч з аб'ёмнай каструляй баршчу ў руках і прэцца прама на сцэну да мэтраў, вуркоча сваім басіста-хрыпатым голасам: «А даражэнькія вы мае, сядзіце галодныя, ніхто вас не пакорміць коцікаў. Не дам вам памерці галоднай смерцю». Ставіць на стол каструлю і пачынае падносіць чарпак з чырвоным варывам да ратоў паважаных мэтраў. «Падсілкуйцеся, даражэнькія мае». Мэтры збянтэжана чырванеюць, адмаўляюцца, адводзяць раты ад пыхучага сытасцю баршчу, адмаўляюцца. І ніхто не прыкрыкне на нахабнага дабрадзея, не паставіць яго на месца, каб не справакаваць яго на істэрычную прамову або шокавы ўчынак, а ў зале смех. Маўклівая маса ажывілася. Такога спектакля не пабачыць у тэатры! Тут адзін геніяльны актор — Сыс, які гуляе з мэтрамі, як з неразумнымі дзецьмі. Назаўтра па рэдакцыях літаратурных часопісаў толькі і размоў, як Сыс ратаваў ад

галадухі паважаных мэтраў, умацоўваў сілу беларускага пісьменніцтва баршчом. І такіх выпадкаў можна нагадаць нямала. «Хто ж мяне ведаў бы і чытаў, калі б пра мяне не казалі. Вось і дуркую, выкідваю коней», — прызнаваўся мне Анатоль. Думаю, што не гэта штурхала яго на дурніцтва. У Анатоля было хваравітае жаданне знаходзіцца ўсюды ў цэнтры ўвагі: на вяселлі — жаніхом, на пахаванні — нябожчыкам, класікам сярод паэтаў, тамадой у сяброўскай бяседзе і г. д. Таму для яго не існавала аўтарытэтаў, апроч свайго. Старэйшыя пісьменнікі яго асцерагаліся і дазвалялі яму панібрацтва з сабою, аднагодкі, напрыклад Глобус і К°, ставіліся да Анатоля паблажліва, як да блазна, і не ўспрымалі яго сур'ёзна, падазраю, што і за паэта яго не лічылі, прынамсі яго музу адносілі да вясковай кабеты 20—30-х гадоў XX стагоддзя, калі яна наталяла натхненнем Жылку, Дубоўку, Пушчу і іншых паэтаў-адраджэнцаў. Глобус і яго хаўруснікі лічылі сябе авангардыстамі, і Сыс пад авангард ніяк не стасаваўся, хоць жыў ён па-авангардску. Затое моладзь (маладняк з філфака) цягнулася да яго, як да легендарнай асобы, які благаславіць іх у літаратуру. Ён па-царску міласціва асушаў чаркі, кружкі і келіхі з пачаткоўцамі і не хваліў іх за вершы-няўклюды, бо хваліў сябе. «Лухту напісаў, вучыся ў мяне, дзіцятка, пісаць. Ай, лепш ты не пісаў бы, усё роўна лепш за мяне не сачыніш». Міф пра сябе як пра ледзь не геніяльнага паэта спрацоўваў, і многія, у тым ліку, і ён сам паверылі ў яго геніяльнасць і выключнасць, прынялі прывід за ўяўную постаць. А яго патрыятычная фразеалогія стварыла яму вобраз змагара-адраджэнца і на пачатку сваёй творчасці ён імкнуўся, калі не быць ім, дык хоць здавацца. Сваёй неспакойнай натурай ён ускалыхнуў затхлую атмасферу пісьменніцкага зборышча. Ён напоўніў калідоры і пакоі дома літаратара свежым подыхам вясковых пахаў, смехам і гучнымі галасамі, ажывіў мёртвую ціш літпрацэсу і літкіраўніцтва. Ён не прызнаваў прынятых умоўнасцей і этыкету, нават простай пристойнасці ці сціпласці, разглядаў гэты свет нейкай недарэчнай ўмоўнасцю, несур'ёзнасцю, дзе не патрэбны ні пристойнасць ні этыкет, бо людзі павінны жыць, як у яго вёсцы Гарошкаў, па-братэрску, па-свойску, не саромецца адзін аднаго, не цурацца, не адчужацца паміж сабой, таму

Анатоль прыязджаў да мяне, але не застаў дома, таму пакінуў цыдулку з запрашэннем прыйсці на паседжанне «Тутэйшых». Я не пайшоў. Проста калі настае момант спаўнення мары, чалавек часта губляецца і не адважваецца зрабіць рашучы крок. А раптам што не так…

і ставіўся да ўсіх запанібрата. І несур'ёзнасць гэтага свету дазваляла яму гуляць са сваім лёсам, выпрабоўваючы яго на доўгацярпенне сваімі выбрыкамі.

Анатоль меў усе задаткі вырасці ў сапраўды вялікага паэта, нават за той кароткі час, які адмераў яму лёс, калі б працягваў пісаць і адказна аднёсся да свайго паэтычнага таленту. На гэта яму не хапіла засяроджанасці і сур'ёзнасці. Па натуры ён быў лідарам, харызматычнай асобай, хацеў узначаліць літаратурную групоўку «Тутэйшых», і трэба прызнаць, што для станаўлення яе зрабіў нямала. Змагаўся за лідарства з Глобусам і яго спадручнікамі. Але, як чалавек парывісты і няўстойлівы, Анатоль неўзабаве астыў да «Тутэйшых». Ды і самыя «Тутэйшыя» спакваля разышліся хто куды. Лідары атрымалі сваё: Глобус членства ў Саюзе і кніжкі, Сыс — кватэру, астатнія заняліся больш сур'ёзнымі справамі, чым збірацца на пасядзелкі і чытаць адзін аднаму свае неўміручыя творы, аддаючы іх на жорсткае абмеркаванне ці ўвогуле на смех. Здавалася, што Анатоль так і не пасталеў, як дзіця, разгубіўся, нібыта яму не хапіла ўнутранай трываласці і ідэйнай перакананасці той справе, служэнню якой на кожным кроку дэкляраваў у сваіх заявах, размовах і вершах, — нацыянальнаму адраджэнню, быць самаахвярным яго спраўцам. Высвятляецца, што «Тутэйшыя» служылі яму трыбунай, з якой ён мог далдоніць аб сваім таленце, але і там сустракаліся таленавітыя асобы, якія скептычна ўсміхаліся яму ў адказ. Неўзабаве Анатоль вычарпаў і тэму для сваёй творчасці — думы-плачы аб гаротным лёсе Беларусі, а новых тэм і сюжэтаў не знайшоў, бо не шукаў іх, ды чытаць не чытаў з-за недахопаў часу пасля гулянак. Кнігі для яго былі мёртвымі старонкамі у скрынях-вокладках.



Таму і кругагляд яго абмяжоўваўся філфакаўскімі ведамі. Адно багацце і тое спадчыннае — сакавітая, смачная, маляўнічая мова, якую ён не саромеўся ўзбагачаць у сваіх вершах са слоўніка Ластоўскага, напрыклад выцягнуў адтуль балтызм «жвір». Анатоль пайшоў прасцейшым і як, высветлілася, мілым яго натуры шляхам — быць душой кампаніі. Тут ён мог разгарнуцца, паказаць сябе і з лепшага, і з горшага боку, і ўсю шматграннасць сваёй натуры — папойкі, скандалы, сваркі. Капрызы, істэрыкі, слёзы, выбрыкі. Ён зажыў так, як хацеў, — вольны ад усяго і ўсіх, вольны ад умоўнасцей і правіл, ад працы і абавязкаў, ад сумлення і сораму. Тварыў і добрае, і злое, быў светлым і чорным. Усе былі яму сябры, а ён ні з кім не сябраваў, бо ўсіх сваіх знаёмых разглядаў як сабутэльнікаў і ўнутрана гідзіўся іх. Сябе лічыў сынам Купалы, астатніх паэтаў — вершаплётамі. Аслеплены сваёй прыдуманай велiччу, ён не бачыў, як жыццё яго коціцца ўніз на дно небыцця, і з кожнай выпітай чаркай скарачаў час падзення. Ён амаль ужо не пісаў, не хапала часу, не надыходзіла натхненне з-за хворай галавы, а можа, як Анатоль казаў: «Не стаяк на паэзію».

Паэт Анатоль Сыс памёр раней, чым сам Сыс — чалавек. Усё гэта збольшага адбывалася на маіх вачах. Я ведаў Анатоля сямнаццаць гадоў, менавіта ведаў, бо нашы адносіны ніяк не назавеш сяброўскімі. Ён разглядаў мяне, як і іншых, сабутэльнікам, якога ён паблажліва наблізіў да сябе. «Чэрап, — называў ён мяне зняважліва. — Чэрап, гэта я зрабіў цябе пісьменнікам», — пахваляўся ён, прыпісваючы сабе неіснуючую заслугу. Тое самае ён казаў іншым: «Дзіцятка маё, я цябе выгадаваў паэтам, вырасціў як кветку». Роля настаўніка, апекуна пачаткоўцаў яму відавочна спадабалася, і ў іх ён карыстаўся калі не пашанай, дык павагай. Само знаёмства з паэтам давала ім пачуццё далучанасці да літаратуры, да яе багемы. Яны ўяўлялі сябе роўнымі з жывым карыфеем прыгожага пісьменства. Дык, пэўна, не дзіўна, што да яго цягнуліся пачаткоўцы і праставўляліся яму, як плацілі даніну за права трапіць за парог яго кватэры і сесці з ім за стол.

Што-што, а ў літаратурны свет мяне вывеў менавіта Анатоль. Ён праведаў ад Адама Мальдзіса, якому я даў прачытаць рукапіс «Храма без бога», што ёсць малады празаік, які працуе на Трактарным заводзе і напісаў гістарычны раман. Вось і вырашыў Анатоль адшукаць мяне і выцягнуць у людзі, г. зн., да «Тутэйшых». Начальства Саюза пісьменнікаў глядзела на «Тутэйшых» як на зборышча графаманаў-самазванцаў, якія прэтэндавалі на іх свяшчэннае права лічыцца беларускімі пісьменнікамі. «Хто вы такія? Чаго хочаце? У вас нікога годнага няма, вы нічога не напісалі вартага», — бурчэла начальства на дзёрзкіх маладзёнаў, якія абвінавачвалі іх у бяздарнасці, рабалепстваванні перад уладай, здрадзе нацыянальным інтарэсам, назваўшы заслужаных майстроў пяра прыкарытнікамі. А тут вось у шэрагах «Тутэйшых» раманіст, рабочы хлопец, а гэта ўжо важкі аргумент у сваіх прэтэнзіях на месца на Парнасе. Анатоль прыязджаў да мяне, але не застаў дома, таму пакінуў цыдулку з запрашэннем прыйсці на паседжанне «Тутэйшых». Я не пайшоў. Проста калі настае момант спаўнення мары, чалавек часта губляецца і не адважваецца зрабіць рашучы крок. А раптам што не так… Тым не менш Анатоль пазваніў мне па тэлефоне і заявіў, што прыедзе ў нядзелю да мяне пазнаёміцца. Маўляў, калі Магамед не ідзе да гары, дык гара прыйдзе да Магамеда. Я нічога не чуў пра «Тутэйшых», нікога з пісьменнікаў, апроч Мальдзіса, не ведаў і быў далёкім ад літаратурнага жыцця, хоць і чытаў «ЛіМ» і літчасопісы. З хваляваннем я чакаў гэта-

га пасланца свяшчэннага літаратурнага свету, як чакаюць вестку аб нейкай важнай лёсавызначальнай падзеі. У пэўнай ступені, знаёмства з прадстаўніком пісьменніцкага пакалення павінна было стаць для мяне лёсавырашальным, і стала.

Я ўяўляў Анатоля высокаадукаваным інтэлектуалам з узвышанай душой паэта, прасветленым позіркам прарока, паводле стэрэатыпа паэтаў-інтэлігентаў. А убачыў зусім іншага чалавека. Нешта насцярожанае таілася ў позірку яго шэрых вачэй, нібыта ён вывучаў мяне, асцерагаючыся быць шчырым са мной. Рэзкія рысы твару выяўлялі яго валявую натуру. Ён здаўся мне не інтэлігентам, а ваяром, хоць і меў стомлены выгляд. Больш маўчаў, чым гаварыў, але ў напружаным выразе яго твару адчувалася затоеная энергія неўтаймаванага характару. Пазней я чуў, што Сыса параўноўвалі з Канстанцінам Каліноўскім. Знешне Анатоль і сапраўды паходзіў на легендарнага паўстанцкага правадыра, але вось самаахвярнасці і мэтанакіраванасці, самаадданасці яму не ставала. Тады, у 1987 годзе, калі мы першы раз сустрэліся на маёй кватэры, Сыс быў паэтам і ўсё лепшае, што было ў ім, яшчэ не прапіў. Ён шчыра перажываў за Беларусь і гатовы быў служыць ёй.

Тады ён прыехаў пад вечар у кампаніі Алеся Бяляцкага і двух братоў Дэбішаў. Днём яны працавалі з хлопцамі з «Талакі» ў Строчыцах, секлі трыснёг на стрэхі музейных хат і стомленыя, галодныя, змерзлыя на халодным восеньскім ветры, усё ж адправіліся ў далёкую Серабранку знаёміцца з нейкім маладым раманістам. Вось і пазнаёміліся. Я адчуваў сябе ніякавата, не ведаючы, як сябе паводзіць з імі. Былі б гэта простыя рабочыя хлопцы, дык селі б выпілі па чарцы і пагаварылі б па душах. А то пісьменнікі, якія ужо друкаваліся. Ледзь не богі для мяне. Хацелася выглядаць перад імі годна. Ды вось дрэннае валоданне мовай, а дакладней, адсутнасць моўнай практыкі зводзіла мае вусны. Таму і размова была не шматслоўнай, нават і піва, якім я пачаставаў хлопцаў, не зблізіла нас. Я без ахвоты адказваў на іх пытанні, адчуваў сябе чужым сярод іх, як рабочы сярод інтэлігенцыі. Тады я мала ведаў, мала што разумеў і дрэнна меркаваў — словам, быў цёмным і неабчэсаным. Дэбішы маўчалі, маўчаў і Сыс, і гаворку вёў больш жвавы Алесь Бяляцкі. Выцягнуў з мяне неабходныя звесткі, хто я, што я, чым жыву, што пішу і як пішу. Сыс ажывіўся, калі я сказаў, што рукапіс рамана ляжыць у «Мастацкай літаратуры», і рэцэнзуюць яго Канстанцін Тарасаў і Анатоль Сідарэвіч. Тады я яшчэ не ведаў, што яны далі ўзаемавыключальныя рэцэнзіі. Аднаму падабалася тое, а не падабалася гэта, другому наадварот. Мне давядзецца падстройвацца пад іх густы, ламаць сюжэт, змяняць вобразы, скарачаць — карацей, калечыць раман, асуджаючы яго на вечную інваліднасць. І ў такім стане выдавецтва будзе шэсць гадоў мурыжыць яго. Гэтага я не прадбачыў, а жыў ружовымі мроямі аб выхадзе рамана, аб славе, што прынясе ён мне, што выцягне мяне з пекла сталеліцейнага цэха, дзе я пяць гадоў гарэў жыўцом ад спёкі распаленага металу і пякельнага агню плавільных пячэй, задыхаўся дымам і пылам і харкаў чорнымі згусткамі жоўці.

Сыс ажывіўся і экспрэсіўна вымавіў:

— Кастусь і Сідар! Дык гэта свае хлопцы! Калі раман добры, дык няма чаго хвалявацца, надрукуюць. Зараз пазваню Сідару.

Лёгка сказаць «няма чаго хвалявацца». Я жыў надзеямі на раман, ён адкрываў мне дзверы ў літаратуру, па-за якой я не ўяўляў сваё жыццё, бо яно было б бессэнсоўным і пустым. І калі вось Сідарэвіч прызнае раман слабым, нявартым друку, мне застанецца гібець у жабрацтве жыцця і пекле ліцейкі.

Сыс па тэлефоне набраў патрэбны нумар і дачакаўся, калі на другім канцы дроту паднялі слухаўку.

— Анатоль, прывітанне, гэта Сыс. Ты рэцэнзуеш раман Чаропкі, што з ім?

Здзівілі яго панібрацкія адносіны з рэцэнзентам, які мне ўяўляўся суворым суддзёй, ад якога залежаў мой лёс. Я затоена чакаў, пакуль Анатоль уважліва слухаў па тэлефоне Сідарэвіча. Якім будзе вырак? Ці не дарэмнымі былі мае высілкі? Як ацаніў раман гэты пагрозлівы рэцэнзент?

Сыс паклаў слухаўку і неяк змрочна паглядзеў на мяне. Нічога добрага пасля такога позірку я не чакаў. Пэўна, прысуд Сідарэвіча быў адмоўны, і ён збэсціў раман. Вось Сыс і расчараваўся ўва мне, лічыць звычайным графаманам.

— Вучы мову, дзіцятка, — груба мовіў Сыс.

Я без яго парады ведаў сваю ахілесаву слабасць — мова. А дзе і як яе вучыць? Па слоўніку

штодня я запамінаў некалькі слоў, чытаў моўную прэсу і літаратуру, але гэтага было недастаткова, каб свабодна валодаць мовай, думаў і размаўляў я па-руску. І мне здавалася, што я ніколі не буду так чыста і гожа казаць на мове, як той жа Сыс. У мяне ўсё роўна вырываліся рускія слоўцы, ад чаго Анатоль незадаволена крывіўся і папраўляў мяне. «Не мелочь, — ён з відавочным здзекам па-руску вымавіў гэтае слова — «мелочь», — а драбяза».

— Табе трэба быць з намі. Мы павінны адрадзіць Беларусь. Мы маладыя, і мы зможам, а не гэтыя прыкарытнікі, што гандлююць сваім сумленнем, — пафасна гучаў голас Анатоля.

У мяне кругам пайшла галава ад усведамлення той місіі, што выпадала і мне. Я не баяўся яе. Колькі марыў хоць неяк быць карысным для Радзімы, нешта вартае зрабіць для яе, і вось мне прапаноўваюць выйсці з свайго падполля, як кажуць, і аж на барыкады. Што ж, гэта таксама выйсце для няўдалага пісьменніка.

— За намі будучыня, — казаў Сыс упэўнена і пераканаўча. — Мы павінны адрадзіць Беларусь!

— Не, зрабіць яе незалежнай, — мовіў Алесь.

Для мяне гэта ўяўлялася неверагодным. Масква ніколі не дапусціць незалежнасці Беларусі. Мы асуджаны прыслугоўваць маскалям. Я падзяліўся сваім меркаваннем.

— Калі так думаць, мы нічога не дасягнём. Страцім апошняе. Будзем аседжвацца па хатах, а пасля наракаць на ўладу дрэнную, на ворагаў, на бога, толькі не на сябе, на сваю баязлівасць і абыякавасць, — з запалам гучна выліў з сябе Анатоль гэтыя гарачыя словы.

Сыс уяўляўся мне сапраўдным апосталам нашага адраджэння. Малады, рашучы, таленавіты! Мне было сорамна за сваю кволасць, няверʼе ў духоўную моц Беларусі, адасобленасць ад тых, хто рэальна нешта рабіў, каб хоць па каліўцы ў нас палепшала культурная сітуацыя, не згінула мова, якую я так дрэнна ведаў, а калісьці ў вёсцы да прыезду ў сямігадовым узросце ў Мінск я размаўляў на ёй. І вось трэба было вяртацца да яе, каб яна натуральна жыла ў маёй душы.

Неўзабаве Сыс выцягнуў мяне ў свет, а дакладней, у літаратурную тусоўку, а па-праўдзе — у бар Дома літаратара, дзе тусаваліся пісьменнікі ад пачаткоўца з двума надрукаванымі вершыкамі да якога-небудзь старэчы, які даўно забыўся назвы сваіх твораў. Там, у бары, я пазнаёміўся з паловай саюза і зрабіўся сваім, мог нават мэтра і рэдактара папулярнай тады «Крыніцы» Уладзіміра Пракопавіча Някляева называць Валодзем. Багемнае жыццё, вядома ж, зацягвала, але яно давала новыя ўражанні, зрэшты я знайшоў людзей, з якімі можна было пагаварыць на блізкія мне тэмы і пагаварыць па-беларуску. Я пазнаёміўся і пасябраваў з Сяргеем Верацілам, Алесем Наварычам, Андрэем Федарэнкам, Анатолем Казловым, Міколам Сцепаненкам, Андрэем Гуцавым. Сыс звёў мяне з Кастусём Тарасавым, выдатным празаікам і добрым чалавекам, які па-бацькоўску апекаваў мяне. Узрост не перашкодзіў нам сябраваць. Вось так я абжываўся ў літаратуры. Сыс прыклаў высілкі, каб у «Чырвонай змене» зʼявіўся маленькі ўрывак з «Храма без бога», званіўаў галоўнаму рэдактару і бесцырымонна настойваў, каб хутчэй надрукаваў Чаропку.

Дзесьці напрыканцы дзевяностых мінулага стагоддзя Анатоль зацягнуў мяне ў майстэрню мастакоў Алеся Квяткоўскага, Лявона Гоманава і дызайнера Алеся Кулікова — шумлівых і бязладных хлапцоў. Сыс у гэтай кампаніі быў своеасаблівым каталізатарам, заводзіў яе і ўжо кіраваў працэсам адхлання і творчага сабантуя. Трэба адзначыць, што да мастакоў Анатоль адносіўся з нейкай свяшчэннай пашанай, як да людзей вышэйшай за літаратараў касты, перад якімі ён адчуваў сваю прыніжанасць і мізэрнасць, а, магчыма, у яго паэтычнай душы прачыналася мастацкае адчуванне ад сузірання іх палотнаў, асабліва пейзажаў блізкіх да разумення Анатоля, бо ён вырас на прыродзе і горад заставаўся для яго чужым. Ды і мастакі таксама ставіліся да Анатоля, як да выдатнага паэта, які абяцаў вырасці ў вялікага. Той жа Квяткоўскі (на тэрміналогіі Сыса Квят), улюбіўся ў яго паэзію. Такім чынам, абодва бакі паважалі талент адзін аднаго, і Сыс ніколі не дазваляў грэбліва адазвацца аб іх работах, прызнаваў іх майстэрскае выкананне.

Знаходзілася майстэрня ў падвале аднаго з дамоў паблізу філармоніі. Туды, у майстэрню, і павадзіўся Анатоль, ведаў, што яму будуць рады, і пачастуюць, і накормяць чым бог падзяліўся з мастакамі ці з іх сябрамі, якія таксама акалочваліся там. Гэта было райскае месца, расквечанае фарбамі палоцен, тут можна было сха-



Алесь Квяткоўскі. «Вітаўт Чаропка едзе на Грунвальд», 2010.

вацца ад мітуслівага бегу штодзённасці, шэрасці ці непагадзі і адпачыць душой у вясёлай бяседзе. Бывала, гэтыя бяседы ператвараліся ў бяздумныя п'янкі, калі абяссіленыя мы падалі на канапы і адрубаліся. У адной з такіх гулянак Анатоль заступіўся за жанчыну, сяброўку Куліка (Кулікова), з якой той з-за нечага пагрызся. Анатоль адносіўся да жанчын ласкава-паслужліва, гатовы быў сцяліцца перад імі, абы чым-небудзь дагадзіць: пацалаваць ручку і шчочку, выказаць россып прыгожых слоў, штосьці падараваць, прачытаць ім свой верш. Нядзіўна, што жанчыны любілі гэтага, здавалася, калючага і рэзкага паэта. Я не выключаю, што яршыстасць Анатоля была формай абароны сваёй паэтычнай душы. Своеасаблівай мімікрыяй, калі Сыс-чалавек абараняў Сыса-паэта. Гэта было відаць нават на яго сталах у кватэры. Бязладдзе на стале, дзе адбываліся хмельныя бяседы, і чысціня, лад на пісьмовым стале, накрытым бялюткай капай. Стол, за які ён нікога не пускаў, бо там запісваў свае вершы, — гэта быў яго алтар.

Дык вось тады Анатоль заступіўся за жанчыну, нават ускочыў з крэсла на ногі. Ап'янелы Кулік схапіўся за сякеру і злёгку цюкнуў ёю па галаве Анатолю. Менавіта цюкнуў, а не ўдарыў. Пэўна, хацеў яго ацверазіць. Ад нечаканасці Анатоль знерухомеў, як статуя. З пад кепкі ручаінкамі пацякла па твары кроў. Я вырваў у Куліка сякеру і закінуў яе далей ад бяды пад канапу. Усе былі шакіраваны ўчынкам Куліка, і ён сам сумеўся. Сыс таксама страціў свой запал, дазволіў прамыць гарэлкай ранку (рассечаную скуру на аголенай галаве) і наклеіць пластыр, па які я збегаў у аптэку. Яму нават падабалася, што ўсе ўвіхаліся каля яго, шкадавалі, як параненага ваяра. На Куліка пасыпаліся дакоры. Як ён мог падняць руку на вялікага паэта? Зусім адпіў глузды. Той папрасіў прабачэння і быў Анатолем дараваны чмоканнем у шчаку. «Дзіцятка ты дурное, не можаш піць — не напівайся. Больш наліваць табе не трэба».

Але высветлілася, што і наліваць няма чаго, і ад гэтага ўсім зрабілася сумна, асабліва параненаму Сысу. Ён, насупіўшыся, сядзеў за сталом і паліў цыгарэту за цыгарэтай, выдаючы клубы дыму. Здаецца, ні з кім не хацеў размаўляць, нібыта пакрыўдзіўся на ўвесь свет, што так жорстка і несправядліва адносіўся да яго.

У становішчы поўнага жабрацтва шукаеш самы маленькі амаль нерэальны шанц: а можа пашанцуе на гэты раз і што-небудзь выгарыць. Я нагадаў, што ў мяне павінен быць ганарар за тры апавяданні, надрукаваныя ў «Нёмане». І Сыс адразу ажывіўся, сам патэлефанаваў у часопіс і даведаўся, што сапраўды Чаропку чакаюць грошы. Можна хоць зараз пад'ехаць у рэдакцыю і атрымаць іх. Гэтую навіну кампанія радасна вітала. Свята працягвалася.

Сыс паехаў са мной у рэдакцыю, якая знаходзілася праз прыпынак ад нашага логавішча. Чэсна кажучы, я з радасцю пазбавіўся б ад Сыса і ўсёй кампаніі (гэтай беднай басоты) і паехаў бы дадому. Анатоль не адчэпіцца ад мяне, прыліпне п'яўкай, пакуль не высмакча ўсе грошы, а мне не хацелася бяздумна спусціць іх на гулянку. Але сяброўская салідарнасць прымушала «палячыць» алкуючых хмельнага пітва сябрукоў, «уважыць» іх. Я шчодра праставіўся, балазе сума дазваляла праявіць шляхетную шчодрасць, нават бананы і апельсіны набыў да сыроў, каўбас, кансерваў. Было што спажываць, было чым прыкусіць. Мы вярнуліся ў майстэрню, як рымскія трыумфатары, ганарлівыя ад сваёй перамогі і абцяжараныя багатымі трафеямі, што здабылі ў краме за ганарарную выручку. Быў час, была эпоха, калі і літаратура карміла і давала аўтару пачуццё сваёй значнасці.

І бедная басота працягвала баляванне. Зноў загучалі радасныя гучныя галасы, якія перакрыкваў Анатоль. Яму прагнулася прачытаць свой верш, і, калі ўсе ўгаманіліся, ён і прачытаў неўміручы «Пацір», з якога кожны выпіў за сябе. Канцоўка верша безумоўна выдатная. Як бы там ні было, а свая сарочка бліжэй да цела, і чалавек думае перш за ўсё пра сябе. Ну і няхай п'е сабе на здароўе, абы заўчасна не пакідаў гэты свет, родных і сяброў. Хай п'е з паціра, чаркі ці з дульца, абы быў з намі, абы не жылі мы ўспамінамі аб ім, бо кошт чалавека пазнаецца пасля яго смерці, калі нам яго не дастае і мы ўжо ніколі не пабачымся з ім, калі пакутуеш ад таго, што не так быў уважлівым да яго, і ўжо не папросіш прабачэння. Але нябачна ён заўсёды прысутнічае недзе побач, як прывід, і мысленным зрокам можна яго ўбачыць, толькі ажыві яго вобраз у душы. Ніхто тады за сталом не думаў, што праз чатыры гады (якая маласць) Анатоль пойдзе ад нас у вечнасць — адзінокі і пакінуты ў недарэчны час сябрукамі, што не здолелі тады быць з ім і выратаваць яго. Я абуджаю яго вобраз у сваёй душы, бачу яго. Змрочна-задуменнага з нахмураным пляскатым ілбом і лысай галавой, недарэчнай рудой барадой. І калі б не чырвона-бела-чырвоная стужка над нагруднай кішэнню яго джынсавай курткі, Анатоля смела можна прыняць за нейкага баевіка, дай яму толькі аўтамат у рукі, а не бутэльку, — і падабенства паўнюткае. Вось чаму я не хачу прыхарошваць яго вобраз, бо ён павінен жыць сваім неўтаймаваным лёсам і ва ўспамінах, быць такім, якім быў, а не прычэсаным, прыстойным, рэтушаваным, нібы для глянцавага часопіса гісторыі. Мяне прасілі, каб не пісаў пра Анатоля благога, не ганіў яго, бо гэта за мяне зробяць ворагі. Але, калі ў Анатоля ёсць выдатныя вершы, то яны якраз і нарадзіліся з яго бязладнага жыцця, як кветка эрасу з бязладдзя, як дзіцёнак ад граху, як творца ад пакут — нішто не даецца проста так. А натхненне толькі падымае пачуцці нашы пакутлівыя на паэтычную высокасць.

Недзе на сярэдзіне бяседы я пакінуў кампанію, каб не прапіцца да апошняга гроша. Беднай басоце было што выпіць і чым заесці. І, пэўна, першы раз Анатоль адмовіўся ад пагулянкі з сябрукамі, а паехаў са мной на таксоўцы да мяне. Зрэшты, я быў не супраць, каб Анатоль пагасцяваў у мяне, хоць па-чалавечы пасілкаваўся (дзеля гэтага мы прыхапілі з кампаніі добрага кулінара Сяргея Вераціла), а не бадзяўся абы-дзе і не піў бы абы з кім. Тым больш, мая матуля любіла Анатоля (па тэлефоне ён нагаворваў ёй столькі ласкавых слоў, што яна ажно свяцілася душой) і сама запрашала яго ў госці. Кожны раз, калі я наведваў Анатоля, ён са сваіх сціплых запасаў перадаваў цётцы Зіне то кавалак вясковага сала, то бульбы, то мёду, то якую цукерку, што прыносілі яму сябрукі. Калі нават нічога не было, дык усё роўна што-небудзь сунуў мне ў рукі, хоць цыбуліну, каб толькі парадаваць цётку Зіну падарункам. А на свой дзень народзін 26 кастрычніка 1999 года ён падараваў ёй карціну Алеся Квяткоўскага — яго падарунак яму.

— Хай Зінуля глядзіць на вясковы краявід, узгадвае сваю вёску і не сумуе, — мовіў Анатоль і прыгожым размашыстым почыркам на адваротным баку напісаў фламастарам: «Цётка Зіна, я вас крэпка люблю, за тое, што Вы сына любіце, а сын Вас».

А госці Анатоля, тады яшчэ маладзёныпачаткоўцы Алесь Філіповіч і Алесь Мяснікоў пакінулі свае паэтычныя аўтографы. Філ напісаў вершык:

Былі ў бацькі тры сына,
Ды не вярнуліся з вайны.
Былі ў маткі тры дачкі,
Ды ветрам па руках пайшлі

Высвятляецца, што «Тутэйшыя» служылі яму трыбунай, з якой ён мог далдоніць аб сваім таленце, але і там сустракаліся таленавітыя асобы, якія скептычна ўсміхаліся яму ў адказ

І лебядою прарасло,
Усё, што некалі было.
Але з насення лебяды
Паўстануць райскія сады!

Не скажу, што гэта шэдэўр. Пэўна, нічога лепшага Філ не меў пад рукой. Яго сціплая муза не адорвала яго натхненнем. З усёй яго паэзіі Анатоль палюбіў адзін радок: «Мне золатам на сэрцы вышывалі краты». Ён нават уставіў яго ў нейкі свой верш, прыстроіў яго ў вечнасць. А вось Мяса экспромтам сачыніў абы што:

Бедны Йорык! Не крыўдуй,
Мы з табой пісьменнікі!
Ну, няхай я — абалдуй!
Перайду на пернікі!

Не ведаю, ці надрукаваны гэтыя шэдэўры, але яны засталіся на Сысовым падарунку і паклалі пачатак добрай традыцыі — ставіць аўтографы маім гасцям. Адзначыліся паэты Юры Гумянюк, Андрэй Гуцаў, Сяргей Вераціла, Юры Пацюпа, кінарэжысёр Юры Бяржыцкі і іншыя мае сябры. Гэтак карціна Квята стала памяткай пра Анатоля Сыса і пра яго і маіх сяброў.

Не буду казаць пра шумлівае застолле, якое мы наладзілі ў мяне. Я больш маўчаў, бо немагчыма было ўставіць слова ў разгарачаную хмелем размову-спрэчку Сыса і Верацілы. Нармалёвы чалавек з цяжкасцю вытрымаў бы Верацілу пятнаццаць мінут. Настолькі Сяргей можа задурыць галаву сваім грукатлівым, як Перуновае грамыханне, голасам. Вераціла нешта даводзіў і ўсё распальваўся, толькі не пырскаў слінай. Анатоль упарта не пагаджаўся з ім, называючы яго довады лухтой і глупотай. Цяжка яму было згадзіцца, што нехта добра піша, а тым больш прызнаць нечы талент роўным яго таленту. «Куды там да мяне, хай навучыцца хоць думаць, дзіцятка жаўтаротае». Прынамсі, я ніколі не чуў, каб Анатоль абгрунтавана выказаў сваю думку. Заўсёды выказваўся прама і проста, без нюансаў і адценняў, разумных разважанняў і інтэлектуальнай лексікі. Хто не ведаў яго, дык Анатолеву прамату мог прыняць за грубасць і нявыхаванасць, інтэлектуальную абмежаванасць.

Прайшло дванаццаць гадоў, як я пазнаёміўся з Анатолем і як час змяніў яго. Не, не час і не жыццё, а як сам Анатоль змяніўся. Амаль нічога новага не пісаў, не было часу з-за гулянак, і піў ён не дзеля натхнення ў творчай адзіноце, а каб зноў і зноў засведчыць іншым сваю самасць. П'янкі зрабіліся ўжо яго жыццёвай неабходнасцю, як для звычайнага выпівохі, які ўжо не можа спыніцца. А ў п'янага яго пачыналася нервовая істэрыка, ён то заліваўся слязьмі, як баба, то шкадаваў сваіх сяброў. І тады ён расплакаўся: «Шкада мне цябе, Чаропка, співаешся ты» — «Чаропка п'е, але ж і піша. А ты ўжо і спіўся і спісаўся. Жывеш без сэнсу. Даўно як стары сабака страціў нюх», — мовіў Вераціла і меў рацыю.

Сыс толькі хмыкнуў і нічога не сказаў у сваю абарону. Гэтак я і не даведаўся аб прычынах Сысовых пагулянак-п'янак. Можа, ён піў ад безнадзейнасці свайго шалапутнага жыцця. У яго не было сям'і, а значыць і любові і пяшчоты, ён нідзе не працаваў, а значыць не было прафесійнай зацікаўленасці, жыццёвых планаў, якія імкнуўся б ажыццявіць, рэалізаваць сябе, а значыць жыў без перспектываў, заўсёды быў ў беднаце і не мог дазволіць сабе жыць добраўладкавана, не меў сапраўдных сяброў, якія падтрымалі б яго і парадай, і справай, наставілі на добры шлях — словам, жыў без сэнсу і стымулу. А можа, Анатоль ведаў ці прадчуваў свой кароткі век, вось і хацеў напоўніцу запоўніць адведзены яму лёсам час бурапенна і вогненна-дымна. Але навошта было бяздумна траціць талент, асуджаючы сябе на недарэчную драму?

А можа, ён уцякаў ад сваіх горкіх і сумных думак і аб сваім жыцці і аб лёсе яго любімай і няшчаснай Беларусі, што ўсё не так, як павінна быць у ідэале. Шкадаваў гаротную долю матчынай мовы. Уцякаў у п'яную эміграцыю, дзе можна было забыцца пра ўсе бядоты і няшчасці,

не бачыць шэрасці дня і чарнаты ночы. Паэзія, якой ён дыхаў, яму нічога не дала, апроч тых захапляльных імгненняў, калі, па яго словах, на крыжы паэзіі крывёю сыходзіў словам. Сама паэзія, відавочна, зрабілася яго драмай. Пэўна, ён пакутаваў без натхнення. Яму не хапала новых матываў і сюжэтаў. Ён стаміўся ад аднастайнасці свайго верша і чакаў, калі той загучыць па-новаму, не самотна ці смутна, ні пералікам бед і няшчасцяў, а па-філасофску мудра ці на крайні выпадак лірычна, а то і радасна — так, як яшчэ не гучала яго паэзія. Такім быў Сыс на пачатку новага стагоддзя — спустошаны і зняверaны ў дасягальнасці сваёй мэты — падняцца на сусветны Парнас.

Раніцай у нас расколваліся галовы, і, каб іх падлячыць, я з Сяргеем выправіліся па «лекі» ў краму. Па дарозе зазірнулі ў піўнуху, названую мясцовымі выпівохамі не інакш як «Блакітны Дунай». Некалі ў сваім бяздумным юнацтве я тут з таварышамі прапіваў разбойныя грошы. Пілі размешанае з віном піва. Пасля такога кактэйлю мяне ванітавала і на доўгія гады адбіла ахвоту піць не толькі таннае вінцо-чарлік, але і піва, нават іх паху не мог пераносіць. Але мяне прывучылі да піва як да добрага сродку спатоліць пахмельную смагу.

Мяне добра ведалі ў «Блакітным Дунаі», як заўзятара гэтай піўнухі, таму я не разбудзіў Анатоля і не ўзяў з сабой, каб не дай божанька ён з пахмелля не пачаў выбрыкваць людзям на смех, а мне на сорам.

Спатоліўшы смагу і папоўніўшы нашы прыпасы пітомага і ядомага, мы вярнуліся дадому. Сыс ужо ачухаўся і адкрыў нам дзверы. На дзіва, але гарэлка яго не абрадавала, нібыта ён успрыняў яе як само сабой зразумелае. Мутным позіркам слізгануў па бутэльках, якія з'явіліся на стале, і раздражнёна спытаўся:

— Дзе вы так доўга шляліся, кацяняткі мае?

— Піва пілі, — адказаў я.

І тут Сыс здзівіўся і ўсклікнуў:

— Вы пілі піва і не паклікалі мяне!

— Ты ж спаў. Не хацелі будзіць цябе, — апраўдваліся мы.

— Дык маглі прынесці бутэльку піва. Самі выпілі піва, а я, як смарчок, сохну ад смагі. Нічога сабе сябры. Вядзі, Чэрап, у піўнуху.

> Былі б гэта простыя рабочыя хлопцы, дык селі б выпілі па чарцы і пагаварылі б па душах. А то пісьменнікі, якія ужо друкаваліся. Ледзь не богі для мяне

— Баюся, што ты там коней выкінеш. Ты ж не можаш, каб не вылучыцца, — паспрабаваў я ўхіліцца ад надыходзячай катастрофы, ведаючы ап'янелага Сыса. — Я лепш схаджу набуду бутэльку.

— Не трэба мне бутэлечнае піва, хачу жывога — разліўнога, — безапеляцыйна заявіў Сыс і пачаў збірацца на двор, нацягваць вопратку.

Яму менавіта трэба была піўная, каб пагаманіць з кім-небудзь і пахваліцца, што той п'е з вялікім беларускім паэтам Анатолем Сысом, і пры нагодзе прачытаць свой «Пацір». У ім жыў актор, і таму ён не мог без гледачоў іграць сваю ролю вялікага беларускага паэта. Што за пагулянка без свяшчэннадзейства, у якім Анатоль павінен быць жрацом? Так што давялося мне весці Анатоля спаталяць смагу ў піўнуху.

Шкада, што я не вёў дзенніка ды проста не занатаваў для памяці Сысоўскі выхад на людзі. Яго эпатаж быў для мяне за звычай і нічога своеасаблівага ў ім я не бачыў і не знаходзіў. А цяпер вось даводзіцца прабівацца праз туман памяці, каб нешта нагадаць, амаль навобмацак вяртацца ў тую падзею. Памятаю, што Сыс, пару разоў глытнуўшы з шклянога кухля пеністага піва, ажывіўся, натхніўся і распаліўся. Ён чапляўся да наведвальнікаў, пужаючы іх і беларускай мовай, і шалёным бляскам вачэй, крывавым шнарам на галаве, абцягнутым на сківаах і скулах пабурэлай скурай, тварам прапойцы. Які ж гэта паэт? Ён больш паходзіў на бяздомнага валацугу! Тады Толік пачаў чытаць свой «Пацір», а чытаць ён умеў як ніхто іншы. Не мямліў, не шаптаў, не крычаў, не завываў, а прамаўляў, як таямнічую замову, надаючы кожнаму радку і слову сваю ўласцівую інтанацыю, і гучаў верш, як мілагучны спеў. Зачараваныя паэтавым голасам і словам, выпівохі прымоўклі і ажывіліся, калі пачулі апошні радок: «І кожны выпіў за сябе». Хтосьці здзівіўся: «І

гэта ты напісаў?» Хтосьці захаплялньна выказаўся: «Цудоўна!» Хтосьці патрос Анатолю руку: «Малайчына! Так прыгожа гучыць наша мова». І Анатоль прачытаў «Дух» — зняважліва, кінуўшы на стол пакамечаную купюру грашовага наміналa. «Вось вам на хлеб, засранцы». Я насцярожыўся, чакаючы абуральнай рэакцыі выпівох. Але яны дабрадушна рассмяяліся.

Неўзабаве Анатоль апынуўся цэнтрам увагі піўной. Яму налівалі, каб выпіць са знакамітым, вялікім паэтам, і ён піў са сваімі выпадковымі паклоннікамі. Усе маюць права наліць паэту, бо яму трунак патрэбны для натхнення — дэкламаваў Анатоль.

З адным ён выпіваў, з другім размаўляў, з трэцім братаўся, абняўшыся і пацалаваўшыся, усіх любіў, як сяброў. Сыс забыўся на мяне, нібыта я сваёй непрыкметнасцю ганьбіў яго веліч. Мая мясцовая слава пісьменніка паблякла ў промнях Сысоўскай славы. Ён быў у гэты момант ужо не паэтам, а чарадзеем, які нёс прыгожае слова людзям, зачароўваў іх сваім магічна-таямнічым голасам, плаўным рухам рук.

Я асцерагаўся аднаго — каб Анатоль у запале не забраўся на стол і адтуль не пачаў дэкламаваць вершы. Барменка, хоць і ведала мяне, але магла не зразумець пафаснага парыву майго сябра. Але Анатолю усё ж хапіла розуму ўсвядоміць, што тутака не бар Дома літаратара, дзе можна было выбрыкнуць як хоча, дзе ўсе прызвычаіліся да яго сцёбу і прымалі як нешта непазбежнае і пасвойску трывалі.

Дадому мы вярнуліся праз гадзіны дзве. Вераціла паспеў прыгатаваць сняданак, пакарміць маю матулю, пахмяліцца і змарнець у чаканні нас. Хоць Анатоль ад шчодрых пачастункаў захмялеў, але ад застолля не адмовіўся. Такога ён сабе не дазваляў ды і іншых цягнуў за стол. Гуляць дык гуляць! Мы ўзнавілі нашу п'яную бяседу.

Дзіўна, але матуля не злавалася на гасцей, як гэта звычайна рабіла, калі я на кухні выпіваў з сабутэльнікамі. Яна радавалася шумлівым гасцям, ды і яны амаль з любоўю ставіліся да яе. Вераціла закарміў яе сваёй страпнёй: «Кузьмоўна паспытайце гэта, паспытайце і гэта. Смакота!» І падносіў ёй на лыжачцы чарговую страву. А Сыс лез да яе з абдымкамі і пацалункамі. «Зінка, мая дарагая, я табе вершы прачытаю, не, сачыню, бо я люблю цябе, Зінуля». Матуля цярпліва слухала Сысоўскую дэкламацыю, мала разумеючы яе сэнс, але таксама зачаравалася мелодыяй слоў, а можа, яна цешылася сакавітай мовай Анатоля і згадала сваю вёску, дзе гучала яе родная мова, якую давялося мяняць на «гарадскую». І яна наіўна прызналася, што сачыніла верш. Зразумела, тыя наборы слоў, што матуля прыдумвала, не назавеш вершамі, але ёй, пэўна, падабалася гульня са словамі — вось і сачыніла сабе верш. Сыс уважліва выслухаў яе блытаны пераказ твора. Які ні быў ён п'яны, але запомніў адзін радок: «Курапаты, Курапаты, адпусціце мяне дахаты». Верш распавядаў аб пакутах расстраляных у Курапатах людзей. Праз некаторы час я прачытаў верш Сыса з тым жа матывам і сюжэтам і даслоўным матчыным радком «Курапаты, Курапаты адпусціце мяне дахаты».

Не ведаю як гэта назваць: перайманнем ці проста плагіятам, якім не пагрэбаваў Анатоль. Але я цешуся, што сваім няўклюдным творам мая матуля не толькі натхніла Анатоля на маленькі шэдэўр, але і падказала яму яго сюжэт, а яе радок трапіў у літаратуру. Высвятляецца, што яна суаўтар Сыса. Не было б верша Сыса — і згінула б яе пачуццё жалю да пакутнікаў сталінскага генацыду супраць свайго народа. Гэтак было заўгодна лёсу, каб прадстаўнік таго страшэннага часу, перажыўшы яго нядолю і бядоты, перадаў свой боль прадстаўніку нашага часу, і ён сваім талентам увасобіў яго ў слове.

Днём Вераціла пакінуў нас, зразумеўшы, што ўжо пачаў абцяжарваць гаспадароў: пара і чэсць знаць. А Сыс як ні ў чым бывала яшчэ двое сутак гасцяваў у мяне. З ім мяне адолеў сум. Ён выпіваў, амаль не закусваў, як канчаны алкаголік і, насупіўшыся, маўчаў, нібыта паглынаўся ў свае думкі. Я ніколі не быў сведкам, апроч паседжанняў на «Тутэйшых», каб Анатоль размаўляў аб мастацтве ці культуры ўвогуле. Пра знаёмых яму мастакоў ці літаратараў казаў ахвотна, як бы пахваляўся знаёмствам з імі, і то казаў, як піў з імі. Не казаў ён ні пра гісторыю, ні пра палітыку, нават пра сваё жыццё-быццё не казаў. Яго гэта проста не цікавіла. А з празаікам ён не мог знайсці агульную тэму для размовы — які ён выдатны паэт. А мне было ўсё роўна, выдатны ён

ці звычайны. Я паважаў яго за тое, што ён ёсць. Яго ж паэзія мне не вельмі падабалася: не было ў ёй жываноснага духу, сугучнага з маімі пачуццямі і думкамі. Сумаваў я, сумаваў і Сыс. Яму патрэбна была кампанія, гледачы, перад якімі ён мог паблазнаваць і сыграць сваю ролю вялікага паэта: кагосьці па-ментарску пахваліць, а кагосьці і зганьбіць, кагосьці аблашчыць (ах ты, маё дзіцятка), а кагосьці паслаць на ўсе чатыры бакі. Ён нудзіўся са мной, бо зрэшты, каб развеяць сум, Сыс зацягнуў мяне ў піўнуху, што для мяне сталася сапраўднай пакутай, бо хацелася праваліцца на месцы абы не бачыць, як Анатоль набіваўся да ўсіх у сябры, хваліўся сваім талентам і, канешне, зачароўваў усіх сваім «Пацірам». Зноў яму налівалі і хвалілі. Мне падумалася, што яму проста не хапае афіцыйнага прызнання, ён як дзіця любіць пахвалу. Усе ў Саюзе пісьменнікаў пра Сыса кажуць, прызнаюць не абы-які талент паэты, а вось друк маўчыць пра яго. Ды і што пісаць, калі ён сам выпісаўся і нічым новым і своеасаблівым не адзначыўся. Друкавалі б у нас свецкую хроніку, дык імя Анатоля Сыса часта фігуравала б там. Не здзіўляюся, калі б ён, як чэхаўскі герой, радаваўся, што трапіў пад павозку і аб гэтым напісала газета.

На чацвёрты дзень гасцявання Сыса ён мне ўжо надакучыў. Ліміт цярпення і гасціннасці быў вычарпаны, ды і ганарарныя грошы заканчваліся, а мне трэба было жыць на іх. Ды толькі Сыс ніяк не хацеў разумець, што ён залішне загасцяваўся. Мне ўжо было не па сілах вытрымаць рытм яго п'янак. Прама сказаць яму, каб нарэшце пакінуў мой дом, я не рашаўся, ведаючы надумлівасць Анатоля, бо яшчэ пакрыўдзіцца на мяне і палічыць, што я яго выганяю, і раструбіць пра гэта па ўсіх рэдакцыях, куды наведаецца, і па ўсім Саюзе прадставіць Чэрапа скнарам і нягоднікам.

Усё ж я прыдумаў, як выправадзіць надакучлівага госця. Я сябраваў са сваім участковым міліцыянтам Грышам Асаўлам. Пазнаёміўся з ім у непрыемных для мяне абставінах. Па п'яні я паспрачаўся, што бясплатна прайду на дыскатэку ў кінатэатры «Салют». Падобная думка магла ўзнікнуць толькі на п'яныя глузды. Мяне спынілі дужыя ахоўнікі і сілком, пнуўшы пад зад нагой, вышвырнулі з ганка на асфальт. Лепш бы яны не рагаталі з майго прыніжэння. Я спакойны, пакуль мяне не пакрыўдзяць, а тады ўжо не стрымліваюся. Гнеў ахапіў мяне і штурхануў на вар'яцтва. Я ашалела прабегся па прыступках і ўдарам нагі выбіў шкло ў дзвярах. Пасыпаліся шкляныя аскалёпкі. Мяне схапілі, надавалі кухталёў і здалі мянтам. Выратаваў мяне мой пісьменніцкі статус. Мянты не сталі вошкацца з небяспечным хуліганам, а перадалі справу ўчастковаму, хай ён разбіраецца. Вось і разабраўся. Асаўла завочна вучыўся на гістарычным факультэце педуніверсітэта і чытаў кнігі Чаропкі, а таму, калі я прыйшоў да яго ў апорны пункт, не мог паверыць, што гэты недалужны мужчынка і ёсць беларускі пісьменнік Вітаўт Чаропка, аўтар гістарычных кніг. Ён уяўляў мяне магутным волатам, а тут звычайны непрыкметны чалавек. У свой час і Уладзімір Арлоў быў расчараваны, калі ўпершыню ўбачыў мяне. Таксама ўяўляў мяне нейкім асілкам. Але Грыша не расчараваўся, а быў уражаны, што я жыву на яго ўчастку, а болей таго, што я просты і даступны без фанабэрыі. Ён дапамог мне ўладзіць праблему з «Салютам». Я аплаціў замену разбітага шкла ў дзвярах, а за бутэльку кан'яку і каробку цукерак дырэктар кінатэатра — развязаная і расфуфыраная дама з пафінегейскімі схільнасцямі — забрала заяву з мянтоўкі. Грыша пастараўся, каб я не плаціў штрафу. Мяне адправіў адпачываць старшыня-касір, калі я прыйшоў у РУУС аплаціць штраф. На штрафныя грошы я набыў дзве пляшкі гарэлкі і прынёс іх майму следчаму, які не засадзіў мяне за хуліганку нават на пятнаццаць сутак. Ён для прыліку паламаўся, маўляў, гэта хабар. Які ж гэта хабар — гэта удзячнасць за стаўленне да мяне. Я паклаў бутэлькі ў высунутую следаком шуфлядку яго стала. Ды яшчэ падпісаў яму кніжку. Мне не сорамна, што вось такім чынам я ўладзіў сваю справу. Я не супраць, каб іншыя гэтак рабілі. Павінен жа дзесьці закон быць бяссільным перад чалавекам, а то ён пажырае ўсіх, хто правініўся перад ім, за ўсялякую віну — маленькую ці вялікую, ні да каго не мае спагады і не дае чалавеку выправіць сваю памылку.

Я пасябраваў з Грышам. Мянтом ён зрабіўся па абставінах. Просты вясковы хлопец, які марыў быць настаўнікам, вымушаны пайсці ў міліцыю, каб мець грошы на жыццё. Ён жыў з развядзёнкай, гадаваў яе малую дачку, а тут яшчэ чакаў сваё

дзіця. Хочаш не хочаш — трэба было зарабляць грошы. Незакончаная вышэйшая адукацыя давала яму права на лейтэнанцкія пагоны. Перспектыва застацца мянтом не радавала яго. Служба вымотвала Грышу і добраму па натуры хлопцу не падабалася. Таму знаёмства са мной для яго было духоўнай палёгкай. Мы доўга размаўлялі аб гісторыі і культуры Беларусі, для яго я тут быў аўтарытэт. Ён адкрываў для сябе шмат новага і таго, чаму не вучаць ва ўніверсітэтах. А я займеў цярплівыя вушы, куды мог вяшчаць свае думкі. Я выцягваў яго ў майстэрню Ігара Кашкурэвіча. Іранічны Ігар пасмейваўся над гісторыкам-мянтом, гэткім гібрыдам нашай рэчаіснасці. Грыша не крыўдаваў. А яго думкі пра лёс Беларусі былі сугучнымі з нашымі. Расчулены Ігар падараваў яму сваю работу «Партрэт Уладзіміра Высоцкага»!

Праз месяц майго знаёмства з Грышам я выступіў сведкам на яго вяселлі з разведзёнкай. Летам мы наведалі яго вёсачку Парэчча. Там ноччу, лежачы на беразе Пцічы, сагрэты подыхам вогнішча і сузіраючы зорныя россыпы, я задумаў апавяданне-паданне «Мы пераможам!». І Грышка, выслухаўшы яго сюжэт, у запале пачаў раіць мне новыя сюжэтныя павароты. Словам, Грышка быў добрым сябрам і на яго можна было спадзявацца, што не падвядзе. Я патэлефанаваў яму, пакуль Анатоль адпачываў на канапе, і растлумачыў сваё недарэчнае становішча. Маўляў, у мяне гасцюе вялікі Сыс, пра якога ён ведаў ад мяне, дык, калі хоча пазнаёміцца з ім, хай прыходзіць да мяне. Але ён павінен так напужаць Сыса, каб той убраўся з маёй кватэры і даў бы нарэшце мне спакой, бо я ўжо стаміўся паіць яго.

І вось праз які час працяглы і патрабавальны званок разбудзіў Анатоля.

— Хто там прэцца? — незадаволена прабурчаў ён.

— Паглядзім хто.

Я адчыніў дзверы, і ў кватэру увайшоў Грыша ў поўным мянтоўскім парадзе і з дубінкай на рамні. Убачыўшы мянта, Сыс зніякавеў, не знаходзячы слоў на здзіўленне.

— П'ём, — надаючы свайму голасу суровасць руплівіцы закона, мовіў Грышка і ўвайшоў у кухню. Суседзі скардзяцца на шум і вэрхал, не даяце ім пакою. Я павінен прыняць меры ці адправіць вас у камеру.

Ашаломлены Сыс апусціў галаву і такой вінаватай позай хацеў заслужыць мянтоўскую літасць. Маўляў, я ціхі, як ягня, не чапайце мяне. Мне было сорамна за Анатоля. Хоць як бы праявіў свой буйны нораў, а то мянтоўская форма адняла ў яго мову.

— Начальнік, не трэба нас у камеру. Гэта вядомы паэт Анатоль Сыс, а паэты шумлівыя людзі. Ну. пашумелі мы, пагулялі, а цяпер закругляемся. Анатоль вось ужо збіраецца дадому, і ўсё будзе ціха, — мовіў я пакаянным голасам пад згоднае ківанне Анатолем галавой.

Ён зразумеў, што лепш хуценька зліняць і не нарывацца на непрыемнасці. Яго вольналюбівая душа наўрад ці вытрымала б гібенне за кратамі, нават некалькі гадзін.

— Так, так, — пагадзіўся Анатоль з маімі словамі і, бліснуўшы агеньчыкамі вачэй, прадэкламаваў сваё:

Ніхто не мае права біць Паэта,
Ён нават сам не вольны над сабой,
Магчыма, ён адзіны на паўсвета,
А вы за ім, нібыта за гарой.

Грышка спраўна гуляў сваю ролю сапраўднага мянта — грубага і цынічнага, зняважліва скрывіў твар і рэзка мовіў:

— П'яніца ты, а не паэт. Закон не разбірае, хто ты такі. Парушаеш яго – адкажы. Так што збірайся хуценька і на выхад, пакуль я яшчэ добры, а то я выклічу нарад і засаджу цябе на суткі. Будзе час пасачыняць вершаў.

Пагроза падзейнічала на Анатоля, ён без пярэчанняў выйшаў з кухні ў вітальню, надзеў куртку, напяліў пантофлі. І напаследак зайшоў у пакой, дзе перад тэлевізарам сядзела ў крэсле мая маці.

— Да пабачэння, дарагая мая Зінуля. Пара дадому. Дзякуй за хлеб-соль, — голас Анатоля гучаў сумна.

Мне зрабілася шкада Анатоля, які адпраўляўся ў сваю адзіноту сярод чатырох сцен. Я рабіў жорстка, выганяючы такім езуіцкім чынам Анатоля, але мае сілы і цярпенне канчаліся. Мне хацелася аднаго спакойна адпачыць, каб Анатоль ноччу — не падымаў мяне з ложка выпіць, каб не цягнуў у піўную, каб не сядзеў сычом, паглыбіўшыся ў

сябе. Усё, што я мог зрабіць для яго, дык даць на дарогу грошай і выклікаць таксоўку. На развітанне ён абняў мяне і папрасіў прыехаць у нядзелю да яго ў госці, што я і абяцаў.

— Ты не забудзеш? — нібыта не верыў у маё абяцанне.

— Вось такі Анатоль Сыс, — сказаў я Грышку, калі праводзіў яго і пасадзіў у таксоўку. — Храбры перад маўклівымі і баязлівы перад моцнымі.

— Проста ён не хацеў падстаўляць цябе. І ніякі ён не звар'яцелы, як ты казаў. Просты і шчыры хлопец, свойскі.

Магчыма, Грышка, які пабачыў на сваёй службе нямала нягоднікаў і вылюдкаў, разбіраўся ў людзях. Ён разглядзеў у Сысу тое, што не бачылі мы, — яго прастату і шчырасць, свойскасць. А нас займалі больш яго эпатажныя выхадкі і блазнота.

У нядзелю я з Грышам паехаў у госці да Сыса на яго кватэру па вуліцы Чарвякова. Вырашылі разыграць яго. Убачыўшы на парозе Асаўлу, апранутага па-грамадзянску, Анатоль усё ж пазнаў яго і здзівіўся:

— Мент? Чаго яшчэ трэба? Што здарылася? А дзе Чэрап?

– Яшчэ нічога. Ты ведаеш грамадзяніна Віктара Чаропку?

— Ведаю. Чаго пытаешся? — нічога не разумеючы казаў Анатоль. — Дзе ён? Нешта здарылася з ім?

— Ён абяцаў табе прыехаць сёння ў госці?

— Ага, — пагадзіўся Анатоль.

— Дык ён прыехаў ці не?

— Не прыехаў, абяцаў і не прыехаў, — сумна мовіў Сыс. — Падмануў мяне, дзіцятка. А ты шукаеш яго? Што ён яшчэ натварыў?

— Дык вось, выконваючы свае сяброўскія абавязкі, я даставіў да цябе гэтага шалапута, які ўхіляўся ад дадзенага слова.

Пасля чаго я выйшаў з-за сцяны ў дзвярны праём. Сыс радасна абняў мяне і чмокнуў у шчаку.

— Малайчына, Вітаўт, што прыехаў і мянта прывёз.

У той дзень Грышка ўдастоіўся асаблівай увагі Анатоля. Даведаўшыся, што Грышка мой сябар, а таму ён не пасадзіў нас на суткі, Анатоль запаважаў яго, а калі ён прызнаўся, што назваў сына Максімам у гонар Максіма Багдановіча, дык палюбіў яго ўсёй сваёй палкай душой. «Свой мент, наш хлопец. Каб усе мянты былі такімі, дык Беларусь даўно была б беларускай», — радасна казаў Анатоль. Мы, каб не расчароўваць Анатоля, гэтак і не расказалі яму пра нашу аферу з ім.



Я мог шмат напісаць аб Анатолю Сысу, аб нашых сумесных пахаджэннях. Напрыклад, як мы разыгралі ў «Іслачы» Алеся Асташонка, запрасіўшы яго па тэлефоне на бяседу, але не паведамілі нумар пакоя, і як той паўночы лётаў па калідорах дома адпачынку, аглашаючы іх клічам: «Сыс! Дзе ты, Сыс?!» Аб нашай паездцы на вечарыну часопіса «Калосься» у Полацк, дзе Анатоль падчас выступу раптам расплакаўся і, саромеючыся сваіх слёз, пакінуў залу. А на зваротным шляху ў Мінск у нашым купэ ўсю ноч займалася любоўю (гэтак цяпер называецца падобная рэч) гарачая парачка. Сыс прытварыўся, што спіць і, як і я, цярпліва слухаў пад стук вагонных колаў разгарачаныя стогны і вохканні. Раніцай ён з агідай мовіў: «Патрахаліся, як кролікі, і людзей не пасаромеліся. Патрахаліся і разбегліся. Вось такое цяпер кахан-

> З празаікам ён не мог знайсці агульную тэму для размовы — які ён выдатны паэт. А мне было ўсё роўна, выдатны ён ці звычайны. Я паважаў яго за тое, што ён ёсць

не». Мог распавесці, як на мой дзень народзін, які мы святкавалі ў «Мутным воку» — бары Дома мастацтваў, — Анатоль паднёс мне на руках падарунак — расфуфыраную і размаляваную, з дзявочым банцікам у валасах, худую, як кляча, і п’яную ў дым прастытутку. Паклаў яе на стол. «Вось табе падарунак, мой коцік». Ад такога падарунка я адмовіўся і ледзь пазбавіўся ад надаедлівай прастытуткі, якая лезла цалавацца да мяне.

Можна нагадаць, як ён цішком вынес з майстэрні Квяткоўскага мой партрэт, які Алесь доўга маляваў і які яму падабаўся. Я быў прадстаўлены на партрэце ў вобразе сярэднявяковага рыцара ў рыцарскіх даспехах з доўгімі срэбнымі валасамі, што як мантыя пакрывалі мае плечы. Квяту прапаноўвалі за партрэт добрую плату. І вось Анатоль, выбраўшы момант, сцягнуў партрэт, каб толькі паказаць яго маёй маці. Партрэт не ўлез у таксоўку, і давялося яго класці ў багажнік. Калі Квят агледзеўся, яго абурэнню не было межаў. Вырашыў, што крадзеж партрэта маіх рук справа. Датэлефанаваўся да мяне і раздражнёна спытаўся, дзе работа. Адказаў яму Анатоль, прама і зразумела: «Не сцы, Квят. Твая работа ў нас. Мастацтва павінна належаць народу. Вось хай цётка Зіна паглядзіць, які ў яе паважаны сын і якія ў яго добрыя і таленавітыя сябры. А калі задумаеш прадаць “Чаропку”, дык я табе яго не вярну. “Чаропка” павінен быць на Беларусі і для беларусаў». Партрэт мы назаўтра прывезлі назад Квяту, бо ён даў Анатолю слова, што не прадасць «Чаропку» ні замежнікам, ні сваім калекцыянерам, а перадасць у літаратурны музей, што зрэшты ён і зрабіў. І цяпер «Чаропка» пыліцца дзесьці ў запасніках, чакае майго часу адыходу з гэтага свету, каб згадалі яго.

Што яшчэ прыгадаць?

Досыць і таго, што пра Анатоля расказана і напісана, а гэтыя ўспаміны я напісаў, каб яшчэ раз нагадаць пра яго, перажыць тыя радасна-хвалюючыя імгненні нашых сустрэч. Разабрацца, хто ён быў і якім ён быў. Я не прыўкрашваў Сыса, хацеў пакінуць памяць пра яго як пра жывога чалавека з усімі яго вартасцямі і заганамі, плюсамі і мінусамі.

Ён шчыра імкнуўся нешта зрабіць для адраджэння Беларусі, што і сведчыць яго дзейнасць у «Тутэйшых», куды ён цягнуў усіх, хто нешта спрабаваў пісаць, ён арганізоўваў першыя мітынгі «Дзядоў» у 1987 і 1988 гадах, ён чытаў свае вершы перад натоўпам, напаўняючы яго агульную душу болем за Радзіму. Калі Беларусь стала незалежнай краінай, яму ужо не было за што змагацца, разышліся «Тутэйшыя», і Анатоль нібыта страціў сэнс жыцця. Ён зрабіўся непатрэбным учарашнім паплечнікам, якія баяліся, што ён сваімі непрадказальнымі выхадкамі скампраметуе іх, чысценькіх і пушыстых. Яго ўспрымалі як нешта непазбежнае, што трэба міжволі прыняць, але часцей пазбягалі. Яму не знайшлося месца ні ў старой, ні ў новай — незалежнай Беларусі. Не выпадкова Анатоль напісаў: «У гэтай краіне не маю я дому… долі… Бога… роду… песні… волі…» Гэта маналог самога Анатоля Сыса, яго думкі, яго пачуцці. Ён назваў гэтую баладу «Маналог Афанасія Філіповіча», каб схаваць праўду пра сябе. Ён хацеў жыць, як вольны паэт: «Ні грошай, ні славы — я волі хачу». Жыў напоўніцу: дзень за тыдзень, тыдзень за месяц, месяц за год. Хвароба з’ядала яго па-жывому, Анатоль душыўся крывавым кашлем («І я не магу так болей жыць, я задыхаюся, я паміраю…»). Свой паэтычны дар ён аддаў людзям, а сабе пакінуў права быць самім сабой. Як дзіўна, ён цягнуўся да людзей і яны цягнуліся да яго, а памёр у адзіноце, калі ён «свае ногі дажыў» і не змог дайсці да дзвярэй, адчыніць і паклікаць людзей на дапамогу. І калі Анатоль жыў па сумленні, калі яно чыстае, дык і прадстаў ён перад Богам са светлай душой. Дык навошта плакаць аб ім? Як запавет успрымаю цяпер яго пажаданне, занатаванае ў падараваным ім «Пане лесе»: «Віця Чаропка, коцік ты мой, табе дорыць сваю кніжку няўеб…ую Анатоль Сыс! А ведаеш за што? За тое, што ты так любіш жыццё. І ты нікога не слухай — жыві, жыві ды й жыві! 21 студзеня 1998 г. Менск».

*2011 год*

# Анатоль Сыс. Прадаўжэнне легенды

Сыс, А.Ц. Берагі майго юнацтва: вершы, пародыі / Анатоль Сыс; уклад., прадм. Алесь Бяляцкі; маст. Дар'я Бунеева. — Мінск: Галіяфы, 2016. — 250 с.

Паэзія Анатоля Сыса, калі б іншай была моўная сітуацыя ў краіне, відавочна, перавярнула б свядомасць многіх чытачоў, на многіх паўплывала ва ўнутраных, духоўных пошуках. Мо яшчэ і таму зрабілася б гэта, што ў выпадку з Сысом, прачытаннем яго нямногіх кніг пачынаеш разумець, што Паэзія — гэта Жыццё. Напісаць верш — значыць: пражыць і словам адбіць, зафіксаваць і надаць перажытаму новы філасофскі статус. На жаль, так здараецца не часта... Бальшыня вершаваных, часам нават таленавітых версіфікацый, паэтычных уражанняў ад жыцця — усяго толькі погляд, усяго толькі маленечкі зрэз, усяго толькі ўражанне. Уражанне, пазбаўленае думкі і пошукаў, спадзяванняў і ўяўленняў, трывог і веры.

Караванам па бязмежнай пойме,
Праклінаючы халодны бляск вады,
Нібы айсберг рыжы, блудзяць коні,
Звар'яцеўшы ад пустой хады.

І, здаецца, што туман абрыдлы
Назаўжды закрэсліў пах зямлі,
Грывы мокрыя, як птушак скрыдлы,
Безнадзейна па вадзе плылі,

— так пачынаецца, вершам «Коні», першая кніга Анатоля Сыса, якая толькі што прыйшла да чытача. А планавалася, збіралася, пісалася шмат гадоў, нават некалькі дзесяцігоддзяў таму. «Коні» — верш з 1980, а мо нават і папярэдняга года. Сысу яшчэ толькі дваццаць з хвосцікам... Чытаем у прадмове да кнігі «Берагі майго юнацтва»: «Увосень 2010 года, падчас штогадовага паэтычнага свята ў гонар Анатоля Сыса на радзіме паэта ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна, я і зямляк Анатоля паэт і журналіст Сяржук Сыс даведаліся ад роднай сястры Анатоля Тамары Ціханаўны пра існаванне неразабранага архіва Анатоля Сыса. Падчас прагляду яго я заўважыў невядомыя вершы паэта. Для нас гэта было моцнай нечаканкай, неверагодным сюрпрызам, у які з першага разу цяжка было паверыць, бо Анатоль, жывучы ў Менску, неаднойчы распавядаў пра тое, што спаліў юнацкія вершы» (А. Бяляцкі). І далей: «Асобна ў невядомай спадчыне паэта можна вылучыць машынапіс зборніка вершаў пад назовам "Берагі майго юнацтва" (іншая верагодная назва — "Манускрыпт майго юнацтва") з раздзеламі "Бераг правы" і "Бераг левы". На жаль, старонкі перablытаныя і няма зместу зборніка, таму нельга вызначыць як дакладна былі размеркаваныя вершы па гэтых раздзелах. Зборнік складаюць творы, напісаныя Анатолем Сысом падчас вучобы ў Гомельскім універсітэце ў канцы 70-х, пачатку 80-х гадоў... »

Такая вось гісторыя знойдзенай кнігі. Анатоль Сыс адпраўляў свой зборнік на рэцэнзію. Відаць, у Саюз пісьменнікаў Беларусі, бо застаўся шматок канверта са зваротным адрасам. Водгук Фёдара Яфімава аказаўся адмоўным. Магчыма, таму Сыс і адклаў кнігу ўбок, надрукаваўшы пазней толькі два вершы з машынапісу. Але ўкладальнік Алесь Бяляцкі пайшоў далей і дадаў у кнігу 2016 года яшчэ даволі істотны масіў паэтычных тэкстаў Анатоля Сыса — студэнцкія вершы, сярод якіх і вянок санетаў, пародыі, пераклады М. Лермантава, М. Гнездзіча. І як вынік атрымалася кніга «Берагі майго юнацтва», якая сапраўды дазваляе хаця б крыху інакш паглядзець на развіццё паэтычнага таленту, мастацкага мыслення Анатоля Сыса, легендарнага паэта сучаснасці, зоркі беларускай паэзіі памежжа XX — XXI стагоддзяў.

Укладальнік Алесь Бяляцкі пайшоў далей і дадаў у кнігу 2016 года яшчэ даволі істотны масіў паэтычных тэкстаў Анатоля Сыса — студэнцкія вершы, сярод якіх і вянок санетаў, пародыі, пераклады М. Лермантава, М. Гнездзіча. І як вынік атрымалася кніга «Берагі майго юнацтва»

Многім вылізаным, вычасаным спевам сямідзясятых — васьмідзясятых мінулага стагоддзя ой як далёка да твораў з першай кнігі Анатоля Сыса!.. Нават спевам аблаўрэачаных, адзначаных, уганараваных...

У свой час у інтэрв'ю дасведчанаму і востраму крытыку, літаратуразнаўцу Ганне Кісліцынай для часопіса «Крыніца» (год 2001) Антоль Сыс сказаў напрыканцы размовы: «Паэты заўсёды былі непатрэбныя. Але з'яўляліся, нават у тыя часы. Пра гэта не варта думаць. Выдаў кнігу, паставіў сваю вешку і ідзі далей. Пішы так, каб не было сорамна. Я пад кожнай сваёй літарай магу падпісацца».

Мяне ўсё ж зараз турбуе, чаму добры паэт, выдатны перакладчык беларускай паэзіі на рускую мову, уважлівы і досыць грунтоўны крытык Фёдар Яфімаў не разгледзеў талент ці не разгледзеў тады, у пачатку 1980-х гадоў, адметную асобу Анатоля Сыса, не разгледзеў паэта як з'яву. Безумоўна, раннія вершы «гарошкаўскага Гамера» ўспрымаюцца зараз праз прызму пазнейшых яго твораў. І ўсё ж...

Яшчэ фарбы не абсохлі,
Яшчэ пэндзаль у руках.
Думаю,
Што радзіў:
　　　　　　сябе на палатне,
　　　　　　ці палатно мяне радзіла.
Шукаю штучнасці ў рысах
　　　　　　　　　　　　і знаходжу —
Эх, людзі, на партрэтах вы такія ж...
А можа мяне пальцы падвялі,
А можа гэта цені вінаваты —
　　　　　　　　　　　　я ж самавучка,
　　　　　　　　　　　　сам сабе натуршчык.

Гэта — радкі з верша «Аўтапартрэт» (твор напісаны ў Гомелі 25 сакавіка 1980 года). Паэт настойліва шукаў сябе, гэтым найперш тыя даўнія творы і цікавыя.

Рэцэнзент кнігі «Берагі майго юнацтва» ў «Літаратуры і мастацтве» Наста Грышчук заўважыла: «"Берагі..." паказваюць талент, які толькі-толькі адкрываецца, становіцца на ногі, спрабуе голас. Голас падлеткавы, які гучыць то пяшчотна, то зрываецца на бас. У гэтых зрывах, якія парушаюць цэласнасць зборніка, дысануюць, і ёсць той паэт, які застаўся ў беларускай літаратуры з "Агменем", "Панам Лесам", "Сысом". Чаму ж ён адпачатку не даверыўся сабе, хаваўся за белым каўнерыкам? Магчыма, прычынай — натуральная патрэба мець настаўніка, некаму наследаваць?.. Ці сапраўды ўпэўненасць у тым, што заснежаныя пейзажы, пошук любові і лірычная задуменнасць — адзіна верны шлях? Тут можна толькі развесці рукамі.

Ты не менш і ў гэтым зборнічку, што ў свой час прыйшоўся б даспадобы рафінаваным філалагіням, заўважная будучыня паэта. Гэта Маці як цэнтр Сусвету, адзіны чалавек, варты любові, ахвяравання. Гэта Радзіма, якая заўжды поплеч з Маці, і часам вобразы іх непадзельныя. Часта падобныя вершы з палымянымі патрыятычнымі прызнаннямі гучаць не тое каб няшчыра — хутчэй, у іх болей юнацкага запалу, чым рэальнага ўсведамлення, што ж менавіта ты прамаўляеш. Ты малады, значыць, мусіш змагацца, а калі змагацца, дык за Радзіму. У юнага Анатоля Сыса гучанне крыху іншае, яму верыш...»

У гэтых супярэчлівых выказваннях крытыка, магчыма, часткова і ёсць пэўная логіка. Падмурак нават адразу не фарміруецца, што ўжо казаць пра тыя складнікі, што вядуць да вышынь. І ўсё ж не магу цалкам пагадзіцца з Настай Грышчук. Як, пэўна, і з адмоўным характарам рэцэнзіі Фёдара Яфімава на рукапіс першай кнігі Анатоля Сыса. Шчырасці, адкрытасці, няхай сабе часам і наіўнай, тут, у «Берагах... » хапае, яе звышдастаткова. На крайні выпадак яны, шчырасць, адкрытасць, такія паэтычныя, такія важкія, што многім вылізаным, вычасаным спевам сямідзясятых — васьмідзясятых мінулага стагоддзя ой як далёка да твораў з першай кнігі Анатоля Сыса!.. Нават спевам аблаўрэачаных, адзначаных, уганараваных... Тых, каго крытыка тагачасная славіла, чые вершы ў падручніках і хрэстаматыях займелі прапіску.

Для альпініста пакароная вяршыня,
Як для паэта пакароны верш,
Але,
Хто з дзівакоў найперш
Спакоем рызыкуе,
Паэт, шчыруючы нястрымнаю душой,
Ці скалалаз, аддадзены канатам?
Што заўтра,
Узнагарода ці адплата
За ночы ў скалах,
Вочы ў слязах?
Пра гэта мне адзін паэт сказаў,
І я падумаў:
Быць мне альпіністам
У стромкіх скалах антытэз і рыфм.

«Праграма» творчасці, праграма жыцця ў Паэзіі — вось чаго адчуванне ёсць у першай, даўняй кнізе Анатоля Сыса. Ёсць тое, на што пасля, шмат пазней пасля напісання Сысом першых вершаў, зверне ўвагу Леанід Галубовіч: «Анатоль Сыс — паэт, выкінуты з лона айчыннай Прыроды чарговай хваляй беларускага Адраджэння напрыканцы 80-х. Апроч сваёй маці, ён — дзіця нацыянальнай беларускай ідэі». Ён, Сыс, рабіў першыя крокі па творчасці, першыя крокі ў паэтычнай прасторы, а над ім вісеў цяжар праўды папярэднікаў і цяжар праўды будучыні. Трагедыя Сыса зусім не ў тым, што вонкава ён не адбыўся як, напрыклад, адбыўся Максім Багдановіч. Прыйдзе час — і яшчэ знойдзецца Сысу болей высокае месца, чым ён як Паэт займае зараз. Справа ў іншым: у тым, наколькі здольна разглядаць грамадства, чытач, няхай сабе і чытач, які заангажаваны беларушчынай, сапраўднае, сапраўдных... Сіла такіх паэтаў, як Анатоль Сыс, Мікола Купрэеў, знешне не дужа сімпатычных сытаму грамадству, у тым, што іх гучанне надоўга, незалежна, паўтаруся, ад таго як вонкава яны выглядалі, што — гарэлку ці сухое віно — пілі...

Сыс адбыўся, здзейсніўся. І як, у якіх акалічнасцях, абставінах, у якой атмасферы ён жыў — гэта ўжо іншае пытанне. Часам не такое істотнае, калі найперш заўважны вялікі талент, падараваны фізічнай істоце, падараваны чалавеку Богам. «Берагі майго юнацтва» — кніга, якая сведчыць, што першымі вершамі ў літаратуру, у беларускую паэзію, у беларускую культуру ўваходзіў Талент. І тут нельга пагадзіцца з паважаным рэцэнзентам «Літаратуры і мастацтва», якая на самым пачатку рэцэнзіі напісала: «Адкінем апошнія трыццаць гадоў. Забудзем, хто такі Анатоль Сыс. Мы ўбачым самы што ні ёсць пачаткоўскі зборнік — лірычны, патрыятычны, супярэчлівы. Сёння вагу яму надае імя аўтара, але не самі творы. Той Сыс яшчэ не дайшоў да трагічнага разлому, што адкрыў унікальны талент. Той Сыс упарта падладжваецца пад ціхі голас Багдановіча, эксперыментуе з санетам і іншымі строгімі паэтычнымі формамі, хоча быць рамантычным, вытанчаным, нават лагодным».

Сыс не падладжваўся. Ён проста пачынаў свой шлях. Вялікі шлях да чытача розных пакаленняў, шлях, які і сёння доўжыцца, і заўтра будзе прыкметным, заўважным сярод зоркавых дарог Паэзіі і Паэтаў. І чытача ў розных пакаленняў Сыс яшчэ займее ў разы болей, чым наклад кнігі, выдадзены ў 2016 годзе, — 299 асобнікаў...

*Максім Жалезінка*

«Праграма» творчасці, праграма жыцця ў Паэзіі — вось чаго адчуванне ёсць у першай, даўняй кнізе Анатоля Сыса. Анатоль Сыс — паэт, выкінуты з лона айчыннай Прыроды чарговай хваляй беларускага Адраджэння напрыканцы 80-х. Апроч сваёй маці, ён — дзіця нацыянальнай беларускай ідэі.

Трагедыя Сыса зусім не ў тым, што вонкава ён не адбыўся як, напрыклад, адбыўся Максім Багдановіч.
Прыйдзе час — і яшчэ знойдзецца Сысу болей высокае месца, чым ён як Паэт займае зараз

**Вера Гудзей-Каштальян**

# Павел Любамудраў: партрэт маладога дырыжора ў трох ракурсах

**У траўні 2015 года ў сталічнай зале «Верхні горад» адбыўся дэбют новага струннага аркестра, які ўзяў кірунак на выкананне самай разнастайнай музыкі. Мастацкі кіраўнік, дырыжор і натхняльнік калектыву — Павел Любамудраў, пасля заканчэння Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі па класе оперна-сімфанічнага дырыжыравання ў 2013 годзе вярнуўся на радзіму. Апантаны ідэяй стварэння ўласнага аркестра, сабраў музыкантаў, якія дапамаглі яе ўвасобіць.**

**Так у шэрагу вядомых і прызнаных аркестравых калектываў Мінска летась з'явіўся яшчэ адзін — з прыгожай і крыху загадкавай назвай «Метамарфоза». У ёй вызначана тэза, адпаведная пераўтваральнай рухавасці, відазмяняльнасці, што адбываюцца падчас выступленняў музыкантаў — ці то ў Чырвоным касцёле, ці то ў канцэртнай зале «Верхні горад», Малой зале імя Рыгора Шырмы Белдзяржфілармоніі або рэспубліканскім Палацы культуры прафсаюзаў.**

## Ракурс I
## Метамарфозы творчасці

У складзе аркестра — маладыя таленавітыя выканаўцы, лаўрэаты рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, стыпендыяты Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, якія зведалі багаты вопыт гастрольнай дзейнасці і ўдасканальваюць сваё прафесійнае майстэрства як удзельнікі міжнародных фестываляў, разнастайных art-праектаў, майстар-класаў і г. д., сумесна з вядомымі аркестрамі і камернымі ансамблямі краіны і замежнымі выканаўцамі. Запрашаюцца і больш сталыя музыканты, што вельмі каштоўна і карысна для агульнай справы. Дэбютантамі аркестра становяцца і зусім юныя дараванні, навучэнцы сярэдніх і вышэйшых устаноў.



Дырыжор — Павел Любамудраў.

Рэпертуар новага калектыву не абмяжоўваецца творамі спецыяльна напісанымі для струннага саставу, накшталт «Маленькай начной серэнады» В.А. Моцарта ці «Серэнады для струннага аркестра» П. Чайкоўскага. Дзякуючы запрашэнням іншых музыкантаў аркестр лёгка пераўтвараецца ў камерны з уключэннем драўляных духавых інструментаў, або ў так званы «малы» (няпоўнага складу). Так, побач з «Простай сімфоніяй» Б. Брытэна і «Камернай сімфоніяй» Д. Шастаковіча ў рэпертуары «Метамарфозы» з'явілася, да прыкладу, Трэцяя сімфонія Л. Бетховена, дзе акрамя драўляных духавых гучаць валторны, трубы і літаўры.

Цікавай і разнастайнай атрымалася праграма «Феерычныя сезоны», у якой брала ўдзел скрыпачка Юлія Лебядзенка. Жаданне аб'яднаць розныя эпохі, краіны, стылі, жанры тут было цалкам рэалізавана. Прагучала музыка А. Вівальдзі, П. Сарасатэ, М. дэ Фальі, Л. Андэрсена, А. П'яцолы, А. Пажарыцкага. А на біс Юлія праспявала «Хабанэру» Кармэн, адкрыўшы ўдзячным слухачам да ўсяго яшчэ і талент спявачкі. З віяланчэлістам Міхаілам Радунскім ладзілі незвычайны кан-



Струнны аркестр «Метамарфоза».

цэрт у Чырвоным касцёле. Пазнаёмілі слухачоў з выдатным іспанскім габаістам Хуанам Мануэлем Гарсія-Кана. Усе гэтыя музыканты прама ці ўскосна звязаны з Беларуссю, ды разам з тым яны — прадстаўнікі новай сучаснай генерацы выканаўцаў, якія належаць агульнаеўрапейскай і сусветнай культурнай прасторы.

Уражлівай і насычанай была ўжо першая канцэртная праграма аркестра, у якой прагучалі творы В.А. Моцарта, П. Чайкоўскага, Д. Шастаковіча, С. Барбера, Я. Сібеліуса. Разам з шэдэўрамі замежнай і рускай класікі ў рэпертуар калектыву арганічна ўпісваюцца і творы сучасных беларускіх аўтараў, і музыка кампазітараў савецкай эпохі. Неўзабаве струнны аркестр быў запрошаны да ўдзелу ў канцэрце амерыканскага гурта «Manowar» на сцэне мінскага Палаца спорту. Апроч шэрага песень з рэпертуару рок-выканаўцаў акадэмічны калектыў выканаў музыку нарвежскага класіка Э. Грыга. А пасля заканчэння канцэртнага сезона па запрашэнні Музея народнага побыту і архітэктуры ў вёсцы Строчыцы музыканты прынялі ўдзел у Фестывалі дзіцячых забаўлянак, дзе выконвалі таксама класічную і папулярную музыку.

Што і казаць, сапраўдныя і нечаканыя метамарфозы ўсяго толькі за адзін год канцэртных выступленняў аркестра, які не мае ніякай матэрыяльнай падтрымкі, не мае ўласнага памяшкання для рэпетыцый, адно толькі мае патрэбу ў творчай самарэалізацыі. Для таленавітай моладзі гэта даволі моцная матывацыя. Да таго ж, у аркестра няма абавязковага плану канцэртаў з прадпісаннямі дзе? калі? колькі?, але ж і гастрольныя паездкі пакуль не магчымыя. Ёсць і яшчэ адзін важкі момант — пэўная незалежнасць у выбары рэпертуару, канцэртных пляцовак, творчых стасункаў.

Першыя канцэртныя выступленні новага аркестра «Метамарфоза» пад кіраўніцтвам Паўла Любамудрава выклікалі цікавасць як у асяродку меламанаў, так і з боку журналістаў і прафесійных крытыкаў. Заўважылі калектыў і айчынныя кампазітары. «Зачараванне няспраўджанай мары», прапанаванае Аляксандрам Пажарыцкім, выдатна прагучала ў канцэртнай зале «Верхні горад». Пасля выканання «Метамарфозай» твора Аляксандра Літвіноўскага «Казкі чароўнага лесу», спецыяльна для гэтага калектыву кампазітарам быў напісаны новы опус — «Тоўсты сшытак», прэм’ера якога адбудзецца на адным з першых канцэртаў новага сезона.

Між іншым, самым хвалюючым і знамянальным уласна для Паўла Любамудрава будзе выступленне разам з Дзяржаўным камерным аркестрам Рэспублікі Беларусь у верасні ў Нацыянальным мастацкім музеі на адкрыцці выстаўкі



Канцэрт з Юліяй Лебядзенка.

яго знакамітага дзеда, вядомага беларускага графіка, прафесара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Паўла Канстанцінавіча Любамудрава. Падзея, прымеркаваная да стагоддзя з дня нараджэння мастака, — сапраўды знакавая. Таму абмінуць тэму сувязі пакаленняў падчас знаёмства з маладым дырыжорам было проста немагчыма.

## Ракурс II
## Жыццёвыя і творчыя шляхі: паралелі і перасячэнні

*— Мая маці Кацярына Паўлаўна — выкладчыца фартэпіяна з саракагадовым стажам. Працавала ў сталічных дзіцячых музычных школах, №7 і №19. Піяністкай таксама была і яе бабуля, мая прабабка. Яна вучылася ў Пецярбургскай кансерваторыі ў той час, калі яе дырэктарам быў Аляксандр Глазуноў — прафесар, кампазітар, дырыжор, вядомы грамадскі дзеяч, вельмі чулы, добры і сардэчны чалавек. Ведаў усіх студэнтаў кансерваторыі, наведваў іспыты, канцэрты, сачыў за поспехамі, дапамагаў матэрыяльна.*

Як сцвярджалі сучаснікі, пры Глазунове Пецярбургская кансерваторыя працвітала ў мастацкіх адносінах, як і пры Рубінштэйне, але каса была таксама пустая… Аляксандр Канстанцінавіч аддаваў увесь свой дырэктарскі і прафесарскі аклад у касу ўзаемадапамогі навучэнцаў, сярод якіх было шмат маламаёмных. Паступова ён зрабіўся легендарнай асобай. Амаль кожны з былых вучняў Кансерваторыі быў чымсьці абавязаны Глазунову, як, напрыклад, старэйшы беларускі кампазітар Аляксей Яўлампавіч Туранкоў. Паступіўшы ў Пецярбургскую кансерваторыю ў 1911 годзе, малады чалавек вымушаны быў яе пакінуць з-за матэрыяльных цяжкасцей. Зарабляў грошы ігрой у Паўлаўскім сімфанічным аркестры. Глазуноў аднойчы ўбачыў і пазнаў Туранкова, пасля чаго музыка атрымаў права на бясплатнае навучанне і вярнуўся ў Кансерваторыю.

*— Глазуноў падарыў маёй прабабцы свой партрэт з надпісам — «Отличной пианистке, горячо любящей искусство, Ольге Николаевне Рудевич в память ея пребывания в стенах Петроградской консерватории от искренно преданного ей бывшего руководителя. 4 октября 1911 г.» і прысвяціў мелодыю, якую запісаў на натаносцы проста на картачцы. Доўгі час Вольга Мікалаеўна працавала канцэртмайстрам у Марыінскім тэатры. А мой прадзед Канстанцін Любамудраў быў урачом. У 1918 годзе прапаў без вестак. Бабуля Міра Васільеўна ўзначальвала рэдакцыю Усесаюзнага часопіса «Энергетик». Дзядуля ваяваў, быў паранены. Пачынаў вучыцца ў Ленінградзе, давучваўся ў Маскве ў Мастацкім інстытуце імя В.І. Сурыкава.*

Павел Канстанцінавіч Любамудраў больш за чвэрць стагоддзя выкладаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Удзельнічаць у выставах пачаў яшчэ ў даваеннае дзесяцігоддзе. Шэраг яго карцін звязаны з ваеннай тэмай, серыя пейзажаў прысвечана выявам Мінска. Мастак працаваў пераважна ў станковай графіцы. А вось ўнук, наследаваўшы яго імя і прозвішча — таксама Павел Любамудраў, спачатку вучыўся іграць на гітары, засвоіў кларнет, а потым вырашыў стаць дырыжорам.

Часцей з ліку музыкантаў-выканаўцаў дырыжорамі становяцца скрыпачы як У. Співакоў або Д. Ойстрах. Ад інструментальнага выканальніцтва да дырыжыравання прыйшоў знакаміты кантрабасіст-віртуоз С. Кусевіцкі. Віяланчэлістам па сваёй базавай адукацыі быў дырыжор Мінскага камернага аркестра Ю. Цырук. Як сімфанічны дырыжор выступае вядомы піяніст М. Плятнёў, арганізатар і кіраўнік Нацыянальнага сімфанічнага аркестра Расіі. Шмат прыкладаў у гісторыі выдатных кампазітараў-дырыжораў — Г. Берліёз, Р. Вагнер, П. Чайкоўскі, Г. Малер. Адзін з найвялікшых і легендарных дырыжораў XX стагоддзя Клаўдзіа Абада скончыў Міланскую кансерваторыю як піяніст і кампазітар у пачатку 1950-х гадоў. Доўгі час ён сумяшчаў напісанне музыкі і выканальніцкую дзейнасць і толькі ў 1970-я канчаткова самавызначыўся як дырыжор.

Шлях да дырыжорскага пульта ў Паўла Любамудрава быў іншы, здаецца больш мэтанакіраваны, хоць і не зусім просты. У музычную школу яго аддалі хутчэй дзеля агульнага развіцця, без усялякіх сур'ёзных намераў. Мінскі музычны каледж імя М.І. Глінкі, дарэчы, ён скончыў як гітарыст. Вось тут якраз і праявіліся цікавасць да аркестра і дырыжорскія здольнасці. На экзамене выконваў з аркестрам першую частку Восьмай сімфоніі Ф. Шуберта. Але гэтага было недастаткова, каб паступіць у ВНУ на адпаведную спецыяльнасць.

*— Паступаў у Санкт-Пецярбургскую кансерваторыю спачатку на гітару, як кажуць, на ўдачу. Сімвалічным сталася тое, што трапіў я туды ў 2006 годзе, акурат праз сто гадоў пасля маёй прабабкі. Але праз два гады навучання зноў здаваў іспыты — цяпер на дырыжора. Да таго часу наведваў дырыжорскія класы розных выкладчыкаў. Асабліва падабаліся заняткі ў класе Аляксандра Васільевіча Аляксеева. Гэта вельмі дасведчаны музыкант, патрабавальны, строгі, з няпростым характарам. Не ўсім выпадае трапіць да яго. Але мяне Аляксееў узяў. Сам маэстра вучыўся ў Эдуарда Пятровіча Грыкунова, прайшоў стажыроўку ў Ганса Свароўскага ў Вене. Дарэчы, яго вучнямі таксама былі знакамітыя дырыжоры Клаўдзіа Абада і Зубін Мета.*

Не менш зорны атрымаўся і клас самога Аляксеева, з якога выйшлі Мікалай Вінакураў — дырыжор Вялікага сімфанічнага аркестра імя П. Чайкоўскага ў Маскве, Ёргес Кунтурыс — кіраўнік Маладзёжнага сімфанічнага аркестра на Кіпры, Алекс Праер — кампазітар, піяніст, дырыжор, вядомы ў асяродку самых розных еўрапейскіх аркестравых калектываў, да таго ж спявак і трубач і ў дадатак — праўнук Канстанціна Станіслаўскага.

*— Школа Аляксеева стала падмуркам усёй маёй дырыжорскай дзейнасці. Але вучыўся пакрысе ў розных педагогаў. Шмат зведаў, набыў у майстар-класах Уладзіміра Федасеева, Віктара Ямпольскага, Юрыя Сіманава. З Дзяржаўным аркестрам Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі выконваў «Чароўнае возера» А. Лядава. У Тэатры кансерваторыі дырыжыраваў операмі «Травіята» Дж. Вердзі і «Яўген Анегін» П. Чайкоўскага.*

Спасцігнуць мануальную тэхніку дырыжора не складана. Галоўнае, як лічыць Павел Любамудраў, — спасцігнуць глыбіню зместу і вобразны свет музыкі, — тое, што прыхавана за яе знешнім бокам — штрыхамі, нюансамі, нотамі асобных партый і тэхнікай выканання.

І ўсё ж такі застаецца загадкавым, як дасягаецца суладдзе паміж дырыжорам і аркестрам, якім чынам дырыжору ўдаецца «трымаць» аркестр і залу? Да таго ж аркестр можа мець уласны твар, свой выканальніцкі стыль, а можа заставацца проста добрым аркестрам з нівеліраванымі рысамі. Пра тое размова далей...

## Ракурс III
## Магічнае са-быццё ў музыцы

Зразумела, што твар аркестра і асаблівы выканальніцкі стыль з'яўляюцца з асобай дырыжора. Адным з прыкладаў увасаблення дырыжора-ідэала быў Я. Мравінскі. Рэдка задаволены выкананнем сваёй музыкі, Д. Шастаковіч давяраў сваю музыку галоўным чынам гэтаму дырыжору. Усе ведалі пра яго спецыфічныя жэсты, пра тое, што яго аркестр пачынаў іграць на трэць секунды пасля паказу, а з іншымі дырыжорамі, якія патрабавалі іграць «у руку», разыходзіліся.

*— Дырыжор, перш за ўсё, павінен быць фігурай, — гаворыць Павел, — павінен умець пераконваць, настойваць на сваім, калі музыканты не разумеюць або супраціўляюцца. Ён павінен пераадольваць розныя негатыўныя псіхалагічныя і бы-*



Павел Любамудраў.

*тавыя моманты. Яму трэба быць вельмі адукаваным, мець выдатную памяць, слых, умець дакладна і выразна акрэсліваць мастацкую задачу. Дырыжор — гэта лідар. Ён вызначае кірунак развіцця аркестра. Ёсць і іншыя асаблівасці. У кожнага дырыжора свая манера выказвання, кожны па-свойму «размаўляе» з аркестрам, мае ўласную пластыку жэстаў. Непаўторнасць і навізна дырыжора зыходзяць з яго таленту. Акрамя таленавітых ёсць таксама больш ці менш здольныя, якія ўсяго толькі добра валодаюць дырыжорскай тэхнікай…*

Напэўна, дзеля таго, каб спасцігнуць сакрэты творчасці дырыжора, варта асэнсаваць і зразумець наступную выснову, што ідэальныя суадносіны, або камунікатыў дырыжор — аркестр — слухач, утвараюцца толькі калі адзін прыўносіць у ігру імператыў волі, другі цалкам ёй аддаецца як раўнапраўны партнёр, а трэці паглыбляецца ў чароўную, цудоўную, ілюзорную асалоду гармоніі сусвету, быцця і ўнутранай гармоніі…

Сапраўды падчас канцэртаў струннага аркестра пад кіраўніцтвам Паўла Любамудрава іншым разам адбываецца незвычайная цікавая метамарфоза, калі дырыжор ёсць таксама аркестр і таксама музыка, нібыта тры ў адным. І разам яны цалкам «паглынаюць» і час, і прастору залы, і слухачоў. Менавіта такое магічнае суіснаванне або «со-бытие» ў музыцы давялося адчуць асабліва (і гэта было нечакана) падчас выканання «Гераічнай сімфоніі» Бетховена, у якім дырыжор і аркестр здолелі спасцігнуць грандыёзную задуму твора, яго маштаб і глыбіню, навізну і складанасць музычных сродкаў. «Гераічная сімфонія» прагучала ў сакавіку, і гэта быў апошні, завяршальны канцэрт першага сезона, праведзенага Паўлам Любамудравым з «Метамарфозай», праведзенага ўпэўнена, годна, натхнёна, што безумоўна заслугоўвае ўвагі.

Вядома, што Трэцяя сімфонія ў свой час шакіравала публіку. Сучаснікам кампазітара яна падалася занадта доўгай, бязладнай, жорсткай. Спачатку Бетховен даў ёй назву «Вялікая сімфонія… Банапартэ» і мусіў прысвяціць яе Напалеону. Потым расчараваўся ў сваім куміры і змяніў назву. Бетховенскі сімфанізм аказваецца падуладны не ўсім інтэрпрэтатарам. Многія дырыжоры наогул абыходзяць сімфоніі Бетховена. Між іншым, Трэцюю кампазітар называў любімым дзецішчам. Новыя дадатковыя штрыхі, дынамічныя адценні, інструментоўка, паліфанічныя прыёмы развіцця ў Трэцяй сімфоніі з яе «арлiным Allegro» першай часткі, трагедыйна-філасофскай лірыкай другой, інтэрмедыяй-скерца і трыумфальным фіналам робяць яе незвычайнай і паваротнай не толькі ў творчасці самога аўтара, але і ў музычным мастацтве цэлай эпохі.

*— Вобразны свет і драматызм музыкі Бетховена мне найбольш зразумелы і блізкі, таксама як і сімфанізм П. Чайкоўскага, — прызнаўся Павел Любамудраў. — Было прыемна атрымаць станоўчы водгук аб выкананні бетховенскай сімфоніі ад Аляксандра Васільевіча, майго настаўніка, з якім падтрымліваю сувязь. Яго адзнакі таго ці іншага твора канцэртных праграм з аркестрам вельмі важныя для мяне.*

*А калі б у мяне быў пад рукамі вялікі сімфанічны аркестр, то першай справай я пажадаў бы выканаць Чацвёртую сімфонію Чайкоўскага. У Піцерскай кансерваторыі меў магчымасць праводзіць рэпетыцыі гэтага твора. Потым, напэўна, хацелася б сыграць з аркестрам уверцюру да «Тангейзера» Р. Вагнера. Апроч таго люблю музыку М.А. Рымскага-Корсакава — яе чарадзейнасць, маляўнічасць. Давялося працаваць над шэрагам яго твораў, такіх як «Шэхеразада», «Сеча пры Кержанцы», «Пахвала пустыні».*

***

Партрэт маладога дырыжора, вядома, пакуль не завершаны, таму апошнімі штрыхамі да яго будзе своеасаблівы

## Пастскрыптум, або Пра планы, вынікі і перспектывы

Згадаем, што першы ў Беларусі камерны аркестр быў утвораны ў Мінску Алегам Янчанкам у 1968 годзе. Доўгі час ён быў адзіны ў сваім родзе. Гэта стымулявала творчасць айчынных кампазітараў, якія пачалі пісаць музыку менавіта для такога калектыву. Узнікненне камерных аркестраў у 1990-х называлі ўжо «эпідэміяй». Але на самай справе гэта было патрабаванне часу, прага саміх музыкантаў да камернага музіцыравання, самавызначэнне творчых асоб. Так утварыліся камерныя аркестры Брэсцкай абласной філармоніі і Гомельскай абласной філармоніі, з'явіўся камерны аркестр Беларускай Дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Сёння, калі няма дзяржаўнай падтрымкі, трэба шукаць спонсараў, а калі няма спонсараў, — шукаць аднадумцаў і ўласнымі намаганнямі прасоўваць свой праект.

Паўлу Любамудраву даводзіцца не толькі кіраваць ігрой аркестра, але быць кіраўніком нагогул, — клапаціцца пра рэкламу, афішы, квіткі, дамаўляцца наконт рэпетыцый, весці перамовы з запрошанымі салістамі, вядучымі канцэртаў ды і шмат чаго яшчэ рабіць самому. Да таго ж струнны аркестр «Метамарфоза» як творчы калектыў знаходзіцца ў стадыі, так бы мовіць, «крышталізацыі формы», у працэсе самавызначэння.

— Некаторыя музыканты, з якімі я пачынаў, зараз не іграюць у аркестры, склад рухомы, зменлівы, — гаворыць Павел Любамудраў. Тым не менш бачны рост, дасягнуты высокі ўзровень ансамблевай ігры.

Кожны канцэрт мае свае асаблівасці, ставіць перад дырыжорам і выканаўцамі свае задачы. Штосьці атрымліваецца, штосьці не. Але ёсць увогуле задаволенасць тым, што зроблена. Асабліва важна для мяне і тое, што музыканты ніколі і нідзе не падвялі.



Канцэрт у ДК прафсаюзаў.

Пачатак новага канцэртнага сезона ў выступленнях «Метамарфозы» абяцае быць таксама насычаным падзеямі і цікавым.

— Першы канцэрт адбудзецца ў кастрычніку з удзелам віяланчэліста Максіма Барбаша. У 2014 годзе ён атрымаў Гран-пры на конкурсе «Маладыя таленты Беларусі», удзельнік прэм'ернага канцэрта «Метамарфозы». У той час быў вучнем Мінскага музычнага каледжа, цяпер вучыцца ў Маскоўскай кансерваторыі ў класе Аляксандра Селязнёва.

Мы прапануем слухачам канцэрт для віяланчэлі з аркестрам ля мінор Карла Філіпа Эмануіла Баха, «Зальцбургскую сімфонію» Моцарта, накцюрн для віяланчэлі з аркестрам до-дыез мінор Чайкоўскага, дывертысмент для струнных Бэлы Бартака, «Святочнае Андантэ» і раманс до мажор Яна Сібеліуса.

У лістападзе плануюцца два канцэрты. Адзін пройдзе з гітарыстам Юрыем Няхаем — вучнем вядомага ў Беларусі выканаўцы гітарнай музыкі Валерыя Жывалеўскага. Прагучаць канцэрт для гітары і струнных рэ мажор А. Вівальдзі і канцэрт для гітары з аркестрам М. Кастэльнуова-Тэдэска, а таксама дванаццаць кантрдансаў для малога аркестра Л. Бетховена.

Нарэшце ў другім канцэрце адбудзецца прэм'ера новага твора А. Літвіноўскага «Тоўсты сшытак» і першае выкананне ў Беларусі канцэрта-рэмінісцэнцыі для флейты з аркестрам А. Эшпая.

Акадэмія кіравання пры
Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь

# ЧАЛАВЕК І ЧАС: ХТО КАГО

Выкладчык Аляксандр Брас.



Ілюстрацыя Алесі Галота.

Сёння многія, хто імкнецца павялічваць уласную эфектыўнасць і дабрабыт, пачынаюць разумець каштоўнасць часу і вучацца ім кіраваць. Тым больш што рознай, па большасці перакладной літаратуры на тэмы тайм-менеджменту існуе дастаткова. Пры гэтым час разглядаецца людзьмі як звычайны рэсурс (падобны на фінансы ці нешта матэрыяльнае), на які чалавек можа ўздзейнічаць непасрэдна. І тут хаваецца істотная памылка, бо чалавек не ў стане ўздзейнічаць на час. Ён не можа паскорыць яго ці замарудзіць, назапашваць і пускаць на свае патрэбы. Аднак тое-сёе чалавек зрабіць з ім, часам, можа. А менавіта:

- усвядоміць незваротнасць і абмежаванасць асабістага часу (заўтра ні ў каго яго не будзе больш, чым сёння: тыя ж 24 гадзіны);
- навучыцца правільна выкарыстоўваць свой час. Французскі пісьменнік Жан дэ Лабруер (1645—1696) у сваёй кнізе «Характары, або норавы нашага часу» адзначаў: «Хто не ўмее з толкам выкарыстаць свой час, той першы скардзіцца на яго недахоп, … яму няма калі ні справамі займацца, ні ўцехам сябе аддаваць. … Любы міністр, які б ні быў заняты, кожны дзень губляе дарэмна самае малое дзве гадзіны, а колькі гэта складзе за жыццё? Людзі больш нізкага звання берагуць свой час яшчэ менш. Якое бязмернае і штодзённае марнатраўства таго, што не мае цаны і чаго нам увесь час не хапае»;
- паспрабаваць штодзённа паводзіць сябе з улікам названых вышэй асаблівасцей часу.

Кіраванне часам — гэта кіраванне сабой. Не мае сэнсу імкнуцца знайсці нейкія ўніверсальныя тэхнікі і тэхналогіі кіравання часам, калі чалавек не хоча зразумець, што ён сам будуе сваё жыццё, і навучыцца выкарыстоўваць свой час з найбольшай эфектыўнасцю. На жаль, шмат хто расчароўваецца ў прапанаваных навукай падыходах да кіравання часам, ледзь толькі сутыкнуўшыся з неабходнасцю ўласнага

*Тут друкуюцца самыя цікавыя лекцыі на самыя розныя тэмы па самых розных дысцыплінах. Галоўныя ўмовы: зразумела ўсім, карысна кожнаму, цікава шырокаму колу маладых чытачоў-інтэлектуалаў. Прымаем ад выкладчыкаў тэксты ў форме лекцый з фатаграфічнымі доказамі студэнцкага захаплення.*

развіцця, адмаўлення ад звычайных і набыцця новых навыкаў паводзін. Хаця навука і практыка кіравання часам за некалькі тысячагоддзяў свайго існавання выпрацавала дастаткова шмат эфектыўных тэхнік і методык.

Некаторае ўяўленне пра ўзаемаадносіны чалавека са сваім часам дае апытальнік, сэнс запаўнення якога ў тым, што ён дазваляе чалавеку паглядзець на самога сябе, вызначыць, на што ён на самай справе пускае свой час.

Паводле меркавання Стывена Кові, у гісторыі развіцця тэарэтычных шуканняў і практычных напрацовак у галіне кіравання асабістым часам можна вылучыць чатыры асноўныя этапы (зірнём на рысунак 1). Пры іх разгляданні неабходна ўлічваць, што кожны наступны не перакрэсліваў дасягненні папярэдняга, а ўбіраў іх у сябе. Сёння мы дастаткова паспяхова карыстаемся многімі метадамі і прыёмамі, вынайдзенымі людзьмі не толькі шмат гадоў, але і шмат стагоддзяў таму



Аляксандр Брас, кандыдат эканамічных навук, дацэнт.




Рысунак 1. Этапы развіцця кіравання часам.

Базавай ідэяй першага этапу кіравання часам была ідэя ўпарадкавання ўласных спраў. Сваю практычную рэалізацыю гэтая ідэя знаходзіла ў тым, што чалавек, які цэніць свой час, бярэ аркуш паперы або спецыяльны нататнік, куды пазначае спіс спраў, якія лічыць патрэбным зрабіць: 1) …, 2) …., 3)…. і г. д. Сёння шмат хто робіць менавіта так. Тыя, хто так робіць, ведаюць, што найбольшае задавальненне пры такім падыходзе нясе працэдура выкрэслівання. Калі чалавек выкрэслівае назву зробленай ім справы, ён адчувае сапраўдную радасць. Цягнецца гэта, што праўда, нядоўга: выкрэсліваючы адну справу, чалавек дастаткова часта дапісвае ў канец спіса дзве-тры новыя. Пасля з жахам пазірае на спіс і адзначае наступнае:

- выкрасленага так мала, а нявыкрасленага робіцца ўсё болей і болей; самы просты спосаб барацьбы з такой сітуацыяй — спіс той парваць і выкінуць, а пасля напісаць новы, пачынаючы быццам з чыстага аркуша. Але складанне новых спісаў стварае толькі ілюзію аднаўлення, не спрыяючы выкананню той ці іншай працы;
- выконваюцца часцей за ўсё справы, якія стаяць напачатку спіса, незалежна ад іх значнасці;
- многія справы, якія трапілі ў спіс, не адпавядаюць асабістым каштоўнасцям і мэтам чалавека, яны былі проста навязаны яму знешнімі акалічнасцямі.

Калі на працягу працоўнага дня чалавек у сукупнасці 1 гадзіну «сядзіць» у інтэрнэце, 1 гадзіну — п’е каву, паўгадзіны — абедае да абеду, 1 гадзіну — размаўляе па тэлефоне са знаёмымі і напрамую з калегамі на тэмы, далёкія ад вытворчасці, паўгадзіны — проста марыць пра добрае жыццё, то гэта азначае, што з 30 рублёў штодзённа чалавек адпрацоўвае толькі 15. Адпаведна, палова персаналу арганізацыі з’яўляецца лішняй

Неабходнасць рашаць праблемы, што ўзнікаюць як следства «спісачнага» стаўлення да спраў, прывяла шмат якіх кіраўнікоў да быццам светлай ідэі прывязання канкрэтнай працы да часу яе выканання. Добра, што ў Першую сусветную вайну з’явіліся танныя гадзіннікі. Напачатку XX стагоддзя гадзіннікі былі прадметам раскошы не так з-за кошту самога механізма як з-за нятаннага афармлення (залаты корпус з каштоўнымі камянямі). У час вайны ўзнікла неабходнасць каардынацыі дзеянняў нават невялікіх падраздзяленняў. Адпаведна, уладальнікамі гадзіннікаў павінны былі стаць не толькі афіцэры, але і малодшыя камандзіры, а самі гадзіннікі павінны былі стаць надзейнымі і таннымі (жалезны корпус, без якіх бы там ні было ўпрыгожванняў). У выніку гадзіннікі як інструмент кіравання часам сталі даступнымі амаль што для кожнага.

Значыцца, базавая ідэя **другога этапу** кіравання часам — гэта жорсткая прывязка спраў да часу іх выканання:

$9^{00}$ — $9^{15}$ — прагляд справаздачы аб вытворчасці за мінулы тыдзень;

$9^{15}$ — $9^{30}$ — прагляд справаздачы аб продажах за мінулы тыдзень;

$9^{30}$ — $9^{45}$ — аналіз праекта па замене абсталявання;

$9^{45}$ — $10^{45}$ — правядзенне нарады з начальнікамі цэхаў і г. д.

Такое беражлівае стаўленне да часу дысцыплінавала кіраўнікоў. Яны пачалі паспяваць рабіць больш. Аднак шмат якая праца, палічаная кіраўнікамі як вельмі патрэбная, не змяшчалася ў межы працоўнага дня. Гэта пабуджала кіраўнікоў рабіць графік больш шчыльным, уключаючы ўсё больш і больш спраў, запаўняючы кожную хвілінку хоць нечым, на іх думку, карысным. На кожную справу пры гэтым адводзілася ўсё менш часу. У выніку:

1) рабочы графік рабіўся вельмі шчыльным. Гэта добра паказана ў некаторых фільмах — сакратарка адчыняе дзверы перад наведвальнікам у кабінет шэфа і кажа: «У вас пяць хвілін на размову». Можна ўявіць шчыльнасць працоўнага дня такога кіраўніка. Ён не можа дазволіць сабе доўга размаўляць з чалавекам, які да яго завітаў, — праз пяць хвілін ён ужо вымушаны будзе займацца нечым іншым;

2) шмат якую працу даводзілася рабіць хутка і, адпаведна, без належнай якасці:

- хутка складзеная справаздача не нясе ў сабе інфармацыі, неабходнай для прыняцца рашэнняў. Часта яе даводзілася перарабляць, а гэта стварала нервознасць і зноў забірала час;
- на хаду праглынуты абед не нясе ні карысці, ні задавальнення;
- хутка праведзены аналіз праекта часта вядзе да прамых страт або не дазваляе атрымаць магчымы даход;
- хуткабежны візіт да кліента не толькі не паляпшае ўзаемаадносін з ім, але і не садзейнічае працягу дамоўленасцей. Такая сустрэча часта разглядаецца кліентам як непавага да яго;

3) апынулася, што рэальна ацаніць час выканання канкрэтнай справы дастаткова складана. Даводзілася прызнавацца сабе, што на раскачку, падрыхтоўку да працы і завяршэнне справы таксама ідзе час, якога вечна не хапае. Напрыклад, час абмеркавання нейкага пытання на аператыўнай нарадзе складае 20 хвілін. Але на нараду трэба прыйсці, па дарозе ўзгадніць сваю пазіцыю з адным-двума калегамі. Абмеркаванне канкрэтнага пытання на нарадзе практычна ніколі не пачынаецца з першай хвіліны. Пасля нарады трэба дайсці да свайго кабінета,

абмеркаваўшы па дарозе з калегамі канкрэтныя дзеянні. Такім чынам, калі быць рэалістам, то на абмеркаванне пытання трэба планаваць самае малое 40 хвілін, а не 20.

Такі падыход да арганізацыі свайго часу прыводзіў да таго, што:

1. кіраўнікі пачалі быць падобнымі на «загнаных коней»: яны ўвесь час некуды беглі, не маючы магчымасці «перавесці дух», то бок, трошкі расслабіцца і перадыхнуць паміж справамі;
2. збой у нейкай справе ці з'яўленне непрадбачанай тэрміновай працы вялі да таго, што ў чалавека перакрэсліваўся ўвесь графік працоўнага дня — трэба было адмяняць нейкія дзелавыя сустрэчы і пераносіць справы на больш позні тэрмін;
3. на шмат якія асабістыя справы (стасункі з роднымі, падтрыманне здароўя, самаразвіццё) часу не заставалася.

Таму паступова кіраўнікі:

па-першае, навучыліся ўспрымаць свой працоўны дзень як нейкае абмежаванае асяроддзе, здольнае ўмясціць толькі пэўную колькасць спраў;

па-другое, сталі разумець, што дасканалая прапрацоўка нейкага пытання, хоць і патрабуе больш часу, дазваляе пазбегнуць неэфектыўных затрат фінансавых сродкаў. Знікае разуменне ўзаемаўплыву часу і грошай;

па-трэцяе, прыйшлі да высновы, што яны не павінны імкнуцца зрабіць усё, што ім хочацца. Нашмат больш важна навучыцца з мноства спраў выбіраць так званыя прыярытэтныя і канцэнтраваць намаганні менавіта на іх.

Таму **трэці этап** кіравання часам характарызуецца імкненнем людзей, у першую чаргу, кіраўнікоў, расстаўляць прыярытэты і канцэнтраваць увагу менавіта на іх. На трэцім этапе ствараюцца розныя тэхнікі і методыкі, якія дазваляюць чалавеку весці ўлік свайго часу і мяняць, пры жаданні, свае паводзіны з мэтай больш рацыянальнага выкарыстання часу. Шмат якімі з іх людзі паспяхова карыстаюцца да гэтага часу. Да такіх, напрыклад, можна аднесці хронаметраж і «каляндарык-пінарык».

***Хронаметраж*** — гэта метад вывучэння чалавекам затрат часу пры дапамозе фіксацыі і замераў працягласці выконваемых дзеянняў.



Хронаметраж дазваляе правесці своеасаблівы аўдыт і інвентарызацыю часу, выявіць так званых пажыральнікаў часу. Для гэтага мае сэнс запісваць усе свае дзеянні працягласцю больш за 10 хвілін хаця б на працягу двух тыдняў. Запісы могуць выглядаць так:

$9^{\underline{00}}$ — пачатак працоўнага дня, сеў працаваць, уключыў камп'ютар;

$9^{\underline{05}}$ — $9^{\underline{15}}$ — для ўключэння ў працу склаў два пасьянсы;

$9^{\underline{15}}$ — $9^{\underline{45}}$ — увайшоў у інтэрнэт, прачытаў апошнія навіны пра курс валют, чэмпіянат Еўропы па футболу, рэкамендацыі Алы Пугачовай наконт пахудзення, азнаёміўся з прагнозам надвор'я;

На думку Джона Адэра, самае галоўнае пытанне, якое павінен задаць сабе кіраўнік, збіраючы нараду, гэта пытанне: «Што здарыцца з арганізацыяй, калі нараду не правесці? Нарада мае сэнс толькі тады, калі час, патрачаны на ліквідацыю наступстваў неправедзенай нарады, будзе большым, чым час яе правядзення

$9^{45}$ — $10^{00}$ — заварыў і выпіў кавы, абдумваючы будучы працоўны дзень;

$10^{00}$ — $10^{30}$ — адкрыў сваю паштовую скрыню, прачытаў 4 лісты ад сяброў і знаёмых, адказаў на іх;

$10^{30}$ — $10^{45}$ — рабіў разлікі для новага праекта;

$10^{45}$ — $11^{00}$ — размова з шэфам пра справаздачу па завершаным праекце, шэф патрабаваў зрабіць яго за два дні, напэўна, давядзецца застацца пасля работы;

$11^{00}$ — $11^{20}$ — размова з Пятровым пра маторнае масла, знешнія дадзеныя новай начальніцы суседняга аддзела, паабураліся трохі паспешлівасцю шэфа;

$11^{20}$ — $12^{20}$ — работа над справаздачай, перарваная трыма 5-хвіліннымі размовамі са знаёмымі;

$12^{20}$ — $13^{00}$ — абед у сталоўцы сумесна з двума калегамі з суседняга падраздзялення, падчас абеду актыўна абмяркоўвалася жыццё ў арганізацыі, магчымая «аптымізацыя» кадраў і памяншэнне зарплат; калегі і я сам абураемся гэтым;

$13^{00}$ — $14^{00}$ — час абеду, шпацыраваў па вуліцы, зайшоў у салон і «прыцаніўся» да новага смартфона;

$14^{00}$ — $14^{45}$ — заварыў і выпіў кавы, абдумваючы, што лепш зрабіць да канца працоўнага дня;

і г. д.

Такі педантычны і, што вельмі важна, сумленны ўлік свайго часу дазваляе ўбачыць, на што ён насамрэч пускаецца. Відавочным недахопам хронаметражу з'яўляецца тое, што ён патрабуе часу на сябе. Але менавіта ўлік дазваляе атрымаць інфармацыю, неабходную для карэкціроўкі паводзін, пераразмеркавання намаганняў.

Пасля таго як чалавек вызначыў, колькі часу ён патраціў на выкананне той ці іншай працы за дзень (тыдзень, месяц), можна паспрабаваць высветліць, наколькі эфектыўна ён выкарыстоўвае свой час. Асноўны крытэрый тут — ступень прасоўвання да канкрэтнай мэты. Калі, напрыклад, чалавек патраціў на нейкую працу 50 гадзін, але гэта не наблізіла яго да мэты, то робіцца зразумелым, што ён гэты час выкарыстоўваў не вельмі прадуктыўна.

Пры жаданні чалавек можа перавесці свой час у грошы, падзяліўшы месячны заробак на колькасць дзён, а дзённы — на працягласць працоўнага дня. Няхай, напрыклад, заробак чалавека складае 660 рублёў (пасля дэнамінацыі). У месяцы 22 працоўныя дні. Гэта азначае, што дзённы заробак чалавека складае 30 рублёў. Улічваючы, што дзень — гэта 8 гадзін, гадзінны заробак аказваецца роўным 3 рублям 75 капейкам.

Калі на працягу працоўнага дня чалавек у сукупнасці 1 гадзіну «сядзіць» у інтэрнэце, 1 гадзіну — п'е каву, паўгадзіны — абедае да абеду, 1 гадзіну — размаўляе па тэлефоне са знаёмымі і напрамую з калегамі на тэмы, далёкія ад вытворчасці, паўгадзіны — проста марыць пра добрае жыццё, то гэта азначае, што з 30 рублёў штодзённа чалавек адпрацоўвае толькі 15. Адпаведна, палова персаналу арганізацыі з'яўляецца лішняй. Такія падлікі лепш рабіць самому і перамяніць працоўныя паводзіны, а не чакаць, пакуль гэта зробіць начальнік.

Сутнасць інструмента «каляндарык-пінарык» простая. Яго асновай можа быць звычайны кішэнны каляндарык або адпаведным чынам падрыхтаваная старонка ў штотыднёвіку. Прыстасоўваць гэты інструмент мае сэнс да спраў,

- на якія адведзена дастаткова шмат каляндарнага часу;
- якія сапраўды патрабуюць вялікіх затрат часу.

Значыцца, сёння 1 чэрвеня, і чалавек атрымаў заданне ад шэфа, якое павінен выканаць да 29 ліпеня, а затым спакойна пайсці ў адпачынак. Тэрмін два месяцы, сапраўды рэальны. Затрачваючы на гэтую работу кожны дзень па 4 гадзіны

«Каляндарык-пінарык» (назва мо трохі занадта, але па сутнасці правільная) прадугледжвае, у першую чаргу, яго стварэнне

(яшчэ 4 гадзіны працоўнага часу застаецца на іншыя справы) на працягу 43 дзён яе можна зрабіць нават вельмі якасна. Але два месяцы — гэта так шмат… І праца пачынае чалавекам адкладацца. Сам ён сябе супакойвае:

- «у мяне ў запасе яшчэ…»;
- «трэба спачатку зрабіць дробныя тэрміновыя справы, каб потым яны не адцягвалі ўвагу ад галоўнай».

У выніку мінае тыдзень, другі, трэці. Да даручэнняў шэфа работнік так і не падступіўся. З адведзеных 8-мі тыдняў мінае 4, і 1 ліпеня чалавек разумее, што праца нечакана ператварылася ў тое, што ўжо «гарыць». Пра якасць размова ўжо не ідзе, галоўнае — паспець, укласціся ў тэрмін, тым больш што дробныя, але неадкладныя справы таксама не зніклі і патрабуюць часу на сваё выкананне.

«Каляндарык-пінарык» (назва мо трохі занадта, але па сутнасці правільная) прадугледжвае, у першую чаргу, яго стварэнне. Напрыклад, у выглядзе табліцы, аналагічнай табліцы 1. Вельмі добрае месца для размяшчэння табліцы — штодзённік. Задзейнічанне электроннай версіі дазваляе выкарыстоўваць розныя колеры для вылучэння тых ці іншых дзён.

У канцы кожнага дня чалавек закрэслівае ў табліцы адпаведную дату (мяняе колер). У выніку праз два тыдні першапачатковая табліца будзе выглядаць так, як паказана ў табліцы 2. Пытанне: «Што я сёння зрабіў для выканання даручэнняў шэфа?» паўстае само па сабе. Такое нагляднае ўяўленне часу, які «сціскаецца», стымулюе дастаткова моцна. Чалавек бачыць, што адведзены на выкананне працы час скарачаецца катастрафічна хутка, і што адкладваць папросту няма куды.

Табліца 1
Выходная форма «каляндарыка-пінарыка»

| Чэрвень | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Панядзелак | Аўторак | Серада | Чацвер | Пятніца | Субота | Нядзеля |
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | | | |
| Ліпень | | | | | | |
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

Тлумачэнне: выхадныя і святочныя дні лепш закрэсліць (вылучыць колерам) адразу, калі чалавек не гарыць жаданнем выкарыстоўваць іх для працы. Дзень здачы работы лепш вылучыць яркім колерам.

Табліца 2
«Каляндарык-пінарык» праз два тыдні

| Червень | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Панядзелак | Аўторак | Серада | Чацвер | Пятніца | Субота | Нядзеля |
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | | | |
| Ліпень | | | | | | |
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

Калі супрацоўнік сцвярджае, што патрэбная інфармацыя знаходзіцца ў яго ў камп'ютары, то шэф, як нармальны цікаўны чалавек, скажа: «Давайце паглядзім». Ён стане за спінай супрацоўніка і ўбачыць, як яго падначалены закрывае недаскладзены пасьянс, выходзіць з цікавага сайта…

На трэцім этапе былі сфармуляваны вядомыя пяць праблем Джона Адэра, з якімі, на яго думку, сутыкаецца большасць кіраўнікоў у сваіх стасунках з часам.

1. *Адкладванне працы*, якая ўяўляецца чалавеку нецікавай і нуднай. Для пераважнай большасці людзей такія паводзіны натуральныя: мы імкнёмся пазбегнуць дзеянняў, якія нам не цікавыя. Выніку нудныя справы накопліваюцца, у чалавеку адбываецца ўнутраная барацьба паміж «не хочацца» і «трэба». У рэшце рэшт «трэба» пачынае пераважваць. У такой сітуацыі многія кіраўнікі застаюцца пасля працы або выходзяць працаваць у выхадныя дні, каб «разгрэбці» накопленыя нудныя для іх справы. Настрой пасля ў чалавека дваякі:

- з аднаго боку, хоць бы часткова ліквідаваны «завал» нецікавай працы, ад чаго настрой, канечне, лепшае,
- з іншага боку, так доўга рабілася тое, што не выклікае ніякай цікавасці, і гэта заўважна псуе настрой.

Адзін з простых шляхоў рашэння гэтай праблемы — вылучэнне хоць бы адной гадзіны ў дзень на нецікавую работу. Сучасны расійскі аўтар Глеб Архангельскі напісаў пра гэта больш паэтычна. Ён сцвярджае, што кіраўнік кожны дзень павінен «з'ядаць хоць бы адну жабку».

Акрамя таго, чалавек, прыходзячы на працу, павінен выкарыстоўваць жыццёвы досвед. Большасць людзей ведае, што калі мама (або тата) хоча, каб дзіця з'ела, вобразна кажучы, катлету і цукерку, то спачатку яму трэба даць менш прыемнае, а пасля больш прыемнае. Але калі мама прыходзіць на працу, і ў яе ёсць магчымасць размяркоўваць справы па часе іх выканання, то спачатку яна чамусьці імкнецца зрабіць тое, што ёй больш цікава (з'есці цукерку), пакідаючы нецікавыя справы (катлеты) на канец працоўнага дня. У выніку: у чалавека да канца працоўнага дня застаецца паўгадзіны, перад ім ляжыць справа, за якую не хочацца брацца. У гэтай сітуацыі ён знойдзе шмат прычын, па якіх гэтую працу можна адкласці на заўтра. Калі за паўгадзіны да канца працоўнага дня перад чалавекам ляжыць справа, цікавая яму асабіста, ён зробіць яе. То бок, простае размеркаванне спраў ад менш да больш цікавых дазваляе чалавеку на працягу працоўнага дня зрабіць больш. Да сябе трэба ставіцца як да дзіцяці: спачатку катлеты, пасля цукеркі.

2. *Не дэлегаванне кіраўніком часткі працы падначаленым*. Сёння на пытанне: «Чаму вы ўсё імкняцеся рабіць самі?» большасць кіраўнікоў ніжэйшага і сярэдняга ўзроўню адказваюць: «Мне прасцей і хутчэй усё зрабіць самому, чым тлумачыць некаму, як гэта трэба зрабіць, потым ацэньваць атрыманы вынік, а потым прымушаць падначаленага перарабляць або дарабляць самому». Пры такім адказе кіраўнікі сыходзяць з вельмі простай арыфметыкі: «на самастойнае выкананне гэтай працы я патрачу паўгадзіны, на тое, каб тлумачыць некаму, як яе трэба рабіць, затым кантраляваць і перарабляць, я патрачу дзве або тры гадзіны». Зразумела, што паўгадзіны менш, чым дзве ці тры гадзіны. Але калі кіраўнік падлічыць, колькі часу на такую працу ён траціць за год, то робіцца зразумелым, што лепш аднойчы патраціць шмат часу на дэлегаванне і адпаведнае навучанне работніка, але потым даваць яму гэтую працу заўсёды. Акрамя таго, трэба ўлічваць, што:

- дэлегаванне забяспечвае рост кваліфікацыі падначаленых;
- менавіта дэлегаванне паўнамоцтваў ператварае чалавека ў кіраўніка. Няважна, як называецца занятая ім пасада. Калі ўсю (або амаль усю) працу на гэтай пасадзе чалавек выконвае сам, то кіраўніком, па сутнасці, ён не з'яўляецца. Толькі той, хто перадае працу іншаму, становіцца шэфам. Хоць перадаць чалавеку працу і навучыць яго часам цяжэй, чым зрабіць самому.

Важным з'яўляецца тое, што дэлегавацца чалавеку павінна трыяда:

- праца, якую трэба выканаць;
- паўнамоцтвы, неабходныя для выканання гэтай працы;
- адказнасць за выкананне працы, хаця дэлегуючы яе, кіраўнік не здымае адказнасці з сябе.
- Пры дэлегаванні працы вялікае значэнне мае дакладнасць пастаноўкі задачы. Калі кіраўнік не можа патлумачыць падначаленаму, што менавіта ад яго патрабуецца, з-за недахопу часу або ад няўмення, дык не трэба яму здзіўляцца, што вынік не адпавядае чаканням. Пры дэлегаванні чалавеку трэба патлумачыць:
- што дакладна трэба зрабіць;
- навошта гэта патрэбна (чалавек, які не разумее сэнсу выконваемай працы, не будзе «выкладацца» для яе выканання);
- як гэта можна зрабіць (чалавек, які не ведае, як можна выканаць даручанае, або не будзе рабіць нічога, або будзе траціць шмат часу і энергіі на распрацоўку тэхналогіі выканання даручанай працы);
- у які тэрмін трэба скончыць працу.

Перадаючы падначаленаму працу, кіраўнік павінен дэлегаваць яму адпаведныя паўнамоцтвы, то бок, надзяліць яго правам самастойнага прыняцця рашэнняў, неабходных для якаснага і своечасовага выканання працы. Калі кіраўнік не хоча і не можа гэта зрабіць (цікавае пытанне: «Чаму?» — застаецца пытаннем), ён не павінен здзіўляцца, што кожны раз перад тым як нешта зрабіць, падначалены будзе прыбягаць да яго і пытацца: «Можна ці нельга?», трацячы на гэта час свой і кіраўніка. У такім выпадку сапраўды лепш усё рабіць самому.

Яшчэ адзін важны аспект дэлегавання — гэта кантроль дзейнасці падначаленых і атрыманых імі вынікаў. Магчымасцей тут вялікае мноства. Папершае, працэдуры кантролю можна прывязаць да часу. Кожную гадзіну (дзень, тыдзень, месяц) падначалены дакладвае аб праробленай працы і атрыманых выніках. Па-другое, кантрольныя кропкі можна суаднесці з найбольш істотнымі момантамі, своеасаблівымі вехамі выканання працы. Па-трэцяе, кантраляваць можна і канчатковы вынік, не трацячы час на кантроль нечага прамежкавага. Магчыма гэта толькі ў тым выпадку, калі кіраўнік цалкам давярае свайму ўменню

Калі падначаленыя ведаюць, што шэф любіць хадзіць па працоўных месцах, яны хутка перастаюць займацца нечым, што не мае непасрэднага дачынення да працы

ставіць задачы, прафесіяналізму і сумленнасці падначаленых. Хаця іншых, па ідэі, на працу браць не варта.

3. *Адсутнасць умення спраўляцца з канцылярскай работай.* Магчыма, некаму даводзілася бачыць сталы кіраўнікоў, цалкам пакрытыя паперамі, калі сама паверхня стала практычна не праглядваецца. Калі такому кіраўніку паспрабаваць нешта гаварыць пра арганізацыю працы або арганізацыю працоўнага месца, у адказ можна пачуць: «У мяне на стале не вэрхал, а працоўны (творчы) парадак. Гэта падманны хаос, я ў ім выдатна арыентуюся. Любы дакумент магу знайсці практычна адразу». Як ні дзіўна, такім кіраўнікам часам удаецца прадэманстраваць свае здольнасці: запусціць руку ў стос папер і дастаць патрэбны дакумент. Але часам яны трапляюць у вельмі некамфортныя сітуацыі. Напрыклад, тэлефануе вышэйстаячы шэф і просіць назваць нейкую лічбу. Чалавек упэўнены, што лічбу гэтую ён бачыў, нават памятае, у якім дакуменце. Але менавіта ў той момант, калі тэлефануе шэф, патрэбны дакумент не знаходзіцца («сашчэпка не там зачапілася»), а шэф тым часам у трубку дыхае і нешта «пяшчотнае» гаворыць пра дзелавыя якасці гэтага кіраўніка. Яшчэ сітуацыя: чалавек сумленна падрыхтаваў патрэбныя дакументы для нарады, якая пачнецца праз пяць хвілін, але знайсці гэтыя дакументы ў «творчым парадку» не можа. Пятнаццаць хвілін таму ён іх бачыў, а менавіта зараз яны недзе падзеліся. Пачынаецца бурлівы пошук, які толькі павялічвае памер «творчасці» ў працоўнай прасторы.

Пасля такіх падзей чалавек дае сабе слова навесці парадак на працоўным месцы. Парадак наводзіцца, тыдзень трымаецца, пасля пачынаецца ўсё спачатку да наступнага непрыемнага моманту. На гэты конт Джон Адэр даваў вельмі

простую параду: калі кіраўнік ідзе дадому, яго працоўны стол павінен быць чыстым. Той час, які кіраўнік патраціць на раскладванне дакументаў па папках, шуфлядах, розных боксах для папер (сёння іх вялікае мноства, і любы чалавек можа арганізаваць уласнае працоўнае месца так, як яму зручна), ён верне сабе, не трацячы час на пошук папер у хаосе.

Акрамя таго, гаворачы пра арганізацыю працоўнага месца і ўменне працаваць з дакументамі, можна спыніцца яшчэ на двух момантах.

А. Калі чалавек працуе з нейкім дакументам, ён можа чырвоным (або любым іншым, але дастаткова яркім) маркерам паставіць у куточку кропку (працэдура займае самае большае 10 секунд). Калі гэты дакумент трапляе ў яго рукі другі раз — у куточку з'яўляецца другая кропка. Калі кіраўнік трымае ў руках дакумент, у куточку якога стаяць хаця б тры кропкі, яму варта падумаць пра сваё ўменне працаваць з дакументамі. Канечне, існуюць «настольныя» дакументы, да якіх чалавек звяртаецца практычна штодзённа. Але ўсе астатнія павінны апрацоўвацца за адзін-два разы. На жаль, дастаткова часта можна назіраць наступныя сітуацыі. Кіраўнік чытае дакумент, які да яго прыйшоў, пасля звяртае ўвагу на тэрмін выканання, які надыходзіць праз два тыдні, і дакумент адкладвае. Хоць час на прачытанне і нейкі аналіз ужо затрачаны. Праз тыдзень адкладзены дакумент зноў трапляе на вочы кіраўніку, чытаецца, абдумваецца, «з'ядае» пэўную колькасць часу і яшчэ на пару дзён адкладваецца. Нарэшце, калі тэрмін пачынае «цiснуць», чалавек прыступае да выканання, скардзячыся на недахоп часу. Таму, калі кіраўнік узяў у рукі дакумент і патраціў на працу з ім нейкі час, лепш ужо адразу, не адкладваючы, прыступіць да выканання. Калі ж кіраўнік, звярнуўшы ўвагу на тэрмін выканання, лічыць магчымым дакумент адкласці, то траціць час на яго прачытанне не варта.

Б. Працоўная прастора кіраўніка павінна перыядычна падвяргацца ачышчэнню. У быце існуе дастаткова простае правіла: калі дома захоўваецца рэч, якой чалавек (сям'я) не карыстаецца на працягу года, то гэтую рэч трэба выкідваць. Гэтаксама ў працоўнай прасторы не павінна быць дакументаў, якімі чалавек не карыстаўся на працягу паўгоддзя. Калі накопленыя дакументы дарагія душы кіраўніка і з імі складана расстацца адразу, можна арганізаваць дзе-небудзь асабісты архіў. Чым вальней у працоўнай прасторы, тым лягчэй працаваць.

4. *Правядзенне непатрэбных сходаў і нарад*. Сёння далёка не ўсе нарады, якія праводзяцца ў арганізацыях, ацэньваюцца ўдзельнікамі як важныя, патрэбныя для паспяховай дзейнасці. А ўпэўненасць чалавека ў тым, што нарада ці сход каштуюць затрачанага на іх часу, з'яўляецца неабходнай умовай паспяховасці іх правядзення і выканання прынятых рашэнняў. У адваротным выпадку чалавек нават супраць уласных жаданняў будзе настроены негатыўна

- да самой нарады,
- да таго кіраўніка, які яе арганізаваў,
- да рашэнняў, якія на гэтай нарадзе былі прыняты, што часцяком выяўляецца ў ціхім байкаціраванні іх выканання.

На думку Джона Адэра, самае галоўнае пытанне, якое павінен задаць сабе кіраўнік, збіраючы нараду, гэта пытанне: «Што здарыцца з арганізацыяй, калі нараду не правесці? Калі мы сёння нараду не правядзём, то ці будзе заўтра існаваць наша арганізацыя, ці істотна панізіцца рэзультатыўнасць яе дзейнасці?» Адпаведна, нарада мае сэнс толькі тады, калі час, патрачаны на ліквідацыю наступстваў неправедзенай нарады, будзе большым, чым час яе правядзення. З гледжання арганізацыі часавыя затраты на нараду разлічваюцца дастаткова проста. Напрыклад, нарада доўжылася 1 гадзіну, у зале знаходзілася 30 чалавек. Гэта азначае, што арганізацыя затраціла на нараду 30 чалавека-гадзін працоўнага часу (канечне, пры ўмове, што ўсе гэтыя людзі працуюць у адным будынку). Калі гэтыя 30 чалавека-гадзін памножыць на сярэднюю гадзінную заработную плату тых, хто прысутнічае ў зале, атрымліваецца цудоўная лічба, якая з'яўляецца коштам нарады.

Адначасова трэба ўлічваць, што адной з найбольш значных праблем вялікай колькасці нарад з'яўляецца адсутнасць у многіх прысутных цікавасці да праблем, якія абмяркоўваюцца. Напрыклад, начальнікаў цэхаў прамысловага прадпрыемства невядома навошта абавязалі прысутнічаць на нарадзе, на якой абмяркоўваюцца праблемы ўзаемаадносін прадпрыемства з банкамі і іншымі фінансавымі

ўстановамі. Натуральна, што прысутнасць на нарадзе будзе ўспрымацца імі як марнатраўства.

Тое, што час многіх нарад выкарыстоўваецца нерацыянальна, пабуджае кіраўнікоў выкарыстоўваць у сваёй дзейнасці кароткія сустрэчы з падначаленымі або калегамі, якія цалкам могуць замяніць многія нарады. Гэта так званае «рашэнне праблемы ў калідоры або на месцах работнікаў». Сутнасць такога падыходу можна прадэманстраваць пры дапамозе наступнага прыкладу. Начальнік цэха раніцай прыходзіць на работу. Ён не збірае ў сябе пяціхвілінную нараду з начальнікамі ўчасткаў і кіраўнікамі функцыянальных службаў цэха, якая часцяком зацягваецца на гадзіну-паўтары, а проста абыходзіць цэх. Гэта дазваляе яму:

- самому ўбачыць кожны ўчастак і яго праблемы, а не меркаваць пра іх праз даклады, што мае вялікае значэнне, бо шмат якім кіраўнікам пярвічных падраздзяленняў уласціва не дакладваць начальству пра «дробныя» праблемы, з якімі «мы справімся самі, убачыць кожны ўчастак і яго праблемы, а не меркаваць аб іх па дакладах, не турбуючы начальства дробязямі». У выніку такой сітуацыі шэф сутыкаецца з праблемай, калі яна ўжо перарастае ў крызіс;
- рашаючы праблемы аднаго ўчастка, не адрываць кіраўнікоў іншых участкаў і службаў ад іх нармальнай працы;
- падысці да рабочага, паціснуць яму руку і папытаць яго думку пра праблему, якая ўзнікла; такія паводзіны кіраўніка былі і будуць моцным матыватарам для падначаленых, нават калі іх меркаванні не будуць улічаны пры прыняцці рашэння. Бо разумны кіраўнік, выслухаўшы меркаванне работніка, падзякуе яму, але не будзе крытыкаваць, нават калі з ім не згодзен.

Акрамя таго, прыход кіраўніка на працоўнае месца супрацоўніка дысцыплінуе апошняга.

Можаце ўявіць сабе вельмі простую сітуацыю: вы сядзіце на працоўным месцы і робіце вельмі карысную справу — п’яце гарбату. У гэты час да вас заходзіць кіраўнік. Пагадзіцеся, сітуацыя не вельмі камфортная, хоць вы нічога напрамую не парушаеце. Калі падначаленыя ведаюць, што шэф любіць хадзіць па працоўных месцах, яны хутка перастаюць займацца нечым, што не мае непасрэднага дачынення да працы.

Калі на працоўным месцы да супрацоўніка прыходзіць кіраўнік і задае нейкае пытанне, то ў супрацоўніка ёсць маральнае права сказаць: «Каб адказаць на гэтае пытанне, мне трэба звярнуцца да такога і такога дакументаў (табліц, графікаў)». Шэф кажа: «Давайце звернемся». І супрацоўнік 5 хвілін пад ласкавым паглядам кіраўніка шукае патрэбныя дакументы. Найбольш верагодна, што наступным разам усе дакументы гэтага супрацоўніка будуць складзены так, каб любы з іх быў знойдзены за секунды. Калі супрацоўнік сцвярджае, што патрэбная інфармацыя знаходзіцца ў яго ў камп’ютары, то шэф, як нармальны цікаўны чалавек, скажа: «Давайце паглядзім». Ён стане за спінай супрацоўніка і ўбачыць, як яго падначалены закрывае нераскладзены пасьянс, выходзіць з цікавага сайта… У такой сітуацыі разумны кіраўнік нічога можа не казаць: падначалены і так ведае, што «папаўся».

Нягледзячы на непатрэбнасць многіх нарад, існуюць нарады патрэбныя і важныя. Часам кіраўніку сапраўды прасцей і танней сабраць людзей разам і пра нешта іх інфармаваць, чым рабіць гэта нейк іначай. Часам нарады патрэбны як зварот да калектыўнага розуму, бо само слова «нарада» паходзіць ад слова «радзіць». Часам нарады выконваюць важную функцыю згуртаванню калектыву, спрыяючы судачыненню людзей да рашэнняў, якія прымаюцца.

Арганізуючы важную і патрэбную нараду, кіраўнік павінен улічваць, што ўвага ўдзельнікаў на працягу нарады будзе мяняцца, як паказана на рысунку 2.




Рысунак 2. Залежнасць увагі ўдзельнікаў ад працягласці нарады.

Першыя 2—3 хвіліны ўвага ўдзельнікаў расце вельмі хутка. Гэта так званы час адаптацыі. Аднак большасць людзей у гэтыя хвіліны ў нарадзе практычна не ўдзельнічаюць. Яны разглядаюць і аналізуюць тых, хто знаходзіцца ў зале, надаючы асаблівую ўвагу прэзідыуму, ацэньваючы вопратку і ўзаемнае знаходжанне яго членаў (на мінулай нарадзе намеснік па эканоміцы сядзеў побач з шэфам, а сёння не. Узнікае пытанне: ці ўбачым намесніка па эканоміцы заўтра на працы?). Таго, хто, стоячы за трыбунай, нешта гаворыць, людзі практычна не слухаюць. Таму і гаварыць нешта важнае напачатку нарады не варта. Можна:

- калі ёсць падстава — павіншаваць людзей са святам, мінулым ці надыходзячым;
- павіншаваць некага з прысутных з днём нараджэння;
- зрабіць нейкую важную аб'яву, нават калі большасць аўдыторыі яе не пачуе: гэта не страшна;
- нагадаць прысутным мэту нарады і павестку дня.

Пасля таго як удзельнікі адаптаваліся, іх увага паступова расце. Марудны рост увагі працягваецца прыкладна да 60 хвілін ад пачатку працы нарады. Адзначаны на рысунку 2 перыяд працягласцю каля 57—58 хвілін з'яўляецца найбольш плённым. Людзі слухаюць, думаюць, і калі нарада дэмакратычная — выказваюць свае ідэі. Пасля 60 хвілін працы ўдзельнікі нарады пачынаюць стамляцца, іх увага паступова слабее. Гэта працягваецца да 90 хвілін ад пачатку працы. Людзі пачынаюць больш думаць пра свае турботы, а не пра прадмет абмеркавання. Але яны яшчэ захоўваюць працаздольнасць, якую неабходна падтрымліваць пры дапамозе гумару, дэманстрацыі яркіх прэзентацый, перыядычных зваротаў як да аўдыторыі ўвогуле, так і да асобных удзельнікаў. То бок, сапраўды важная нарада на гадзіну-паўтары дапускаецца. У канцы яе людзі пачнуць стамляцца, але ў цэлым працаздольнасць захоўваецца.

Пасля 90 хвілін ад пачатку працы, калі ў нарадзе не рабіўся перапынак, прысутныя стамляюцца, і ўвага іх падае вельмі хутка. Некаторыя ўдзельнікі накіроўваюць усю сваю энергію на барацьбу са сном, які паглынае іх усё больш актыўна. Другія «лётаюць у аблоках», разважаючы пра што заўгодна, акрамя праблем, якія абмяркоўваюцца. Трэція, вырашыўшы для сябе, што яны ўжо ўсё зразумелі, імкнуцца незаўважна папрацаваць з прынесенымі дакументамі. Чацвёртыя пачынаюць забаўляць сябе чытаннем мастацкай літаратуры, бо сучасныя смартфоны і электронныя кнігі маюць невялікі фармат, або гуляюць з іх дапамогай у гульні. У любым выпадку, выступоўцаў слухае ўсё менш і менш людзей.

Затым, калі час падбіраецца да дзвюх гадзін ад пачатку работы нарады, надыходзіць так званы «эфект 120-й хвіліны», калі ўвага ўдзельнікаў паступова засяроджваецца на дзвярах, праз якія можна выйсці з зала. Людзі сапраўды стаміліся, ім усё больш складана канцэнтраваць сваю ўвагу. У такой сітуацыі большасць удзельнікаў лёгка пагаджаецца з прапанаванымі рашэннямі, не асабліва задумваючыся пра іх сутнасць, калі ведаюць, што іх пасля адпусцяць. Гэтым карыстаюцца разумныя кіраўнікі. Калі трэба «працягнуць рашэнне праз нараду», не выкарыстоўваючы жорсткага адміністрацыйнага націску на работнікаў, то нарада праводзіцца ў другой палове працоўнага дня ў пятніцу, і «слізкае» пытанне ўзнімаецца на 120-й хвіліне, якая выходзіць за межы працоўнага дня. У пераважнай большасці выпадкаў удзельнікі галасуюць «за», дакладней, за тое, каб іх проста адпусцілі.

5. *Няўменне расстаўляць прыярытэты.* Разгляду дадзенай праблемы і дасягненняў чацвёртага этапу кіравання часам будзе прысвечана наступная лекцыя.

Літаратура

1. Кови, С.Р. Семь навыков высокоэффективных людей. Возврат к Этике Характера / С.Р. Кови. — М.: Вече, Персей, 1998. — 480 с.
2. Управление своим временем // Менеджмент в деталях [Электронный ресурс] — Режим доступа: http://www.managertime.ru/mtis-707-1.html. — Дата доступа: 1.07.2016.
3. Архангельский, Г. Тайм-драйв. Как успевать жить и работать / Г. Архангельский — М.: Манн, Иванов и Фербер, 2014. — 272 с.

**Айцец Аляксандр Богдан**

# Вера хрысціянская

**У савецкую эпоху сцвярджалі, што рэлігія — гэта опіум для народа. Трэба аднак праясніць сапраўдны сэнс гэтых перакрыўленых слоў Карла Маркса. А ён казаў літаральна наступнае: «Рэлігія — гэта ўздых прыгнечанай істоты, сэрца бессардэчнага свету, дух бяздушных парадкаў. Рэлігія ёсць опіум для народа». Опіум раней выкарыстоўваўся ў медыцыне як моцны сродак абязбольвання.**



У часы барацьбы з верай у Бога ва ўніверсітэтах ствараліся цэлыя кафедры навуковага атэізму. Але як атэісты ні стараліся, на ўсе іх аргументы хрысціянскія багасловы здолелі даць годныя адказы. Бо ў любой спрэчцы аргументам можна знайсці контраргумент, але што можна супрацьпаставіць не проста перакананням, а цэламу жыццю?

Дуглас Грэшам, прыёмны сын англійскага пісьменніка Клайва Стэйплза Льюіса, рос атэістам. Але трапіўшы ў сям'ю айчыма, ён стаў хрысціянінам. Пра сваё ператварэнне расказваў у інтэрв'ю: «Ён (Льюіс) ніколі не павучаў мяне, ніколі ні да чаго не заклікаў. Не чытаў мне мараляў і не праводзіў са мною размовы пра сэнс жыцця. Ён проста жыў як хрысціянін — кожную секунду. Глыбока і магутна. І гэта было заўважна. І гэта дзейнічала лепш за ўсялякія словы».

Атэісты ўвесь час змагаліся з рэлігіяй. Але ці варта ставіць хрысціянства ў адзін шэраг з усімі рэлігіямі? Іншыя рэлігіі, хай сабе з вельмі высокім вучэннем пра ідэалы, знаходзяцца на службе ў чалавека, задавальняючы яго духоўныя патрэбы. Адпавядаючы клічу душы, яны дапамагаюць чалавеку адпачываць ад напружанай працы. Рэлігія для людзей стала часткай культуры. А хрысціянства? Яно не прапануе чалавеку задавальненне яго патрэб ці ўдасканаленне фізічных і псіхічных якасцей за выкананне рэлігійных цырымоній. Хрысціянства паказвае шлях да новага жыцця. Добра на гэты конт сказаў айцец Аляксандр Шмеман: «Рэлігія патрэбная там, дзе існуе непераадольная перашкода паміж Богам і чалавекам. Але Богачалавек Ісус Хрыстос разбурыў гэтую сцяну, бо вярнуў і падарыў нам не новую "рэлігію", а новае жыццё. Бо ў Хрысце быў паказаны канец рэлігіі, бо

Ён Сам быў адказам на ўсялякую рэлігію і выкананнем яе, наталеннем усёй чалавечай прагі Бога, бо ў Ім жыццё, страчанае чалавекам, было яму вернута».

Выходзіць, што самае галоўнае для веруючага чалавека — жыццё з Богам. Чалавек на сваім шляху ў Нябёсы можа пераадольваць тры прыступкі: раба, слугі і сына. Раб усё робіць, баючыся пакарання. Так чалавек гатовы выканаць любую запаведзь, каб толькі Бог яго не пакараў. Слуга ўсё выконвае з надзеяй атрымаць за сваю службу ўзнагароду. Так і мы часам чакаем ад Бога з нецярпеннем зямных даброт. Сын жа выконвае просьбы Айца па любові. Кожны з нас павінен імкнуцца да таго, каб узысці на трэцюю прыступку «сына». Хрысціянства менавіта гэта і прапануе — Божае ўсынаўленне.

Толькі ў праваслаўі часам можна чуць такі вобразны выраз як «раб Божы». Некаторых ён напружвае. На самай справе ў Бібліі паняцце рабства зусім не такое, якім было ў Рымскай імперыі. Быць рабом нейкага спадара лічылася справай гонару. Быць рабом — гэта тое самае, што быць членам сям'і.

Канечне, чалавек — істота свабодалюбівая, і нікому не хочацца быць рабом нават у Бога. Але ці задумваюцца людзі пра свабоду і тое, што з ёй рабіць? Памятаеце «Ваеннага лётчыка» Экзюперы? «Што значыць вызваліць? Калі ў пустыні я вызвалю чалавека, які нікуды не імкнецца, што будзе каштаваць яго свабода? Свабода існуе толькі для таго, каб некуды імкнуцца. Вызваліць чалавека ў пустыні — значыць выклікаць у яго смагу і паказаць дарогу да калодзежа. Толькі тады яго дзеянні набудуць сэнс. Бессэнсоўна вызваляць камень, калі не існуе прыцяжэння. Бо вызвалены камень не ссунецца з месца».

Калі падумаць, навошта Богу рабы? Няўжо Бог можа мець у іх патрэбу? Усёмагутны Бог, калі б насамрэч меў патрэбу ў нейкім абслугоўванні, стварыў бы Сабе робатаў, якія б не давалі збою ў праграме. Чалавек быў Богам створаны дакладна не для рабства. А для жыцця.

Значыцца, хрысціянства прапануе нам асаблівыя стасункі са Стваральнікам. Для гэтага не трэба чакаць, калі надыдзе фізічная смерць ці скончыцца чарга ўвасабленняў. Блізкасць Бога мы можам адчуваць ужо цяпер, у паўсядзённым жыцці. І гэта не будзе самаўнушэннем ці вынікам медытацыі. Мы можам не толькі адчуваць блізкасць Бога, але і злучыцца з ім на бачным узроўні ў Таінстве Еўхарыстыі, Прычашчэння. Бо ў гэтым Таінстве мы прымаем пад выглядам віна і хлеба Цела і Кроў Самога Бога Ісуса Хрыста.

Застаецца толькі вызначыцца, ці верыць нам у Бога шчыра. Вера — гэта заўсёды дар і свабодны выбар. Дар ад Бога, які даецца ўсім, і свабодны выбар кожнага. Можна прымусіць нас верыць. Але гэта будзе няшчырая вера. Навукоўцы маглі б прывесці сур'ёзныя доказы, і нам давялося б прызнаць усё як неаспрэчную ісціну, але і тут не было б веры. Сапраўдная, шчырая вера можа быць толькі там, дзе ёсць свабода нашай волі.

Гасподзь стварыў нас не паслухмянымі робатамі. Па Сваёй бясконцай любові Ён стварыў нас вольнымі істотамі. І нават такую акалічнасць як прызнанне Бога таксама пакінуў на нашае меркаванне. Трэба толькі папярэдзіць, што вера ў Бога — гэта не проста прызнанне Яго быцця. Для бесаў, напрыклад, яно відавочнае, таму, як піша апостал Іакаў, «бесы і веруюць, і трапечуць» (Іак. 2, 19). Вера — гэта не столькі веданне колькі досвед. Паступова чалавек вучыцца давяраць Богу (то бок, верыць не толькі ў Бога, але і Богу), любіць Яго і імкнуцца да адзінства з Ім.

Вера — гэта не адзінкавы акт. Пасля таго як чалавек паверыў, кропка не ставіцца. Любоў і давер Богу бясконцыя, і ўдасканальвацца яны могуць бясконца, як сама вера. І ніхто не можа гарантаваць, што веруючага не пачнуць адольваць сумненні. Але калі ўзнікнуць ваганні, няхай яны будуць такімі самымі шчырымі, як і вера. Галоўнае — жаданне чэсна разабрацца, у чым дакладна ўзнікла сумненне. Святы Фама не спяшаўся верыць словам іншых апосталаў пра тое, што Хрыстос уваскрэс. Гасподзь жа не папракнуў Свайго вучня за гэта, а наадварот, даў магчымасць развеяць сумненні. Калі быць шчырым да канца, Бог абавязкова дапаможа.



**Анатоль Галушка**

# Тры ўспаміны пра адзін горад

**Заўсёды цікава пабыць у незнаёмым месцы. Але наведаць месца, дзе бываў даўно, у дзяцінстве або юнаком — тут нейкія ўжо іншыя адчуванні, з доляй шчымлівай настальгіі...**

## Баба Юзя

Ездзіў з братам у Баранавічы. Усю дарогу аб нечым размаўлялі, смяяліся. Але як толькі ўдалечыні паказаліся жылыя высоткі, замаўчалі. У галаве само сабою пачало ўсплываць усё, што звязана з гэтым горадам, з яго назвай.

Міжволі мае вусны кранула ўсмешка. Я ўспомніў сваю бабулю, бабу Юзю. Перад вачыма вельмі выразна з'явіўся вобраз маленькай бабульчынай постаці — у доўгай цёмнай спадніцы, цёплай вязанай кофце і белай хустачцы на галаве. За спінаю вялікі, з ліпавай дранкі кашэль на два вядры. Ён з горкаю поўны чарніц. Нахіліўшыся ўперад, баба Юзя ішла на ранішні аўтобус. Даязджала на ім да Даманаўскага скрыжавання, выходзіла і чакала аўтобус на Баранавічы. Баба казала, што там і чарніцы бралі ахвотней, і цану давалі лепшую, чым у Івацэвічах. Ужо не помню, ці чуў я тады пра тыя Баранавічы яшчэ ад каго. Напэўна ж, чуў і ведаў, што ёсць такі горад, ды забылася, сцёрлася за даўнасцю, таму цяпер здаецца, што ўпершыню пачуў пра яго ад бабулі…

З Баранавіч баба Юзя вярталася апошнім аўтобусам, пад вечар. Мы ўжо чакалі яе, выглядваючы, калі яна з'явіцца з-за Максімавай хаты, што стаяла на павароце дарогі.

І не было таго разу, каб бабуля пра нас забылася, не прывезла якіх баранавіцкіх прысмакаў. Хоць па сённяшнім часе тую размяклую ад ліпеньскай спёкі ліверную каўбасу ці крывянку смакатой не назаве ўжо ніхто, а тады яна нам была смачнейшая за сённяшнюю дарагую салямі. Мы выціскалі пальцамі той шэры і мяккі, як цеста, лівер і з задавальненнем елі ў прыкуску з белай сайкай. М-м-м-м… аж цяпер захацелася! А яшчэ былі падрумяненыя — некаторыя аж хрумсцелі на зубах — пончыкі з капустай або павідлам, вафельныя ражкі з крэмам, зрэдку цукеркі… У яе цёмна-фіялетавым і чырвоным ад соку чарніц кашалі заўсёды што-небудзь ды было для нас, яе ўнучкаў. Баба Юзя ніколі нічога не шкадавала. Нават маці магла прыкрыкнуць, калі мы самі лезлі ў кашэль, каб знайсці яшчэ што, а бабуля толькі ўсміхалася:

— Нічога, хай ядуць, мне хопіць. А заўтра зноў пайду ў ягады, зараблю яшчэ на хлеб.

І мы радаваліся, што праз дватры дні баба Юзя зноў павязе свае чарніцы ў Баранавічы, а мы будзем чакаць яе з баранавіцкімі прысмакамі…

## У кафэ

Калі наша машына ўлілася ў агульную гарадскую плынь, я пачаў азірацца, намагаючыся не прапусціць што цікавае ці пазнаць некалі бачанае. Але не, гэтыя вуліцы мне былі незнаёмыя.

...Упершыню я быў у гэтым горадзе летам 1979 года. Тады бацьку выклікалі ў Баранавічы на медыцынскую камісію. Доўга ўгаворваў яго ўзяць мяне з сабою і неяк угаварыў. Было мне тады шаснаццаць гадоў. Я іграў на трубе ў калгасным духавым аркестры і сам зарабляў на розных мерапрыемствах нейкія грошы. Даўно збіраў на новыя канькі. І ўжо сабраў патрэбную суму, ды не было тых канькоў у Івацэвічах. А тут з'явілася надзея і магчымасць іх нарэшце купіць. Пасля камісіі час да аўтобуса бацька прысвяціў мне. Мы знайшлі спартыўны магазін, і маёй радасці не было межаў — канькоў меўся велізарны выбар! Там я купіў не толькі канькі, а яшчэ і чорныя скураныя пальчаткі.

Калі ўжо вярталіся на вакзал, бацька прапанаваў зайсці ў кафэ. Была другая палова дня, мы адчувальна прагаладаліся.

У кафэ я трапіў упершыню. Было вельмі няёмка сядзець у цэнтры даволі вялікай залы і есці на вачах у чужых, незнаёмых людзей. Бацька адчуваў сябе тут упэўнена, ні на кога не гледзячы, спакойна еў, і яго ўпэўненасць перадалася мне. Калі даелі, да нашага століка падышла афіцыянтка. Я зразумеў: трэба разлічыцца. У кіно такое бачыў. Моўчкі глянуў на бацьку: «Ну, чаго сядзіш? Давай плаці».

Бацька ўсміхнуўся і, глянуўшы на афіцыянтку, кіўнуў на мяне:

— Вось ён разлічыцца, гэта мой сын.

Я адчуў, як твару стала горача. Такога не чакаў. Але спытаў:

— А колькі там з нас?

Я не ведаў, ці хопіць тых грошай, што засталіся, і вельмі баяўся апынуцца ў няёмкім становішчы.

— Вось тут у мяне, — выграб з кішэні памяты рубель разам з дробяззю і паклаў на стол.

Афіцыянтка хуценька пералічыла грошы, узяла патрэбную суму, пакінуўшы на стале некалькі капейчын. Твар, вушы гарэлі, але я быў рады. А калі выйшлі на вуліцу, адчуў пэўны гонар за сябе. Мала таго што паабедаў у кафэ, дык яшчэ і бацьку накарміў за свае заробленыя грошы…

Трыццаць сем гадоў прайшло з тае пары, а нават помню, што мы тады елі. Гэта быў невялікі смажаны кавалачак курыцы з рысам. Не ведаю, чаму запомнілася. Ці таму, што ўпершыню абедаў у кафэ, ці той гонар за сябе пакінуў у памяці такі глыбокі знак. А можа, таму што потым, пасля тае не зусім прасмажанай курацiны і нясмачнага прэснага рысу мне было кепска. Яшчэ доўга я здзіўляўся, што ў такім прыгожым кафэ ў горадзе так нясмачна гатуюць…

## Прадчуванне

Апошні раз быў у Баранавічах, калі ехаў з сябрамі ў Калінінград паступаць у мараходную школу. Да цягніка заставалася шмат часу, і мы вырашылі пазнаёміцца з горадам. Хадзілі доўга, нават заблудзіліся. Зайшлі на звычайную вясковую вуліцу, з драўлянымі дамамі і гравійнай дарогай. Там, у двары аднаго дома, я ўбачыў маладую прыгожую дзяўчыну ў інваліднай калясцы.

Добра памятаю, як затрымаўся каля дома, стаяў і глядзеў на незнаёмку. А мае хлопцы нават не зірнулі ў той бок, пайшлі, размаўляючы, далей. Я ж нібыта застыў на месцы: стаяў і глядзеў, як яна сядзела і чытала кнігу. Тоненькая постаць у доўгай яркай сукенцы, светлыя валасы па плячах. Калі ўзняла галаву і зірнула ў мой бок, мне стала няёмка. Як быццам падглядваў за нечым недазволеным.

Пайшоў, а праз крокаў дзесяць азірнуўся — дзяўчына глядзела мне ўслед. Дагнаў сяброў, але яшчэ доўга ішоў моўчкі. Не хацелася ні размаўляць, ні тым болей жартаваць, смяяцца...

Потым, калі ўжо сядзеў у цягніку на Калінінград, тая дзяўчына ў інваліднай калясцы не выходзіла з галавы. Што такое з ёю магло здарыцца? Чаму такая маладая, такая прыгожая дзяўчына — і інвалід?! Як такое магчыма — вось так нерухома сядзець у гэтай калясцы, не мець магчымасці хадзіць, рухацца? Было вельмі шкада і вельмі крыўдна за зусім незнаёмую дзяўчыну. Што гэта было? Можа, прадчуванне?..

Праз некалькі месяцаў я сам апынуўся ў такім становішчы.




♡ Любіць: ♡

- гарбату ды печыва
- доўга спаць :)
- заседжвацца ў Сеціве
- пачытаць!
- добрую музыку
- і румяныя дранікі (беларускія)

2016 M.




пішаш?



друкуйся!

# Часопіс «Маладосць» у новым фармаце

Магчымасці, створаныя для тых, каму ёсць што сказаць свету. Чытанне, прызначанае таму, хто ўмее думаць.

**Рукапісы не рэцэнзуюцца, не вяртаюцца, не гарацьь**

ISSN 0131-2308




